АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1971

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# РАДЗІННАЯ ПАЭЗІЯ



ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА» МІНСК 1971

Укладанне, сістэматызацыя тэкстаў,
уступны артыкул і каментарыі
**М. Я. Грынблата**

Падбор нот, характарыстыка напеваў
і музычны каментарый
**В. І. Ялатава**

Рэдактар тома

**Г. І. Цітовіч**

Р15 **Радзінная паэзія.** Рэд. Г. І. Цітовіч. Мн., «Навука і тэхніка», 1971.
784 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). 4100 экз. 2 р. 53 к. У перапл.

Кніга з'яўляецца першым навуковым сістэматызаваным зводам беларускіх вуснапаэтычных твораў, якія прымеркаваны да нараджэння дзіцяці і сямейнага свята з гэтай прычыны. У том уключаны лепшыя паэтычныя ўзоры радзінных, ці хрэсьбінных, песень, хрэсьбінныя прыпеўкі, прыгаворкі бабкі і кума, застольныя жарты, тосты, прыказкі, прымаўкі. Асноўная частка запісаў публікуецца ўпершыню. Том забяспечаны ўступам і навуковым каментарыем. Бібліягр.: с. 653—656 і ў падрадк. заўваг.

7-4-3
42-71

Бел Ф

# БЕЛАРУСКАЯ РАДЗІННАЯ ПАЭЗІЯ

Беларускую радзінную паэзію складаюць тыя народныя вуснапаэтычныя творы, якія звязаны з нараджэннем дзіцяці і сямейнай урачыстасцю з гэтай прычыны — хрэсьбінамі. Асноўнымі відамі радзіннай паэзіі з'яўляюцца хрэсьбінныя песні, хрэсьбінныя прыпеўкі, а таксама застольныя прыгаворкі, жарты і добразычлівыя тосты.

У багатым абрадавым фальклоры беларусаў сямейна-абрадавая паэзія займала вельмі прыкметнае месца. У ёй асабліва вылучаліся радзінныя, хрэсьбінныя, або ксцінныя, песні. Яны належаць да спецыфічных асаблівасцей беларускай народнапаэтычнай творчасці.

У большасці вучэбных дапаможнікаў па рускаму фальклору радзінныя, або хрэсьбінныя, песні нават не ўпамінаюцца. Ні слова пра іх не сказана, напрыклад, у курсе рускага фальклору для студэнтаў-філолагаў Ю. М. Сакалова (1941). Нічога не гаворыць аб наяўнасці хрэсьбінных песень у рускай абрадавай паэзіі А. А. Кайеў, хаця ў яго падручніку па рускай літаратуры (1953) ёсць раздзел «Сямейна-бытавыя абрады і песні», але разглядаюцца ў ім толькі пахавальныя абрады і галашэнні, вясельныя абрады і песні, рэкруцкія абрады і плачы. Ніводнага тэксту хрэсьбіннай песні не змешчана таксама ў хрэстаматыях па рускаму фальклору М. П. Андрэева (1938), С. І. Васілёнка і В. М. Сідзельнікава (1954), Э. В. Памяранцавай і С. І. Мінц (1959). Не называюцца гэтыя песні і ў вучэбным дапаможніку С. Ф. Баранава (1962).

Толькі У. І. Чычараў у курсе лекцый па рускаму фальклору, пералічваючы цыклы сямейных абрадаў, поруч з абраднасцю вясельнай і пахавальнай адзначае «нешматлікія радзінныя і хрэсьбінныя абрады», якія «найменш цікавы ў фальклорных адносінах», але затое важныя ў этнаграфічных[1]. Абмежаваўшыся сціслай і агульнай характарыстыкай радзінных абрадаў, У. І. Чычараў нават не ўпамянуў аб існаванні ў рускім фальклоры хрэсьбінных песень.

У вучэбным дапаможніку па рускаму фальклору пад рэдакцыяй П. Р. Багатырова сямейнай абрадавай паэзіі прысвечан спецыяльны раздзел, і, хаця ў ім вылучаны асобным невялікім пунктам «Радзільныя і хрэсьбін-

[1] В. И. Чичеров. Русское народное творчество. М., 1959, стар. 382.

ныя абрады і песні», гаворка там ідзе толькі пра магічны сэнс радзіннай абраднасці і зусім не закранаецца пытанне аб існаванні рускіх хрэсьбінных песень. Змешчаны ж урывак з «велічання нованароджанага» больш нагадвае рускую калядку-вінаграддзё, чым радзінную песню [2].

Няма ўказанняў на наяўнасць рускіх радзінных песень і ў больш новых вучэбных дапаможніках па рускаму фальклору для студэнтаў. К. В. Чыстоў у раздзеле пра сямейна-абрадавую паэзію падкрэслівае, што традыцыйныя радзінныя і хрэсьбінныя абрады ў рускіх «не мелі развітага славесна-паэтычнага суправаджэння і больш цікавы ў этнаграфічных, чым у фальклорных адносінах» [3]. Ён адзначае толькі некаторыя прымаўкі, паэтычныя формулы і замовы, якія вымаўляліся ў час гэтых абрадаў, але нават не ўпамінае радзінныя песні.

Зусім не называюцца радзінныя абрады і песні ў падручніку рускага фальклору пад рэдакцыяй А. М. Новікавай і А. В. Кокарава (1969).

Такім чынам, зварот да спецыяльнай літаратуры пераконвае, што рускаму фальклору хрэсьбінныя песні не ўласцівы, ва ўсякім разе не захаваліся ў ім ад старажытных часоў. Тое ж можна сказаць і пра ўкраінскі фальклор. У агульных курсах і аглядах вуснапаэтычнай творчасці ўкраінскага народа хрэсьбінныя песні таксама не фігуруюць.

Калі ж у Расіі і на Украіне хрэсьбінныя песні часам і фіксаваліся збіральнікамі фальклору XIX — пачатку XX ст., дык толькі ў суседніх з Беларуссю раёнах. Так, «ксцінныя» песні выконваліся ў заходніх паветах Смаленскай губерні. Запісы іх змясціў У. М. Дабравольскі ў «Смаленскім этнаграфічным зборніку» (1893). Адзінаццаць хрэсьбінных песень разам з этнаграфічным апісаннем радзін і хрэсьбін з паўночных паветаў Украіны і часткова паўднёвых паветаў Беларусі апублікаваў П. П. Чубінскі ў «Працах этнаграфічна-статыстычнай экспедыцыі ў Заходне-рускі край» (т. IV, 1877). У нядаўна выдадзеным зборніку К. Світавай «Народныя песні Бранскай вобласці» (1966) змешчаны дзве «ксцінныя» песні са Старадубскага раёна (былой Чарнігаўскай губерні).

Тут неабходна падкрэсліць адну важную акалічнасць. У той час як у рускіх і ўкраінцаў хрэсьбінныя песні адзначаны галоўным чынам у блізкіх да Беларусі раёнах, у беларусаў гэты від абрадавай паэзіі пашыран амаль на ўсёй іх этнічнай тэрыторыі. Прытым вядомыя ў невялікай колькасці тэксты рускіх і ўкраінскіх хрэсьбінных песень выяўляюць прыкметную блізкасць да беларускіх узораў і бясспрэчную залежнасць ад іх. Гэта

---

[2] Русское народное поэтическое творчество. Пособие для вузов. Под ред. П. Г. Богатырева. М., 1954, стар. 172.

[3] П. Г. Богатырев, В. Е. Гусев, И. М. Колесницкая, Э. В. Померанцева, Н. С. Полищук, И. С. Правдина, Ю. Н. Сидорова, К. В. Чистов. Русское народное творчество. М., 1966, стар. 74.

дазваляе гаварыць аб пэўным уплыве беларускага фальклору на вуснапаэтычны рэпертуар рускага і ўкраінскага насельніцтва сумежных раёнаў, з якім беларускі народ на працягу сваёй гісторыі знаходзіўся ў шчыльных узаемаадносінах, адчуваючы ў той жа час сустрэчнае культурнае ўздзеянне суседзяў.

Беларускім уплывам, відаць, можна тлумачыць бытаванне хрэсьбінных песень у бліжэйшых заходніх суседзяў беларусаў — палякаў-мазаўшан. Польскі даследчык сямейных абрадаў і звычаяў С. Дваракоўскі выявіў на ўсходзе былой Ломжынскай губерні, у раёне Тыкоцына, у пераходнай паласе паміж Мазоўшам і Падляшшам, рысы сямейнай абраднасці і хрэсьбінныя песні, якія блізкія да беларускіх. На захад ад Тыкоцына такія абрады і песні ўжо невядомы [4].

Хрэсьбінныя песні як асобны від абрадавай творчасці вядомы таксама ва Усходняй і Паўднёва-Усходняй Літве — Аўкштайціі і Дзукіі (gimintines або krikštines dainos) і ў латышоў (dzimtas dziesmas). Аднак у фальклоры суседніх балтыйскіх народаў хрэсьбінная паэзія займае далёка не такое прыкметнае месца, як у фальклоры беларусаў. Так, у даволі фундаментальным зборы літоўскага фальклору, які быў выдадзены Акадэміяй навук Літоўскай ССР у 1957 г., хрэсьбінныя песні зусім не прадстаўлены, а спецыяльны артыкул В. Крэве-Міцкевічуса [5] разглядае толькі хрэсьбінныя абрады Дзукіі. У латышоў жа вядомы пераважна кароткія чатырохрадкоўі пра роды, хрэсьбіны і кумаўство, якія фалькларыстамі аднесены да раздзелу сямейна-бытавых [6].

З прыведзеных фактаў бачым, што арэалам хрэсьбіннай абрадавай паэзіі на тэрыторыі рассялення ўсходняга славянства з'яўляецца Беларусь. Хрэсьбінныя песні, такім чынам, як валачобныя песні і некаторыя іншыя віды вуснай паэзіі, належаць да характэрных спецыфічных з'яў беларускага абрадавага фальклору.

Аднак усё гэта яшчэ не азначае, што рускім і ўкраінцам ніколі не былі вядомы радзінныя або хрэсьбінныя песні. Наяўнасць многіх супольных абрадаў і магічных дзеянняў, якія звязаны з нараджэннем дзіцяці, у быце беларусаў, рускіх і ўкраінцаў дазваляе меркаваць, што і радзінны рытуал і радзінная паэзія ў якасці агульнай спадчыны старажытнарускага адзінства першапачаткова былі ўласцівы ўсім усходнеславянскім народнасцям. Пра гэта захаваліся дастаткова выразныя сляды ў рускім і ўкраінскім фальклоры.

---

[4] St. Dworakowski. Zwyczaje rodzinne w pow. Wysoko-Mazowieckim. Warszawa, 1936, стар. 37.

[5] V. Krėve-Mickevičius. Krikštynų apeigos Dzūkijoje. «Mūsų Tautosaka», VII. Kaunas, 1935.

[6] Latviešu tautadziesmas. Izlase I. Riga, 1955, стар. 35—38.

У адной рускай песні, напрыклад, мы знаходзім упамінанне хрэсьбіннага гасцявання на «Шарамецьевым двары»:

Не вейте, не вейте, ветры буйныя,
Не раскачивайте звонки колоколы,
Не будите у Василья жену,
Не будите у Владимирича;
Вечор его жена на пиру была,
По утру рано сына родила.
Бабушка была с Шереметьего двора,
Кумом был Долгоруков сын,
Кумою была Трубецкого жена...[7]

Змест гэтай песні дазваляе лічыць, што ў свой час яна магла быць хрэсьбіннай.

Вядомыя ўкраінскія жартоўныя песні пра кума і куму могуць служыць сведчаннем таго, што і ўкраінскі фальклор ведаў радзінную паэзію. У беларускай абрадавай паэзіі песні пра кумоў, як будзе паказана ніжэй, належаць да характэрнай катэгорыі хрэсьбінных песень. Аднак ва ўкраінскім фальклоры хрэсьбінныя песні, відаць, рана адпалі ад абраду і захаваліся толькі як бытавыя пазаабрадавыя песні гумарыстычнага характару.

Пра адзінства паходжання радзіннай абраднасці і паэзіі ва ўсходніх славян сведчаць таксама зафіксаваныя яшчэ ў сярэдзіне XIX ст. аднолькавыя элементы хрэсьбіннага рытуалу ў беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. Гэта перш за ўсё наяўнасць асноўнай абрадавай стравы, якой абавязкова завяршаўся хрэсьбінны абед, так званай бабінай кашы — звычай, згодна з якім бацьку нованароджанага прымушалі з'есці вялікую лыжку кашы, празмерна пасоленай, змешанай з перцам, хрэнам і іншай не менш вострай «закрасай» (даследчыкі звычайна ўгледжвалі тут перажытак кувады)[8]; прыгаворкі бабкі і кума, звязаныя пераважна з аграрнай магіяй, выказванні пажаданняў шчаслівай долі нованароджанаму і поўнага дабрабыту ўсёй сям'і і рад іншых момантаў. Усё гэта было ўласціва не толькі беларускай сямейнай абраднасці, але адзначана таксама ў этнаграфічных апісаннях хрэсьбін у многіх паветах Калужскай губерні, у Лівенскім і Малаархангельскім паветах Арлоўскай губерні, у Холмскім павеце Пскоўскай губерні, у Ровенскім і Оўруцкім паветах Валынскай губерні і некаторых іншых месцах Расіі і Украіны.

---

[7] Песни, собранные П. В. Киреевским. Под ред. П. А. Бессонова. Вып. 9. М., 1892, стар. 1.

[8] Гл.: Н. Сумцов. О славянских народных воззрениях на новорожденного ребенка. ЖМНП, ч. CCXII, 1880, стар. 76—77.

*Кувада*—перажытак вельмі старадаўніх абрадаў, што былі вядомы многім плямёнам і народам свету: калі жанчына раджала, муж імітаваў яе пакуты — стагнаў, курчыўся і г. д.

Прыгаворкі бабкі-павітухі і кума на хрэсьбінным застоллі, якія захаваліся не толькі ў беларусаў, але і ў рускіх і ўкраінцаў, служаць жывым сведчаннем існавання радзіннага фальклору ў мінулым ва ўсіх усходнеславянскіх народаў. Апрача таго, у хрэсьбінных застольных прыгаворках праявілася супольнасць, якая заўважаецца і ў іншых з'явах фальклору ўсходніх славян, пацвярджаючы старажытнасць гэтых славесных паэтычных формул і іх паходжанне ад сямейнай абраднасці часоў старажытнарускага адзінства.

Асноўны ж від радзіннай паэзіі — хрэсьбінныя песні — застаўся здабыткам толькі беларусаў. Відаць, адпаведныя гістарычныя і сацыяльна-эканамічныя ўмовы, а магчыма і фактары этнічнага характару, у адным выпадку прывялі да знікнення хрэсьбінных песень у рускіх і ўкраінцаў, а ў другім выпадку спрыялі захаванню іх у беларусаў. У гэтым асаблівае навуковае значэнне абрадавых хрэсьбінных песень: яны дазваляюць на беларускім матэрыяле даследаваць той раздзел старажытнага фальклору, які ўжо даўно невядомы ні ў рускай, ні ва ўкраінскай народнай творчасці. Але па свайму паходжанню хрэсьбінныя песні, хаця яны аказаліся больш жывучымі ў беларускім фальклоры, бясспрэчна належаць гісторыі культуры ўсіх усходнеславянскіх народаў і дапаўняюць шматлікія рысы іх духоўнага адзінства. Вось чаму вялікую вартасць набывае збіранне і публікацыя беларускіх хрэсьбінных песень.

На тэрыторыі Беларусі хрэсьбінныя песні запісаны ў даволі значнай колькасці. Калі ўзяць некаторыя з буйнейшых старых зборнікаў беларускага фальклору, то ў адным VIII выпуску «Беларускага зборніка» Е. Р. Раманава мы знойдзем 68 тэкстаў хрэсьбінных песень, якія запісаны толькі ў былой Магілёўскай і часткова Віцебскай губернях; у зборніку «Беларускія народныя песні» П. В. Шэйна — 25 тэкстаў, у першым томе яго ж «Матэрыялаў» апублікавана 20 тэкстаў з розных месц Беларусі; у другім томе зборніка Р. Р. Шырмы «Беларускія народныя песні» (1960) — 21 песня, з якіх 11 запісаны ў адной вёсцы Шакуны Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, на радзіме збіральніка, а астатнія — у іншых вёсках заходніх абласцей Беларусі; М. Федароўскі ў выданні «Люд беларускі» (т. VI) змяшчае 36 хрэсьбінных песень і прыпеваў, сабраных амаль выключна ў паўночна-заходняй частцы былой Гродзенскай губерні; 25 хрэсьбінных песень з Віцебшчыны апублікаваў А. Шлюбскі (1926), і нават на параўнальна невялікай тэрыторыі Усходняй Латвіі, сярод беларускага насельніцтва Латгаліі, С. П. Сахараў сабраў і змясціў у сваім зборніку 13 хрэсьбінных песень[9].

---

[9] С. П. Сахараў. Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў, вып. І. Рыга, 1940, стар. 67—71.

Такім чынам, толькі ў сямі названых тут зборніках беларускага фальклору мы налічылі 208 тэкстаў хрэсьбінных песень разам з варыянтамі. Пэўная колькасць іх маецца і ў іншых зборніках, этнаграфічных апісаннях, асобных публікацыях, што раскіданы па старых часопісах і газетах, або ў рукапісах захоўваюцца ў навуковых архівах.

Тым не менш творы беларускай радзіннай паэзіі яшчэ далёка недастаткова сабраны і яшчэ менш даследаваны. Не ўсе дарэвалюцыйныя фальклярысты аддавалі ім належную ўвагу. Нават у вядомых фальклорна-этнаграфічных зборніках і значных публікацыях Бяссонава, Булгакоўскага, Бычко-Машко, Дэмітрыева, Крачкоўскага, Малевіча, Радчанкі, Разенфельда, Сербава, Бадуэна дэ Куртэнэ, Чэрнага і іншых хрэсьбінныя песні зусім не прадстаўлены. І не таму, што яны ў тых мясцовасцях, дзе рабіліся запісы, не бытуюць. Хрэсьбінная паэзія проста незаслужана засталася па-за ўвагай многіх збіральнікаў.

Значна павялічылі колькасць запісаў хрэсьбінных песень савецкія збіральнікі, хаця новых публікацый тэкстаў з'явілася вельмі мала. Некалькі сот навейшых запісаў тэкстаў хрэсьбінных песень разам з варыянтамі, якія яшчэ нідзе не публікаваліся, захоўваецца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР. Яны прыкметна папоўнілі дадзены том.

Больш запісаў з Магілёўшчыны і Віцебшчыны, нямала і з іншых абласцей БССР, але зусім недастаткова тэкстаў з паўднёвых раёнаў, і амаль няма іх з паўднёва-ўсходніх раёнаў Гомельскай вобласці. Адсюль і адпаведныя задачы, што паўстаюць перад збіральнікамі беларускага традыцыйнага фальклору.

Як сама радзінная абраднасць, так і народная паэтычная творчасць, якая з ёю спалучалася, складаныя па свайму паходжанню, прызначэнню і формах праяўлення. Мы знаходзім у іх напластаванні розных гістарычных эпох. Народныя абрады і абрадавы фальклор нясуць на сабе адбіткі матэрыяльнага быту, сацыяльных інстытуцый і светапогляду нашых продкаў на розных этапах развіцця грамадства. Таму старажытная абраднасць наогул і сямейна-бытавыя абрады і паэзія ў прыватнасці прадстаўляюць значную гісторыка-культурную, этнаграфічную цікавасць — яны маюць важнае гісторыка-пазнавальнае значэнне. Апрача таго, зразумела, абрадавая паэзія — гэта славесная творчасць народа, якая належыць да яго духоўнай спадчыны, да скарбаў яго культуры. Многія творы абрадавай паэзіі, у тым ліку і радзіннай, з'яўляюцца класічнымі ўзорамі сапраўднага народнага мастацтва слова.

Вывучэнне беларускай абраднасці і звязанай з ёю вуснай паэзіі, іх паходжання і развіцця, нацыянальнай спецыфікі і супольнасці з абраднасцю і фальклорам блізкародных і суседніх народаў можа служыць высвятленню

рада пытанняў гісторыі беларускага народа, яго культуры і мастацтва. Асабліва плённым можа аказацца выкарыстанне матэрыялаў сямейнай абраднасці і сямейна-абрадавай паэзіі ў якасці гістарычнай крыніцы для вывучэння этна-культурнай гісторыі беларускай народнасці.

Між тым беларуская сямейна-бытавая абраднасць і паэзія не з'явіліся аб'ектамі грунтоўнага даследавання. У дарэвалюцыйнай гістарыяграфіі амаль адзінай агульнай работай даследчага характару аб гэтым комплексе беларускага фальклору з'яўляецца спецыяльны раздзел у манаграфіі Я. Ф. Карскага «Беларусы». У першай кнізе трэцяга тома «Беларусаў», цалкам прысвечанай народнай паэзіі, у раздзеле «Абрадавыя песні, якія суправаджаюць розныя падзеі з жыцця чалавека», асобна разглядаюцца «абрады і песні пры нараджэнні чалавека», «вясельныя абрады і песні» і «абрады пры пахаванні і хаўтурныя галашэнні». Кніга гэта наогул з'яўляецца першай спробай сістэматызаванага навуковага агляду асноўных жанраў і цыклаў беларускай вуснапаэтычнай творчасці, яе зместу, мастацкай формы і гісторыі. Аднак, як падкрэсліў Карскі, «не задаючыся вельмі шырокімі мэтамі глыбокага і дэталёвага даследавання тых або іншых народных паэтычных твораў..., аўтар, не ўхіляючыся ад карыстання параўнальным метадам..., стараўся галоўным чынам звярнуць увагу вучонага свету, а таксама інтэлігентных чытачоў наогул на тыя каштоўныя ў розных адносінах залежы сырых матэрыялаў, якія назбіраны ў друку пераважна за XIX ст. па беларускаму фальклору і чакаюць працавітых даследчыкаў» [10].

Радзінная ж абраднасць і радзінная паэзія, калі не лічыць названага кароткага агляду Я. Ф. Карскага, зусім не былі прадметам вывучэння. Апрача апублікаваных этнаграфічных апісанняў абрадаў і саміх тэкстаў народных твораў, раскіданых па фальклорных зборніках і розных перыядычных выданнях, мы да гэтага часу не мелі спецыяльнага даследавання беларускай радзіннай паэзіі, беларускіх хрэсьбінных песень. Яны несправядліва абыдзены даследчыкамі беларускага фальклору. Між тым гэты від вуснай народнай творчасці па сваёй гісторыка-пазнавальнай вартасці, па свайму сацыяльнаму напаўненню і мастацка-эмацыянальнаму гучанню не ўступае іншым раздзелам беларускай абрадавай паэзіі.

Не знайшлося яшчэ належнага месца для гэтага жанру і ў савецкай фалькларыстычнай літаратуры. У вучэбных дапаможніках па беларускаму фальклору аб хрэсьбінных песнях толькі бегла ўпамінаецца. Беларуская сямейная абраднасць у цэлым паслужыла тэмай кандыдацкай дысертацыі (1966) А. М. Міцкевіча, да гэтага часу, на жаль, яшчэ не апублікаванай.

---

[10] Е. Ф. Карский. Белорусы. Том III. Очерки словесности белорусского племени. 1. Народная поэзия. М., 1916, стар. 111.

Першы раздзел яе прысвечан радзіннай абраднасці («Абрады беларускага народа, якія звязаны з нараджэннем чалавека»). Але і тут разглядаюцца толькі абрады, аўтар амаль цалкам абмінуў багатую радзінную паэзію беларусаў.

Больш шырокае вывучэнне радзіннай паэзіі распачалося ў апошні час у сувязі з напісаннем калектыўнай манаграфіі аб беларускай народнай творчасці (1967) і падрыхтоўкай спецыяльнага тома шматтомнага выдання беларускага фальклору.

Радзінная паэзія, звязаная з актам нараджэння чалавека і ўрачыстым адзначэннем гэтай падзеі родам, сям'ёй, з даўнейшых часоў спалучалася з адпаведнымі абрадамі і звычаямі.

Радзінная паэзія ў яе найбольш даўніх узорах, як і іншыя цыклы абрадавай творчасці, стане больш зразумелай, калі папярэдне хаця б коратка разгледзець сутнасць саміх абрадаў, якім яна спадарожнічала. А радзінная абраднасць, якая ўласціва ў розных этнічных праяўленнях усім народам свету, прайшла доўгі і складаны шлях развіцця, увабраўшы ў сябе адзнакі ўсіх этапаў гісторыі грамадства. Скрозь тоўшчу стагоддзяў данесла яна жывы подых людзей родавага ладу, дала адчуць іх клопаты, светаадчуванне і непасрэдную паэзію.

У аснове радзіннай абраднасці ляжала натуральнае імкненне бліжэйшых родзічаў аблегчыць пакуты парадзіхі, а таксама абараніць яе і нованароджанага ад згубнага ўздзеяння злых, варожых «нячыстых» сіл. Многія «захады» ў гэтым напрамку сама жанчына рабіла ўжо задоўга да наступлення родаў. Можна сказаць, што ўвесь перыяд цяжарнасці быў насычан безліччу забабонаў, прыкмет, абмежаванняў і забаронаў, якія рэгулявалі паводзіны цяжарнай, засцерагалі ад дзеянняў, небяспечных для яе самой і будучага дзіцяці. Так, народныя ўстанаўленні раілі цяжарнай пазбягаць спалоху, а калі спужаецца, не хапацца рукамі за твар, каб у дзіцяці, якое народзіцца, не было бачных плям; цяжарнай забаранялася глядзець на нябожчыка, каб дзіця не было хваравітым і бледным, насіць адзенне з вузельчыкамі, каб не наклікаць цяжкія роды, і г. д. Трэба зазначыць, што некаторыя забароны мелі рацыянальны характар і вынікалі з жыццёвага вопыту.

Клопаты і непакой узрасталі і дасягалі найбольшага напружання к моманту наступлення родаў. Перш за ўсё імкнуліся засцерагчы парадзіху ад чужых вачэй, каб унікнуць урокаў і злоснага чаравання. Само наступленне родаў утойвалася ад старонніх і нават блізкіх людзей. Ідэальным лічылася, калі аб гэтым ніхто не ведаў, апрача мужа і запрошанай ім бабкі-павітухі. Каб утаіць роды, жанчына раджала часцей не ў хаце, а ў якой-небудзь гаспадарчай будыніне або ў сенцах. У хаце месца парадзіхі завешвалася полагам.

Для аблягчэння родаў выкарыстоўвалі прыёмы працейшай магіі, якім аднолькава служылі розныя рэчы хатняга ўжытку і прадметы царкоўнага культу. Найбольш пашыраным магічным сродкам аблягчэння родаў было развязванне ўсіх вузлоў. «Дзейснымі» сродкамі лічыліся таксама адмыканне замкоў, распусканне паясоў, расшпільванне каўнерыкаў, адчыненне дзвярэй і іншыя падобныя дзеянні, а таксама замовы. Пры асабліва цяжкіх і зацяжных родах ішлі да папа прасіць, каб ён раскрыў у царкве царскія вароты[11]. Тут свяшчэннік — служыцель Хрыста — падпарадкоўваўся законам той жа першабытнай язычніцкай магіі, на якіх грунтаваліся развязванне вузлоў і іншыя чарадзейныя прыёмы.

На дапамогу прыходзілі таксама розныя практычныя прыёмы народнай медыцыны, пазбаўленыя элементаў знахарскай магіі, заснаваныя на жыццёвым вопыце. Бабка прымушала парадзіху, напрыклад, саскокваць з невысокай калодкі або ўслончыка, пераскокваць цераз парог, падымаць цяжар, ёй сціскваді і расціралі жывот.

У абрадах пасляродавага перыяду асноўнае месца зноў-такі займалі дзеянні, што павінны былі абараніць нованароджанае дзіця ад варожай «нячыстай» сілы. Абарону дзіцяці і маці ад злых сіл павінны былі забяспечыць ачышчальныя абрады, сярод якіх важнейшую ролю адыгрывала абмыванне вадой.

Са старажытнейшых часоў ва ўсіх плямён і народаў вада лічылася наймацнейшым ачышчальным і ахоўным магічным сродкам. Гэта сваё значэнне вада захавала ў многіх абрадах, якія дайшлі да нашых часоў. Можна прыгадаць хаця б купанне ў рацэ і качанне ў росным аўсе ў купальскую ноч, абрадавы выган скаціны на юраўскую расу, якой прыпісвалася значэнне засцерагальнага сродку, і іншае.

Абмыванне вадой або апусканне ў яе таксама з'яўлялася абрадам ахоўнага прызначэння. Ён утвараўся над нованароджанымі і існаваў задоўга да ўвядзення ў пачатку II ст. хрысціянскага таінства хрышчэння. Больш таго, абрад хрышчэння ўвабраў у сябе першабытныя вераванні старажытных людзей, якія надавалі вадзе цудадзейную сілу, што здольна адганяць варожых духаў. «У інтарэсах пануючай царквы,— адзначае знаўца ўсходнеславянскіх старажытнасцей Б. А. Рыбакоў,— было паказаць язычніцкі светапогляд нібыта дыяметральна супрацьлеглым хрысціянству, і язычніцтва разглядалася як больш прымітыўнае мысленне. У нас няма падстаў да такога супрацьстаўлення. І хрысціянства, і розныя формы дахрысціян-

---

[11] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. VIII. Вильна, 1912, стар. 324; Н. Я. Никифоровский. Простонародные приметы и поверья, суеверия и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897, стар. 9.

скіх вераванняў, якія ўмоўна называюцца «язычніцтвам», аднолькава вядуць свой пачатак ад першабытнага дзікунскага мыслення»[12].

Хрысціянства амаль не змяніла сутнасці язычніцкага абраду абмывання нованароджанага. Захаваўшы значэнне ачышчальнага і ахоўнага магічнага сродку, хрысціянства надало гэтаму старажытнаму народнаму абраду царкоўную форму хрышчэння і прыстасавала яго да сваіх рэлігійных догматаў і сваёй ідэалогіі. Таінства хрышчэння царква звязала з вучэннем аб граху, ад якога абрад нібыта вызваляў; абрад хрышчэння зрабіўся актам прылучэння нованароджанага чалавека да царквы, адзнакай прыналежнасці яго да хрысціянскай веры.

Царкоўны абрад хрышчэння з'явіўся адным з першых абрадаў, які пачаў укараняцца хрысціянствам сярод старажытнарускага насельніцтва. Уласна кажучы, праз гэты абрад («хрышчэнне Русі») новая рэлігія, не без гвалту і прымусу, з'явілася ў Кіеўскай Русі і ўкаранілася ў ёй.

Як ні працівіліся народныя масы сілком укараняемай чужой ім рэлігіі і абраднасці, яны вымушаны былі ўрэшце скарыцца перад сілай. Паступова ў народны быт пранiклі абрады, што патрабавала царква — хрышчэнне, вянчанне, адпяванне,— у вычварным перапляценні са старой язычніцкай традыцыяй, з якой народ доўга не мог расстацца.

Упартымі і настойлівымі намаганнямі царкве ўдалося замацаваць веру ў тое, што толькі ахрышчанае дзіця будзе жыць і расці здаровым, не будзе хварэць.

Да таго ж з абрадам хрышчэння было звязана наданне імя нованароджанаму, што стала справай святара. Усё гэта вызначыла тыя жыццёвыя меркаванні, якія ўрэшце схілілі аблытаныя рэлігійнымі забабонамі народныя масы да выканання патрабаванняў царкоўнага культу. Але вядома, што царкоўнае хрышчэнне не толькі не прыносіла маці заспакаення за лёс свайго дзіцяці, але часта, наадварот, шкодзіла яго здароўю. Здаралася неаднаразова, што гэты царкоўны абрад канчаўся трагічна для жыцця дзіцяці. Асабліва частымі сталі няшчасныя выпадкі пры хрышчэнні ў часы, калі на Беларусі насаджалася унія. Працаўнікі уніі, жадаючы хрысціць дзяцей па праваслаўнаму рытуалу, вымушаны былі гэта рабіць патаемна і, зразумела, у яшчэ больш неспрыяльных для дзіцяці ўмовах.

У нататках М. Ф. Крывашапкіна пра Палессе адзначаецца, што яшчэ ў канцы XIX ст. «у Тураўскай і Пінскай староны» захавалася памяць аб уніі. У народных сказах-апавяданнях расказваецца, як паны «нагаямі заганялі» людзей ва уніяцкую царкву: «Було ляхі як набіжаць, тогды правіцца ў цэркве унія, а як іх вынесе нечыста, тогды благачэсціе адпраў-

---

[12] Тезисы докладов на заседаниях, посвященных итогам полевых исследований 1961 г. М., 1962, стар. 11.

ляюць... А як урадзіўся ў каго дзіціна, так у піўноч сядзе на коня і пабіжыць у манастыр акрэсціці»[13].

Царкоўны абрад хрышчэння, які вядомы на Беларусі ў двух відах,— у праваслаўных: спосабам апускання дзіцяці ў ваду, а ў каталікаў: аблівання яго,— з'яўляўся працягам радзінных абрадаў і згладжваўся традыцыйным народным святкаваннем, якое пасля ўвядзення царкоўнага хрышчэння пачалі называць хрэсьбінамі або ксцінамі. У нас ёсць меркаванне, што дахрысціянскай назвай гэтага святкавання магла быць назва «бабіны», якая захавалася ў адной радзіннай песні.

Святкуючы хрэсьбіны, выконвалі творы абрадавай паэзіі, звязанай з нараджэннем дзіцяці. Важнейшым жанрам радзіннай паэзіі беларусаў былі хрэсьбінныя песні. Але, як ужо адзначалася, гэта не адзіны фальклорны жанр, дапасаваны да беларускай радзіннай абраднасці. Апрача песень, за хрэсьбінным святочным сталом гучалі прыгаворкі кума і бабкі, а таксама хрэсьбінныя прыпеўкі, відаць, больш позняга паходжання.

Сярод беларускіх хрэсьбінных песень, якія вядомы нам па пераважна позніх запісах, знойдзецца не так ужо многа твораў, што захавалі сляды даўняй радзіннай абраднасці. Па асноўнай масе тэкстаў можна меркаваць, што адносна рана пачаўся працэс аддалення радзінных песень ад абрадава-магічных дзеянняў, якія яны непасрэдна суправаджалі. Паступова круг уласна абрадавых песень звужаўся, і засталіся песні велічальнага, гуллівага і жартоўнага характару, што выконваліся толькі ў адпаведныя моманты хрэсьбіннага святочнага застолля. У большасці вядомых хрэсьбінных песень знайшлі мастацкае адлюстраванне народныя звычаі хрэсьбін і стаўленне народа да асноўных іх удзельнікаў.

Пэўнае ўяўленне аб характары беларускіх хрэсьбінных песень можа даць належная іх класіфікацыя. На жаль, навуковай класіфікацыі і сістэматызацыі беларускай радзіннай паэзіі да гэтага часу не было. Не знаходзім мы яе нават у грунтоўным даследаванні Я. Ф. Карскага «Беларусы». Ён спыняецца толькі на характарыстыцы некаторых тэм хрэсьбінных песень.

Спробу класіфікацыі беларускай радзіннай паэзіі нам давялося зрабіць пры складанні дадзенага тома. У аснову яе мы паклалі прынцып тэматычна-функцыянальны, на нашу думку, адзіна прыгодны пры класіфікацыі твораў любога раздзела абрадавага фальклору. Праўда, класіфікацыя радзіннай паэзіі ўскладняецца тым, што ў святкаванні хрэсьбін асобныя абрадавыя моманты, або асобныя «этапы», выяўляюцца далёка не так выразна, як, напрыклад, у каляднай або вясельнай абраднасці.

---

[13] М. Ф. Кривошапкин. Поездка в Минское Полесье в 1897 г. АГГ. разр. XX, № 12, л. 161.

Больш акрэслена выступаюць толькі сам хрэсьбінны абед, адорванне парадзіхай бабкі і кумоў, цырымонія раздачы «бабінай кашы» і некаторыя іншыя моманты. Затое склад хрэсьбінных песень мае іншую асаблівасць. Яны групуюцца пераважна вакол важнейшых дзеючых асоб сямейнай урачыстасці: саміх яе «віноўнікаў» — бацькоў і нованароджанага і асабліва бабкі, кума і кумы. Такім чынам, вялікая колькасць хрэсьбінных песень мае свае функцыі, сваіх «адрасатаў», да якіх яны накіраваны.

Перш за ўсё па тэматыцы і ў пэўнай ступені па свайму прызначэнню сярод беларускіх хрэсьбінных песень можна вылучыць некалькі груп: песні-велічанні да парадзіхі і бацькі дзіцяці; песні-зычэнні да народжанага дзіцяці; песні апавядальнага характару пра бабку-павітуху і яе дапамогу пры родах; песні-велічанні да бабкі і кумоў на хрэсьбінах; жартоўныя песні да бабкі і кумоў; хрэсьбінныя застольныя і бяседныя песні.

У кожнай з гэтых груп вылучаюцца яшчэ некаторыя паасобныя тэматычныя і функцыянальныя падгрупы. Такая класіфікацыя беларускіх хрэсьбінных песень у пэўнай меры ўмоўная, але ў той жа час дастаткова вычарпальна характарызуе склад хрэсьбіннай песеннай творчасці.

У велічальных песнях пра парадзіху і бацьку дзіцяці апавядаецца пра абставіны родаў, якія адбываліся, у адпаведнасці з даўнімі народнымі звычаямі і маральнымі нормамі, ізалявана ад членаў сям'і і ўсіх староннніх; пра родавыя пакуты і радасць мацярынства; пра няроўныя адносіны да нараджэння сына і дачкі ў старым сялянскім быце. Але асабліва ўслаўляецца маці, да якой у песнях выказваецца шчырая павага. Песні гэтай групы прасякнуты таксама любоўю і замілаваннем чалавека працы да дзяцей.

Шчаслівая маці радуецца нараджэнню сына:

Хоць набралася мукі,
Дык пярэйміць ёй рукі.

Хоць нанылася душка,
Будзіць верная служка.[14]

У адрас бацькі, які таксама ўслаўляецца ў песнях, накіравана нямала празрыстых намёкаў аб яго дачыненні да прычыны хрэсьбін:

Дзякуй таму кавальку,
Што нам хрэсьбінкі скаваў.

У песнях-велічаннях бацькоў і ў іншых хрэсьбінных песнях любоў да дзяцей выступае як адна з адметных рыс беларускага сялянства. У мно-

[14] Большасць песенных прыкладаў узята з тэкстаў, што публікуюцца ў даным томе.

гіх варыянтах муж з жонкай упадабляюцца «селязенечку» і «вутачцы», якія водзяць «вуцянятачак» — маленькіх дзетачак. Сялянская сям'я часта ўяўляецца як сям'я мнагадзетная. Перавага ў ёй аддаецца хлопчыкам. Муж просіць сваю жонку:

— Радзі сем сыноў і дачушак
І не будзь ты старанькай.

Песні, што ўшаноўваюць парадзіху і бацьку дзіцяці, розныя па часе свайго паходжання. Некаторыя з іх захавалі вельмі старажытныя рысы быту і светапогляду — рэшткі кувады, мядзведжага культу, рэгламентацыі шлюбных адносін і інш. — і вядуць свае карэнні з глыбінь першабытнаабшчыннага грамадства. Іншыя ж песні змяшчаюць выразныя адзнакі феадальнай эпохі, напрыклад, песні пра князя Васіля і паслоў або пра Іванічку і яго «чалядачку», песні, у якіх услаўляецца «знатны» род і «багацці» парадзіхі або ў якіх сустракаюцца вобразы хрысціянскага культу — бог і «прачыстая».

Старажытнасць паходжання многіх хрэсьбінных песень праглядвае і з іх паэтычных сродкаў, хаця б з традыцыйнага прыёму паралелізму ў будове песні і ўласцівых усім усходнім славянам вобразаў песеннай лірыкі:

Па сінем мору селязенюшка
Да паплавываець.
. . . . . . . . . . . .
Па новых сянёх Арсенічка
Да пахажываець.

Прыём паэтычнага паралелізму аказаўся настолькі трывалым, што захаваў сваю ролю і ў пазнейшых хрысціянізаваных радзінных песнях:

Хораша свята прачыстая...
Добрая жана наша Кандрашыха.

Гэта група песень аб'ядноўвае звыш 70 выяўленых тэкстаў разам з варыянтамі.

Песні пра нованароджанага належаць, відаць, да найбольш ранніх хрэсьбінных песень. Аб гэтым сведчаць рэшткі даўняй веры ў долю, якія захаваліся ў іх.

Народныя ўяўленні аб долі, лёсе звязаны з даўнейшымі ўяўленнямі аб душы, смерці, хваробе, злыднях, дэманах, якія вынікалі з анімістычнага светапогляду чалавека першабытнаабшчыннага грамадства. Ад тых далёкіх часоў паходзіць перакананне, што доля-лёс з'яўляецца прыроджанай. Чалавек нараджаецца з нібыта вызначанай яму на ўсё жыццё доляй, якою надзяляе яго маці.

Глыбокую цікавасць да народнага разумення долі і лёсу праяўляў А. М. Горкі. Гэта пытанне не раз закраналася ім у артыкулах і мастацкіх творах. Ён бачыў развіццё паняццяў долі і лёсу яшчэ ў эпоху матрыярхату. «У гэты перыяд развіцця чалавечага грамадства,— пісаў А. М. Горкі,— павага да жанчыны і аўтарытэт яе ў грамадскіх справах, пераходзячы нярэдка ў страх перад жанчынай, былі настолькі вялікія, што і да гэтага часу не толькі сярод малакультурных плямён, але і ў быту Еўропы захаваліся вобразы маці-зямлі, «лёсу», «долі» і т. п. Адсюль жа ідуць уяўленні, скалечаныя наступным ходам падзей, аб чараўніцах, «вешчых дзевах», «добрых феях» і да т. п., якія ператварыліся ў вобразы «Бабы-Ягі», ведзьмы і інш.» [15].

Пасля пашырэння і ўсталявання новай, хрысціянскай рэлігіі ў класавым грамадстве пад уздзеяннем пануючай царкоўнай ідэалогіі ў народных уяўленнях аб долі паступова адбыліся прыкметныя змены. Пазней, навеянае хрысціянствам, з'явілася перакананне ў тым, што доляй надзяляе бог. Клопатам бацькоў, кумоў, бабкі поруч з выкананнем старых абрадаў і забабонаў стала выпрошванне, вымольванне ў бога шчаслівай долі дзіцяці.

Уяўленні аб долі нованароджанага і клопаты аб ёй выражаны ў радзе хрэсьбінных песень. Да «долі» прад'яўляліся самыя сціплыя патрабаванні, але ў той жа час і самыя жыццёва неабходныя:

— А дай, божа, етай дзіцяці
Усякую долю ўзяці:
І хлебавую, і салявую,
Трэцяю — здаровейкую.

З развіццём таварна-грашовых адносін і павелічэннем грашовай часткі прыгонных павіннасцей — чыншу — і асабліва ў капіталістычную эпоху ўсё большае значэнне набывала доля «грашовая», якую пачалі выпрошваць у бога разам з доляй «хлебавой» і здароўем.

Гаспадарча-матэрыяльныя меркаванні абумовілі і многія магічныя дзеянні, якія павінны былі «забяспечыць» будучыню дзіцяці. Таму ў дзяўчынкі часта адразалі пупавіну на верацяне, а ў хлопчыка — на сякеры, каб яны былі гаспадарлівымі і працавітымі.

З верай у прыроджаную долю непасрэдна звязаны павер'і ў шчаслівыя і нешчаслівыя дні, якія нібыта таксама вызначалі долю дзіцяці. Па таму, калі нарадзілася дзіця, у які дзень, у які час сутак, у які месяц або пару года і г. д., меркавалі аб яго будучыні.

---

[15] М. Горький. О женщинах. У зб.: О литературе. М., 1937, стар. 392.

Гэтыя даўнія народныя павер'і знайшлі сваё адлюстраванне і ў мастацкай літаратуры. Прыгадаем хаця б паэму Францішка Багушэвіча «Кепска будзе!» Як толькі нарадзіўся герой паэмы, бацька яго адразу сказаў: «Кепска будзе!»

А чым кепска? — бо на марцы
Я радзіўся (пост праўдзівы,
Цяжкі месяц гаспадарцы.
Як пражыў хто, — будзе жывы).
. . . . . . . . . . . . .
Што сказаў у кепскім часе,
Ці хто кінуў такім вокам?..
Ну і доля ж удалася! [16]

Таму час нараджэння дзіцяці прыцягваў да сябе пільную ўвагу. У старадаўнія часы ён нярэдка вызначаў нават асабовае імя або мянушку дзіцяці, што пазней замацоўваліся ў прозвішчах. Многія падобныя прозвішчы захаваліся ў беларусаў да сённяшняга дня: Пятніца, Субота, Серада, Ліпень, Лістапад, Зіма, Каляда, Шчэдрык, Сёмуха, Мароз, Холад, Цяпло, Пагода, Непагода, Мяцеліца, Сухавей, Заранка, Полудзень, Вечар, а таксама Вакар (ад літ. vakaras — вечар), Месячык, Вечарок і інш. Усё гэта разам і вызначыла з'яўленне хрэсьбінных песень пра долю дзіцяці.

Пашыраным матывам у гэтай групе песень з'яўляецца пажаданне дачакацца вяселля народжанага дзіцяці, яго даўгавечча:

— Судзі, божа, майму дзіцяці да хросту,
Ад хросту судзі, божа, да вянца,
Да ад вянца судзі, божа, да жыцця.

Адсюль і шматлікія добрыя зычэнні дзіцяці, якімі напоўнены песні гэтай групы:

Каб наша ягодка
А вяліка расла,
А вяліка расла
І шчасліва была.

Песні-зычэнні да нованароджанага пераклікаюцца з прыгаворкамі бабкі і кума і застольнымі тостамі хрэсьбінных гасцей, напрыклад: «Каб ты быў крэпак, як вада, багат, як зямля, вясёл, як пчала, а красен, як вясна».

З усіх хрэсьбінных песень песні пра нованароджанага, бадай, найбольш адзначаны вонкавым налётам хрысціянства. Тлумачыць гэта трэба, як ужо адзначалася, верай у тое, што «доляй» нібы надзяляе бог пры ўдзеле

---

[16] Францішак Багушэвіч. Творы. Мінск, 1967, стар. 55.

багародзіцы («божай маці», «прачыстай»), якая выступае ў гэтай справе пэўнай «хадайніцай» і «дарадчыцай» у карысць дзіцяці. «Сам гаспод»

У багародзіцы ды пытаецца,
Якую долю даці
Етаму дзіцяці:

Багародзіца
Ды адказаіць:
— Дай, божа, ўсякую.

Песень-зычэнняў да народжанага дзіцяці захавалася параўнальна нямнога, пакуль што выяўлена да 20 тэкстаў.

Бадай, больш за ўсё хрэсьбінных песень прысвечана бабцы і кумам (раздзелы 3—5), галоўным фігурам святкавання хрэсьбін. Асаблівай павагай на хрэсьбінах карысталася бабка. Адносіны да бабкі-павітухі, якія знайшлі сваё адлюстраванне ў песнях, мелі сваю жыццёвую аснову ва ўмовах сямейна-грамадскага быту беларускага сялянства старой вёскі. Пашанай былі акружаны на хрэсьбінах і кум з кумой. Прычына такіх адносін да іх не ў іх удзеле ў царкоўным абрадзе хрышчэння, а таксама вынікае з умоў даўняга сельскага абшчыннага быту.

У мінулыя часы, калі беларуская вёска не ведала сапраўднай медыцынскай дапамогі, практычная дапамога парадзісе і прыязная падтрымка яе з боку старой, умудронай жыццёвым вопытам жанчыны набывалі асаблівую вартасць пры з'яўленні на свет новага чалавека. Бабка прымала дзіця, першы раз купала яго, вучыла маладую маці абыходзіцца з ім, выхоўваць яго. Таму ў хрэсьбінных песнях бабку славілі як суцяшальніцу, якая палягчае пакуты парадзіхі. Колькі ўдзячнасці бабцы за тое, што «дзяржала бабулічка за белыя ручкі», бо:

Была б жа я ў сырой зямлі гніўшы,
Каб гэту ночку бабулькі не быўшы.

Песні пра бабку-павітуху, якая дапамагае парадзісе і суцяшае яе пры родах, вылучаюцца ў асобную групу.

У радзе песень вобразна апавядаецца, з якой паспешлівасцю пры набліжэнні родаў муж бяжыць па бабку. Хрэсьбінная песня тут часта не прапускае зручнай магчымасці пасмяяцца са збянтэжанага мужа, на якога зваліліся такія нязвыклыя для яго «клопаты»:

Ай, стучыць-гручыць
Ўдоль па уліцы,
Там бяжыць, бяжыць
Андрэй маладэй.

Ён абосы і праставалосы,
А без шапкі і без пояса.
А бяжыць ён па бабусіньку:
— Ты хадзі, бабусь, перабаб дзіця!
Маё дзіця наражонае,
А тваё дзіця а сужонае!

Так жа гратэскна абмаляваны муж парадзіхі ў другой песні:

Бяжыць Якімка па бабулічку
Без пояса, у адным чобаці.

У адным варыянце песні падобная спешка прыпісана самой бабцы. Угледзеўшы, як

Бяжыць Іван к сваёй бабусеньке;
Бабусенька дагадалася,
У адзін чобат адзявалася.

І хаця яна таксама імчыць «боса і без пояса», абмалявана гэта ў песні без іроніі. Калі справа датычыць бабкі, якая паспяшае на дапамогу сваёй «унучцы», песня адразу настройваецца на сур'ёзны лад:

Бяжыць яна скарэсенька,
Просіць бога шчырэсенька:
— Дай жа, бог, маёй унучцы
Лягесенька, дабрэсенька, скарэсенька.

У велічальных песнях, адрасаваных бабцы, асабліва падкрэсліваецца яе гатоўнасць своечасова прыйсці на дапамогу і пазбавіць парадзіху ад празмерных пакут.

Хадзі, хадзі, ды бабусечка,
Ратуй маю ты Ганусечку
З вялікай мукі,
З вялікай мукі, —

упрошвае бабку муж парадзіхі, абяцаючы за гэта «квартоўку мукі» і «квартоўку канапель».

Аб тым жа просіць-моліць бабку і сама парадзіха, таксама абяцаючы аддзякаваць ёй «мерачкай проса» за тое, што «прыйшла ка мне боса»:

Дам жа табе, бабусенька,
Я каробку мукі,
Да прылажы ж, бабусенька,
Ка мне свае рукі.

Гэта была не звычайная плата за паслугу, а выражэнне сапраўднай і шчырай удзячнасці да бабкі за бескарыслівую і добразычлівую дапамо-

гу ў цяжкі для яе час. Парадзіха, якая перажыла «спаражэйнічка цяжкое», просіць таксама і сваіх родных аддзякаваць «бабуліцы» ў яўна перабольшаных, гіпербалізаваных памерах, далёка недаступных для сялянскай сям'і,— даць ёй «сем мер канапель» і «сем мер мукі» [17].

Да найбольш характэрных хрэсьбінных песень беларусаў належаць песні-велічанні, якія спяваліся бабцы і кумам.

У велічальных песнях бабку не толькі ўслаўляюць і шчодра адорваюць, але ўзнагароджваюць самымі пяшчотнымі эпітэтамі, ласкавымі зваротамі; бабку інакш не называюць, як бабулінька, бабусічка, бабусінька, любусінька, бабачка, бабуля, бабка-любка, старэнькая.

У песнях, як і сапраўды на хрэсьбінах, бабку садзяць на найбольш пачэсным месцы ў хаце — «ды на самым куце», яе ўшаноўваюць, як самага дарагога госця. Бабка ззяе на куце, «як золат персцень на руцэ», яна весялей і ясней, «як сонца на небе», яна, як «чырвоная рожа», ля яе «сядзецi прыгожа», на ёй багатае адзенне, на ёй саян, «ён шоўкам вышыван», на ёй фартух, ён «сто рублей стоіць». Бабку на хрэсьбінах увесь час частуюць віном, мёдам, яна ў цэнтры ўвагі ўсіх гасцей.

Пасля хрэсьбін бабку, як дарагога госця, урачыста і з пашанай адвозілі дадому:

Запражыце, запражыце
А дванаццаць валоў,
Адвязіце, адвязіце
Ды бабульку дамоў.

Па звычаю па дарозе спыняліся ў карчме і зноў частавалі бабку. Аб гэтым, як аб асаблівым выражэнні пашаны да бабкі, таксама спявалася ў песнях:

Запрагіця бабкі шасцярык вараны,
Адвязіця бабку паціхусеньку,
Прывязіця бабку у карчомачку,
Напаіця бабку ды гарэлачкай,
Напаіця бабку ды п'янюсенька.

У некаторых месцах бабку адвозілі ў карчму на баране́ або летам на санках. Гэта вясёлае завяршэнне хрэсьбін захавалася, відаць, як рэшткі нейкага старадаўняга аграрнага абраду, што страціў свой першародны сэнс.

Песні пра бабку і яе ролю ў быце даўняй беларускай вёскі прасякнуты гуманнымі пачуццямі, любоўю да дзяцей і чалавека наогул.

Такая ж павага, як і да бабкі, праяўлялася ў хрэсьбінных песнях да кумоў. Розніца толькі ў тым, што калі бабцы былі прысвечаны і спецыяльныя

[17] *Мера* і *мерка* — адзінкі вымярэння сыпкіх цел пераважна ў форме кадкі, ёмістасць якой у некаторых мясцовасцях дасягала некалькі пудоў.

песні, толькі ёй адной адрасаваныя, то кумоў часцей услаўлялі не асобна ад бабкі, а сумесна з ёю, у агульных песнях. Звычайна ў песні па чарзе звярталіся да бабкі, кума і кумы (часам у адваротным парадку, пачынаючы з кума або кумы). У такім разе ў песні тройчы паўтаралася адна і тая ж страфа, адпаведна змяняўся толькі зварот (бабулінька — кумочак — кумачка), адказ на запытанне (калі страфа здаралася ў форме дыялога) або іншая якая-небудзь дэталь.

Вось адзін са шматлікіх прыкладаў:

А ўчора бабка, а ўчора любка
На радзінках была,
А сягоння бабка, а сягоння любка
На хразьбінкі прыйшла.

Далей даслоўна паўтараецца тое ж, толькі замест бабкі-любкі дзейнічаюць ужо кума-галубка і кумок-галубок.

Песні, што пабудаваны па прынцыпу тройчага паўтарэння аднолькавых строф з адпаведнымі невялікімі зменамі, належаць да найбольш тыповых велічальных песень на хрэсьбінах.

Такі кампазіцыйны прыём, які заключаецца ў даслоўных паўторах, з'яўляецца, відаць, адным з даўніх у паэтыцы вуснай народнай творчасці, паколькі ён уласцівы і некаторым іншым старажытным жанрам фальклору — казкам, асабліва гераічна-чарадзейным і жывёльным, а таксама былінам. Для многіх казак пра жывёл, напрыклад, характэрна неаднаразовае паўтарэнне асобных эпізодаў, апісанняў з адпаведным нарошчваннем тэксту або з некаторымі яго зменамі па меры разгортвання падзей і з'яўлення новых персанажаў. Тое ж наглядаецца ў многіх багатырскіх былінах.

Як бачым, асноўны змест і прызначэнне велічальных песень, якія займаюць вельмі значнае месца ў хрэсьбіннай паэзіі,— гэта ўслаўленне бабкі, кума і кумы.

На хрэсьбінах бацькі праяўляюць асаблівую гасціннасць да бабкі і кумоў, просяць, каб яны не спяшаліся дадому, а болей гасцявалі ў іх ды частаваліся. У адной песні сама парадзіха ўпрошвае бабку, куму і кума, кожнага паасобку:

А скочыла наша радзіха
З полу далоў,
Як ударыцца сваёй кумачцы
У ножкі чалом:
— Гуляй, гуляй, мая кумачка,
Буду й я, буду й я,
Наварыла бочку мядочку,
А дзве віна.

Нягледзячы на такія паважлівыя адносіны да бабкі і кумоў, пра іх жа спяваецца нямала жартоўных песень, якія ў радзіннай паэзіі складаюць даволі значную групу і належаць да яе адметных асаблівасцей.

Беларус любіць жарт, тонка адчувае дасціпнае слова, не прапусціць выпадку лагодна пасмяяцца з каго-небудзь і трапна адпарыруе любую колкасць. Такі ўжо ў яго характар. А дзе ж больш было разгарнуцца народнаму гумару, як не на хрэсьбінах або вяселлі?

Беларускі этнограф і фалькларыст А. Разенфельд, які наглядаў быт сялян Мінскай губерні ў канцы XIX ст., пісаў адносна хрэсьбін і вяселля: «Пры ўсіх гэтых святкаваннях беларус нібы хоча сябе ўзнагародзіць за ўстрыманне ў іншы час, за катаржную, мала аплочваемую працу, якою занята ўсё яго жыццё» [18].

Хрэсьбіны заўсёды былі надзвычай вясёлым святкаваннем. Здавалася, жартам і весялосці не будзе канца, лёгкіх «кпінаў» не ўнікалі нават самыя паважаныя госці — бабка і кумы.

Аб'ектам «насмешкі» часта з'яўляецца залішне падпіўшая бабка:

Упілася бабка, упілася,
За столікам звілася, звілася.
Мышы-шышы шалелі, шалелі,
Хвартух бабцы праелі, праелі.

З бабкі падсмейваюцца, што яна «скупая», «не дае гасцінчыкаў», што яна «лянная», рабіць не хоча, прыкідваецца нядужай, а па падарункі аж бяжыць, што яна нібы стараецца прыхапіць з гасціны дадому пачастунак і наогул — яна «нягодная»:

Я б гэту бабку,
Я бы ў бабкі не ўзяў,
Я б гэтай бабцы
Чаркі гарэлкі не даў.
Я б гэту бабку
За вароты прагнаў.

Такія ж кпіны адрасуюцца куму і куме.

Жарты і весялосць дасягаюць кульмінацыі пад канец хрэсьбіннага абеду, калі

Бабка кашку нясець,
А кум казной трасець.

---

[18] А. Розенфельд. Этнографические наблюдения в Минской губернии 1897 г. (Краткое содержание реферата). АГТ, ф. 54, спр. 24, л. 1.

Як вядома, кум і кума, або хросны бацька і хросная маці нованароджанага (па царкоўнай тэрміналогіі — васпрыемнікі),[19] разам з бабкай былі галоўнымі ўдзельнікамі святкавання хрэсьбін. Кумы неслі дзіця да папа або ксяндза хрысціць, прысутнічалі пры гэтым царкоўным абрадзе, прымалі з рук свяшчэнніка ахрышчанае дзіця, а вярнуўшыся дадому, перадавалі свайго хросніка бацькам. Быць кумамі звычайна запрашалі добрых суседзяў, сваякоў, знаёмых (адмаўленне быць кумам або кумой лічылася грахом). За хрэсьбінным сталом кумоў усаджвалі побач з бабкай, як самых шаноўных гасцей, на пачэсным месцы — у покуці. Кумоў абдорвалі, да іх спявалі песні, на працягу ўсіх хрэсьбін яны заставаліся ў цэнтры ўвагі гасцей.

Усё гэта — і фігуры кумоў-васпрыемнікаў, і характар іх удзелу ў хрэсьбінным рытуале — адзначана выразным налётам хрысціянскай рэлігіі, якая панавала ўжо з X ст. на Беларусі. Але як і самі хрэсьбіны, хоць і звязаныя з царкоўным абрадам, мелі сваёй асновай дахрысціянскія абрады ачышчэння і рытуал прыняцця нованароджанага ў род, абшчыну, так і кумы не былі параджэннем хрысціянства. Царква прыпісвала кумам-васпрыемнікам духоўную роднасць. Але тут, як і ў іншых выпадках прыстасавання новай рэлігіі да дахрысціянскіх вераванняў, народных звычаяў і грамадскіх інстытуцый, яна імкнулася «хрысціянізаваць», надаць больш «высакароднасці» такой старажытнай грамадскай з'яве, якой быў інстытут кумоў.

Можна меркаваць, што ўдзел кума і кумы ў царкоўным абрадзе замяніў нейкія іншыя, вельмі даўнія функцыі, якія кумы, як прадстаўнікі роду або абшчыны, некалі выконвалі ў цырымоніі пасвячэння новага члена роду. Аб вельмі старадаўнім паходжанні інстытута кумоў сведчаць ужо тыя даволі празрыстыя намёкі на іх узаемаадносіны, пра якія гаворыцца ў многіх хрэсьбінных песнях. Намёкі на вольныя паводзіны кумоў, на фізічную блізкасць паміж імі маглі захавацца ў песнях як далёкі водгук ранніх форм шлюбу, пры якіх яшчэ не былі належным чынам упарадкаваны шлюбныя адносіны і не існавалі строгія абмежаванні ў гэтай сферы, што былі пазней устаноўлены ва ўмовах родаплемяннога ладу і замацаваны звычаёвым правам.

Вельмі верагодна, што падобныя паводзіны кумоў некалі маглі выконваць пэўную магічную ролю прадуцыруючага характару. Пацвярджэннем гэтаму можа служыць адна істотная дэталь хрэсьбіннай абраднасці, якая зафіксавана ў вёсцы Маскалі Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці.

---

[19] Ад рус. *воспринимать* — браць, прымаць, атрымліваць. *Восприятие от купели*. (Владимир Даль. Толковый словарь живого великорусского языка, т. I. М., 1955, стар. 250). *Васпрыемнікі* — тыя, што прымалі дзіця пасля царкоўнага абраду хрышчэння.

За хрэсьбінным сталом кума і куму прымушаюць пацалавацца. Гавораць, што «калі кумы не пацалуюцца, то памрэ дзіця» [20].

Ускосным сведчаннем старажытнага паходжання кумаўства могуць служыць і некаторыя абрады і звычаі каляндарнага круга. Так, у рускіх яшчэ да канца XIX ст. захаваўся звычай заплятання і расплятання галінак бярозкі напярэдадні і ў час вясновага свята тройцы. Падобныя абрады на сёмуху вядомы і ва ўсходніх раёнах Беларусі. Вакол заплеценай у вянкі бярозкі дзяўчаты вадзілі карагод і «куміліся» — цалаваліся праз вянок і прысягалі адна другой у верным сяброўстве. Пры гэтым спявалі:

Покумимся, кума, покумимся,
Полюбимся, кума, полюбимся...
. . . . . . . . . . .
Помиримся, кума, помиримся,
Покумимся, кума, покумимся.

Пасля гэтага дзяўчаты, што «пакуміліся», станавіліся вернымі прыяцелькамі, «кумамі» і лічыліся нібы роднымі [21].

Некаторыя гісторыкі разглядалі звычай кумавання як перажытак сезонных абрадавых зносін палоў, што адбываліся ў старажытныя часы асабліва вясной і ўлетку [22].

Сутнасць абраду кумавання, само кумаўства і гісторыя іх паходжання патрабуюць яшчэ далейшага даследавання. Адно ўяўляецца бясспрэчным: хрэсьбінныя кумы, якім хрысціянская рэлігія надала святасць непасрэдных удзельнікаў таінства хрышчэння, былі вядомы яшчэ задоўга да ўзнікнення хрысціянства як выканаўцы старадаўніх язычаскіх рытуалаў і перш за ўсё пасвяцiцельных радзінных абрадаў. Ад гэтага паходзіць і тая павага, якой акружаны хрэсьбінныя кумы. Яна мае глыбокія карэнні ў гісторыі народнага быту і грамадскіх адносін.

Таму, калі значэнне бабкі пры нараджэнні дзіцяці зусім зразумела, то не павінна быць памылковых поглядаў і на месца кумоў у сямейным сялянскім быце мінулых эпох. Іх роля як «васпрыемнікаў», як «хросных бацькоў», што дапамагалі свяшчэнніку ў абрадзе прылучэння дзіцяці да «ісціннай» хрысціянскай царквы, зразумела, значна больш позняга паходжання, і не яна вызначыла тую павагу, якой карысталіся кумы ў народа, увогуле даволі абыякавага да догматаў і таінстваў афіцыйнай рэлігіі.

---

[20] Запіс Н. М. Буйніцкай 1966 г. АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 27, сш. 14, л. 8—10.

[21] А. Б. Зернова. Материалы по сельскохозяйственной магии в Дмитровском крае. «Советская этнография», 1932, № 3, стар. 17, 27 і інш.

[22] Гл., напр., А. Веселовский. Гетеризм, побратимство и кумовство в купальской обрядности. ЖМНП, 1894, кн. 2.

Царква надала інстытуту кумоў толькі вонкавую хрысціянскую афарбоўку. Функцыі ж кумоў, як ужо адзначалася, вядуць сваё паходжанне ад старадаўніх пластоў дакласавага грамадства. Кіруючы рытуалам прыняцця нованароджанага ў члены роду, абшчыны, кумы, а, магчыма, першапачаткова толькі адзін кум, гэтым самым прымалі на сябе, відаць, пэўныя абавязкі ў адносінах да дзіцяці і на пазнейшы час. Апошняя акалічнасць у класавым грамадстве пры паступовым аслабленні сваяцкіх сувязей і павелічэнні ролі суседскіх, абшчынных адносін набывала вялікае значэнне ў сялянскім быце. Кумы ў новых умовах класавага грамадства працягвалі несці свайго роду патранажныя абавязкі — наглядалі за гадаваннем і выхаваннем свайго «хросніка», у асобных выпадках дапамагалі яму.

М. О. Касвен у спецыяльным даследаванні «Хто такі хросны бацька?» адзначае: «Роля хроснага бацькі далёка не абмяжоўваецца толькі васпрыемніцтвам. Выяўляючыся ў розных адносінах і формах, роля гэта працягваецца праз усё жыццё хроснага бацькі і яго хроснікаў. У прыватнасці, на працягу ўсяго жыцця, па розных прычынах — з нагоды свята, дня нараджэння і інш., хросныя бацькі павінны рабіць сваім хроснікам падарункі. У цэлым, выдаткі хросных, асабліва выдаткі хроснага бацькі, пачынаючы з хрэсьбін... бываюць нярэдка даволі вялікія» [23].

У сваю чаргу і «хроснік» адпаведна ставіцца да сваіх хросных бацькоў.

Такім чынам, генетычна кумаўство зусім не звязана з хрысціянскай рэлігіяй і яе культамі.

М. О. Касвен вядзе генетычную ніць ад кума-васпрыемніка да архаічнага дзядзькі з матчынага боку. Ён піша: «Этнаграфічна, у народным быце, хросны бацька і матчын дзядзька — персанажы ў вышэйшай ступені блізкія». І далей: «Персанаж матчынага дзядзькі, з усім яго грамадскім значэннем, з яго роллю і яго ўплывовасцю, існаваў у народным быце значна раней, чым з'явілася хрышчэнне, васпрыемніцтва, кумаўство і інш.» [24].

Ад хрысціянства кум і кума толькі і набылі функцыі «васпрыемніцтва», удзелу ў царкоўным абрадзе хрышчэння. Захоўвалася ж кумаўство ў вёсцы на зусім рэальнай, жыццёвай аснове, з'яўляючыся там своеасаблівай формай суседскай, міжсямейнай пастаяннай узаемадапамогі і ўзаемападтрымкі. Таму да выбару кумоў ставіліся вельмі сур'ёзна. У кумы з меркаванняў жыццёва-практычных бацькі стараліся запрасіць, па-першае, людзей маладога веку, і па-другое, больш багацейшых, каб надоўга забяспечыць свайму дзіцяці належную падтрымку і дапамогу ў жыцці. Гэта заўважана радам этнографаў. Так, у адным апісанні са Смаленшчыны

---

[23] «Советская этнография», 1963, № 3, стар. 97—98.
[24] Там жа, стар. 104.

чытаем: «Пытанне аб выбары для нованароджанага васпрыемнікаў адыгрывае немалаважную ролю ў жыцці смаленскага селяніна»... Яны «павінны быць людзі маладыя..., не старэй 35-гадовага ўзросту... Таксама і заможнасць васпрыемнікаў служыць у вачах сялян парукай таму, што дзіця бязбедна пражыве на зямлі» [25]. Тое, што пры выбары кумоў перавага аддаецца «багатым суседзям», адзначана і на Віцебшчыне [26].

Усе гэтыя жыццёвыя прычыны і абумовілі даўнюю павагу да кумоў, якая ў такой апаэтызаванай форме праявілася ў беларускіх хрэсьбінных песнях, аднолькава адрасаваных куму, куме і бабцы.

Аднак стаўленне да кумоў у песнях у той жа час супярэчлівае. Мы маем на ўвазе групу хрэсьбінных песень спецыяльна пра кумоў, якая стаіць асобна ад хрэсьбінных велічальных. Гэта песні пераважна жартоўнага характару аб адносінах паміж кумам і кумою.

Да адносна «бязвінных» песень пра кумоў можна аднесці песні, у якіх апавядаецца, як кумы, што жывуць «цераз тын», «цераз гулачку» або «цераз рэчку», адзін да аднаго ў госці ходзяць, кум куму частуе арэхамі, ягадамі. Найбольш вядомая песня «Кума мая, кумачка, дзе жывеш?» Кум пытаецца ў сваёй кумкі, чаму яго ў госці не заве? Кума ў адказ:

Ці ты, куме, розуму
Пытаеш?
Ці ты маёй хатачкі
Не знаеш?

А далей абяцае:

Тады цябе ў госцейкі
Пазаву,
Як свежае рыбачкі
Навару.
А свежая рыбачка —
Акунёк,
А любенькі госцічак —
Мой кумок.

Песня гэта шырока вядома ў многіх месцах як пазаабрадавая жартоўная песня. На Украіне так здарылася амаль з усімі даўнейшымі хрэсьбіннымі песнямі пра кумоў.

У іншай песні кум запрашае куму частавацца ў садзе ягадамі,

---

[25] М. А. Дроздов. Из этнографии Смоленского края. I. Крестины. «Смоленский вестник», 1896. № 44.

[26] П. Ф. Альхимович. Сборник белорусских народных легенд, былин, песен, с описанием некоторых обрядов, обычаев, праздников и игрищ крестьян Себежского уезда Витебской губ. 1882—1890. АГТ, ф. V, спр. 7, л. 68.

Каторыя салодкі,
А каторы горкі, —
Гэта для мае жонкі.

Толькі пасварыўшыся, кумы перастаюць хадзіць адзін да аднаго ў госці, аб чым пасля дужа шкадуюць:

Чараз бор сасна паваліласся,
А кума з кумам пасварылася.
Чараз тын жывём — мы не знаемся:
Да ні ты ка мне, да ні я к табе.

Ужо гэтыя найбольш «бязвінныя» песні пра гасцяванне і частаванне гавораць аб тым, што паміж кумам і кумой існавала больш, чым «духоўная роднасць», якую абвясціла царква.

То кум просіць куму «любіць» яго:

Цераз гулачку ўсё кума мая,
Цераз другую — куміна дачка.
— Вы кумачкі, вы галубачкі,
Падружачкі мае!
Вы куміцеся, вы любіцеся,
Любіце і мяне.

То кум «заляцаецца» да кумы, абяцаючы ёй «канапелек сеяць», а пасля «канапелькі рваці абяцаўся... Канапелек біці... Канапелек слаці... Канапелек збіраці... Канапелек церці... Канапелек часаць... Палаценца ткаці... Палатна бяліці... У свойчыкі качаці», усё прыпяваючы:

Ой, ні адноі
Не маю такоі,
Як ты, кумачка мая.

То кум вядзе куму ў «сад-вінаград» і зноў частуе ягадамі, якія, як і мёд, рыба, гусак, набываюць характар вобразных намёкаў на інтымную блізкасць кумоў.

У некаторых песнях проста гаворыцца, што кум начуе ў кумы:

Кум у кумы начаваў,
Кум у кумы ўпіўсе,
Кум у кумы за столікам
Шапачкі забыўсе.

Аднак з тых жа хрэсьбінных песень відаць, як народ гнеўна ганьбуе распусных кумоў і нават сурова карае іх згодна са сваімі звычаямі і няпісанымі законамі быту.

У выдатнай хрэсьбіннай песні-баладзе «Пасаджу я квасоліну», якая як не трэба лепш характарызуе строгія норавы народа, жонка спрабуе прысароміць свайго «мілага чарнабрывага», што ён «п'е ў карчме з кумою»:

Годзе, мілы чарнабрывы,
Із кумою піці,
Ой, хадзема дадоманьку
Вячэру варыці.

Муж не паслухаўся яе:

— Мая міла чарнабрыва,
Яшчэ ваэьму кварту,
Кума мая харошая, —
Яшчэ болей варта.

Зняважаная жонка звяртаецца са скаргай да грамады.

Скончылася гэта сумная і ганебная гісторыя тым, што людзі, абураныя амаральнымі паводзінамі кумоў, прыйшлі і сурова пакаралі іх:

Там за садам, за гародам,
Йшчэ за пералазам
Іскава́лі куму з кумам,
Ды абое разам.

У прыведзенай песні іменна абшчына, грамада вынесла свой прысуд.

Аднак грамада ўжывала да абшчыннікаў, што правінаваціліся, і іншыя сродкі ўздзеяння, прабуючы крануць іх сумленне. Цікавай у гэтых адносінах з'яўляецца хрэсьбінная песня пра кумоў, запісаная Е. Раманавым на Быхаўшчыне. Песня гэта баладнага тыпу. Яна пачынаецца карцінай разгулу кумоў:

А ў нядзельку параненьку
Піў кум з кумой гарэлку...

Але іх чакае дарога, трэба ехаць дзіця хрысціць, і кума напамінае:

-- Пакінь, куме, гарэлку піць,
Паедзем, куме, дзіцятка хрысціць.

У дарозе кумы ўчынілі злачынства. Кум спакусіў куму кінуць дзіця «ў калявіну», а самім пайсці «на Украіну».

Эпічным казачным складам апавядаецца пра далейшы шлях кумоў, пра тое, як куме пачулася пагоня і як пагоня спасцігла ўцекачоў. Кум вымушан быў выслухаць суровыя папрокі грамады:

— Пастой, куме, ты не ўхадзі,
Чужы жаны ты не звадзі,—
Чужы жаны вянчалныя,
Сваe кумы падхросныя!
Падхросная кума —
Так, як родная сястра!

У папроках тых — выражэнне царкоўнай маралі. Яе ўплывам і трэба лічыць спасылку на такі аргумент, як духоўнае сваяцтва «падхросных» кумоў. Як вядома, па вучэнню царквы кумы-васпрыемнікі абвешчаны духоўна роднымі, а таму фізічная блізкасць паміж імі лічыцца асабліва грахоўнай. Матыў грахоўнасці ў хрэсьбінных песнях пра ўзаемаадносіны кумоў навеян хрысціянскай рэлігіяй і таму належыць да адносна больш позніх у параўнанні з іншымі матывамі асуджэння непрыстойных паводзін кумоў.

Я. Ф. Карскі пытанне аб эратызме ва ўзаемаадносінах кумоў і народным асуджэнні яго звязвае выключна з царкоўным вучэннем аб духоўнай роднасці кумоў і грахоўнасці. Ён няправільна тлумачыць з'яўленне ў песнях матываў «аб разгульных і распусных кумах», калі піша: «Царква ўстанавіла духоўную роднасць кумы і кума..., а народ часам пераносіць на яе і ўласцівасці роднасці фізічнай» [27]. Адсюль жа і памылковае тлумачэнне сутнасці народнага асуджэння непрыглядных паводзін кумоў: «Уяўленне аб кумаўстве, як аб духоўнай роднасці, яшчэ больш высоўвала грахоўнасць недазволенай сувязі кума і кумы». Таму нібыта «распуснае кумаўство з даўніх часоў падлягала ўсеагульнаму асуджэнню» [28].

З такімі тлумачэннямі Я. Ф. Карскага нельга пагадзіцца. Песні «аб разгульных і распусных кумах», як мы ўжо гаварылі, маглі ўзнікнуць задоўга да пашырэння хрысціянства на старажытнарускіх землях. Яны хаваюць у сабе водгалас далёкай эпохі дакласавага грамадства. Таму ўяўляюцца непераканальнымі і сцверджанні ўкраінскага савецкага фалькларыста А. І. Дэя, што ў кумы запрашалі «нярэдка колішніх каханых, якім па розных прычынах не давялося пабрацца», і гэта нібы прыводзіла да ўстанаўлення блізкіх адносін паміж кумам і кумою [29]. Не могуць задаволіць і вывады М. О. Касвена адносна інтымнай блізкасці паміж хросным бацькам і хроснай маці. Яго тлумачэнне гэтай з'явы тым, што кумы архаічна — муж і жонка, па меншай меры мала пераконвае. Больш верагодным і абгрунтаваным уяўляецца нам палажэнне аб больш познім з'яў-

---

[27] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, 1, стар. 224.
[28] Там жа.
[29] О. Дей. Пісенний гумор українського народу. У кн.: Жартивливі пісні. Київ, 1967, стар. 29.

ленні кумы, чым кума[30], калі прызнаць генетычную сувязь апошняга з дзядзькам з матчынага боку.

Адносна народнага ганьбавання распусных паводзін кумоў можна сказаць, што і яно ўзнікла незалежна ад хрысціянскай маралі і рэлігійнага вучэння аб грахоўнасці. Непамерна раней пашырэння хрысціянства ў народных масах на жыццёвай аснове паступова выпрацоўваліся свае нормы маралі, якія ўрэшце прывялі да ўсталявання трывалых асноў патрыярхальнай сям'і з яе нецярпімасцю да найдрабнейшых парушэнняў шлюбных вызначэнняў і ўзаемаадносін палоў.

Погляд на парушэнне маральных норм кумамі як на грахоўнасць у рэлігійным разуменні сапраўды хрысціянскага, а значыць, і больш позняга паходжання. Пацвярджаецца гэта і тым, што такі погляд мы знаходзім і ў прыпеўках, у жанры, намнога маладзейшым за хрэсьбінныя песні. У адной хрэсьбіннай прыпеўцы з запісаў М. Федароўскага кума, абураная заляцаннямі кума, адказвае:

Чы ты, куме, п'яны,
Чы ты апантаны?
Чы ты, куме, зыйшоў з ума?
То ж я твая родна кума!

Вывядзенне ўсіх народных норм маралі з рэлігійных вучэнняў было ўласціва буржуазным даследчыкам, хаця гэта супярэчыла гістарычнай праўдзе. Мараль узнікла раней рэлігіі, ва ўсякім разе раней важнейшых пануючых рэлігій свету. Яшчэ Г. В. Пляханаў указваў: «У гісторыі развіцця чалавецтва маральнасць узнікае *раней*, чым людзі пачынаюць асвячаць яе прадпісанні спасылкай на волю звышнатуральных істот»[31].

Хрэсьбінныя песні беларусаў, у тым ліку і «кумаўскія», ужо ў эпоху феадалізму амаль страцілі свой першародны абрадава-магічны сэнс і набылі жартоўны характар, забаўляючы і весялячы гасцей. Песні пра любоўныя прыгоды кумоў занялі прамежкавае месца паміж велічальнымі і ўласна жартоўнымі застольнымі песнямі.

Сярод іншых хрэсьбінных песень вылучаецца вельмі значная група бяседных песень. Сваім зместам яны амаль не звязаны з сямейнай урачыстасцю нараджэння дзіцяці. Самі хрэсьбіны ў іх рэдка называюцца. У большасці сваёй — гэта звычайныя застольныя песні, у якіх перш за ўсё праявілася адна з выдатных рыс характару народа — гасціннасць і ветлівасць.

---

[30] «Советская этнография», 1963, № 3, стар. 106.

[31] Г. В. Плеханов. Избранные философские произведения, т. III. М., 1957, стар. 310. Аб паходжанні маралі гл. таксама: А. Ф. Шишкин. Основы марксистской этики. М., 1961, стар. 56—60.

Хрэсьбінныя бяседныя песні могуць быць падзелены на дзве групы: застольныя і ўласна бяседныя.

Асноўны змест застольных песень — гэта само застолле, у час якога гаспадыня ветліва запрашае гасцей паспытаць хлеба-солі, частуе іх:

Ах вы, столікі мае,
Вы цясовенькія,
А чаго ж вы стаіцё
Незасцеленыя?..

Ах вы, госцейкі мае,
Вы малодзенькія,
А чаго ж вы сядзіцё,
Хлеба-солі не ясцё?

У застольных песнях разгортваецца карціна хрэсьбіннай бяседы-«пасядзенійка», яны перадаюць весялосць гасцей-хрысцінnікаў, што сабраліся адсвяткаваць радасную падзею ў сям'і свайго родзіча, суседа, аднавяскоўца, абшчынніка. Песні гэтыя поўняцца дасціпным народным гумарам, нярэдка гучаць у іх колкі жарт і незласлівая насмешка па адрасу залішне захмялеўшага госця.

Такім чынам, у змесце застольных песень пераважае апісанне балявання з частым упамінаннем «столікаў», частавання, «чарачкі», шчодрасці гаспадароў.

Часамі выступае вобраз разважлівай госці, якая пільна «вартуе» свайго мужа, каб не даць яму залішне ўпіцца. Такой мы бачым яе, напрыклад, у хрэсьбіннай застольнай песні «Раса жыта расіла» з запісаў Р. Р. Шырмы.

Паміж жонкай і мужам адбываецца цікавы па будове і дасціпны па ўнутранаму зместу дыялог. Жонка спрабуе ўгаварыць мужа пайсці дадому, спасылаючыся на розныя «пільныя гаспадарчыя патрэбы». Але муж з сапраўднай народнай кемлівасцю, падкрэслена стрымана і трапна адводзіць яе довады, не жадаючы расстацца з вясёлай бяседай:

Раса жыта расіла.
Жонка мужа прасіла:
— Йдзем, мужу, дадому.

Нашы конікі іржаць,
Яны естачкі хацяць,
Йдзем, мужу, дадому.

— А нашто нам конікі,
Перад намі столікі,
Яшчэ пасядзема,
Людзей паглядзема.

Падобным парадкам песня паўтараецца, жонка прыгадвае ўсё новыя і новыя «прычыны»: і што «кароўкі мычаць, яны естачкі хацяць», і што «куркі сакацяць», і «коцікі мяўчаць». На ўсё гэта муж спакойна знаходзіць адпаведныя адказы, не кратаючыся з месца:

— А нашто нам курачкі,
Перад намі чарачкі...

— А нашто нам коцікі,
А мы ў людзей госцікі...

Як бы працягам гэтай песні служыла другая застольная песня «Астаўма, мілы, мы ўсё дзела». Тут жонка, бяссільная ў сваіх спробах адарваць мужа ад святочнага стала і павесці яго дадому, перайшла да чыста жаночай з'едлівай іроніі, якая часам дзейнічала ў такіх выпадках не горш, чым выштурхоўванне ў «каршэнь»:

Астаўма, мілы, мы ўсё дзела,
То будзем піці йшчэ ў панядзелак.

Вазьмема, мілы, мы рублёў сорак,
То будзем піці яшчэ ў аўторак.

Замема, мілы, пасці чарэду,
То будзем піці яшчэ ў сярэду... і г. д.

Гэта песня — выдатны ўзор народнага гумару, з якім беларус ніколі не расставаўся,— ні ў радасці, ні ў бядзе.

Застольныя песні на хрэсьбінах так і іскрыліся жартам, смехам, весялосцю. На развітанне звычайна спявалася застольная расхожая песня, у якой дзякавалі гаспадару, усхвалялі яго шчодрасць і гасціннасць:

Нідзе ж мы так не пагулялі,
Ні на вяселлі, ні на багамоллі,
Як у гэтага хадзяіна на ксцінах.

І калі застольныя песні ў нейкай ступені ўсё ж звязаны з хрэсьбінамі тым, што малююць само «баляванне», а зрэдку і называюць хрэсьбіны, ксціны, дык уласна бяседныя песні належаць да хрэсьбінных толькі сваім прымеркаваннем да гэтага сямейнага святкавання. Хаця і тут, безумоўна, ёсць пэўная заканамернасць. Яна праяўляецца ўжо ў тым, што асноўным зместам бяседных песень служаць пераважна традыцыйныя тэмы жаночай долі — жыццё ў чужой сям'і з нялюбым, благім мужам, побач са зласлівымі суседзямі. Ёсць тут і некаторыя іншыя тэмы традыцыйнага «жаночага» рэпертуару — багаты брат адракаецца ад беднай сястры; шлюб-

ная нявернасць і інш. Сярод уласна бяседных песень нямала і песень жартоўных, якія таксама не выходзяць з кола сямейна-бытавых тэм. Не трэба забываць, што выканаўцамі хрэсьбінных песень, ды і творцамі іх, былі жанчыны.

Апрача песень, беларуская радзінная паэзія ведала і некаторыя іншыя віды славесных твораў. Гэта — прыгаворкі бабкі і кума за хрэсьбінным сталом, а таксама хрэсьбінныя прыпеўкі да скокаў, жарты, застольныя тосты і г. д.

Добразычлівымі і часта жартоўнымі прыгаворкамі бабкі і кума суправаджаўся цэнтральны і самы вясёлы момант хрэсьбін — раздача «бабінай кашы». Ужо ставячы свой гаршчок з кашай на стол, бабка выказвала такія пажаданні бацькам нованароджанага, у якіх адчувалася непасрэдная сувязь з асновай вытворчай дзейнасці — сельскай гаспадаркай. Напрыклад, на Мсціслаўшчыне бабка перад раздачай кашы прыгаворвала: «Дай жа, божа, каб у гэтым доме было многа дзетак на палу, жарабятак з цяляткамі на двару, парасятак з ягняткамі на вару, і ўсякага дабра гэтаму двару». Асабліва «шуткуюцца» бабка з кумам, калі разбіваюць гаршчок. Жартуе бабка, як раздае кашу ў чарапочках:

— На каго каша нахінецца, таму кварту купляць.

Жартуюць і госці:

— А табе штонядзелі быць у етым дзелі.

З'яўленне бабінай кашы сустракалася жартамі і ў песеннай форме:

Бабка кашку нясець,
А кум казной трасець,
У бабкі кашка — смашна,
А ў кума казна — ясна...

Весялосць на хрэсьбінах дасягала свайго асаблівага накалу, калі разам з музыкай і скокамі раздаваліся першыя задзёрыстыя прыпеўкі. Сам жанр прыпеву да танцаў вядомы з даўніх часоў. З'яўленне на гэтым этапе бытаванні хрэсьбінных прыпевак са спецыфічным зместам сведчыць аб інтэнсіўным працэсе разлажэння абраду, які адбываўся ўжо ў эпоху феадалізму. Па свайму характару гэта прыпеўкі жартоўныя і зноў-такі пераважна пра кума і куму:

Як жа кумы не любіць,
Кеды кума ладна,
На ёй сукня, як на пані,
Панчошка едвабна.

У прыпеўках узаемаадносіны кумоў і іх паводзіны паўстаюць у яшчэ больш непрыкрытым выглядзе, паказаны з прыкметным налётам фрывольнасці.

У час хрэсьбін разыгрываецца нямала вясёлых драматызаваных сцэнак. На Магілёўшчыне, напрыклад, «кралі» ў бабкі кашу, якую хавалі, а потым шукалі з вясёлымі жартамі; на Гродзеншчыне якая-небудзь жанчына прыносіла на хрэсьбіны ляльку, закручаную ў пялёнкі, як дзіця, і крычала на кумоў, што яны прывезлі не тое дзіця. Кумы доўга «спрачаліся» і пад агульны смех «даказвалі» сваю праўду. Бабка нібы вярталася з рынку і «прасілася нанач», у яе правяралі «паперы». Усё святкаванне хрэсьбін было насычана весялосцю і дасціпнымі жартамі. «У радзінных і хрэсьбінных абрадах, — пісаў Сумцоў, — нельга не бачыць некаторай маральнай асновы: матывамі іх служаць радасць пры з'яўленні новага члена сям'і, яго ўрачыстае прызнанне...» [32]



Асноўным і важнейшым жанрам радзіннай паэзіі з'яўляюцца песні. Хрэсьбінныя песні, складаныя па свайму саставу і паходжанню, як мы бачылі, належаць да своеасаблівых і цікавых з'яў беларускай традыцыйнай песеннай творчасці.

Як сама ўрачыстасць радзін, так і радзінныя, або хрэсьбінныя, песні прасякнуты простай чалавечай радасцю, прагай да жыцця, замілаваннем да дзяцей.

Сямейная ўрачыстасць з нагоды нараджэння дзіцяці захавалася, зразумела, і ў сучасным быце людзей і святкуецца яшчэ больш багата і пышна. Захоўваюцца і некаторыя старыя звычаі і абрады, якія належаць да нацыянальнай традыцыі, змяніўшы свой першапачатковы сэнс у новых умовах уздыму матэрыяльнага і культурнага ўзроўню савецкага грамадства.

У сучасным народным быце адбываецца працэс стварэння новых, безрэлігійных савецкіх абрадаў. Не абмінуў ён і абраднасць радзін. Ужо ў дваццатыя гады ўзнік зусім новы абрад акцябрын, які замяніў сабой царкоўны абрад хрышчэння [33]. Зараз усё шырэй уваходзіць у быт працоўных урачыстая цырымонія рэгістрацыі нованароджаных, якая адбываецца ў палацах і дамах культуры, рабочых і сельскіх клубах.

Аднак у сямейным святкаванні нараджэння дзіцяці асноўнае месца займае шырокае банкетаванне, частаванне запрошаных гасцей, якое нават

---

[32] Н. Сумцов. О славянских народных воззрениях на новорожденного ребенка, стар. 69.

[33] Гл. А. М. Комаров. З історії виникнення «октябрин» і «червоного весілля» в Білоруській РСР. «Народна творчість та етнографія». Київ, 1961, № 2, стар. 37—42.

тады, калі дзіця не хрысцяць, захоўвае старую назву хрэсьбін, хрысцін, часта ўжо з жартаўлівым адценнем, або радзін.

У сучасным святкаванні радзін-«хрэсьбін» заўважаем такія традыцыйныя моманты, як віншаванне парадзіхі і бацькі дзіцяці, адведкі з «прыносам», абдорванне парадзіхі і «на зубок» дзіцяці і інш. Фігуруюць на сучасных «хрэсьбінах» і традыцыйныя персанажы бабкі і кумоў, хаця функцыі іх рэзка змяніліся. Ад бабкі, напрыклад, цалкам адпалі акушэрскія функцыі, якія перайшлі да медперсаналу радзільных дамоў. Але па традыцыі яна засталася паважанай фігурай хрэсьбіннага застолля, пэўным яго «цырымоніймайстрам». Кум і кума, хоць і пазбавіліся ў большасці выпадкаў сваіх мінулых васпрыемніцкіх абавязкаў, захавалі ў новай якасці пэўныя патранажныя функцыі ў адносінах да свайго «хросніка», асабліва ў галіне яго выхавання. Ва ўрачыстай цырымоніі рэгістрацыі нованароджаных, якая практыкуецца ў горадзе Пінску, кум і кума набылі нават новы «тытул» ганаровых бацькоў. У час рэгістрацыі, якая адбываецца ў гарадскім Доме культуры, яны падпісваюць урачыстае абяцанне: «Мы, ганаровыя бацькі (іх імёны і прозвішчы і імя нованароджанага), урачыста абяцаем аказваць бацькам акцябрынніка ўсялякую дапамогу ў тым, каб выгадаваць і выхаваць (імя дзіцяці) вартага грамадзяніна нашай вялікай Радзімы» [34].

Радзіны ў сучаснай беларускай вёсцы яшчэ рэдка абыходзяцца і без славутай «бабінай кашы». Старадаўні звычай выкупу і раздачы «бабінай кашы», звязаны з ім «торг», які выклікае вясёлы «ажыятаж» за сталом, застаецца адным з цэнтральных момантаў і цяперашніх «хрэсьбін». У апошні час радзінная абрадавая каша ў радзе выпадкаў захавала толькі сваю назву, яе замянілі торт, пячэнне, шчодра запраўленая маслам і яйкамі макаронная бабка і г. д.

Прыкметна звузілася кола хрэсьбінных песень, якія выконваюцца зараз на радзінах. З даўніх абрадавых песень найбольш захаваліся велічальныя да парадзіхі і бабкі і жартоўныя «кумаўскія» песні.

Тым большае значэнне набывае максімальна поўная публікацыя старадаўніх радзінных песень, якая павінна захаваць у вяках гэту своеасаблівую частку вуснапаэтычнай спадчыны беларускага народа.

---

34 В. М. Иванов. Новое время — новая жизнь. Минск, 1968, стар. 133.

*М. Я. Грынблат*

# НАПЕВЫ РАДЗІННЫХ ПЕСЕНЬ

Музычны змест песень, якія належаць да цыкла радзіннай паэзіі, своеасаблівы. Своеасаблівасць гэта заключаецца ў тым, што радзінныя песні, выяўляючы яркія жанравыя рысы ў паэтычным змесце, амаль не маюць такіх у напеве. Гэта адзін з даволі рэдкіх жанраў традыцыйнай беларускай абрадавай песні, які не захаваў або наогул не вызначыў спецыфічных музычна-выразных прыёмаў, безадносных да тэксту яркіх і дастаткова ўстойлівых для ўсяго арэала бытавання музычна-жанравых адзнак, якія, напрыклад, наглядна вылучаюць песні жніўныя, вясеннія, купальскія, вясельныя і іншыя.

Зараз цяжка прасачыць прычыны гэтай выключнасці радзінных песень. Мабыць, неправамерна весці гутарку пра больш позняе «амузычванне» паэзіі радзіннага абраду. Тыя агульнастылістычныя рысы, якія выяўляюцца ў мелодыцы радзінных песень, дазваляюць адносіць іх да найбольш ранніх інтанацыйных пластоў, што дайшлі да нас. Пры пошуках старажытных адзнак народнай музыкі можна звяртацца якраз у першую чаргу да песень радзіннага цыкла. Тут мы выявім і найбольш раннія рысы меладычнага стылю — шматлікія паўторы простых інтанацыйных ячэек, і ладавыя структуры, што адрозніваюцца непасрэднымі, прамымі сувязямі паміж гукамі, і рытмы, якія трымаюцца на моўнай дэкламацыйнасці, і, нарэшце, раннія віды гетэрафоніі.

Такім чынам, мелодыка радзінных песень — з'ява хутчэй за ўсё адпаведная эпосе фарміравання найбольш тыповых сродкаў раннетрадыцыйнай песнятворчасці. Але гэтыя сродкі ў асноўным так і засталіся ў радзіннай песні на ўзроўні абагульненых для пэўнай эпохі стылістычных адзнак народнай музыкі. Адсутнасць у напевах радзінных песень выразных жанравых рыс тлумачыцца, відаць, таксама і спецыфікай самога абраду, які ў сваёй асноўнай частцы мае «застольны» характар. Дарэчы, застольныя песні даволі пашыраны ў вясельным абрадзе і талацэ. Там яны таксама вызначаюцца стылявой стракатасцю. Але, калі ў вясельным абрадзе, апрача застольных песень, існуе яшчэ цэлы рад песенных падцыклаў, якія абслугоўваюць шматлікія этапы гэтага найбагацейшага абрадавага дзейства, то ў абрадзе радзінным, які захаваўся ў беларусаў да цяперашняга

часу, цэнтральны этап — гэта застольныя эмоцыі. Натуральна, што апошнія, калі ўлічыць яшчэ і абставіны «эмацыянальнай вольніцы», якія звычайна пануюць у такіх умовах, не садзейнічалі строгай рэгламентацыі музычнага суправаджэння абраду і давалі шырокі прастор для ўсялякіх імправізацый. Перавага «застольных» настрояў у пэўнай ступені тлумачыць наяўнасць у радзіннай паэзіі (ды і ў некаторых вясельных песнях) кароткіх, народнага характару «эпіграм», экспромтаў «пад танец» і адкрыта фрывольных прыпевак.

«Вольная трактоўка» музычнага суправаджэння радзіннага абраду з'явілася прычынай таго, што ў яго маглі трапіць напевы, якія надта аддалена напамінаюць сутнасць абраду. У гэтых адносінах, бадай, толькі сярод радзінных песень можна сустрэць такія экзатычныя мелодыі, як у песнях «Я ўчора малада», «У майго брацішкі бяседачка».

Вельмі часта ў радзінны песенны цыкл пранікаюць сучасныя матывы. Працэс адбору песень, годных для пэўнай тоеснай сітуацыі, працягваецца і зараз. Пры гэтым у ход ідзе рэпертуар, запазычаны з запаснікаў савецкай масавай песні, асабліва лірычнай, а таксама з фальклорных крыніц іншых народаў.

Як відаць з матэрыялу гэтага тома, асноўную масу напеваў складаюць напевы так званых бяседных песень — песень тыпова застольных — і менш тых, якія звязаны непасрэдна з абрадам. Песні першага тыпу могуць выконвацца, і сапраўды выконваюцца, і ў іншых сітуацыях, як абрадавых, так і пазаабрадавых (розныя вечарынкі, бяседы).

Прапорцыі паміж песнямі бяседнымі і астатнімі радзіннымі, якія змешчаны ў гэтым томе, не адлюстроўваюць сапраўдных суадносін паміж імі. Песень бяседных вядома намнога больш, сюды могуць прыцягвацца заўсёды дадатковыя рэзервы. Аднак і песень радзінных, якія замацаваны толькі за гэтым абрадам, колькасна таксама больш, чым прыведзена ў даным томе. Па нейкіх прычынах, магчыма, не зусім аб'ектыўных, радзінныя песні, як і пахавальныя галашэнні, раней даволі рэдка фіксаваліся фалькларыстамі. Гэта і зараз адна з белых плям у сістэматыцы беларускай традыцыйнай песеннай творчасці.

Найбольшая колькасць мелодый радзінных песень надрукавана ў другім томе «Беларускіх народных песень» Р. Шырмы (21 напеў). Амаль усе яны запісаны ад адной выканаўцы Захвеі Хвораст; таму многія з іх інтанацыйна вельмі блізкія і ўтвараюць варыянты так званага тыповага напеву.

Падобнае ж ладава-інтанацыйнае адзінства радзінных песень можна назіраць і ў зборніку М. Гарэцкага і А. Ягорава «Народныя песні з мелодыямі» (13 напеваў). Зборнік складзен з запісаў ад адной выканаўцы і таму таксама мае цэлы рад тыповых напеваў.

Каля двух дзесяткаў радзінных песень запісана Г. Цітовічам. Невялікая частка іх змешчана ў яго «Анталогіі», астатнія засталіся ў рукапісу і ўзяты ў дадзены том для першай публікацыі.

Гэта, бадай, і ўсе найбольш шырока прадстаўленыя калекцыі мелодый беларускіх радзінных песень. Апрача таго, некалькі напеваў былі выкарыстаны з запісаў М. Чуркіна, П. Шэйна, М. Федароўскага, а таксама супрацоўнікаў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР (экспедыцыйныя матэрыялы 1959—1970 гг.).

Разам з тым на аснове сабраных матэрыялаў ужо можна скласці больш ці менш яснае ўяўленне аб багацці і разнастайнасці тэматыкі гэтых песень, аб эмацыянальнай паўнакроўнасці і высокай паэзіі іх меладычнага зместу. Тэматычная «выпадковасць» тых або іншых напеваў у радзінным цыкле зусім не азначае іх эмацыянальнай і вобразнай выпадковасці. Усе сродкі іх мелодыкі правераны і адабраны ў выніку працяглай шліфоўкі калектыўным мастацкім вопытам. Песні гэтыя, побач з песнямі іншых жанраў, і зараз складаюць залаты фонд беларускай народнай музычнай творчасці.

Гаворачы пра адсутнасць ярка выражаных тыповых жанравых сродкаў мелодыкі радзінных песень, мы не маем на ўвазе іх стылістычную абыякавасць. Сам абрад, нягледзячы на сваю адносную кампактнасць і цэласнасць, усе ж дазваляе дэталізаваць асобныя яго моманты, звязаныя ці з пэўным эпізодам, ці з персанальным носьбітам той або іншай функцыі. Сама парадзіха, нованароджаны, бацька дзіцяці, бабка — адна з галоўных дзеючых асоб абраду, — кум і кума, нарэшце, госці — усе яны ў той або іншай ступені становяцца цэнтрам увагі прысутных і дзеючымі асобамі адпаведных песенных сюжэтаў. Найбольш «рытуальныя» ў гэтай групе — нованароджаны, парадзіха і бабка; «вольна-сюжэтныя» персанажы — бацька дзіцяці, кумы і, вядома, госці. У адпаведнасці з такім функцыянальным размеркаваннем удзельнікаў урачыстасці, а таксама зыходзячы з усёй яе «сцэнарнай» задумы, песні радзіннага цыклу схільны да тых або іншых сфер вобразнасці, значыць, і да пэўнага кола інтанацыйна-выразных сродкаў. Гэтых найбольш выразна акрэсленых сфер інтанацыйнай характэрнасці ў радзінным цыкле можна вылучыць пяць: у аснове першай ляжыць *заклінанне*, другой — *велічанне*, трэцяй — *лірычныя матывы*, чацвёртай — *жарт, гумар*, пятай — *танцавальнасць*.

З гэтых інтанацыйна-вобразных сфер найбольш традыцыйныя і стабільныя першыя дзве — заклінальная і велічальная. Яны часцей за ўсё і вызначаюць эмацыянальны змест песень, якія прысвечаны рытуальным персанажам: парадзісе, нованароджанаму і бабцы. Гумар, лірычныя матывы і танцавальнасць — гэта сферы больш свабоднай творчасці. Тут менш канонаў, больш вынаходніцтва, навізны (хоць «навізна» таксама дастат-

кова ўстойлівая для той або іншай мясцовасці). Песні жартоўнага зместу ў першую чаргу адрасуюцца кумам. Таксама не пазбаўлены жартоўных эмоцый песні, накіраваныя да бабкі і парадзіхі. Аднак гэта назіраецца перш за ўсё ў тэксце. Напевы тут выяўляюць больш строгую вобразную дыферэнцыяцыю. Вось чаму нярэдка можна сустрэць у радзіннай паэзіі песні, тэксты якіх іскрацца хітраватасцю, незласлівым жартам, разухабістай весялосцю, тады як іх напевы здзіўляюць нейкай стрыманасцю, часам нават змрочнасцю (заклінальнасцю). Тут мы, відавочна, сутыкаемся са звычайнай для народнай песнятворчасці асаблівасцю, калі тэксты, больш гістарычна рухомыя, чым музыка, значна пераасэнсоўваюцца і толькі мелодыка можа яшчэ напомніць аб ранейшых генетычных вытоках той або іншай песні.

Мелодыку ярка выражанага заклінальнага характару маюць песні «Запрагайце, закладайце», «Я б гэту бабку», «Як я сівы валы маў». Усе яны адрасуюцца бабцы. Зараз у «бабчыных песнях» мы ўжо сустракаем, апрача заклінальных (якія, дарэчы, не пераважаюць), напевы самага рознага інтанацыйна-вобразнага складу. Але затое напевы заклінальнага складу, як правіла, накіраваны толькі да бабкі. Трэба думаць, што яны і складаюць абрадавую першааснову, адлюстроўваюць той непасрэдна функцыянальны сэнс, які некалі выконваў пэўную першабытна-магічную ролю. Сама функцыя заклінання дастаткова ясная і канкрэтная — гэта шматразовы і настойлівы заклік да знешніх сіл з мэтай атрымання ад іх вядомых прэрагатыў. Тое, што заклінанне было звернута да бабкі, выводзіць яе за кола звычайнага чалавечага калектыву. Відаць, у сваіх першапачатковых асновах радзінны абрад якраз і вылучаў бабку як пасрэдніцу паміж таямнічымі сіламі прыроды і чалавекам.

Асноўная сэнсавая накіраванасць заклінанняў — настойлівы заклік — вызначыла і характар музычна-выразных сродкаў напеваў. У першую чаргу тут трэба звярнуць увагу на шматразовую сцвярджальнасць невялікай, але завершанай меладычна і рытмічна ячэйкі. Адбываецца як бы «ўкалачванне» пэўнага інтанацыйнага тэзісу, настойлівае яго падкрэсліванне. У меладычных адносінах гэта выражана ў шматразовых паўторах той або іншай папеўкі, часам проста характэрнай інтэрвальнай суаднеснасці. Ва ўсіх трох адзначаных намі песнях папеўкай, што паўтараецца, з'яўляецца папеўка, у якой супастаўляюцца IV і V ступені ладу; яна паўторана ў іх тройчы, прычым у рытмічных умовах, якія вылучаючых гэты абарот у якасці цэнтральнага. Генетычна гэта папеўка хутчэй за ўсё з'яўляецца II і I ступенямі першапачатковага ладу, таго секундавага ладу, які і зараз яшчэ захаваўся ў дзіцячым песенным рэпертуары як лад «клічнага» (заклінальнага) характару: розныя заклікі, накшталт «Дожджык, дожджык, перастань» і г. д. У такім жа выглядзе секундавы лад можа ператварыцца

ў ячэйку больш складанага ладу, які ўзнікае ў выніку перамяшчэння тонікі на субкварту — звычайная з'ява ў ладавым развіцці беларускай народнай музыкі:



У далейшым квартавы інтэрвал запаўняецца прамежкавым гукам, утвараючы спецыфічны для ранніх беларускіх ладоў мінорны лад пентатонавай структуры:



Асноўная «заклінальчая» меладычная ячэйка вылучаецца таксама і рытмічна. Як правіла, яна змяшчаецца ў канцы меладычных фраз, утвараючы своеасаблівыя клаўзулы, якія маюць аналогіі з рыфмай у вершы.

Развіццё напеваў з заклінальным сэнсам павольнае. Многія з іх маюць змрочнае адценне, што вызначаецца як самім мінорным ладам, так і мернай рытмічнай пульсацыяй. У гэтых напевах як бы сканцэнтравана архаіка язычаскага пантэізму ў яго жыццёва неабходным выражэнні.

Характэрна і форма гэтай групы напеваў. У аснове яе ляжыць трохразовае паўтарэнне цэнтральнага меладычнага зерня (трохразовасць паўтарэння — таксама прыналежнасць магічна-заклінальных дзействаў). У сувязі з гэтым уся структура напеву або распадаецца на тры самастойных раздзелы, што сустракаецца, праўда, радзей, або дзеліцца на звычайныя дзве паўстрафы-сказы: у першым сказе асноўнае меладычнае зерне праводзіцца двойчы, у другім — адзін раз, але ў больш развітым, вар'іраваным выглядзе. Агульная схема мае выгляд аа $a^1$, дзе абедзве часткі роўныя па працягласці.

Другую групу песень, таксама больш або менш блізкіх да рытуальнага значэння радзіннага абраду, утвараюць песні велічальнага характару. Найбольш ярка гэту групу прадстаўляюць напевы «Ой, у полю садочак» і «Ды хто ў нас».

Мелодыі велічальнага характару, як правіла, асацыіруюцца з павольным урачыстым шэсцем. Мернасць кроку падкрэсліваецца ў першую чаргу метрарытмікай, песні гэтыя амаль усе ў цотных метрах — 2/4 і 4/4. Адсутнічаюць метрычныя перабівы, сінкопы, «адваротныя» рытмы. Пачатак напеваў з моцнай долі, харэічны. Уражанню мернага руху садзейнічаюць і інтанацыйныя абароты, як і ў заклінальных напевах, схільныя да шмат-

разовага паўтарэння. Але ў адрозненне ад апошніх у велічальных напевах асабліва актыўна падкрэсліваецца танічны гук і тэрцыя ладу (часцей за ўсё мажорнага). Гэта ўстойлівасць усёй ладавай канструкцыі, «саліднасць» яе асновы, безумоўна, садзейнічае і агульнай вобразнай «саліднасці» песні, яна моцна «стаіць на нагах» і ўпэўнена ў сваіх эмоцыях.

Характэрна, што традыцыйныя велічальныя песні радзіннага абраду зноў-такі большай часткай накіраваны да бабкі. Гэта яшчэ больш падкрэслівае важнае значэнне апошняй у рытуале. Заклінанне і велічанне — бадай, дзве з асноўных вобразна-эмацыянальных (ды і ідэалагічных) сфер старадаўняй песеннай творчасці. І, безумоўна, гэты абрад адыгрываў калісьці вельмі важную ролю ў сямейным жыцці старажытных славян, не менш важную, чым абрад вясельны. Аднак апошняму былі падрыхтаваны гісторыяй больш спрыяльныя ўмовы. Песні вясельнага цыкла, у тым ліку і велічальныя, выпрацавалі сваю ўласную меладычную стылістыку, настолькі спецыфічную ў агульным плане, што змаглі пранікаць і ў іншыя абрады. Праўда, зараз нам ужо цяжка ўстанавіць, што ў радзінных велічальных песнях ёсць ад радзіннага абраду, а што трапіла з вясельнага цыкла. Але той факт, што многія песні гэтага плана, у тым ліку і адназначныя дзве велічальныя радзінныя песні, асацыіруюцца ў першую чаргу з вясельным песенным цыклам, сведчыць аб своеасаблівым «засіллі» апошняга над менш спецыфічна выражанымі жанрамі абрадавай песнятворчасці.

Апрача песень-слаўленняў, якія маюць характар размернага маршу, сустракаюцца радзінныя велічанні з праяўленнем застольных эмоцый. Метрарытміка іх больш свабодная; могуць сустракацца фермата, глісанда, кантрастныя метрычныя групы. Але ўсё ж і ў гэтых мелодыях адчуваецца ўрачыстая прыўзнятасць.

Песні-слаўленні спяваюцца асабліва «старанна». Параўнальная ладаваінтанацыйная і метрычная прастата іх, а таксама адкрытасць пачуццяў спрыяюць іх большай калектыўнасці, чым песень заклінальных, якія патрабуюць ад выканаўцы пэўнай долі «спецыялізацыі».

Многія радзінныя песні зараз поўнасцю зліліся з песнямі застольнымі. Эмацыянальнасці пры гэтым прыбавілася, але, з другога боку, прыкметна сцёрся элемент сур'ёзнасці «дзейства», яго чыста абрадавая функцыя, што, дарэчы, назіраецца і на прыкладзе іншых традыцыйных абрадаў.

Да песень, што абслугоўваюць вонкавы бок радзіннага абраду, адносяцца песні лірычнага, гумарыстычнага і танцавальнага характару. Гэта група песень — прыналежнасць увогуле ўсялякай святочнай падзеі, своеасаблівы эстрадны жанр народнай песеннай творчасці. І таму адны і тыя ж песні могуць быць скарыстаны і ў радзінным, і вясельным, і ў радзе іншых функцыянальна самастойных абрадаў, якія, апрача неабходных выступленняў, патрабуюць таксама і «мастацкай часткі».

У радзіннным абрадзе такіх песень пераважная большасць, што зусім натуральна, бо сярод іх шмат запазычаных. Аднак трэба падкрэсліць, што, хоць мелодыка песень, напрыклад, лірычнага зместу, у большасці і запазычана радзінным цыклам песень, але і тут існуе пэўны адбор. Характар абраду абмяжоўвае ў пэўнай ступені як сюжэтную, так і эмацыянальную сферу лірыкі.

Аналіз большасці тэкстаў лірычных радзінных песень паказвае, што ім не ўласцівы сюжэты востраdраматычныя, асабліва сумныя. Лірыка іх светлая і ўраўнаважаная.

Адпаведна гэтаму і напевам лірычных песень не ўласцівы вострыя і напружаныя інтанацыі. Пашыранай папеўкай, дакладней нават папеўкай-ладам, з'яўляецца мінорны зыходны пентахорд. У яго мяккіх інтанацыях схавана глыбокае і моцнае пачуццё. Паўтарэнне гэтай папеўкі ў розных варыіраваных малюнках надае ўсёй песні некалькі меланхалічны каларыт. Але асабліва эфектыўна ў лірычных напевах тужліва-сузіральнага плана выступаюць пентатанічныя лады як мажорнага, так і мінорнага накланення.

І мінорная, і мажорная пентатоніка прадстаўлена ў гэтых напевах большай часткай у няпоўным выглядзе. Мінорная пентатоніка часцей за ўсё мае наступны, можна сказаць, класічны для старадаўняй лірычнай, асабліва веснавой, песні выгляд (мінорны квінтавы гукарад з прапушчанай II ступенню):



Пентатоніка мажорная прадстаўлена таксама квінтавым гукарадам, але з прапушчанай IV ступенню:



Цудоўным узорам мажорнай пентатонікі з'яўляецца напеў песні «Ой, маці, маці». У ім адлюстравана тыповая заканамернасць пентатонавага ладу ў беларускай музыцы: ён вельмі рэдка вытрымліваецца ад пачатку да канца напеву і, як правіла, спалучаецца ў другой частцы формы з паўтонавымі абаротамі (адзін з тыпаў ладавай пераменнасці).

Агульны ладавы аб'ём лірычных радзінных песень у асноўным выкарыстоўвае дыяпазон сексты, што сведчыць аб параўнальна раннім паходжанні гэтых напеваў. Аб гэтым жа сведчыць і адсутнасць у іх унутрыскладовых распеваў больш чым на два гукі, а таксама даволі размерная рытміка. Побач з цотнымі метрамі тут шырока прадстаўлены метры ня-

цотныя, вальсападобныя, якія садзейнічаюць мяккасці і плаўнасці інтанацыйнага развіцця.

У адрозненне ад папярэдніх груп напеваў (заклінальных або велічальных) у напевах лірычнага складу часцей за ўсё скарыстоўваецца танальная пераліўчатасць. Асабліва часта сустракаецца пераменнасць паралельных танальнасцей. Часам такая пераменнасць ледзь прыкметна, мяжуе з інтанацыйнай пераліўчатасцю, часам эрухі ажыццяўляюцца рашуча і падкрэслена.

Да песень жартоўных адносяцца песні, у якіх адлюстравана дабрадушнае пакепліванне з бабкі, з гасцей, з бацькі дзіцяці. Але найбольш «дастаецца» куму з кумой. Лагодныя прымаўкі-насмешкі, адрасаваныя ім, даволі вынаходлівыя ў сваёй паэтычнай структуры і дастаткова разнастайныя ў меладычных адносінах. Гэта песні тыпова застольныя, эпікурэйскія, размашыстыя, часам нястрымныя, але яны заўсёды іскрацца жартам, паказваюць сяброўскую атмасферу агульнага вяселля.

Разам з тым нельга не адзначыць для некаторых песень данай групы своеасаблівай эмацыянальнай дваістасці. У першую чаргу гэта несупадзенне эмацыянальнага тонусу тэксту і мелодый. Апошнія часта, пры даволі аптымістычным і нават заліхвацкім тэксце, вытрыманы ў журботных, часам змрочных танах. Гэта яшчэ адзін з выпадкаў захавання меладычнай асновы песні пры звычайнай трансфармацыі яе тэксту.

У цэлым падобныя песні вызначае развітая мелодыка ў межах актавы, бойкія, пружыністыя рытмы. Асаблівасцю мелодыкі многіх жартоўных песень з'яўляюцца частыя квартавыя скачкі, рэпетыцыя на адным гуку, выразная скандыроўка тэксту. Разам з тым сустракаюцца песні працяглага тыпу, з метрыкай, якая перыядычна змяняецца.

Увогуле, жартоўныя песні больш, чым іншыя, схільны да рознай стылявой сумесі, што, магчыма, часткова тлумачыцца парадыйнымі задачамі гэтых песень.

Даволі распаўсюджанай структурай іх з'яўляецца структура «пара перыядычнасцей» *аавв* (гл. песні «Раса жыта расіла», «Ай, кум куме рад» і інш.). Форма гэта ідзе ад старадаўніх танцавальных мелодый, у тым ліку карагодных, што сведчыць аб блізкасці жартоўных напеваў да напеваў танцавальных.

Каларытнай рытмічнай асаблівасцю песень гумарыстычнага плана з'яўляецца паслядоўнае правядзенне ў некаторых з іх востраакцэнтнай рытмічнай фігуры з кароткай, часта здробленай, першай доляй:



Гэты рытм увогуле адзін з найбольш імпульсіўных. Пакладзены ў аснову харавой песні, ён часта арганізуе ўсіх удзельнікаў спеваў і чыста дзейна (гл. каментарыі да песні «Пасаджу я квасоліну»).

І, нарэшце, напевы танцавальнага характару. Яны непасрэдна прымыкаюць да песень жартоўных, але ў адрозненне ад іх ужо не выяўляюць эмацыянальнай дваістасці: тэкст і мелодыя ў іх заўсёды знаходзяцца ў непасрэднай адпаведнасці. Сярод напеваў гэтага плана сустракаюцца напевы і карагоднага тыпу.

Песні з напевамі танцавальнага характару таксама адносяцца да разраду застольных. Сярод іх шмат прыпевак, кароткіх экспромтаў. Яны звернуты да ўсіх удзельнікаў урачыстасці. Калі напевы карагоднага плана нясуць на сабе, умоўна кажучы, ідэю жаноцкасці, пяшчотны пачатак, то напевы з танцавальным каларытам — гэта выражэнне мужных эмоцый.

У напевах танцавальнага характару можна выявіць мелодыі вядомых у Беларусі танцаў, гэта як бы іх новыя падтэкстоўкі, якія прыстасаваны да радзіннага абраду. Але і пры адсутнасці непасрэдных танцавальных «цытат» у многіх напевах данай групы лёгка ўгадваюцца рытмічныя абароты і інтанацыі вядомых танцаў: полькі, казачка, кадрылі і г. д.

Рытмічна гэта знаходзіць ажыццяўленне ў спецыфічных для танцавальнай музыкі фігурах, а таксама ў жорсткай рытмічнай канве, якая не дапускае ніякіх адхіленняў. Форма такіх напеваў строга сіметрычна, хоць і не заўсёды квадратна. Апрача структур 2+2, 4+4, сустракаюцца таксама 3+3, 6+6. Важнейшымі і пераважаючымі метрамі з'яўляюцца метры 2/4 і 3/4.

Сярод рытмічных фігур напеваў танцавальнага характару найбольш распаўсюджаны наступныя:





і іншыя

На радзінныя песні танцавальнага характару вялікі ўплыў зрабіла прыпеўка. Вось чаму ў шматлікіх песнях гэтага тыпу мы сустракаем тыповую для частушкі рэпетыцыйнасць рытму (суцэльная паслядоўнасць «васьмымі»).

У асобных выпадках можна прасачыць пранікненне рытмаў мазуркі і кракавяка (асабліва ў запісах Федароўскага), а таксама каламыйкі. Увогуле,

калі песні астатніх груп радзіннага цыкла асіміляваді напевы самых розных жанраў нацыянальнай беларускай песнятворчасці, то песні танцавальнай групы выяўляюць такую асіміляцыю, нярэдка выходзячы за межы нацыянальнай музыкі (факт, між іншым, характэрны для танцавальнай музыкі многіх народаў).

Танцавальнасць большасці песень гэтай групы праяўляецца і ў агульнай дынаміцы развіцця формы. У адрозненне ад папярэдніх тыпаў песень тут у цэлым радзе выпадкаў дастаткова ясна адлюстраван метрарытмічны кантраст. Звычайна кантрастуюць паміж сабой абедзве палавіны напеву. У гэтых выпадках першая палавіна ідзе амаль на суцэльных «восьмых», другая пераходзіць на «чвэрці» і больш буйныя працягласці; прычым у другой палавіне, у адрозненне ад першай, выкарыстоўваюцца шырокія распевы складоў. Агульнае ўражанне ад усёй формы песні ў дынаміцы — хутка-павольна. Гэта паслядоўнасць асабліва часта сустракаецца ў прыпеўках і служыць адзнакай іх нацыянальнай характэрнасці. Радзей сустракаюцца адваротныя суадносіны — павольна-хутка, суадноснасць хутчэй карагоднага тыпу.

Некалькі адрозніваюцца ад астатніх напевы танцавальнага тыпу і ў інтанацыйных адносінах. У іх нярэдка сустракаюцца абароты інструментальнага характару. Да ліку апошніх трэба аднесці арпеджыо трохгуччаў у хуткім тэмпе, скачкі на септыму, выходныя і ўзыходныя гамападобныя пасажы, таксама ў хуткім тэмпе. Усе гэтыя асаблівасці дазваляюць гаварыць аб сінкрэтычнасці паходжання падобных напеваў. Верагодна, што яны выконваліся калісьці пад акампанемент якога-небудзь інструмента (характар інтанацый наводзіць на думку аб цымбалах з іх спецыфічнымі пераборамі).

Шматгалоссе ў радзінных песнях прадстаўлена скупа, як і ва ўсіх традыцыйных абрадавых жанрах беларускай музыкі. Поўнасцю шматгалосых фактур дагэтуль яшчэ не сустракалася. Разыходжанне галасоў ад унісона праяўляецца эпізадычна і, у асноўным, у выглядзе двухгалосых спалучэнняў. У цэлым жа радзінныя песні — узор манадыйнага стылю народнай музыкі, хоць у некаторых яго жанрах дастаткова ясна прагледжваецца схаваная гармонія.

Таксама традыцыйна характэрны і сам стыль меладызіравання радзінных песень, якія цягнуцца да квантытатыўных суадноснасцей паміж словам і напевам (адзін склад тэксту адпавядае аднаму гуку напеву). Гэта ўжо не рэчытацыя, але і не той распеў, які характэрны для познетрадыцыйнай творчасці. Дэкламацыйны момант асабліва адчуваецца ў песнях заклінальных, дзе гэты стыль спецыфічны і вызначаецца размоўнымі абаротамі, у якіх уся сутнасць песні; рэчытатыў пранізвае і песні жартоўнага і танцавальнага характару, што вызначаецца ўжо чыста тэхналагічнымі прычынамі;

скарагаворка, чоткае, у такт інструментальнай музыцы, скандзіраванне тэксту. Толькі ў лірычных песнях адчуваецца невялікі элемент распеўнасці, але і ён ідзе, у асноўным, за кошт агульнага тэмпу. Такім чынам, агульная стылістыка радзінных песень, нягледзячы на ўсе пабочныя прыўнясенні, дазваляе адносіць іх да песень раннетрадыцыйных. Мы не маем магчымасці правесці зараз на дастаткова значным матэрыяле параўнальны аналіз меладыкі песень беларускіх і рускіх. Апошнія, як вядома, не складаюць самастойнага жанру і ў невялікай колькасці фігуруюць толькі ў фальклорных запісах, зробленых на Смаленшчыне і Браншчыне (песні «ксцінныя»). Разам з тым трэба падкрэсліць блізкасць беларускіх радзінных песень да старадаўняй рускай песеннай творчасці, у першую чаргу гэта датычыцца песень заклінальных і велічальных.

Пры ўсёй традыцыйнасці, а значыць, пэўнай кананізацыі музычна-выразных сродкаў, у напевах радзінных песень яшчэ дастаткова адчувальна праслухоўваецца пульс жыцця. Зразумела, гэта тлумачыцца захаваннем самога абраду. Як і вясельны абрад, «хрэсьбіны» пакуль яшчэ не заменены больш або менш раўназначным сучасным абрадам, асабліва ў сельскай мясцовасці.

Многія радзінныя песні і зараз з'яўляюцца ўзорамі высокага мастацкага зместу. У музычных адносінах гэта праяўляецца ў лаканізме і разам з тым эмацыянальнай выверанасці меладычных сродкаў. Нават напевы, якія пазбаўлены шырокага меладычнага дыхання, напевы, у аснове якіх ляжыць дэкламацыйнасць, могуць захапіць сваім пэўным асэнсаваннем экспрэсіўна-моўных інтанацый. Ці не тут тояцца запасы выразных сродкаў для вакальнай рэчытацыі прафесійнай музыкі, як вядома, надта збяднеўшай у цяперашні час на выразны і нацыянальна-грунтоўны рэчытатыў. Ды і іншыя сродкі вобразнага выражэння, якія тояцца ў напевах радзіннай паэзіі, дастойны стаць важным стымулам для ўдасканальвання сучаснай музычнай мовы як народнай, так і прафесійнай беларускай музыкі.



У даным томе прадстаўлены музычныя запісы, якія адносяцца да розных перыядаў развіцця фалькларыстыкі на Беларусі. Самыя раннія з іх зроблены ў 80-х гадах XIX ст. («Матэрыялы...» П. Шэйна), найбольш познія адносяцца да 1970 г.

Усе гэтыя матэрыялы, якія ахопліваюць амаль стогадовую гісторыю бытавання жанру беларускіх радзінных песень, зразумела, нераўназначны і адлюстроўваюць розныя погляды на задачы практычнай фалькларыстыкі ў той ці іншы перыяд. Так, пры параўнанні запісаў ранняга перыяду з запісамі пазнейшымі выяўляюцца больш уважлівыя адносіны ў апошніх

да меладычнай дэталізацыі напеву, больш падрабязнае адлюстраванне ў ім інтанацыйных і рытмічных нюансаў.

Пераважная цікавасць да этнаграфічнага каларыту музычнай культуры, якая была ўласціва ранняму этапу развіцця на Беларусі музычнай фалькларыстыкі, шмат у чым абумовіла папулярызатарскія мэты гэтых публікацый.

Увага да меладычных узораў з параўнальна простай інтанацыйнай структурай, з аднаго боку, і блізкасць гэтых мелодый да норм прафесійнага мастацтва, з другога, вызначылі і пэўны лаканізм падобных запісаў, некалькі абагульнены падыход да меладычных і рытмічных асаблівасцей беларускай народнай музыкі.

Сучасны этап развіцця беларускай музычнай фалькларыстыкі значна акцэнтаваў побач з этнаграфічным таксама генетычны і чыста тэхналагічны аспекты вывучэння народнага меладызму, што знайшло адлюстраванне і ў методыцы яго запісу. Належная ўвага стала ўдзяляцца спецыфічным для народнага мастацтва асаблівасцям музычнай мовы, тым асаблівасцям, якія іншы раз не супадаюць з нормамі прафесійнага мастацтва. У першую чаргу гэта закранула гукавысотную сістэму, ладавую і метрарытмічную будову народнай музыкі. У запісах з'явіліся гетэрафонныя моманты, элементы арнаментыкі, нарэшце, хранаметражна выверaная рытміка.

Ажыццяўленню падобнай методыкі запісаў народных мелодый садзейнічала таксама паяўленне і шырокае выкарыстанне тэхнічна дасканалай гуказапісваючай апаратуры. Гэта дазволіла паўтараць неабмежаваную колькасць разоў адну і тую ж мелодыю, здымаючы з яе пры гэтых паўтарэннях дакладныя інтанацыйныя і рытмічныя копіі.

Другім значным момантам, які адрознівае раннія запісы ад сучасных, з'яўляецца ажыццяўленне ў апошніх больш арганічных узаемасувязей паміж тэкставым і музычным элементамі песні. Такая сувязь нярэдка парушалася ў мінулым нават у кваліфікаваных збіральнікаў. Прычынай гэтага было раздзяленне сфер назірання за народнай песняй паміж двума збіральнікамі: адзін фіксаваў тэкст, другі — напеў. Так, запіс мелодый радзінных песень з «Матэрыялаў...» П. Шэйна зроблены А. Спаскім (з голасу самога Шэйна). Музычная частка запісаў М. Федароўскага зроблена Яўхімам Трачыкам і Янам Карловічам. У зборніку М. Гарэцкага і А. Ягорава першы са складальнікаў узяў на сябе тэкставую частку запісаў, другі — музычную. Тэксты радзінных песень са зборніка Е. Раманава суправаджаюцца музычнымі запісамі М. Чуркіна.

Запісы апошняга часу ўжо, як правіла, выкананы адной асобай, слыхавыя, вядома, фалькларыстамі-музыкантамі. Дарэчы, і для фалькларыстаў-славеснікаў са з'яўленнем магнітафона стала магчымай комплексная фіксацыя народнай песні.

У томе змешчаны амаль усе раней вядомыя публікацыі беларускіх радзінных песень. Увага да гэтых узораў, нягледзячы на іх знешнюю прастату, мае мэтай не толькі даць уяўленне аб пэўным перыядзе развіцця музычнай фальклары стыкі, але і больш шырока паказаць гістарычны аб'ём песень гэтага жанру. Справа ў тым, што некаторыя з запісаў з'яўляюцца ў цяперашні час адзінай сведкай існавання данага меладычнага варыянта, які ўжо бясследна знік з народна-песеннага рэпертуару, але без якога ўяўленне пра апошні было б няпоўным.

Разам з тым складальнікі разумеюць, што і прыведзеная колькасць напеваў радзінных песень не дае вычарпальных звестак аб гэтым цікавым і самабытным жанры. Сучасная беларуская музычная фалькларыстыка яшчэ шмат можа ўнесці новага ў вывучэнне гэтай галіны песнятворчасці.

Падрыхтоўка запісаў напеваў да публікацыі патрабавала ўнясення ў некаторыя з іх пэўных карэктываў. У першую чаргу гэта датычылася запісаў, якія былі выкананы па асобных элементах песні, што выклікала ў радзе выпадкаў парушэнне рытмічнай сінхроннасці або проста рытмічнае рознач ытанне паміж тэкстам і напевам. Гэта назіраецца і ў першай страфе, але асабліва характэрна для наступных строф, у якіх меладычны элемент часта ўвогуле не браўся пад увагу. Падобныя рытмічныя несупадзенні ёсць у зборніку М. Федароўскага, сустракаюцца яны і ў зборніку М. Гарэцкага і А. Ягорава.

Гэтыя абставіны ў значнай меры вызначылі характар рэдактуры падобных напеваў. Так, у выпадку рэзкіх і яўных несуадносін паміж тэкстам і напевам мы ўносілі карэктывы непасрэдна ў аўтарскі запіс. Для напеваў, якія дапускаюць розную трактоўку рытмічнай структуры (што датычыцца і больш позніх запісаў), складальнікі прапануюць свой варыянт запісу ў выглядзе дадатковых рыс і абазначэння метрыкі над асноўным натаносцам.

Адсутнасць эквірытмічнасці паміж тэкстам і напевам у радзе выпадкаў з'явілася прычынай таго, што некаторыя мелодыі радзінных песень зусім немагчыма было прывесці (напрыклад, прыпеўкі са зборніка М. Федароўскага).

Прывядзенне да рытмічных суадносін асноўных элементаў песні закранула не толькі мелодыку. Іншы раз яўныя парушэнні былі ў тэксце, які і карэктыраваўся ў адпаведнасці з нормамі сучаснай фалькларыстычнай рэдактуры. Такія карэктывы, а таксама іншыя дапаўненні і змяненні, якія складальнікі лічылі неабходным унесці ў музычны кантэкст песень, даюцца ў квадратных дужках. У неабходных выпадках больш падрабязныя заўвагі прыводзяцца ў каментарыях.

*В. І. Ялатаў*

# ПРА ПАРАДЗІХУ І БАЦЬКУ ДЗІЦЯЦІ

## 1. А У КАМОРАЧЦЫ АГАНЁК ГАРЫЦЬ

А ў каморачцы аганёк гарыць,
А ў Манічкі жыватoк баліць.
— Ты, Іванічка, ты ратуй, ратуй,
Ты калысачку, ты гатуй, гатуй.

## 2. ВАНЬКАВА ЖОНКА

Ванькава жонка
У полазі ляжыць,
Шаўковым адбабам вязана.
Прыязджае Ванька.
— Ванька, галубок,
Баліць мая галоўка
І баліць жываток.
— Ай, жоначка мая,
Галубка мая.
Жываток баліць,
Трэба вінцо піць,
А галоўку лячыць
Шаўковым адбабам.

## 3. ХТО, ХТО КАЛЯ РЭЧКІ СВІШЧЫЦЬ?

Хто, хто каля рэчкі свішчыць?
Селязень каля рэчкі свішчыць,
Селязень вутачку ішчыць.
Тут, тут мая вутачка была,
Тут, тут гняздзечка віла,
Тут, тут і яечкі знясла.

Хто, хто па сенечках ходзіць,
Хто, хто сваю мілую ішчыць?
Яначка па сенечках ходзіць,
Яначка сваю мілую ішчыць.
Тут, тут мая мілая была,
Тут, тут яна пасцельку слала,
Тут, тут яна дзіцятка мела.

## 4. ДЫ ХТО, ХТО КАЛЯ РЭЧАНЬКІ СВІШЧА?

Ды хто, хто каля рэчанькі свішча?
[Ды хто, хто каля быстрае свішча?]
Селязень, селязень сваю утачку ішча.
Тут была, тут яна гняздзечка віла.

Ды хто, хто ды па сенечках ходзіць,
Ды хто, хто ды па новенькіх ходзіць?
Ды Ванюшка ды па сенечках ходзіць,
Ён сваю Манечку сочыць,
Тут была, тут яна дзіця мела.

## 5. ПА СІНЕМ МОРУ СЕЛЯЗЕНЮШКА

Па сінем мору селязенюшка
Да паплавываець,
Ох, і ён сваю серу вутушку
Да паісківаець:
— Ох, і дзе ж тая сера вуціца
Да падзелася?
Калі ж яна на сінём моры,—
Не страляйце яе,
А калі ж яна ў траснік паплыла,—
Не пужайце яе.

Па навых сянёх Арсенічка
Да пахажываець,
Ох, і ён сваю да Марушычку
Да пагукываець:
— Ох, і дзе ж мая дый Марушычка
Яна спадзелася?
А калі ж яна на цяром пайшла,—
Не гукайце яе,
А калі ж яна спацькі лягла,—
Не будзіце яе,
А маленькага да дзіцятухну
Калышыце ж яе.

## 6. САСКАЧЫЛА ДА ХРУЗАЧКА

Саскачыла да Хрузачка
Ух і з печы на пол,
Пакланілась Іванічкі
Яна да самі120ькіх да ног:
— Іванічка да і Паўлавіч.
Не вялікі ты панок,
Скінь-ка ж ты, Іванічка.
Свой сіні жупанок...
Як буду я на караваці
Стагнаці, стагнаці, } 2 разы
Будзеш жа па мне, мой міленькі.
Ільнаці, ільнаці... } 2 разы
А ўлажыў ты мне ў голаву
Стагнання, стагнання... } 2 разы

## 7. ЗВАЛІЛАСЯ, СКАЦІЛАСЯ

Звалілася, скацілася
Калодачка з печы,
Ударыла, ударыла
Іваньку у плечы.
Калі б табе, Іванічка,
Да болна балела,
А тагды б ты, Іванічка,
Сваю Мар'ю жалеў.

## 8. САДАВАЯ ЯБЛЫНКА

Allegretto

Са - да - ва - я яб - лын - ка, са - да - ва -
- я яб - лын - ка пры да - рож - цы ста - я - ла,
пры да - рож - цы ста - я - (ла).

Садавая яблынка *
Пры дарожцы стаяла.

Пры дарожцы стаяла,
Адзін яблачак мела.

Маладая Аўгінька
Да па сенцах хадзіла.

Да па сенцах хадзіла,
Да сыночка радзіла.

Хоць набралася мукі,
Дык пярэйміць ёй рукі.

Хоць нанылася душка,
Будзіць верная служка.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 9. А СЫН У МАМКІ НОЧКУ НАЧАВАЎ

А сын у мамкі ночку начаваў,
Ночку начаваў, дзіўны сон відаў.
Дзіўны сон відаў, а два месяцы:
Адзін месяц ды цямнюсенькі,
А другі месяц ды ясненькі.
— Ай, сынку, сынку, дай разгадаці сон.
Твая жана сына радзіла,
Сына радзіла, сама не жыва.
Ехаў барамі — бары не шумяць,
Ехаў садамі — сады не цвітуць,
Прыехаў у двор — увесь двор невясёл,
Прыйшоў у пакой — пакой немяцён,
Жана малада на куце ляжыць.
Гараць свечачкі, усхліпаючы,
Плачуць дзетачкі, уздыхаючы.
— А вам, дзетачкі, мамкі не будзець,
Мне, маладому, другая будзець.

## 10. УСЕ БАБКІ НА КСЦІНКІ ЙДУЦЬ

Ўсе бабкі на ксцінкі йдуць,
Ўсе бабкі па дзіцятку нясуць,
А ў мяне маладой
А дзіцяткі няма.

Пайду ж я, малада.
Ой, у цёмны лес,
А я ж там, малада,
А медзвяжоначка найду.

Вазьму ж я, малада,
А медзвяжоначка,
Спаўю я, малада,
У пялёначкі.

Спаўю я, малада,
У пялёначкі,
Пакладу ж я, малада,
У калысачку.

Мядзведзе маркоча,
Яно есці хоча,
Ох, яно есці хоча.

## 11. ЧЫЯ ЖАНА, ЧЫЯ ЖАНА

♩ = 120

Чы – я жа – на, чы – я жа –

– на ў по – ла – зе ля – жа.

– ла? Ў по – // – ла?

Чыя жана, чыя жана
Ў полазе ляжала? *

Дзямянава, Дзямянава
Ў полазе ляжала.

Й захацела, дажыдала
Вішнёвага соку.

— Ой, клікніце, ой, клікніце
Мілéнькага з току.

Няхай жа ён да прынясець
Вішнёвага соку.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 12. ПАРАДЗІХА У ПАЛОЗЕ ЛЯЖЫЦЬ

Парадзіха ў палозе ляжыць,
А захацела яна віннага соку...
— А пазавіце майго мілага з току,
Ці не дастанець мне віннага соку?
А ён пытаецца: — Каго жана радзіла?
Калі сына, я мёду дабуду,
Калі дачушка, я й так абайдуся;
Калі сына, я й горад пастаўлю,
Калі дачушка, з кажушкамі адпраўлю.

## 13. ХТО Ж У НАС У ПАЛОЗЕ ЛЯЖЫЦЬ?

Хто ж у нас у палозе ляжыць?
Пёкалка наша да ў палозе ляжыць.
Да зажадала вішнёвага соку:
— Сышчыце майго Хведарка з току,
Няхай дабудзе вішнёвага соку.
— Пытайцеся, та хто то радзіўся?
Калі сын радзіўся, я і соку дабуду,
Калі дочка, вадзіцай адбуду;
Калі сын радзіўся, слаўны горад стаўлю,
Калі дочухна, я й шацёр не пастаўлю.

## 14. А ХТО У НАС У ПОЛАЗЕ ЛЯЖЫЦЬ?

А хто ў нас у полазе ляжыць? *
Аўгінька ў нас у полазе ляжыць.
— Прывядзіце Ігнатачку із-за току.
Ці не сышчыць мядовага соку?
Папытаўся:— А хто нарадзіўся?
Калі дачушка, дастаўлю я соку,
А калі сыночак, гарэлачку дабуду.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 15. ДЫ ЗАЦВІЦЕЛА КАЛІНКА Ў ЛАЗЕ

Ды зацвіцела калінка ў лазе,
Ды захварэла Марылька ў палазе,
Ды зажадала вішнёвага соку.
— Ды паклічце майго мужа з току,
Каб расстараўся вішнёвага соку.
— Калі на дачку, дык я і з току не пайду,
А калі на сына, дык я мёду прынясу.

## 16. ДЫ ЗАЦВІЦЕЛА КАЛІНКА Ў ЛОЗЕ

Ды зацвіцела калінка ў лозе,
Ды захварэла Марылька ў палозе,
Ды зажадала вішнёвага соку.
— Ды паклічце майго мужа з току,
Каб расстараўся вішнёвага соку.
— Калі сыночак, мушу расстарацца,
Калі дачушка, гуляйце, жоначкі.

## 17. ДА НАША МАНЕЧКА Ў ПАЛОЗЕ ЛЯЖАЛА

Да наша Манечка ў палозе ляжала,
Да захацела вішнёвага соку.
— Да прывядзіце Ванечку з току,
Няхай прынясе вішнёвага соку.
— Калі на сына, мушу пастарацца,
А на дачушку, няхай выбачае.
— А ў нашым садзе ўсе роўныя кветкі,
Сынкі, дачушкі — ўсе роўныя дзеткі.

## 18. ОЙ, ДЫМНА, ДЫМНА Ў САДЗЕ

Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.
У нашага Іванічкі
Да трое варот у дварэ.

У первыя вароцечкі
Да сакол вылятаў.
Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.

У другія вароцечкі
Іванічка выязджаў.
Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.

А ў трэція вароцечкі
Да чалядачка бяжыць.
Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.

— Вярніся, вярніся, дзяцінaчка,
Ты назад.
Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.

Твая жана табе сына
Радзіла.
Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.

— Я для сына ў двор не вярнуся,
Сын у мяне хазяін у дварэ.

Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.

— Вярнісь, вярнісь, дзяцінaчка,
Ты назад.
Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.

Твая жана табе дачку
Радзіла.
Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.

— Я для дачкі ў двор вярнуся,
Дачка ў мяне госцейка ў двapэ.
Ой, дымна, дымна ў садзе,
Ой, дымна, дымна ў зялёным.



## 19. РАНА, РАНА, ЯШЧЭ І ПЕЎНІ НЕ ПЕЛІ

Рана, рана, яшчэ і пеўні не пелі,
Раньшы таго вароты скрыпелі:
Князь Васілій на вайну выязджаў,
За ім паслы па тры, па чатыры:
— Вярніся, вярніся, князь Васілій,
Табе бог дзіця паслаў.
— Калі сына, ад варот не вярнуся,
Калі дачку, з вайны вярнуся.
Сын узрасцець — на вайну пайдзець,
Дачка ўзрасцець — гаспадыняй будзець,
Замуж пайдзець — мне госцей не будзець.

## 20. А Ў СЕНАЧКАХ, У СЕНАЧКАХ

А ў сеначках,
У сеначках музыка іграець,
А ў хатынькі,
Ў святоланькі хрэсьбінкі гуляюць.

За палагом,
За палагом там радзіха ляжыць,
А ў галавах,
А ў галавах кубак мёду стаіць.

Наша Вальгутка,
Наша Вальгутка вялікага роду,
Мы й нап'ёмся,
Наядзёмся салодкага мёду.

## 21. ЯК У СЕНАЧКАХ МУЗЫКІ ІГРАЮЦЬ

Як у сеначках музыкі іграюць,
Як у хатанцы хрэсьбінкі гуляюць.
А багдай жа яна, наша Агатачка, не хварэла,
Як яна нам гарэлачкі не жалела.
А багдай жа яна, наша Агатачка, здарова была,
Як яна нам гарэлачкі ўволю дала.

## 22. А ЗАВЕШАНЫ КАЎРЫ АЖ ДА САМАЕ ЗЯМЛІ

А завешаны каўры аж да самае зямлі,
А за тымі каўрамі парадзішачка ляжыць,
А ў яе галовачках кубак мёду стаіць.
А ў яе ножках бабуся сядзіць.
— Ты, бабуся-любуся, вялікага роду,
Нап'ёмся мы салодкага мёду.

## 23. ДЫ Ў ХАЦЕ ЛЮДЗЕЙ САБРАЛАСЯ

Ды ў хаце людзей сабралася,
Ды гаворка там завязалася:
Бацькі — пара маладая,
А жанчына хлопчыка трымае.
А чацвёра маленечкіх,
Маленькіх, кволенькіх
Каля ног гуляюць,
На стол пазіраюць
І естанькі хочуць.

## 24. ДЗЕЎКІ, МАЛАДУХІ ПЕРАКОП КАПАЛІ

Дзеўкі, маладухі перакоп капалі,
[Перакоп капалі], перабору сачылі.
Знайшлі перабору — калінаву ветку.
Чырвона, прыгожа калінава ветка,
Чырванеей, прыгажэй Янкіна жонка:
Па двару ідзецъ і дварок вымятаецъ,
На ганак ступаецъ, а ганак улягаецъ.
У гораньку ўступаецъ — баяры ўстаюцъ,
Кубкі наліваюцъ, Ганначку вітаюцъ.
— Не п'ю, не п'ю мёду, вялікага роду,
Багатага бацькі і чэснай маткі.

## 25. НЕ ЦЯСОВЫ ЦЕРАМ СТАІЦЬ

Не цясовы церам стаіць,
Толькі харашо ўвіт.
Не пышан Кузёмка, не пышан ..
Ці не сонца яго радзіла?
Ці не месяц яго ўзгадаваў?
Ці не зоры яго калыхалі?
Ці не звёзды яго трымалі?
Радзіла яго мамухна,
Ўзгадаваў яго татухна,
Калыхалі яго брацяткі,
Трымалі яго сястрыцы.

## 26. У НАШАГА ЯКІМКІ

У нашага Якімкі
Стаіць святліца брусаваная,
У той святліцы калубель вісіць,
У том калубелі дзіцятка ляжыць.
Божжа маціра ўскалыхаіць,
А ў дзіцяці папытаіць:
— А дзіцятухна, хто твой татухна?
— Па раду сказаць, дак Якімачка,
А па храсту сказаць, дак Піліпачка.

У Якімкі на падвор'яйку
Стаіць святліца брусаваная.
У той святліцы калубель вісіць,
У том калубелі дзіцятка ляжыць.
А прачыстая ўскалыхаіць,
Ўскалыхаіць да папытаіць:
— А дзіцятухна, хто твая мамухна?
— Па роду сказаць, дак Тацяначка,
А па храсту сказаць, дак Маланачка.

## 27. СЦЕЛЕЦЦА ДА УЕЦЦА

Сцелецца да ўеццa
Па лугах трава зялёная.

Цяпер цалуе да мілуе
Мужык жонку маладую.

— Жонка мая маладая,
Радасць мая дарагая.

Парадзіла мне сыночка,
Як яснага сакалочка.

Ззамаладу — на уцеху,
А на старасць — на перамену.

Ззамаладу — гадава́цьмем,
А на старасць — пасыла́цьмем.

Калі сынок — залатая калыбелька,
А калі дачка, дык луб'яначка.

## 28. І СЦЕЛЕЦЦА ДА УЕЦЦА

І сцелецца да ўецца *
Па лугах трава зялянáя.

І цалуе да мілуе
Да Ванечка жану маладую.

— І жана мая маладая.
Да радасць мая дарагая.

І парадзіла мне сыночка,
Як яснага сакалочка.

І ззамаладу — на ўцеху,
А на старасць — на падмену.

Нам ручанькі падменіць
І старасці пашануе.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 29. ЖАНА МАЯ ДАРАГАЯ

Жана мая дарагая,
Радасць мая дарагая,
Нарадзіла мне сыночка,
Як яснага сакалочка,
Нарадзі яшчэ дачушку,
Як ясную сакалушку.

## 30. ПІУ БЫ Я МЕД І ВІНО




Піў бы я мёд і віно, *
Цяжка пахмелійка мае.
Ліхі суседзі на мяне,
Судзяць-гаворацъ пра мяне,
Штоб я сваю жонку біў,
Штоб сваіх дзетак не любіў.
Дзеткі — пацеха мая,
Жонка — пакраса мая,
Дзеткі пацешуць ў даму,
Жонка пакрасіць ў піру.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 31. ПІЎ БЫ Я МЕД І ВІНО

Піў бы я мед і віно,
Цяжка пахмелле маё.
П'юць і гуляюць у мяне,
Судзяць і гавораць пра мяне,
Што я гарэлкі не п'ю
І жаны не люблю.
Жонка — пакраса мая,
Дзеткі — пацеха мая.
Жонка пакрасіць ў піру,
А дзеткі пацешуць ў даму.

## 32. ПАСЯРОД ДВАРА ДЫЙ ІВАНАВАГА




Пасярод двара дый Іванавага *
А стаіць цяром да падрублены,
А ў том церамі да Іванычка.
Ён па цераму ды пахажываіць,
Ён Кулінушку ды пагуківаіць:
— Ты хадзі, хадзі, ды Кулінушка,
Ты хадзі, хадзі, ды Андрэеўна.
Буду цябе ўчыць, як падвор'е вадзіць,
Буду цябе ўчыць, як дзяцей гадаваць,
Буду цябе ўчыць, як цялятак дзяржаць,
Буду цябе ўчыць, як замчужку насіць.
Падвор'я вадзіць — не разіня рот хадзіць,
Дзяцей гадаваць — не санлівай быць,
Цялятак дзяржаць — не лянівай быць,
Замчужку насіць — а ўсё строгай быць.
Замчужку насіць — ды ні стаць-пабяжаць,
А стаць-пабяжаць ды замчужок цярацъ.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 33. ОЙ, ЧЫЯ Ж ТО ЖАНА

— Ой, чыя ж то жана
Чэраз рэчку брыла,
Памачыла бабры
І чорныя сабалі,
Чорныя сабалёчкі?

— Ой, Мартынава жана
Чэраз рэчку брыла,
Памачыла бабры
І чорныя сабалі
Да й чорныя сабалёчкі.

— Ай, Мартынка, дружок,
А пабейце кручкі,
Павешце бабры
І чорныя сабалі
Да й чорныя сабалёчкі.

— Ай, Гапулька, душа,
Не вяліка гаспажа.
Ай, паб'еш ты кручкі сама,
Ай, павесіш бабры
І чорныя сабалі
Да й чорныя сабалёчкі.

Не вяліка гаспажа,—
Без баброў хараша.

## 34. АХ ТЫ ВОЛЬХА, ТЫ ВОЛЬХА

— Ах ты вольха, ты вольха,
Чаму ж ты не так такава́,
Як у пятроў пост была?
— А дайце мне дажджы драбныя,
А дайце мне ветры ціхія,
Так я буду так такава́,
Як у пятроў пост была.
— Ты Аўгінька, ты душа мая,
Чаму ты не так такава́,
Як у сваёй маткі была?
—Ты Іванічка, сэрца мае,
Дайце волю такую,
Як у маткі была,
Так я буду так такава́.
— Ты Аўгінька, сэрца мае,
Радзі мне дзевяць сыноў,
А дзесятую дочку,
Тагды я дам волю такую,
Волю такую і раскош тую.
— Ты Іванічка, сэрца мае,
Пастаў дзевяць гарадоў,
А дзесяты церам высокі,
Тагды я раджу дзевяць сыноў,
А дзесятую доч маладу.
Сыны будуць поле барнаваць,
А дачка хустачкі ткаць.

## 35. КАЛІНА, МАЛІНА МАЯ

— Каліна, маліна мая,
Чаму ты не так такава,
Як васенняю ночкай была?
— Как бы мне ноч тако́,
Дак я была бы так такава,
Як васенняю ночкай была.
— Адарачка, душа мая,
Чаму ты не так такава,
Як у роднага таткі была?
— Дай жа мне раскош такую,
Тады буду так такава,
Як у роднага таткі была.
— Адарачка, душа мая,
А дам табе раскош таку,
Радзі мне дзевяць сыноў
І дзесятую доч харашу.
— А Есіпка, душа мая,
Пастаў мне высок церам,
Тады ражу дзевяць сыноў,
Дзесятую доч харашу.

## 36. ІВАЛГА, ІВАЛГА

Івалга, івалга
А на бавэлні гнёзды ўецъ;
Яначка, бацькоў сын,
А на покуці мядок п'ецъ.
Жана яго, душа яго
Подле яго над сытой.
— Жана мая, душа мая,
Ці для цябе мёду не стала?
Хуць жа я, хуць жа я
Варанога каня застаўлю,
А для цябе, а для цябе
Зеляного віна дастаўлю.

## 37. ХОРАША СВЯТА ПРАЧЫСТАЯ

Хораша свята прачыстая,

Рай ў рай! *

Яё карона пазлацістая,
Яё свечы маляваныя,
Яё паясы каваныя.
Добрая жана наша Кандрашыха
Ражала сыноў і дзяўчоначак,
Ды ўсе сабе пераменачак.

* Прыпеў пасля кожнага радка.

## 38. ЧЭРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЧЭРАЗ БЫСТРУЮ




Чэраз рэчаньку, чэраз быструю
Гібка кладачка ляжыць,
Ах па тэй жа то, ах па кладачцы
Там Іванічка ідзець,
За сабой вядзець ён Алёначку,
Ён Алёначку-душу.
— Ах ты, кладачка, ты цясовая
Ты не гніся пада мной,
Ах ты, 'Лёначка, ты душа мая,
Ты не гневайся са мной.
Ай, пі півушка, зеляно віно,
Не ўпівайся, малада,
Рэдзя дзетачак, рэдзя дробненькіх,
Не старэйся, малада.
— Ах ты, Йванічка, ты душа мая,
Ўсе няпраўдачка твая.
Піўшы півушка, зеляно віно,
Я ўвап'юся, малада,
Рэдзя дзетачак, рэдзя дробненькіх,
Састаруся, малада.

## 39. ЧЭРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЧЭРАЗ БЫСТРУЮ

Чэраз рэчаньку, чэраз быструю
Гібка кладачка ляжыць.

Па тэй кладачцы да па гібенькай
Млоды Толечка ідзець.

Ён сваю жану маладзенькую,
Ён за ручаньку вядзець.

— Ой ты, кладачка, да гібушчая,
Ты не гніся пада мной.

Ой, жана мая, маладзюсенька,
Ты не ста́райся за мной.

— Піўшы мёд, віно і гарэлачку,
Мушу п'яненькая быць.

Меўшы сыночкаў і дачушачак,
Мушу старанькая быць.

## 40. ЧЭРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЧЭРАЗ БЫСТРУЮ

Чэраз рэчаньку, чэраз быструю
Гібка кладачка ляжыць,
Па тэй кладанькі, па тэй быстрай,
Усё Колінька ідзець.

Па тэй кладанькі, па тэй быстрай,
Усё Колінька ідзець.
За ручаньку ён за белую
Сваю Зіначку вядзець.

— А ты, кладанька, а ты, гібкая,
Ты не гніся пада мной,
А ты, Зіначка, ты, душа мая,
Ты не старайся за мной.

А ты, Зіначка, ты, душа мая,
Ты не ста́райся за мной,
Вадзі дзетачак, вадзі дробненькіх,
Не будзь, млода, стаpанька.

— А ты, Колінька, ■ дружок ты мой,
Ты няпраўду гаворыш:
Піўшы півушка і гарэлачку,
Буду, млода, п'янінька,
Вадзя дзетачак, вадзя дробненькіх,
Буду, млода, ста́ранька.

## 41. ЦЕРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЦЕРАЗ БЫСТРУЮ

Цераз рэчаньку, цераз быструю
Гібка кладачка ляжыць,
Па тэй кладачцы-серабраначцы
Там Іванечка ідзець,
А ён Жэнечку, ён душу сваю,
Ён за ручаньку вядзець.

— А ты, кладачка-серабраначка,
Ты не гніся пада мной,
А ты, Жэнечка, ты, душа мая,
Ты не ста́райся за мной.
А ты пі віно і гарэлачку,
Не будзь п'яненька,
Прывядзі сына і дачушачку,
Не будзь старанька.

— Ты, Іванечка, ты, душа мая,
Ну й няпраўданька твая:
Буду піць віно і гарэлачку —
Буду п'яненька,
Прывяду сына і дачушачку —
Буду старанька.

## 42. ЦЕРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЦЕРАЗ БЫСТРАЮ

Цераз рэчаньку, цераз быстраю
Зыбка кладачка ляжыць.
Ды Юліська сваю Адэлічку
За падручаньку вядзець.

— Ды ты, кладачка, ды ты, зыбкая,
Ні зыбіся пада мной.
Ты, Адэлічка, мая душачка,
Ні старэй жа ты за мной.

— Вып'ю чарачку, вып'ю другую,
Мусі ж буду п'яненька,
Прывяду сынка й дачушку,
Мусі ж буду старанька.

## 43. ЦЕРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЦЕРАЗ БЫСТРУЮ




Цераз рэчаньку, цераз быструю
Гібка кладачка ляжыць *.

Па той кладачцы, па той гібканькай
Малады Іванька йдзець.

А ён Манечку, сваю душачку,
Ён за ручаньку вядзець.

— Ай ты, кладачка, ай ты, гібкая,
Ты не гніся пада мной.

Ай ты, Манечка, мая душанька,
Ты не гневайся са мной.

Пі ты мёд, віно і гарэлачку
І не будзь ты п'яненькай.

Радзі сем сыноў і дачушачак
І не будзь ты старанькай.

— Вып'ю чарачку-пазлачоначку
І не буду п'яненькай.

Раджу сем сыноў і дачушачку
І не буду старанькай.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 44. ЧЭРАЗ РЭЧАНЬКУ

♩=72

Чэ_раз рэ_ чань_ку, чэ . раз бы _ стру _ ю тон _ ка

кла_дач _ ка ля_жыць. Па той кла _ дач_цы, па той

гі _ бень_кай там Мак_ сі _мач_ ка і_дзець.

Чэраз рэчаньку,
Чэраз быструю
Тонка кладачка ляжыць.
Па той кладачцы,
Па той гібенькай
Там Максімачка ідзець.

Па той кладачцы,
Па той гібенькай
Там Максімачка ідзець,
А ён Лёксачку,
Сваю душачку,
Ён за ручачку вядзець.

— Ах ты, кладачка,
А ты, гібкая,
Ты не гніся пада мной.
Ох ты, Лёксачка,

Ты маладая,
Не журыся ты за мной.

Ох, і пі мядок
І гарэлачку,
Ты не будзеш п'яненька.
І радзі сына
І дачушачку,
Ты не будзеш староненька.

## 45. ЧЭРАЗ КЛАДАЧКУ, ЧЭРАЗ ДУБОВУЮ

Чэраз кладачку, чэраз дубовую
Там жа Тонечка ідзець,
Ён жа Ніначку-гаспадынечку
Ён за ручачку вядзець.

— Ах ты, кладачка, ты, дубовая,
Не гніся пада мной,
Ах ты, Ніначка-гаспадынечка,
А не гневайся нада мной.

А пі піва і гарэлачку,
А не будзь п'яненька,
А радзі сына і дачушачку,
А й не будзь ты старанька.

## 46. ЧЭРАЗ РЭЧАНЬКУ, ЧЭРАЗ БЫСТРУЮ

Чэраз рэчаньку, чэраз быструю
Гібка кладачка ляжыць,
А па тэй жа, па тэй кладачкі
Ўсё й Васілечка ідзець,
За сабой вядзець, за сабой вядзець
Ўсё й Ганначку-душу.
— Ай ты, кладачка, ай ты, гібкая,
Ой, не гніся пада мной.
Ой ты, Ганначка, ой, душа мая,
Ой, не стáрайся за мной.
Вадзі дзетачак, вадзі дробненькіх,
Будзеш млода-млодзенька.

## 47. ЧЭРАЗ БОР САСНА




Чэраз бор сасна *
Павалілася.

А й кума з кумам
Пасварылася.

— Ты, кума мая,
Ты, душа мая.

Чэраз двор жывём,
А й не знаемся.

Мы й не знаемся,
Не вітаемся.

Праміж нас, кума,
Рэчка быстрая.

Рэчка быстрая,
Вада чыстая.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

А й на тэй рацэ
Селязень плывець.

Селязень плывець
З серай вуткаю.

З серай вуткаю,
З вуцаняткамі.

Селязенечка,
То — Хлімонічка.

Сера вутачка,
То — Настулечка.

Вуцанятачкі,
То —іх дзетачкі.

## 48. ЧЭРАЗ БОР САСНА

Чэраз бор сасна *
Паваліласяг,

А кума за кумом
Пасварыласяг.

А ні ты ка мне,
Ні я к табе.

Памеж тых кумоў
Цякла рэчанька,

Цякла рэчанька,
Рэчка быстрая,

[Рэчка быстрая],
Беражыстая.

А па тэй рацэ
Плывець вутачка,

Плывець вутачка
З вуцянятамі,

З вуцянятамі,
З селязенічкам.

Шэра вутачка —
Усё Ганулечка,

Селязенечка —
Усё Якімачка,

Вуцянятачкі —
Усё й іх дзетачкі.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 49. ЧЭРАЗ БОР САСНА

Чэраз бор сасна *
Пахілілася й.

Ай кума й із кумом
Пасварылася й.

І праміж нас, кума,
Працякла й рака й.

І рэчка й быстрая,
Беражыстая й.

І каб па той раке
Селязень плывець.

Селязень плывець,
Сера вутачка й.

Селязенечка —
То й Іванечка.

Сера вутачка —
То Марутачка.

І вуцянятачкі —
То й іх дзетачкі.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 50. ТЫ КУМА МАЯ, ТЫ ДУША МАЯ

Ты кума мая,
Ты душа мая,
Мы з табой жывём,
Мы не знаемся.
Праміж нас з табой
Там рака цякець,
Рэчка быстрая,
Беражыстая.
Што на той раке
Селязень плывець,
[Селязень плывець]
З серай вуціцай.
[Селязень плывець
З серай вуціцай],
Сера вуціца
З вуцянятамі.
Селязенюшка —
То Іванічка,
Сера вуціца —
То Кулінaчка,
Вуцянятачкі —
То іх дзетачкі.

## 51. ЯК І КУМ З КУМОЙ ЧЭРАЗ ТЫН ЖЫЛІ

Як і кум з кумой чэраз тын жылі,
Чэраз тын жылі ды й не зналіся,
Ды й не зналіся, не чапаліся.
Праміж нас, кума, працякла рака,
Рака быстрая, беражыстая.
Як па тэй рацэ селязень плывець,
Селязень плывець з шэрай вуціцай,
З шэрай вуціцай, з вуцяняткамі.
Селязенечка — то й Васютачка,
Шэра вутачка — то й Аксютачка,
Вуцянятачкі — то іх дзетачкі.

## 52. А КУМ З КУМОЙ

А кум з кумой
Цераз тын жылі
Ї не зналіся,
Не віталіся.
А между іх дваіх
Працякла рака.
А на тэй раке
Плывець вутачка.
Плывець вутачка
З вуцяняткамі,
Шэра вутачка
З вуцяняткамі.
Шэра вутачка —
Млода Любачка,
Селязенечка —
Млоды Ванічка...

## 53. ЧАРАЗ БОР САСНА ПАВАЛІЛАСЯ

Чараз бор сасна паваліласа,
А кума з кумам пасварылася:
— Чараз тын жывём,— мы не знаемся,
Да ні ты ка мне, да ні я к табе.
Міжы тых кумоў да рака цячэць,
А па тэй рацэ селязень плывець
Й шэра вутачка з вуцяняткамі.
Селязенечка — то Іванічка,
Шэра вутачка — то Ганначка,
Вуцянятачкі — то іх дзетачкі.

## 54. САЛАВЕЙ, САЛАВЕЙ З ЗЯЗЮЛЬКАЙ РАЗГАВАРЫВАЎ

Салавей, салавей з зязюлькай разгаварываў:
— Паляцім, зязюля, паляцім, рабая, ў шчырыя бары.
Ой, саўем, зязюлька, ой, саўем, рабая, па гняздзечачку.
Ой, знясем, зязюлька, ой, знясем, рабая, па яечачку.
Выседзім, зязюлька, выседзім, рабая, па дзіцятачку...
— Твой сын, салавейка, шчабятаць будзе,
А мая зязюлька кукаваць будзе.

## 55. У НЯДЗЕЛЬКУ РАНА-ПАРАНЕНЬКУ

У нядзельку рана-параненьку
Ўсе званы званілі,
Усе жоначкі маладзенькія
К ютрані хадзілі.
Адна наша парадзіха маладзенькая
Ў ютрані не была,
Да яна ж сабе, маладзенькая,
Борзда дзела зачала,
А яна ж сабе да маленькага
Сыночка спавіла.
— Не вымалююць малярчыкі
Да пры яснай свечы,
Як мы з табой, мой Якімка,
Да пры цёмнай ночы.
Малаточкам не стукаў,
І ў ручачкі не хукаў.
Гу-та-та й гу-ля-ля!

## 56. ПАЗДАРОЎ, БОЖА, КАВАЛЯ

Паздароў, божа, каваля,
А што скаваў нам дзіця.
А ні ў ручкі не хукаў,
А ні молатам не стукаў,
А ў мяккіх падушках,
А пад цёплай дзяружкай,
Без молата, без кавадла,
А паглядзіш — дзіця ладна.

## 57. А СПАСІБА КАВАЛЮ

А спасіба кавалю,
Што устроіў нам гульню.
Малаточкам не стукаў.
У ручанькі не хукаў.

## 58. ДЗЯКУ ТАМУ КАВАЛЮ

Дзяку таму кавалю,
Што здзелаў нам гульню!
Ён і малаточкам не стукаў,
Ён і ў ручачкі не хукаў,—
Без молата, без кувадла,—
І дзіцятачка дужа ладна.

## 59. А СПАСІБА ТАМУ КАВАЛЁЧКУ

А спасіба таму кавалёчку,
Што скаваў нам дзіцянёчка.
У ручкі не хукаў,
Малаточкам не стукаў,—
Без молата, без кувадла,
І ўсё выйшла так ладна.

## 60. ДЗЯКУЙ ТАМУ КАВАЛЬКУ

Дзякуй таму кавальку, *
Што нам хрэсьбінкі скаваў.
Малаточкам не стукаў,
У ручачкі не хукаў,
Лучыначкі не паліў,
Сямеечкі не будзіў.

* Кожны радок паўтараецца.

## 61. ЯЕ МУЖЫЧОК ЗРАБІУ ДОБРУ СЛАВУ

Яе мужычок зрабіў добру славу,
Да насажаў дзядоў да бабаў поўну лаву.
Дзеду ж мой, квету мой,
Да парада мая, да пацеха мая.

## 62. ОЙ, БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

Ой, белая бярозачка,
Чырвоная вольха.

— А хто зрабіў бяседачку?
— Івашкава жонка.

Сама ляжыць за печкай,
Гарэлачку смокча.

А бедненькі Іванечка
Бяседачку топчыць.

— Дзякуй за тваю работу,
Напілісь, наелісь ўсяго ў вахоту.

## 63. А БЕЛАЯ БЯРОЗАЧКА

А белая бярозачка,
Чырвоная вольха, } 2 разы
Нам справіла бяседачку
Раманава жонка. } 2 разы
Сама сядзіць у запечку,
Як курыца квокча, } 2 разы
А ён ходзя каля стала,
Бяседачку топча. } 2 разы

### 64. А ХТО, ХТО ПА КАМОРАЧЦЫ ХОДЗЯ?

А хто, хто па каморачцы ходзя?
А Іванька па каморачцы ходзя,
Ён сваю Сашачку прося:
— Ой, хадзі, мая Сашачка, ка мне.
У мяне караватка цясова.
У мяне падушка пухова,
У мяне завескі цвілёвы.
— Не пайду, Іванічка, к табе,
Хоць у цябе караватка цясова,
Хоць у цябе падушка пухова,
Хоць у цябе завескі цвілёвы.
У мяне дзіцятка малое,
Будзе нам служачка верная.

## 65. А Ў КАМОРЫ, А Ў КАМОРЫ

А ў каморы, а ў каморы
Краватка стаіць,
А ў краватцы, а ў краватцы
Радзішка ляжыць.
А ў галавах, а ў галавах
Сам бог стаіць,
А ў ножачках, а ў ножачках
Муж стаіць.
— Пазволь, божа, пазволь, божа,
Да радзішкі ступіць.
— Не пазволю, не пазволю
Да радзішкі ступіць.
Шэсць нядзель выйдзець,
Сама к табе прыдзець.

## 66. ШТО Й У НАШАГА МІШАЧКІ

Што й у нашага Мішачкі
Да рублёная клець.
Пазавешана каўрамі
Да да самае зямлі.

Што й у той жа клецечкі
Цясовая караватачка.
Пазавешана каўрамі
Да да самае зямлі.

Што й на той жа караватачцы
Пуховая да пасцелечка.
Пазавешана каўрамі
Да да самае зямлі.

Што й на той жа пасцелечцы
Там ляжыць парадзільніца.
Пазавешана каўрамі
Да да самае зямлі.

Што й для тыя парадзільніцы
Да сядзела да бабусінька.
Пазавешана каўрамі
Да да самае зямлі.

Не пускае яна Мішачку
Да сваёй Пятроўны.
[Пазавешана каўрамі
Да да самае зямлі].

— Як выйдзе ёй тры нядзелі,
Сама сядзе пад кудзелю.

[Пазавешана каўрамі
Да да самае зямлі].

А калі ёй шэсць нядзель выйдзе,
Тады яна і сама прыйдзе.
[Пазавешана каўрамі
Да да самае зямлі].

## 67. ПАЕХАУ МУЖ ПАНАС ДЫ У ДАРОЖАНЬКУ

Паехаў муж Панас ды ў дарожаньку,
Без яго жоначка сына радзіла,
А сама сабою па бабку хадзіла.
Прыехаў муж з дарожанькі:
— Пусці мяне, жана, ў палог паляжаць.
— Не пушчу, мужанька, не пушчу, душанька,
Дзіцятка маленька, бабуся старэнька.
— Мы з табою, жонушка, прыгадаем:
Малое дзіцятка ў калыбель уложым,
Старую бабусю вінам упоім,
Мы з табою, жонушка, сваю волю ўчынім.

## 68. У НАШАГА СЦЯПАНКІ

У нашага Сцяпанкі
Добрыя мыслі,
Ідзе, п'е, гуляе,
А дамой спацькі ідзе.
Ён сваю Пашачку
А за ручку вядзе.
— Пашачка, душа мая,
Дзе ложа твая?
— Сцяпаначка, панок мой,
У каморы тваёй.

## 69. А РОЙ, РОЙ ДЫ ПА МОРУ ПЛЫВЕЦЬ

А рой, рой ды па мору плывець,
Колечка Танечку за ручку вядзець.
— Хадзі, хадзі, Танечка, пойдзем рой глядзець,
— Колечка, душа мая, пускай дзеці глядзяць,
Пускай дзеці глядзяць, як рой ляціць.

# ПРА ДЗІЦЯ І ДБАННЕ АБ ЯГО ДОЛІ

## 70. У НЯДЗЕЛЬКУ РАНА-ПАРАНЕНЬКУ

У нядзельку рана-параненьку
Наша бабачка да по двару ходзіць,
По двару ходзіць, госпада бога просіць:
— А дай, божа, гэтаму дзіцятку
Да добрую долю:
І грашавую, і збажавую,
І трэцюю вянчалную.

У нядзельку рана-параненьку
Наша кумачка да по двару ходзіць,
По двару ходзіць, госпада бога просіць:
— А дай, божа, гэтаму дзіцяцю
А добрую долю:
І грашавую, і збажавую,
І трэцюю вянчалную.

У нядзельку рана-параненьку
Наш кумочак по двару ходзіць,
По двару ходзіць, госпада бога просіць:
— А дай, божа, гэтаму дзіцяцю
А добрую долю:
І грашавую, і збажавую,
І трэцюю вянчалную.

## 71. А У НЯДЗЕЛЕЧКУ СПАРАНЕНЕЧКУ

А ў нядзелечку спараненечку
На небе развіднела,
Кумочак ходзіць, дзіцяцю носіць,
А ў бога долі просіць:
— А дай, божа, етай дзіцяці
Усякую долю ўзяці:
І хлебавую, і салявую,
Трэцяю — здаровейкую.

## 72. А Ў НЯДЗЕЛЬКУ РАНЕНЬКА

А ў нядзельку раненька
На небе разднела.
Купалачка дзіцятка носіць
І ў бога долі просіць:
— І дай жа, божа, дзіцяці
Добрую долю ўбачыць:
І хлебавую, і салявую,
Трэцюю — здаровейкую,
А сілачку — багатырскую,
А волю — свабодную.

## 73. СПАРАДЗІЛА МІНЯ МАМКА У ВЯЛІКУ ПЯТНІЦУ

Спарадзіла міня мамка у вяліку пятніцу,
Спарадзіўшы, мамка міня цёплай вадзіцай памыла,
Вадзіцай памыўшы, у тонкі пялёнкі спавіла,
Спавіўшы, кумам на рукі падала,
Да падаўшы, госпада бога прасіла:
— Судзі, божа, майму дзіцяці да хросту,
Ад хросту судзі, божа, да вянца,
Да ад вянца судзі, божа, да жыцця.

## 74. КУМКА НА КУЦЕ СЕЛА

Кумка на куце села,
Харошаю песню спела:
Першую — хрэсьбінную,
Другую — вясельную:
— А дай, божа, гэтага дзіцяці
Хрэсьбінкі скакаці,
Хрэсьбінкі скакаці
І вяселля даждаці.
Судзіў бог яго відзець
Пад храстом,
Судзі, божа, яго відзець
І пад вянцом.

## 75. КУМАЧКА ПА НАКУЦЕ СЕЛА

♩ = 60

Ку_ мач_ ка па на_ ку_ це се_ ла,

ку_ мач_ ка па на_ку_ це се_ ла.

Кумачка па накуце села, *
Першую сабе песню запела:
— Дай, божа, гэтага дзіцяці
Ад хрэста вяселля даждаці.
Мы ж ба яго золатам дарылі,
Мы ж ба яму ў бога долі прасілі.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы

## 76. БАБУСЯ НА КУЦЕ СЕЛА

Бабуся на куце села,
Харошую песню спела.
Первую — раждзённую,
Другую — хрышчонную,
А трэцюю — хрэсьбінную.
— А дай жа нам, божа,
Хрэсьбінкі згуляць
І вяселля даждаць.
Мы б піва наварылі,
Бабусю напаілі
І спаць палажылі
На кунах, на сабалях,
На белых ложах.

## 77. КАЛЯ МЕСЯЦА, КАЛЯ ЯСНАГА

Каля месяца, каля яснага
Усё дробныя зоркі,
А ў Іваньні на куце
Усе любыя госці.
Бабуля на куце сядзіць,
Харошую песню пяе.
Першую — нараджоную,
Другую — сужоную,
Трэцюю — хрэсьбінную.
Дай, божа, нашаму дзіцяці
Хрэсьбінкі згуляці.
Хрэсьбінкі згуляці
І вяселля даждаці.

# 78. КАБ У НЯДЗЕЛЬКУ

♩ = 112

Каб у ня - дзель - ку ды па - ра - - нень - ку што на не - бе за - звi - не - ла, што на не - бе за - звi - не - ла.

Каб у нядзельку
Ды параненьку
Што на небе зазвінела. *

Сам господзь ходзіць,
Тры долі носіць
Етаму дзіцяці.

Ў багародзіцы ды пытаецца,
Якую долю даці
Етаму дзіцяці:

Ці хлебавую,
Ці грашавую,
Трэцюю вянчальную.

---

* Кожны трэці радок паўтараецца двойчы.

Багародзіца
Ды адказаіць:
— Дай, божа, ўсякую.

І хлебавую,
І грашавую,
Трэцюю — вянчальную.

## 79. А У НЯДЗЕЛІНЬКУ ПАРАНЮСІНЬКУ

А ў нядзелíньку паранюсíньку
На небе завінела.
Гасподзь-бог ідзець, тры долі нясець
Гэтаму дзіцяці.
А й пытаецца ў багародзіцы:
— Катору долю даць?
Бабулька стаіць, дзіцятка дзяржыць,
А ў бога долі просіць:
— Ай, божухна-збавіцелю, дай ўсе тры долі:
І грашовую, і збажовую,
І тую вянчанную.

## 80. АЙ, У НЯДЗЕЛЬКУ ВЕЛЬМІ РАНЕНЬКА

Ай, у нядзельку вельмі ра́ненька
Што у небе зазвінела?
Госпад-бог ідзець
І долю нясець етаму дзіцяці.
А пытаецца ў багародзіцы:
— Якую долю даць дзіцяці:
Ці грашавую, ці дажжавую,
Ай ці тую вянчалную?
Бабачка сядзіць і бога просіць:
— Дай, божа, усякую.

## 81. СЯГОННЯШНІ ВЕЧАРОК У НЕБЕ ЗАЗВІНЕЛА

Сягонняшні вечарок у небе зазвінела,
Прачыстая маць ў бога долі прасіла:
— Божухна, якую ты долю дасі етаму нараждзенцу:
Ці хлебавую, ці грашавую, ці вянчалную?
— Я дам долю і хлебавую, і грашавую, і вянчалную.

## 82. ПА УСІХ АКЕНЦАХ АНЁЛЫ СТАЯЦЬ

Па ўсіх акенцах анёлы стаяць,
Па-над дзвярмі — божая маці,
Думае, гадае а сім дзіцяці.
А сім дзіцяці, шчо за долю даці:
Даўшы хлебавую, — багата будзе,
Даўшы грашавую, — бога забудзе.
Баценька просіць на ўсялякую —
На хлебавую і грашавую.

## 83. УСЕ ЖОНАЧКІ ДЗЕРАВЕНСКІЯ

Усе жоначкі дзеравенскія
У ягодкі пайшлі,
А кум з кумою
У ягодкі не йшоў.

Усе жоначкі дзеравенскія
Па набірачцы нясуць,
А кум з кумою
То на коніку вязуць.

Каб наша ягодка
А вяліка расла,
А вяліка расла
І шчаслівa была.

## 84. У ІВАНЬКІ ВІНАГРАД НА ДВАРЭ

У Іванькі вінаград на дварэ,
Сабраў пір не людзём — сам сабе,
Пасадзіў бабусечку на куце.
— Бабусечка, пі мёд-віно ў мяне,
Каб маё дзіцятка а шчасліваe было,
Каб яно шчасліваe было, вялікае расло.

## 85. У НАШАГА ІВАНА

У нашага Івана
Вінаград на дварэ. *

Ён садзіў, паліваў
І людзям, і сабе.

Пасадзіў, пасадзіў
Кума на куце.

— Пі, гуляй, кумочак,
Весялісь у мяне.

Штоб маё дзіцятка
Вялікае расло,
Штоб маё малое
Шчаслівае было.

---

* Кожная з першых чатырох строф паўтараецца двойчы

## 86. А У КАГО ДА ЯВАР НА ДВАРЭ?

А ў каго да явар на дварэ?
У Хвадзея да явар на дварэ.
Сабраў пір не людзям, а сабе,
Каб яго дзіцятка расло,
Да шчасліва было,
Даўгавечна расло.

## 87. АРЭШАНЬКА-ЧАРУШАНЬКА

Арэшанька-чарушанька,
Што ж ты рана расцвіла?
Маладая ты, Зіначка,
Што ж ты рана радзіла?
А радзёмшы сына,
Ты добрую долю дала,
Эх, штоб быў здароў, вялік рос
І нам шчасце прынёс.

## 88. БАБУЛЬКА Ж МАЯ МІЛЕНЬКАЯ

♩ = 72

Ба – буль – ка ж ма – я мі – лень – ка –

– я, па – ро – да тва – я лё – гень – ка – я.

♩ = 84

Дам та – бе, ба – бу – леч – ка, тры пу – ды ма – ку,

а – бы вы – рас ўну – чак без год – на – га бра – ку.

Бабулька ж мая міленькая,
Парода твая лёгенькая.
Дам табе, бабулечка,
Тры пуды маку,
Абы вырас ўнучак
Без годнага браку.

Бабулька мая міленькая,
Парода твая лёгенькая.
Дам табе, бабулечка,
Тры пуды проса,
Абы вырас ўнучак
Вельмі харошы.

10. Зак. 308

Бабулька мая міленькая,
Парода твая лёгенькая.
Дам табе, бабулечка,
Тры пуды вікі,
Абы быў бы ўнучак
Вельмі вялікі.

Бабулька мая міленькая,
Парода твая лёгенькая.
Дам табе, бабулечка,
Тры пуды канапель,
Абы яго ўсе любілі
Так вялікага, як ципер.

## 89. НІГДЗЕ Ж МЫ ТАК НЕ ПАГУЛЯЛІ

Нігдзе ж мы так не пагулялі,
Ні на вяселлі, ні на багамоллі,
Як у гэтага хадзяіна на ксцінках.
Дай, божа, гэтага дзіцяці
Ксцінкі згуляці і вяселля даждаці.
Бог нам даў, бог нам даў!

## 90. А Й СОН З ДРАМОЙ




А й сон з драмой *
Лугам ішоў.

А й сон драмы
Ды пытаецца:

— А й дзе будзем
Начаваці?

— Заначуем
У Цімошачкі.

Ў Цімошачкі
І ў Вулічкі.

Будзем мы ў іх
Начаваці.

І дзіцятка
Калыхаці:

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

— Люлі-люлі,
Дзіцятачка.

Люлі-люлі,
Маленькая.

А спі доўга,
Расці скора.

Бацьку, маці
На пацеху.

Чужым людзям
На паслугу...

# ПРА БАБКУ-ПАВІТУХУ

## 91. МЕЖЫ КЛЕТАЧКІ, МЕЖ ІСТОПАЧКІ

Межы клетачкі, меж істопачкі
Наша Тацянка сувой каціла,
Сувой каціла, сына радзіла.
Бяжыць Якімка па бабулічку
Без пояса, ў адным чобаці.
Яго бабулька дагадзьлівая,
І дагадзьліва і пагадзьліва,
І сама ідзець, і прашчу нясець,
І прашчу нясець, і бога просіць:
— Прасці ж, божа, і дзве душачкі,
І старэнькую, і маленькую;
Старэнькую дзеля старасці,
А маленькую дзеля радасці.

## 92. НАША АГАТА САВОЙ ХАДЗІЛА

Наша Агата савой хадзіла,
Савой хадзіла, сына радзіла.

— А ты, Ігнатачка, мая душачка,
Бяжы, бяжы па бабулечку.

Наша бабуля не гордая,
Не гордая, а здагадная.

І сама бяжыць, аж зямля дрыжыць,
І прасціначку у руках нясе.

— Прасці, божа, дзве душачкі,
Дзве душачкі мае ўнучачкі.

Дзве душачкі мае ўнучачкі,
І старэнькую, і маленькую.

А старэнькую шанаваць будзем,
А маленькую гадаваць будзем.

Старэнькую — дзеля жаласці,
А маленькую — дзеля радасці.

Мы маленькую — у пялёначках,
А старэнькую — у пярыначцы.

## 93. У НЯДЗЕЛЮ РАНЕСЕНЬКА

У нядзелю ранесенька
Бяжыць Іван к сваёй бабусеньке;
Бабусенька дагадалася,
У адзін чобат абувалася;
Бяжыць яна боса і без пояса,
Бяжыць яна скарэсенька,
Просіць бога шчырэсенька:
— Дай жа, божа, маёй унучцы
Лягесенька, дабрэсенька, скарэсенька.

## 94. ТО Й НЕ СТУК СТУЧЫЦЬ

То й не стук стучыць,
То й не грук гручыць
Па сенечкам, да па новенькім,
То Кірылка ідзець да бабусечкі.
А бабусечка дагадалася,
Паскарусеньку убіралася,
Ў адном чобаце да й без пояса,
Ў руках нясець да пялёначкі.
Ідучы, яна богу моліцца:
— Апрастай, божа, да двух душачак:
Первую — нараждзёную,
А другую — хрышчоную.
А Кірылечка да бабусю прося:
— Дам табе, мая Іванаўна,
Чвертачку проса,
Дзяржы маю Хрысціначку
За белыя ручачкі,
Не задавай ёй, бабусечка,
Вялікія мучачкі.
Дам табе, [мая Іванаўна],
Чвертачку грэчкі,
Падзяржы [маю] Хрысціначку
Пад белыя плечкі.

## 95. АЙ, НЕ СТУК СТУЧЫЦЬ

Ай, не стук стучыць, ай, не грук гручыць, *
А Максімачка па бабусю йдзець,
Ён спужаўшыся, растрапаўшыся,
Ён без шапачкі, без паясачкі,
Без паясачкі і ў вадным чобаце.
— Ты, бабусечка, ты, любусечка,
А хадзі ка мне, паратуй мяне,
Ды дзве душачкі, твае ўнучачкі,
Адну — нараджоную, другую — суджоную.
А бабусечка дагадалася, яна скоранька сабіралася,
А ў руках дзяржыць дзве пасцілачкі.
— Апрастай, божа, ды дзве душачкі,
Адну душачку нараджоную, другую — мне суджоную.
А пайшоў Максімка, успакоіўшы,
Ён у шапачцы і ў падпаясачцы,
У падпаясачцы й ў двух чобатах.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 96. НА ДВАРЭ І СТУЧЫЦЬ, І ГРУЧЫЦЬ

На дварэ і стучыць, і гручыць, *
А Васілька за бабкай бяжыць.
Ён шапачку дый падпашачку,
А сярмяжачку — на пашачку.
Трасцінаю папіраецца,
Ён бабачцы пакланяецца:
— Ты, бабуся, даражэнькая,
Ой, хадзі ка мне у хатачку,
Перабаб маё дзіцятачка,
Дзіця маё маленькае,
Чада маё даражэнькае.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 97. СТУЧЭЛА-ГРУЧЭЛА

Стучэла-302ручэла
А й да ў саду каляска.
Да чыя во то каляска?
А унукава каляска.
І скрыпіць, што на марозе,
І грыміць, што не гром.
А й едзіць на тэй каляске
Без агляднкі, глазы выпуча,
Іванушка судар.
Ой, прасіў ён бабу:
— Уж ты, бабка-вабдзелка,
Перабаб майго дзіцятку,
Дзіця майго маленькага,
Раждзёнага сыночка.

## 98. АЙ, СТУЧЫЦЬ-ГРУЧЫЦЬ

Ай, стучыць-гручыць
Ўдоль па уліцы.

Там бяжыць, бяжыць
Андрэй маладэй.

Ён абосы
І праставалосы.

А без шубкі
І без пояса.

А бяжыць ён
Па бабусіньку.

— Ты хадзі, бабусь,
Перабаб дзіця.

Маё дзіця
Наражоная,

А тваё дзіця
А сужоная.

## 99. НЕ СТУК СТУЧЫЦЬ ДЫ ПА СЕНЕЧКАХ

♩=76

Не стук сту - чыць ды па се - неч - ках, не
грук гру - чыць ды па но - вень - кіх, — там Мі -
-ха - січ - ка йдзець, а ён ба - бу вя - дзець.

Не стук стучыць ды па сенечках,
Не грук стучыць ды па новенькіх,—
Там Міхасічка йдзець,
А ён бабу вядзець.

— Хадзі, хадзі, ды бабусічка, *
А хадзі ты ка мне.

А й дам табе, ды бабусічка,
А квартоўку мукі.

Ратуй маю ды Ганутачку
З вялікія мукі.

А й дам табе, ды бабусічка,
А квартоўку грэчкі.

---

* Далей кожны радок паўтараецца двойчы.

Вазьмі маю ды Ганутачку
Пад белыя плечкі.

А й дам табе, ды бабусічка,
А квартоўку канапель.

Кладзі маё а дзіцятачка
А ў новенькі калыбель.

## 100. ХТО Ж ТАМ СТУЧЫЦЬ ПА ВУЛІЦЫ

Хто ж там стучыць па вуліцы,
Хто ж там стучыць па шырокай?
Міхалка йдзець, бабу вядзець:

— Баба мая, багданная,
Перабаб ты мне дзіцятачку,
Перабаб ты мне маленькую.

Хто ж там стучыць па вуліцы,
Хто ж там стучыць па шырокай?
Кум ідзець, куму вядзець:

— Кумачка мая, любезная,
Перахрысці ты мне дзіцятачку,
Перахрысці маленькую.

Хто ж там стучыць па вуліцы,
Хто ж там стучыць па шырокай?
Кумá ідзець, кума вядзець:

— Кумочак мой, галубочак мой,
Перахрысці ты мне дзіцятачку,
Перахрысці маленькую.

## 101. НЕ СТУК СТУЧЫЦЬ ПА ВУЛІЦЫ

Не стук стучыць па вуліцы —
Іван ідзець, бабу вядзець.
— Баба мая, бабулічка,
Перабаб мне дзіцятачку.
Маё будзець раждзёная,
Тваё будзець баблёная.

## 102. ШТО СТУЧЫЦЬ, ШТО ГРУЧЫЦЬ

Што стучыць,
Што946 гручыць
Ўдоль па уліцы?
Іванька да за бабкай
Бягіць:
— Ай, бабачка,
Паслухай мяне,
Ты ні 'дстаў
Ты просьбы маей.
Перабаб
Да дзіцяцю маю,
Штоб яно
Да вяліка расло,
Штоб яно
Шчасліва было.

Што стучыць,
Што гручыць
Ўдоль па уліцы?
Іванька да за кумкам
Бягіць:
— Кумочык,
Паслухай мяне,
[Ты ні 'дстаў
Ты просьбы маей].
Пераксці
Да дзіцяцю маю,
Штоб яно
Да вяліка расло,
Штоб яно
Шчасліва было.

Што стучыць,
Што гручыць
Ўдоль па уліцы?
Іванька да за кумкай
Бягіць:
— Кумушка,
Паслухай мяне,
Ты ні 'дстаў
Ты просьбы маей.
Пераксці
Да дзіцяцю маю,
Штоб яно
Да вяліка расло,
Штоб яно
Шчасліва было.

## 103. ПА ВУЛІЦЫ ДА СТУЧЫЦЬ-ГРУЧЫЦЬ

Йа й па вуліцы
Да стучыць,
А стучыць-гручыць.
Там Андрэічка,
Там Рывонавіч
За бабай бяжыць:
— А ж ты, бабушка,
Ты, Ульянушка,
Ты хадзі ка мне,
Перабаб у мяне
Дзіця малава,
Маё ражоная,
Тваё сужоная.

Ай па вуліцы
Ай стучыць-гручыць.
Там Андрэічка
За кумкай едзіць:
— Ах ты, кумушка,
Ты хадзі ка мне,
Пераксці ў мяне
Дзіця малая,
Маё ражоная,
Тваё сужоная.

Ай па вуліцы
Ай стучыць-гручыць.
То ж Андрэічка
За кумам едзіць:
— Ах ты, куманёк,
Ты хадзі ка мне,
Пераксці ў мяне
Дзіця малага,
Маё ражоная,
Тваё сужоная.

## 104. НЕ ПА МАСТУ ПА КАЛІНАВАМУ

Йа й не па масту
Па калінаваму
Там стучыць-гручыць
Там калясачка,
[Там калясачка],
Там сярэбраная.
Ну ў калясачкі
Там Іванічка,
Ну ў калясачкі
Там і Маркавіч.
Ён па бабушку едзіць,
Ён па Маркаўну.
— Уж ты, бабушка,
Мая Маркаўна,
А прашу я цябе:
Да ні 'дстаў ты мяне —
Перабаб ты майго,
Ты дзіцятушку,
Перабаб ты майго,
Ты маленічкага.

Йа й не па масту
Па калінаваму
Там стучыць-гручыць
Там калясачка,
[Там калясачка],
Там сярэбраная.
Ну ў калясачкі
Там Іванічка,
Ну ў калясачкі
Там і Маркавіч.
Ён па кума едзіць,
Ён па Ірмалаевіча.
— Ты, кумочык мой,

Ірмалаевіч,
А прашу ж я цябе:
Ты ні 'дстаў ты мяне —
Пераксці ж ты майго,
Ты дзіцятушку,
Пераксці ж ты майго,
Ты маленічкага.

Што не па масту
Па калінаваму
Там стучыць-гручыць
Там калясачка,
[Там калясачка],
Там сярэбраная.
А ў калясачкі
Там Іванічка,
[А ў калясачкі]
Там і Маркавіч.
Ён па кумушку едзіць,
Ён па Андрэеўну.
— Ах ты, кумушка мая,
Ты, Андрэеўна,
А прашу ж я цябе:
Ты ні 'дстаў ты мяне —
Пераксці ж ты майго,
Ты дзіцятушку,
Пераксці ж ты майго,
Ты маленічкага.

## 105. А ШТО ПА МАСТУ ПА КАЛІНАВАМУ

А што па масту па калінаваму
І стучыць, і гручыць, і пастуківаець?
То Васілечка да Грыгоравіч,
Ён спяшыць, ён бяжыць да па бабушку.
— А ты, бабушка да Іванаўна,
Перабаб ты майго дзіцёначка да маленькага.

А што па масту па калінаваму
І стучыць, і гручыць, і пастуківаець?
То Васілечка да Грыгоравіч,
Ён спяшыць, ён бяжыць да па кумочка.
— Ты, кумочак мой да Іванавіч,
Паранясі ты майго дзіцёначка да маленькага.

А што па масту па калінаваму
І стучыць, і гручыць, і пастуківаець?
То Васілечка да Грыгоравіч,
Ён спяшыць, ён бяжыць да па кумушку.
— А ты, кумушка да Захар'еўна,
Перакрасці ты майго дзіцёначка да маленькага.

## 106. ГОМАН-ГОМАН




Гоман-гоман,
Гоман-гоман на вуліцы,
Гоман-гоман на шырокай.

Хто ж там ідзець,
Хто ж там ідзець, гамонючы? *

Іванька йдзець,
Іванька йдзець, бабу вядзець.

— Баба мая,
Баба мая багданая!

Хадзі ка мне,
Хадзі ка мне, перабаб мне.

Дзіця маё,
Дзіця маё маленькае.

---

* Далей кожны другі радок паўтараецца двойчы.

# 107. ДЫ ХТО Ў НАС, ДЫ ХТО Ў НАС




Ды хто ў нас, ды хто ў нас
З паўночы ходзіць? *

Іванька да Іванька
З паўночы ходзіць.

Іванька да Іванька
Бабачкі просіць:

— Бабка мая, любка мая,
Увойдзем ка мне.

Ой, ка мне, ой, ка мне,
Да к маёй жане.

— Іванька, Іванька,
Што жа вам бог даў?

Ці сына, ці сына,
Да ці дачушку?

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Калі сын, калі сын,
То пісаці будзе,

Калі дачка, калі дачка,
Вышываці будзе.

Калі сын, калі сын,
Малявана калыбелька,

Калі дачка, калі дачка,
Лубяная каробачка.

## 108. ХТО У НАС, ХТО У НАС ПАУНОЧЫ ХОДЗІЦЬ?

Хто ў нас, хто ў нас паўночы ходзіць?
Іванка-галубчык паўночы ходзіць,
Ён сваей бабачкі харашэнька просіць:
— Бабачка-галубачка, хадзі ты ка мне.
— Іванка-галубчык, чаго ж я пайду?
— Бабачка-галубачка, жана ж мая да нядужа.
— Іванка-унучак, чаго ж яна да нядужа?
— Бабачка-галубачка, жываточак баліць.
— Іванка-унучак, памолімся богу і духу святому,
Дасць нам сына ці дочухну.
Калі сын — гаспадар будзе,
Калі дачка галубачка — гасціна мая.

## 109. ОЙ, ХТО, ХТО З ПАЎНОЧЫ ХОДЗІЦЬ?

Ой, хто, хто з паўночы ходзіць,
Ой, хто, хто бабулькі просіць?
Колечка з паўночы ходзіць,
Маладзенькі бабулькі просіць:
— Ой, прыйдзі ж ты ка мне,
Да не ка мне, а к маёй жане,
Бо мая жана вельмі недужá.
— Унучак, галубчык, не злякаймася,
Дасць бог нам або сына, або дачку.

## 110. ХТО КАСІЦЬ ІДЗЕ

Хто касіць ідзе,
Хто й араць ідзе,
Малады Сяргейка
Да й па бабку йдзе.

Малады Сяргейка
Да й па бабку йдзе,
А ўжо бабушка
Сама йдзе.

А ўжо бабушка
Сама йдзе,
Ў правай руцэ
Свечачку нясе.

## 111. ДЫ ЎСЕ МУЖЫКІ

Ды ўсе мужыкі
Ды араць пайшлі,
Адзін мужык
Ён араць не йшоў,
Па бабулечку йшоў.
А бабулечка
Ды сама ідзе
Ў адным чобаце,
А другі чабот
У руках нясе.

## 112. А ЦЕРАЗ МОРА, ЦЕРАЗ СІНЯ

А цераз мора, цераз сіня
Гібкая кладачка,
А цераз поле, цераз шырокае
Чорная сцежачка.
А хто ж гэту
Чорну сцежачку убіў?
А убіў жа ж
Гэту чорну сцежачку
Молад Давыдка, да бабулькі ходзячы.
Чорну сцежачку убіў,
Пакуль бабульку упрасіў:
— Хадзі ж, мая бабка,
Хадзі ж, мая любка,
А хадзі ж ты ка мне.

## 113. ЦЕРАЗ ГАРУ СЦЕЖАЧКА ЛЯЖАЛА

Цераз гару сцежачка ляжала,
Цераз гару торная ляжала.
А хто ж тую сцежачку ўтаптаў?
Утаптаў тую сцежачку Колечка,
Ён да сваёй бабкі ходзячы,
Ён да сваёй любкі ходзячы.
Казловыя боцікі знасіў,
Пакуль сваю бабусю ўпрасіў.
Чырвоную шапачку знімаў,
[Сваю бабусю упрашаў].

## 114. ІДЗЕ БАБУСЕНЬКА ДА СВАЕ ЎНУЧКІ

Ідзе бабусенька да свае ўнучкі,
Аж яе ўнучка па сенечках ходзіць,
Сваю бабусеньку просіць:
— Гардáя ж, мая бабусенька,
Дам жа я табе, бабусенька,
Я мерачку проса,
За што ты прыйшла ка мне боса;
Дам жа табе, бабусенька,
Я каробку мукі,
Да прылажы ж, бабусенька,
Ка мне свае рукі;
Дам жа табе, бабусенька,
Гарэлачкі з перцам,
Да прылажы ж свае рукі
Да майго сэрца;
Дам жа табе, бабусенька,
Сіню намéтачку,
Да прылажы ж свае ручкі
К майму жываточку.

## 115. ЗАПРАЖЫ Ж ТЫ, ДУШУЛІНКА, ВАРАНОГА КАНЯ

Запражы ж ты, душулінка, варанога каня,
Прывязі ж ты бабулічку з новага двара.

Ты, бабулька мая дарагая,
Спаражэйнічка маё цяжкое. *

Ды дайце ж вы бабулічцы сем мер канапель,
Пакладзіце дзіцятка ў белую калыбель.

Ды дайце ж [вы бабулічцы] сем мер мукі,
Ды дзяржала бабулічка за белыя рукі.

Ды была б жа я ў сырой зямлі гніўшы,
Каб гэту ночку бабулькі не быўшы.

Папаліла бабулічка ясны свечы, сідзючы,
Прагледзіла бабулічка ясны вочы, глядзючы.

Запражы ж ты, душулінка, варанога каня,
Адвязі ты бабулічку да новага двара.

* Прыпеў да кожнага двухрадкоўя.

## 116. БАБУСЯ МАЯ ГОРДАЯ

Бабуся мая гордая,
Парадзення з табой лёгкая.
А дам табе, бабусінька,
Чырвоны чаботы,
А прыміся, бабусінька,
За мае жывоты.
А дам табе, бабусінька,
Пуру грэчкі,
А прыміся, мая бабусінька,
За мае плечкі.
А дам табе, бабусінька,
Карову-цяліцу,
Вядзі мяне, бабусінька,
У новую святліцу.
А дам табе, бабусінька,
Сем мер канапель,
Улажы маё дзіцятка
У нову калыбель.
А дам табе, бабусінька,
Каня варанога,
Прывядзі мне, бабусінька,
Кума маладога.
А дам табе, бабусінька,
Карову-бурэнку,
Прывядзі мне, бабусінька,
Кумку маладзеньку.
А дам табе, бабусінька,
Сетачку-брадню,
Сабяры мне, бабусінька,
Ўсю маю радню.

## 117. БАБУСЯ МАЯ ГОРНАЯ

Бабуся мая горная,
Параждэння тваё лёгкая.
Прымісь, бабусінька,
За маю галоўку,
Дам табе, бабусінька,
Бурую кароўку;
Прымісь, бабусінька,
За мае жываты,
Дам табе, бабусінька,
Чырвоныя чабаты;
Прымісь, бабусінька,
За маю спінку,
Дам табе, бабусінька,
Сівую свінку.

## 118. ПАРАЖЫЛЛЕЧКА НАША У ПОЛАЖЫ ЛЯЖАЛА

Паражыллечка наша ў полажы ляжала,
Сваe бабачкі на ратунак жадала:
— Да падай, падай, мая бабачка, ручку,
Ўваймі, божа, мне, малодзенькай, смутку.
Яе бабачка ў галовачках стаіць,
Да стаіць вана́, да госпада бога просіць:
— Сцеражы, божа, паражыллечкі мае,
Ўсе святыя, да дзіцятка яе!

## 119. АНТОСЬКА У ПОЛАЗІ ЛЯЖЫЦЬ

Антоська ў полазі ляжыць,
Малода й у полазі ляжыць.

Бабачка за галоўку дзяржыць,
Бабачка за галоўку дзяржыць.

Іванка па бабачку бяжыць,
Іванка па бабачку бяжыць.

— Стрэж, божа, парадзіллі маёй,
І анёлы да дзіцятка яе.

## 120. ОЙ, Ў ПОЛЮ САДОЧАК




Ой, ў полю садочак } 2 разы
Дылем дыляваны,
Тынам тынаваны.

Ой, па том садочку
Ганулька хадзіла,
Сыночка радзіла,
Бабулькі прасіла:

— Ой, бабка, бабулька,
Прыхілься да мяне,
Дам табе заплату,
На кашульку плахту.

Ой, ў полю садочак } 2 разы
Дылем дыляваны,
Тынам тынаваны.

Ой, па том садочку
Ганулька хадзіла,

Сыночка радзіла,
Кумульку прасіла:

— Ой, кумку, кумульку,
Прыхілься да мяне,
Дам табе заплату,
На майточку плахту.

## 121. ЦІ ВЕДАЕЦЬ БАБКА

Ці ведаець бабка,
Ці ведаець любка,
За што падаркі бяруць?
Ці хадзіла часта,
Ці насіла смашна
Радзішцы сваёй?
— Я й хадзіла часта,
Я й насіла смашна
Я радзішцы сваёй, —
І адзін дзень юшку,
І другі дзень калатушку
Я радзішцы нясла,
А на трэці дзень мак,
На чацвёрты так
Я да радзішкі йшла.

## 122. ЦІ ВЕДАЕШ, БАБКА

♩ = 72-80

—Ці ве_да_еш, баб_ка, ці ве_да_еш, люб_ка,

за што на_мёт_ку бя_рэш,

за што на_мёт_ку бя_рэш?

— Ці ведаеш, бабка,
Ці ведаеш, любка,
За што намётку бярэш? } 2 разы

Ці хадзіла часта,
Ці насіла смачна
А к унучцы сваей? } 2 разы

— Адзін раз — із юшкай,
Другі — з калатушкай,
Трэці раз — з кісялём. } 2 разы

## 123. БАБКА ДА ЎНУЧКІ

Бабка да ўнучкі *
Баразёнкай ішла.

Бабка ўнучцы
Парасёнка нясла.

Парасёнак пішчыць,
А бабулька [illegible]ашчыць.

— На табе, унучка,
Парасёначка.

Палеч сабе, ўнучка,
Жывацёначка.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 124. БАБКА К УНУЧЦЫ

Бабка к унучцы *
Па гароду ішла,
Бабка к унучцы
Два гурочкі нясла.

— На табе, ўнучка,
Два гурочкі мае,
Каб не балелі
Жываточкі твае.

Бабка к унучцы
Па гароду ішла,
Бабка к унучцы
Парасёнка нясла.

— На табе, ўнучка,
Парасёнка майго,
Каб не балелі
Жываточкі твае.

---

* Кожны радок паўтарасцца двойчы.

## 125. ОЙ, СКОЧЫЛА ПАРАЖЫЛЬНЕЧКА

Ой, скочыла паражыльнечка
Нізка а дол. *
Укланілася я сваей бабаньцы
Нізка да ног.

Ой, дзякуй табе, мая бабанька,
За тваe рукі,
Шчо ты прыняла мае дзіцятка
На свае рукі.

Ой, скочыла паражыльнечка
Нізка а дол.
Укланілася я сваім куманькам
Нізка да ног.

Ой, дзякуй вам, мае куманькі,
За вашы рукі,
Шчо прынялі мае дзіцятка
На свае рукі.

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 126. А ЙШЛА БАБКА З ЗАМОР'Я

А йшла бабка з замор'я,
Прынесла кораб здароўя.
Таму-сяму кідала,
Маёй Ксенічцы прыблюла,
У галованькі палажыла,
Рукавочкам накрыла,
Крыксы, упіры забрала,
Ва мхі, балоты паслала:
— А вы тама сядзіце,
Маю Ксенічку не будзіце.

# ВЕЛІЧАЛЬНЫЯ ПЕСНІ ДА БАБКІ І КУМОЎ

## 127. У АНТОНЬКІ ДЫ ЯВОР НА ДВАРЭ




Ў Антонькі ды явор на дварэ, *
Сабраў пір не людзём ён, — сабе,
Пасадзіў бабусечку на куце.
Бабачка песенькі пяець,
Слова к словічку кладзець:
— Каб ета ды дзіцятка расло,
Каб яно шчасліва было.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 128. ШТО Й У НАШАГА ІВАНІЧКІ

Што й у нашага Іванічкі
Вінаград зялёны на дварэ,
У нашага Мікалаевіча
Да віно на стале,
Зеляное на стале.
Сабраў ён пір-бяседу
Да не людзям, сабе.
Пасадзіў бабусечку на куце,
Старэнькую на куце.
— Гуляй, гуляй, бабусінька,
Ты сягоння ў мяне.
Будзем піць, будзем гуляць у мяне,
А налета, бабусечка, у цябе.

## 129. А Ў НАШАГА ІВАНА ЯВАР НА ДВАРЭ

А ў нашага Івана явар на дварэ,
Справіў ён хрэсьбіны людзям і сабе.

Справіў ён хрэсьбіны людзям і сабе,
Пасадзіў бабулю ды на самым куце.

Ды наліў бабулі тры чаркі віна,
Усе ж яны поўныя, усе ж яны роўныя.

— Пі ж, мая бабулька, ды не ўсё выпівай,
Ды заўтра на снеданнейка сабе пакідай.

## 130. ЛЯТАЎ ВЕРАБЕЙ

Лятаў верабей
Да па макаўкам.
Увесь мак пазыбаў,
Ўвесь чырвоны пазыбаў.

Пасадзіў Грынечка
Бабусечку на куце,
Увесь парадачак даў.

— Пі, мая Іванаўна,
Віно зеляное,
Сяголета — у мяне,
А налета — ў цябе.

## 131. ПА КУМУ З КУМАМ СЕМ ПАСЛОЎ СЛАЛІ

Па куму з кумам сем паслоў слалі,
Па бабулечку аніводнага.
А бабулечка і сама ідзець,
Медны кубачак у руках нясець.
— Паздароў, божа, маю ўнучачку,
Будзем піць, гуляць усю ночачку.

## 132. БАБКА МАЯ, ЧЫРВОНАЯ РОЖА




Бабка мая, чырвоная рожа, *
Нам лі цябе сядзеці прыгожа.
Бабка мая, чырвона каліна,
Нам лі цябе сядзеці павінна.
Бабка мая, пахнючая мята,
Нас лі цябе паўнюсенька хата.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 133. ВЕНАГРАД НА ДВАРЭ

Венаград на дварэ!..
Так наша бабка,
Так наша любка на куце.
Як золат персцень на руцэ,
Так наша бабка на куце.
Як золат персцень шаруюць,
Так нашу бабку шануюць.
Бабка мая, любка мая,
Венаградаў цвет!

## 134. ВЕСЕЛА, ЯСНА СОНЦА НА НЕБЕ

Весела, ясна сонца на небе,
Весялей, ясней у ўнучкі бабе на куце,
А ярак, ярак звон у храму,
Яшчо званчэй бабулін голас ў даму.

## 135. ВЕСЕЛА, ЯСНА СОНЦА НА НЕБЕ

Весела, ясна сонца на небе,
Весялей, ясней куму на куце.
А шумяць, шумяць пчолкі,
З поля мёд несучы,
Зрабіў кум большы шум,
На куце седзючы,
Усе госпада малітвы кажучы.

## 136. А ЎЧОРА БАБКА, А ЎЧОРА ЛЮБКА

А ўчора бабка, а ўчора любка
На радзінках была,
А сягоння бабка, а сягоння любка
На хразьбінкі прыйшла.
— Я свае дзялы на бакі развяду,
А ў свайго ўнучка на куце пасяджу.

А ўчора кумка, а ўчора галубка
На радзінках была,
А сягоння кумка, а сягоння галубка
На хразьбінкі прыйшла.
— Я ўсе свае дзялы на бакі развяду,
А ў свайго хрэснічка на куце пасяджу.

А ўчора кумок, а ўчора галубок
На радзінках быў,
А сягоння кумок, а сягоння галубок
На хразьбінкі прыйшоў.
— Я свае дзялы на бакі развяду,
А ў свайго хрэснічка на куце пасяджу.

## 137. УПІЛА ДА УЕЛА ЧОРНАЯ ГАЛАЧКА

Упіла да ўела чорная галачка,
Па ржышчу лятаючы;
Да й упіла і ўела наша бабачка,
Па радзінах ходзячы.
Яе сынове, як сакалове,
Пад белы ручкі водзяць;
Яе дачочкі, як галубочкі,
Белую пасцель сцелюць.



## 138. НЕ КУКУЙ, ЗЯЗЮЛЕЧКА, РАНА

Не кукуй, зязюлечка, рана,
Не кажы, што ночачка мала.
Наша Маруська ўсю ночку не спала,
Яна к сабе мілых гасцей чакала,
Мілых гасцей і бабулечкі сваей.
Столікі абрусамі засцілала,
Кубачкі з віном налівала,
Яна сваіх кумочкаў наджыдала.
Хоць мяне ды ў доме не будзе,
Бабуля прыглашоная будзе,
На куце пасаджоная будзе,
Мёдам-віном напаёная будзе,
Падаркам надароная будзе.

## 139. НЕ КУКУЙ, ЗЯЗЮЛЕЧКА, РАНА

Не кукуй, зязюлечка, рана, *
Не кажы, што ночачка мала.
Я ж, малада, усю ночку не спала,
Я ж сабе любых гасцей ждала,
Столікі абрусамі засцілала,
Кубачкі, ай, віном налівала
Любых гасцей, бабулечкі сваей.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 140. Я ЎЧОРА, МАЛАДА

[Moderato]

Я ўчо – ра, ма – ла – да,

п'я – на бы – ла, п'я – на бы – ла. Я

ўчо – ра, ма – ла – да,

п'я – на бы – ла, п'я – на бы – ла.

Я ўчора, малада,
П'яна была, п'яна была. *

А сягодня, малада,
Не буду піць, не буду піць.

Маніліся ў мяне
Госцікі быць, госцікі быць.

А ды што за госці, —
Брат да сястра, брат да сястра.

Ой, любыя госці —
Кум ды кума, кум ды кума.

---

* Кожная страфа паўтараецца двойчы.

## 141. ОЙ ТЫ, САЛАВЕЙ, НАЧНАЯ ПТАШКА

Ой ты, салавей, начная пташка,
Ой, не шчабячы, на луг летучы,
Ой, зашчабячы, ў саду седзячы.
А ў мяне, беднай, нет радні ні 'дной,
Няма ні аца, ні мацеры.
Да ў мяне радні толькі кум, кума,
Толькі кум, кума — ўся радня мая.
Выйду на улку, развесялюся,
А прыйду ў хатку — апяць засмучуся.

## 142. НАША БАБУЛЬКА ДА Й МАЛІМОНКА




Наша бабулька да й малімонка,
Не п'еџь гарэлкі, кажыџь, што горка.

Яе унучка угаварыла,
Мёдам гарэлку прысаладзіла.

— А пі, бабулька, хоџь упівайся,
На мяне ўнучку не забывайся.

А пі, бабулька, павесяліся,
Выйдзі на вулку ды пахваліся.

— Добрая ўнучка, ёсџь чым хваліџџа,
Смачна гарэлка, можна упіџџа.

## 143. ОЙ, НА ВЫСОКАЙ ГАРЭ

Ой, на высокай гарэ
Да на зялёнай траве
Пятруська коні пасе,
Разалька есці нясе.
— Разалька, душка мая,
Дзе ж ты дагэтуль была?
— Я ў пана бога была,
Кубачкі налівала,
Кубачкі налівала,
Бабульку частавала.

## 144. А ЧАГО, БАБКА, А ЧАГО, ЛЮБКА

А чаго, бабка, а чаго, любка,
Невясёла сядзіш?
Ці табе, бабка, ці табе, любка,
Ды прывету няма?
А наліце бабцы, а наліце любцы
Поўну чашу віна,
Каб наша бабка, каб наша любка
Ды вясёла была.

## 145. КУМ З КУМОЙ НА ПОКУЦЕ СЯДЗЯЦЬ

Кум з кумой на покуце сядзяць,
На покуце сядзяць, мёд п'юць.
— Пі, кумок, пі, кумка,
Калі мёду не будзець,
Хоць кароўку збуду, а мёду дабуду.
— Можна, ўнучак, без віна гуляць,
Худа, ўнучак, без кароўкі дзяцей гадаваць.

## 146. ІВАЛГА ДА НА БАВАЛНІ ГНЯЗДО ЎЕ

Івалга да на ба́валні гняздо ўе,
Кумочак на куце мёд-віно п'е.
— Кумочак, ці табе мёду не стае?
Е ў мяне вараны конь на стайні, —
Ён [д]ля кума віна-меду прыставя.

## 147. А КУМ ІЗ КУМОЙ НА КУЦЕ СЯДЗІЦЬ

А кум із кумой на куце сядзіць,*
Паміж іх удваіх ручаёк бяжыць.

А ў тым ручайку да тры кубачкі,
У першым кубачку — саладок мядок.

У другім кубачку — зеляно віно,
У трэцім кубачку —горка гарэлка.

Саладок мядок — для бабулі,
Зеляно віно — для кумачкі.

Зеляно віно — для кумачкі,
А горка гарэлка — для кумочка.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 148. КУМ З КУМОЮ НА КУЦЕ СЯДЗІЦЬ

Кум з кумою на куце сядзіць,
Паміж іх да ручаёк бяжыць.
А ў тым ручайку да тры кубачкі,
Да тры кубачкі маляваненькіх.
У адным кубку зеляно віно,
Ў другім кубку саладок-мядок,
Ў трэцім кубку горка гарэлка.
Зеляно віно для радзішачкі,
Саладок-мядок для кумы з кумам,
Горка гарэлачка для суседачак.

## 149. ХОДЗЕ ПА ВУЛІЦЫ ЎНУК

Ходзе па вуліцы ўнук,
Гуляе сабе.
Як забачыў сваю бабусю,
Зазывае к сабе:

— Прашу я цябе, мая бабуська,
У госці к сабе.
Наварыў жа я бочачку меду
Да ўсё [д]ля цябе.

## 150. КАЛЯ МЕСЯЦА, КАЛЯ ЯСНАГА

Каля месяца, каля яснага
Усе зоркі коцяцца.
Пытаецца ўнук у бабулі:
— Чаго табе хочацца?
А ці табе піва, ці табе віна,
Ці горкай гарэлкі?
Пажджы, бабуленька, мая любая,
Да нядзелькі,
Навару піва, навару віна
І горкай гарэлкі.

## 151. А СКОЧЫЛА НАША ХРЫСТЫНКА

А скочыла наша Хрыстынка
З полу далоў,
Як ударыцца сваёй ба́бачцы
У ножкі чалом:
— Гуляй, гуляй, мая бабачка,
Буду й я, буду й я,
Наварыла бочку мядочку,
А дзве віна.

А скочыла наша радзіха
З полу далоў,
Як ударыцца сваёй кумачцы
У ножкі чалом:
— Гуляй, гуляй, мая кумачка,
Буду й я, буду й я,
Наварыла бочку мядочку,
А дзве віна.

А скочыла наша радзіха
З полу далоў,
Як ударыцца свайму кумочку
У ножкі чалом:
— Гуляй, гуляй, мой кумочак,
Буду й я, буду й я,
Наварыла бочку мядочку,
Дзве віна.

## 152. А СКАКНУЛА ГАНУТАЧКА

♩ = 116

А скак – ну – ла Га – ну – тач – ка а з по – лу да – лоў, а з по – лу да – лоў.

А скакнула Ганутачка
А з полу далоў. *

А ўдарыла Ганутачка
А бабе чалом:

-- Ёсць у мяне для бабусі
Бочачка віна.

Не гневайся, бабусічка,
Што яна не паўна.

Са кручыны, са пячалі
Сама адпіла.

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 153. А У САДУ ВІШНЯ

А ў саду вішня *
Белым цветам цвіцець,
Наш Лёнічак
Перад бабкай стаіць:

— Ай, выпей, бабка,
А ўсяе не выпівай,
А к заўтраму
На сняданне кідай.

А ў саду вішня
Белым цветам цвіцець,
Наш Лёнічак
Перад кумкай стаіць:

— Ай, выпей, кумка,
А ўсяе не выпівай,
А к заўтраму
На сняданне кідай.

А ў саду вішня
Белым цветам цвіцець,
Наш Лёнічак
Перад кумам стаіць:

— Выпей, кумочак,
А ўсяе не выпівай,
А к заўтраму
На сняданне кідай.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 154. ЧАРАЧКА МЕДАВАЯ

Чарачка медава́я
Па сталу пахадзіла,
Бабачку напаіла.
— Пі, бабка, не співайся,
На пахмеллейка спадзявайся.

Чарачка медавая
Па сталу пахадзіла,
Кумачку напаіла.
— Пі, кумка, не співайся,
На пахмеллейка спадзявайся.

Чарачка медавая
Па сталу пахадзіла,
Кумочка напаіла.
—Пі, кумок, не співайся,
На пахмеллейка спадзявайся.

## 155. Й ЕЛАЧКА ЗЯЛЁНАЯ

Й ёлачка зялёная,
Шышачка хмялёвая, } 2 разы
Чарачка залатая.
Й чарачка залатая
Ўкруг стала пахадзіла,
Бабаньку ўпаіла.
Бабаньку ўпаіла,
Спатачкі палажыла.

Й ёлачка зялёная,
Шышачка хмялёвая, } 2 разы
Чарачка залатая.
Й чарачка залатая
Ўкруг стала пахадзіла,
Кумушку напаіла.
Кумушку напаіла,
Спатачкі палажыла.

Й ёлачка зялёная,
Шышачка хмялёвая, } 2 разы
Чарачка залатая.
Й чарачка залатая
Ўкруг стала пахадзіла,
Кумочка упаіла.
Кумочка упаіла,
Спатачкі палажыла.

## 156. НІ СЛАВА, НІ СЛАВА

Moderato

Ні сла - ва, ні сла - ва, Я -
не п'я - на, не п'я - на ба -

- нач - ка, тва - я,
- буль - ка тва - я.

Ні слава, ні слава,
Яначка, твая,
Не п'яна, не п'яна
Бабулька твая.

Ці ў цябе, Яначка,
Ячмень не ўрадзіў,
Што ты, Яначка,
Піўца не зварыў?

— Не ўрадзіў ячмень,
Толькі пшоначка;
Не дазволіла мне
Мая жоначка.

## 157. ШУРКАВА БАБУЛЬКА

Шуркава бабулька, Шуркава бабулька
Гарэлкі не п'е.

— Ай, выпі, выпі, мая бабулька,
Ты гарэлкі ў мяне.

— Ай, выпіла, мой ўнучак,
Я дадому не дайду.

— Ай, выпі, выпі, мая бабулька,
Я падводу найму.

— Чым жа ты будзеш, мой ўнучак,
Мне падводу нанімаць?

Лучшы ж буду я, унучак,
Ў цябе ночку начаваць.

## 158. А У САДУ ЯБЛЫНЬКА БЯЛЕНЬКА ЦВІЦІЦЬ

А ў саду яблынька бяленька цвіціць,
У Ляксейкі бабулька цверазенька сядзіць,
Перад ёю Ляксейка без шапкі стаіць,
Ой, без шапкі стаіць і бабульку просіць:
— Ой, выпі, бабулька, румачку віна.
— Ляксейка, ўнучак, баюся ўвап'юся,
Баюся ўвап'юся і дамоў не дайду.
— Не бойся, бабулька, я каня запрагу,
Я ж цябе, бабулька, дадому давязу.

## 159. ДА Й У СЦЯПАНКІ НА ДВАРЭ

Moderato

Да й у Сця - пан - кі на д(ы)-ва-

-рэ па - ра ко - ней ў ра - мя -

-не. Па - са - дзіў ба - б(ы)-ку, па - са - дзіў

люб(ы)-ку да на са - мым ку - це.

Да й у Сцяпанкі на д(ы)варэ
Пара коней ў рамяне.
Пасадзіў баб(ы)ку, пасадзіў люб(ы)ку
Да на самым куце.
А як бабка падап'е,
Дзед дадому давязе.

## 160. ПАГЛЯДЗІ, БАБКА, ПАГЛЯДЗІ, ЛЮБКА

Паглядзі, бабка, паглядзі, любка,
Што твая ўнучка робя:
А за полажкам, а за беленькім,
Ды за тоненькім
Табе намётку крое. *

Паглядзі, кумок, паглядзі, галубок,
Што твая кумка робя:
А за полажкам, а за беленькім,
Ды за тоненькім
Табе намётку крое.

Паглядзі, кумка, паглядзі, галубка,
Што твая кумка робя:
А за полажкам, а за беленькім,
Ды за тоненькім
Табе намётку крое.

* Кожны апошні радок паўтараецца двойчы.

## 161. ЦЕМНАЯ ХМАРА НА ДВОР НАХОДЗІЦЬ

Цёмная хмара на двор находзіць,
А радзіха ў каморы намёткі кроіць.
А муж яе на базары пірагі таргуе.
— А дару бабусю, а дару любусю
Тонкай намёткай і белым пірагом.

## 162. ПАЕДУ Я ДА ДА МУГУЛЕВА

Паеду я да да Мугулева,
Куплю трубку-рубку.
Будзем трубку краíць,
Будзем бабку дарыць.

— А чаму ты, кумочак,
Да не весел,
Нейдзе ты, кумочак,
Да не доран?
Будзем трубку краіць,
Будзем кума дарыць.

— А чаму ты, кумка,
Да не весела,
Нейдзе ты, кумка,
Да не дорана?
Будзем трубку краіць,
Будзем кумку дарыць.

## 163. РАНА ПЕЎНІЧКІ ЗАСПЯВАЛІ

Рана пеўнічкі заспявалі,
Параней таго паражэлля ўставала,
Сваёй бабачцы ды галубачцы на падарачкі прала.
— Дзякуй табе, ўнучка, за твае падарачкі.
Каб рана ўставала ды на другія прала.

## 164. ГУЛЯЛА БАБУСЯ, ГУЛЯЛА

Гуляла бабуся, гуляла, *
Йна намётачку спаймала.

Не спала матка, не спала,
Ўсяе ночачку спрадала.

Усяе ночачку спрадала
Й намётачку ўцярала.

А бабуся гуляла, гуляла,
Усю ночачку спала.

Усю ночачку спала, спала
І намётачку спаймала.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 165. А КАБ Я БЫЛА ШЭРАЮ ЗЯЗЮЛЯЮ

А каб я была шэраю зязюляю,
Я б падляцела к бабусі пад шубачку.
Я б падляцела к бабусі пад шубачку,
Я б паглядзела ў бабусі намётачку,
А ці бялюсенька, а ці танюсенька,
Ці з рагожы тая намётачка.

## 166. БАБАЧКА КАШУ КРАЕ

Бабачка кашу крае,
Залаты ножык мае,
Срыбрану тарэлачку,
Шаўковую шырыначку.

## 167. КЛАДЗІЦЕ НА МЫЛА




Кладзіце на мыла, *
Каб было дзіця бела.

Дзед з бабай рубельчыка,
Кум з кумой чыр(ы)венчыка.

Татка з мамкай найболей,
А яны ж дадуць долю.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 168. БАБУЛЯ, БАБУЛЯ

Бабуля, *
На мыла кладзі,
Унучка,
Падаркі нясі,
Бабуля,
Кладзі на мыла,
А каб твая ўнучка
Была ўсім міла.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 169. А БАРАНЕЧКА ЧОРНЕНЬКІ, ЧОРНЕНЬКІ

А баранечка чорненькі, чорненькі,
На ім воўначка сучацца, сучацца,
Нам гарэлачкі хочацца, хочацца.
Мы баранечку стрыч будзем, стрыч будзем,
А гарэлачку піць будзем, піць будзем.

## 170. А Ў БАРУ ДУБ'Ё

А ў бару дуб'ё
Ялаватае,
У Іванькі кум'ё
Усё й багатае.
У бабулькі хвартух
Сто рублей стоіць,
А ў кумы саян —
Усю й тысячу,
А ў кума штаны —
І няма цаны.

## 171. НА ДВАРЭ ВЯРБА СУКАВАТАЯ

На дварэ вярба сукаватая,
На куце кумка ўсе багатая;
А ў яе кралі сто рублей сталі.
Пад гарой явор зелянюсенькі,
На куце кумок маладзюсенькі;
А ў яго штаны, ім няма цаны,
Кругом вората да ўсё золата.

## 172. А Ў БАРУ САСНА ЯЛАВАТАЯ

А ў бару сасна ялаватая,
На куце бабка ўсё й багатая.
А ў саду ягор зелянюсенькі,
На куце кумок маладзюсенькі.
А ў саду вішня чырваненькая,
А на куце кумка маладзенькая.

## 173. УСЕ ЛЮДЗІ ДЗІВАВАЛІСЯ

♩=144

1. Ўсе лю - дзі дзі - ва - ва - лі - ся,
што кум з ку - мой у - бра - лі - ся.
2. А на ку - му шта - ны, //
- ны, ён не ўста - віць ца - ны.

Ўсе людзі дзівавaліся, *
Што кум з кумой убраліся.

А на куму штаны,
Ён не ўставіць цаны.

А на куме спадніца,—
Сто рублей цаніцца.

Шаўковая шнуроўка,
Ў грэбеньках галоўка.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 174. КУМ ЛЯ КУМЫ СЯДЗІЦЬ

Кум ля кумы сядзіць *
Ды на кумачку глядзіць.

А што ў кумачкі боты
Загранічнае работы.

А што ў кумы платок,—
Стоіць рублей пяток.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 175. А НА БАБЦЫ САЯН

А на бабцы саян, } 2 разы
Ён шоўкам вышыван. } 2 разы
Наша бабулька, наша любка
А наезды любя,
А ў каршомцы, а ў новенькай
Нам гарэлкі купя. } 2 разы

А на куму штаны, } 2 разы
Ён не ўставя цаны. } 2 разы
Наш кумочак, наш галубочак
А наезды любя,
А ў каршомцы, а ў нсвенькай
Нам гарэлкі купя. } 2 разы

А на кумцы кашуля, } 2 разы
Сто рублей каштуе. } 2 разы
Наша кумка, наша галубка
А наезды любя,
А ў каршомцы, а ў новенькай
Нам гарэлкі купя. } 2 разы

## 176. А КАБ Я БЫЛА

А каб я была } 2 разы
Шэраю зязюлечкай,
Я падляцела б } 2 разы
К бабулі пад шубачку.

Я паглядзела б } 2 разы
Ў бабулі кашулечку,
Ці таненькая, ці бяленькая,
Чым яна шыта?

Чым яна шыта, } 2 разы
Чым вышывана?
І таненькая, і бяленькая,
А шоўкам шыта.

Ай, шоўкам шыта, } 2 разы
Ай, шоўкам вышывана.

## 177. БАБУЛЬКА, ПАХНУЧАЯ МЯТА

Бабулька, пахнучая мята,
Люблю цябе, што ты вельмі багата. *

І кумачка, чырвоная рожа,
Люблю цябе, што ты вельмі прыгожа.

Кумочак, сіні васілёчак,
Люблю цябе, што сеў у радочак.



* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

16. Зак. 308

## 178. КАБ Я ЗНАЛА, ВЕДАЛА

Каб я знала, ведала,
А хто бабай будзець,
Пасадзіла б я яе
Ў агародзе на градзе
За чырвоную розу.
Палівала б я яе
Не вадою,— сытою.
Калі б сыты не стала,
Я б і мёду дастала.

Каб я знала, ведала,
А хто ў мяне кумам будзець,
Пасадзіла б я яго
Ў агародзе на градзе
За сінь-васілёчак.
Палівала б я яго
Не вадою,— сытою.
Калі б сыты не стала,
Я б і мёду дастала.

Каб я знала, ведала,
А хто ў мяне кумою будзець,
Пасадзіла б я яе
Ў агародзе на градзе
За пахучую мяту.
Палівала б я яе
Не вадою,— сытою.
Калі б сыты не стала,
Я б і мёду дастала.

## 179. КАБ Я ЗНАЛА, МАЛАДА

Каб я знала, малада,
Каб я ведала,
А хто ў мяне бабай будзець,
Пасадзіла б я яе
Й а ў гародзе на градзé
Пахучаю й мятаю.
Сонца грэець, вецер веець,
Мая баба маладзееець. } 2 разы

Каб я знала й, малада,
Каб я ведала,
А хто ў мяне кумам будзець,
Пасадзіла б я яго
Й а ў гародзе на градзе
Сіненькім васілёчкам.
Сонца грэець, вецер веець,
Мой кумочак маладзееець. } 2 разы

Каб я знала й, малада,
Каб я ведала,
А хто ў мяне кумой будзець,
Пасадзіла б я яе
Й а ў гародзе на градзе
Чырвонаю розаю.
Сонца грэець, вецер веець,
Мая кума маладзееець. } 2 разы

## 180. КАБ Я ЗНАЛА, КАБ Я ВЕДАЛА

Каб я знала, каб я ведала,
Што ты ў мяне бабай будзеш,—
Пасадзіла б я цябе у гародзе ля сябе
Пахучаю мятаю.

Каб я знала, каб я ведала,
Што ты ў мяне кумам будзеш,—
Пасадзіла б я цябе у гародзе на градзе
Бараванькім васілёчкам.

Каб я знала, каб я ведала,
Што ты ў мяне кумой будзеш,—
Пасадзіла б я цябе у гародзе на градзе
Чырвонаю рожаю.

## 181. КАБ Я ЗНАЛА, КАБ Я ВЕДАЛА

Каб я знала, каб я ведала,
Хто ў мяне бабай будзець,
Я б пасадзіла сваю бабачку
На самым куце, за пахучай мятай.

Каб я знала, каб я ведала,
Хто ў мяне кумам будзець,
Я б пасадзіла свайго кума
Ў зялёным садзе, за зялёным явaрам.

Каб я знала, каб я ведала,
Хто ў мяне кумой будзець,
Я б пасадзіла сваю кумачку
Ў зеляным садзе, за чырвонай рожай

## 182. ШТО Ж ТО ЗА КРАСАЧКА

Што ж то за красачка,
Што то за нагодка
Ў маім садзе не бывала?
Я б тую красачку,
Чырвону нагодачку
Ў сваім садзе пасадзіла,
Я б тую красачку,
Чырвону нагодачку
Рана й вечарам палівала.

Што то за кумочак,
Што за галубочак
Ў маім доме не бывае?
Я б свайго кумочка,
Свайго галубочка
За столікам пасадзіла,
Я б свайго кумочка,
Свайго галубочка
Харашэнька частавала.
Я б свайго кумочка,
Свайго галубочка
Мёдам-віном напаіла.
А калі ж ні стала б,
А калі ж ні стала б,
Я й з вады дастала б.

Ай, што ж то за кумачка,
Што то за галубка
Ў маім доме не бывала?
Я б сваю кумачку,
Я б сваю галубачку
За столікам пасадзіла.

Я б сваю кумачку,
Я б сваю галубачку
Харашэнька частавала.
Я б сваю кумачку,
Я б сваю галубачку
Мёдам-віном напаіла.
А калі ж ні стане,
А калі ж ні стане,
Я й з вады дастану.

## 183. А Ў КАГО ЗЕЛЕН САД НА ДВАРЭ

А ў каго зелен сад на дварэ,
А ў каго сядзіць кум на куце?
А ў Андрэйкі зелен сад на дварэ,
А ў Андрэйкі сядзіць кум на куце.
Запрагіце семярых вараных,
Адвязіце майго кума дамоў.
Семярыя вараныя не рухаюцца везь,
Еты кум на куток падзвігаецца сесь:
— Я за еты куток палажыў чацвертачок.

А ў каго зелен сад на дварэ,
А ў каго сядзіць кума на куце?
А ў Андрэйкі зелен сад на дварэ,
А ў Андрэйкі сядзіць кума на куце.
Запрагіце семярых вараных,
Адвязіце маю кумку дамоў.
Семярыя вараныя не рухаюцца везь,
Ета кумка на куток падзвігаецца сесь:
— Я за еты за куток адразала ласкуток.

А ў каго зелен сад на дварэ,
А ў каго сядзіць баба на куце?
А ў Андрэйкі зелен сад на дварэ,
У Андрэйкі сядзіць баба на куце.
Запрагіце семярых вараных,
Адвязіце ету бабку дамоў.
Семярыя вараныя не рухаюцца везь,
Ета бабка на куток падзвігаецца сесь:
— Я за еты за куток я адрэзала пупок,
Я адрэзала пупок, паставіла кашы гаршок.

## 184. ЗАПРАЖЫЦЕ, ЗАПРАЖЫЦЕ

Запражыце, запражыце
Семярых вараных,
Адвязіце, адвязіце
Гэту бабку у двор.
Коні з двара, коні з двара
Не рухаюцца іці,
Баба на кут, баба на кут
Падзвігаецца сесць.
— Вы не рушце яе, не чапайце яе,
Пускай яна сядзіць,
Яна за гэты куток, яна за гэты куток
Адразала пупок.

Запражыце, запражыце
Семярых вараных,
Адвязіце, адвязіце
Гэту кумку у двор.
Коні з двара, коні з двара
Не рухаюцца іці,
Кумка на кут, кумка на кут
Падзвігаецца сесць.
— Вы не рушце яе, не чапайце яе,
Пускай яна сядзіць,
Яна за гэты куток, яна за гэты куток
Адразала скуток.

Запражыце, запражыце
Семярых вараных,
Адвязіце, адвязіце
Гэтага кума ў двор.
Коні з двара, коні з двара
Не рухаюцца іці,

Кумок на кут, кумок на кут
Падзвігаецца сесць.
— Вы не рушце яго, вы не рушце яго,
Пускай ён сядзіць,
Ён за гэты куток, ён за гэты куток
Заплаціў ён рублёк.

## 185. СЯДЗІЦЬ БАБА НА КУЦЕ

Сядзіць баба на куце,
Як галубка у гняздзе.
— А ссадзіце бабу далоў,
Няхай едзець дамоў.
— Я дамоў не паеду,
Буду тут начавацъ.
Я за гэты куток
Палучыла шкуток.

Сядзіць кум на куце,
Як голуб у гняздзе.
— А ссадзіце кума далоў,
Няхай едзець дамоў.
— Я дамоў не паеду,
Буду тут начавацъ.
Я за гэты куток
Палажыў чырванчок.

Сядзіць кума на куце,
Як галубка у гняздзе.
— А ссадзіце куму далоў,
Няхай едзець дамоў.
— Я дамоў не паеду,
Буду тут начавацъ.
Я за гэты куток
Палажыла шкуток.

## 186. СЯДЗІЦЬ БАБКА НА КУЦЕ

Сядзіць бабка на куце,
Як галубка у гняздзе.
— Суляці ты дамой,
Ці не пойдзеш дамой?
— Я дамой не злячу
І дамой не пайду,—
Я за этат куток
Заплаціла паясок.

Сядзіць кумка на куце,
Як галубка у гняздзе.
— Суляці ты дамой,
Ці не пойдзеш дамой?
— Я дамой не злячу
І дамой не пайду,—
Я за этат куток
Аддала ласкуток.

## 187. НАШТО Ж ТЫ, КУМОК

— Нашто ж ты, кумок,
Нашто галубок,
Нашто кут ты заняў?
— Я за етат куток,
Я за етат куток
Заплацiў рубялёк.

— Нашто ж ты, кумка,
Нашто, галубка,
Нашто кут заняла?
— Я за етат куток,
Я за етат куток
Раскацiла скуток.

— Нашто ж ты, бабка,
Нашто ж ты, любка,
Нашто кут заняла?
— Я за етат куток,
Я за етат куток
Адразала пупок.

## 188. У НАШАГА КУМА БЕЛА БЯРОЗА

У нашага кума бела бяроза
Павалілась на дварэ;
Наша кумка дарагая
Пахвалілась пры стале:
— Не пайду, кумка, не пайду, любка,
Болі ў кумкі к табе.
— Забудзеш, кумка, забудзеш, любка,
Пакуль браці цябе.
А гарэліца у бутэліцы
Ды якочыць, якочыць;
Наша кумушка, наша любушка
З куту іцці не хочыць.
— Не люблю, кумка, не люблю, любка,
Прыгавораў тваіх.
— Не любіш, кумка, не любіш, любка,
Ты нас, верна, кумоў,
Праганяеш, кумка, праганяеш, любка,
З паўночы дамоў.
Запражы, кумка, запражы, любка,
Хоць аднаго ж ты каня,
Завязі, кумка, завязі, любка,
Мяне, кумку, да двара.

## 189. ЧЭРАЗ РЭЧКУ КЛАДАЧКА

Чэраз рэчку кладачка,
Чэраз быйструю кладачка,
Туды ж ба йшла бабачка,
Туды ж ба йшла любачка.
Сустрэў яе госпад-бог,
Сустрэў яе дух святы:
— А куды ж ідзеш, бабачка,
А куды ж ідзеш, любачка?
— На хрэсьбінкі, госпад-бог,
На хрэсьбінкі, дух святы.
— А што ж нясеш, бабачка,
А што ж нясеш, любачка?
— Пялюшачкі, госпад-бог,
Пялюшачкі, дух святы.

Чэраз рэчку кладачка,
Чэраз быйструю кладачка,
Туды б ішла кумачка,
Туды б ішла любачка.
Сустрэў яе госпад-бог,
Сустрэў яе дух святы:
— А куды ж ідзеш, кумачка,
А куды ж ідзеш, любачка?
— На хрэсьбінкі, госпад-бог,
На хрэсьбінкі, дух святы.
— А што ж нясеш, кумачка,
А што ж нясеш, любачка?
— Намётачку, госпад-бог,
Намётачку, дух святы.

Чэраз рэчку кладачка,
Чэраз быйструю кладачка,
А туды ж бы йшоў кумочак,

А туды ж бы йшоў галубочак.
Сустрэў яго госпад-бог,
Сустрэў яго дух святы:
— А куды ж ідзеш, кумочак,
А куды ж ідзеш, галубочак?
— На хрэсьбінкі, госпад-бог,
На хрэсьбінкі, дух святы.
— А што нясеш, кумочак,
А што нясеш, галубочак?
— Рубельчыка, госпад-бог,
Рубельчыка, дух святы.

## 190. ЧЭРАЗ РЭЧКУ КЛАДАЧКА

Чэраз рэчку кладачка,
Чэраз быструю кладачка,
А ішла ж туды бабачка.
А ішла ж туды бабачка,
Сустрэў яе гасподзь-бог,
Сустрэў яе сам гасподзь.
— А куды ідзеш, бабуся,
А куды ідзеш, галубуся?
— У бабачкі, божухна,
У бабачкі, сам гасподзь.
— А што нясеш, бабачка,
А што нясеш, галубачка?
— Пялёначкі, божухна,
Пялёначкі, сам гасподзь.

Чэраз рэчку кладачка,
Чэраз быструю кладачка,
А ішла ж туды кумачка.
А ішла ж туды кумачка,
Сустрэў яе гасподзь-бог,
Сустрэў яе сам гасподзь.
— А куды ідзеш, кумуся,
А куды ідзеш, галубуся?
— У кумачкі, божухна,
У кумачкі, сам гасподзь.
— А што нясеш, кумуся,
А што нясеш, галубуся?
— Напратачку, божухна,
Напратачку, сам гасподзь.

Чэраз рэчку кладачка,
Чэраз быструю кладачка,

А туды ж ба ішоў кумочак,
А туды ж ба ішоў галубочак.
Сустрэў яго гасподзь-бог,
Сустрэў яго сам гасподзь.
— А куды ідзеш, кумочак,
А куды ідзеш, галубочак?
—У кумочкі, божухна,
У кумочкі, сам гасподзь.
— А што нясеш, кумочак,
А што нясеш галубочак?
— Чырвончыкі, божухна,
Чырвончыкі, сам гасподзь.

## 191. А КУДЫ ТЫ ІДЗЕШ, КУМЮСЯ?

— А куды ты ідзеш, кумюся,
А куды ты ідзеш, галубуся?
— На крэсьбінкі, гасподзь-бог,
На крэсьбінкі, дух святы.
— А што нясеш, кумюся,
А што нясеш, галубуся?
— Напратачку, гасподзь-бог,
Напратачку, дух святы.

## 192. КАЛА ЦЭРКАЎКІ СЦЕЖАЧКА

Кала цэркаўкі сцежачка,
Кала цэркаўкі зялёна.
А туды ішоў госпад-бог,
Туды ішоў дух святы.
Сустракае бабусю:
— Куды ідзеш, бабуся?
— К парадзінусі, госпад-бог,
К парадзінусі, дух святы.
— А з чым ідзеш, бабуся?
— З пялюшкамі, госпад-бог,
З пялюшкамі, дух святы.
— Памажы ж, божа, бабусі.

Кала цэркаўкі сцежачка,
Кала цэркаўкі зялёна.
Туды ішоў госпад-бог,
Туды ішоў дух святы.
Сустракае кумочка:
— Куды ідзеш, кумочак?
— Дзіцятка хрысціць, госпад-бог,
Дзіцятка хрысціць, дух святы.
-- А з чым ідзеш, кумочак?
— З капейкаю, госпад-бог,
З капейкаю, дух святы.
— Памажы ж, божа, кумочку
А дзіцятачка ахрысціць.

Кала цэркаўкі сцежачка,
Кала цэркаўкі зялёна.
Туды ішоў госпад-бог,
Туды ішоў дух святы.
Сустракае кумусю:

— Куды ідзеш, кумуся?
— Дзіцятка хрысціць, госпад-бог,
Дзіцятка хрысціць, дух святы.
— А з чым ідзеш, кумуся?
— З наміткаю, госпад-бог,
З наміткаю, святы дух.
— Памажы, божа, кумусі
А дзіцятка ахрысціць вам.

## 193. А КУМАЧКА-ГАЛУБАЧКА

— А кумачка-галубачка,
Дзе ж ты была?
— Да папа ездзіла.

— А кумачка-галубачка,
Каго хрысціла?
— Хрэснічка.

## 194. НЕ ПАСМЕЮ У БАБУСЕЧКІ ПАПЫТАЦІ

Не пасмею ў бабусечкі папытаці,
Ці тут будзе начаваці?
[Ці тут будзе начаваці],
Ці дадому паедзе?
— Калі будзеш начаваці,
Вялю пасцелечку слаці,
Вялю бяленькаю,
Вялю таненькаю.

## 195. ЗАПЯЁМ ПЕСНЮ РАСХОЖУЮ

Запяём песню расхожую,
Каму ў двор іціць,
Каму тут начаваць.
Бабі тут начаваць,
Краваць будаваць;
Краватанька цясовая,
Падушачкі пуховыя,
Засцілачкі шаўковыя.

## 196. ЗАПРАГАЙЦЕ, ЗАКЛАДАЙЦЕ

Запрагайце, закладайце
Да дванаццаць валоў,
Адправадзьце, адвязіце
Да бабульку дамоў.

Наша бабулечка, наша галубачка
Падводанькі любіць,
Да яна нам, малодзенькім,
Да яна нам, харошанькім,
Гарэлачку купіць.

Да не то купіць, не то купіць,
Да й падсалодзіць,
Да нам, малодзенькім,
Да нам, харошанькім,
Да вельмі нам дагодзіць.

Да запала, запала
Дарожка сняжком,
Да пойдзе наша бабулечка
Да дадому пяшком.

Да запала, запала
Дарожка расою,
Да пойдзе, наша бабунька,
Уся бяседа з табою.

## 197. ЗАПРАГАЙЦЕ, ЗАПРАГАЙЦЕ

Запрагайце, запрагайце
Ды дванаццаць валоў,
Завязеце, завязеце
Ды бабачку дамоў.
Наша бабачка, наша галубачка
Падводанькі любіць,
Да яна ж нам, ды малодачкам,
Гарэлачкі купіць.
Яна купіць, яна купіць,
Ашчэ й падсалодзіць,
Да яна ж нам, да й малодачкам,
Вельмі угодзіць.

Запрагайце, запрагайце
Да чорнага жарабочка,
Адвязеце, адвязеце
Да дамоў куманёчка.
Запрагайце, запрагайце
Да гнядую жарабіцу,
Адвязеце, адвязеце
Да дадому куміцу.

# 198. ЗАПРАГАЙЦЕ, ЗАКЛАДАЙЦЕ




Запрагайце, закладайце
Да дванаццаць валоў. *

Адвязеце, адправедзьце
Ды бабачку дамоў.

Запрагайце, закладайце
Да сіўца-жарабца.

Адвязеце, адправедзьце
Да й кумца-галубца.

Запрагайце, закладайце
Сівіцу-жарабіцу.

Адвязеце, адправедзьце
Куміцу-галубіцу.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 199. ЗАПРАГАЙЦЕ, ЗАКЛАДАЙЦЕ

Запрагайце, закладайце
Ды сівую ды жарабіцу. *

Адашлеце, адамчэце
Ды кумачку ды маладую.

Нашая кумка, нашая галубка
Падводунькі любіць.

Нам, пяўчыцам, нам, маладзіцам,
Гарэлачкі купіць.

Запрагайце, закладайце
Ды коніка ды сівога.

Адашлеце, адамчэце
Ды кумочка ды маладога.

Наш кумочак, наш галубочак
Падводунькі любіць.

Нам, пяўчыцам, нам, маладзіцам,
Гарэлачкі купіць.

Запрагайце, закладайце
Ды дванаццаць ды авец.

Адашлеце, адамчэце
Ды бабульку ў канец.

Нашая бабулька, сівая галубка
Падводунькі любіць.

Нам, пяўчыцам, нам, маладзіцам,
Гарэлачкі купіць.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 200. ЗАПРАЖЫЦЕ, ЗАПРАЖЫЦЕ

Запражыце, запражыце
Ды й дванаццаць валоў. *

Завязіце, завязіце
Нашу бабульку дамоў.

Запражыце, запражыце
Ды й дванаццаць сабак.

Завязіце, завязіце
Нашу бабульку ў кабак.

Наша бабулька, наша галубка
Ды й паязды любіць.

Наша бабулька, наша галубка
Гарнец мёду купіць.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 201. ЗАПРАЖЫЦЕ, ЗАЛАЖЫЦЕ

Запражыце, залажыце
Да сівую свінку. *

Завязіце, завязіце
Бабульку да шынку.

Залажыце, залажыце
Да сівага каня.

Завязіце, завязіце
Маладога кума.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 202. БАБУСЮХНА, ЛЮБУСЮХНА

Бабусюхна, любусюхна
На радзінкі прыйшла. *

Пеша прыйшла, пеша прыйшла,
Я й і не пеша пайду.

— Гуляй, гуляй, бабусюхна,
Ты сягоння ў мяне.

Ёсць у мяне ды ля цябе
А дванаццаць кабыл.

Кабылачкі, кабылачкі
Да ўсё караанькія.

Для бабусі, для любусі
Для старанькія.

Кумусюхна, любусюхна
На радзінкі прыйшла.

Пеша прыйшла, пеша прыйшла,
Да не пеша пойдзець.

— Гуляй, гуляй, кумусюхна,
Ты сягоння ў мяне.

Ёсць у мяне ды ля цябе
А дванаццаць кабыл.

Кабылачкі, кабылачкі
А ўсё вароненькія.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Для кумусі, для любусі,
Для малодзенькія.

А кумочак, галубочак
На радзінкі прыйшоў.

Пеша прыйшоў, ай і пеша прыйшоў,
Да не пеша пойдзець.

— Гуляй, гуляй, мой кумочак,
Ты сягоння ў мяне.

Ёсць у мяне ды ля цябе
А дванаццаць каней.

А конікі, а конікі
А ўсё вароненькія.

Для кумочка, галубочка,
Для малодзенькага.

## 203. КАБ УЧОРА ДЫ БАБУСЕЧКА

Каб учора ды бабусечка
На радзінках была. *

А сягонні ды бабусечка
І на ксцінкі прыйшла.

Пеша прыйшла, пеша прыйшла,
Ды не пеша пойдзець.

Ёсць у майго ды унучачка
А дванаццаць валоў,
А ўсё каранькія.

А для мае, для бабусічкі,
А для старанькія.

Каб учора ды кумочак
На радзінках ён быў.

А сягонні мой кумочак
І на ксцінкі прыйшоў.

Пеша прыйшоў, пеша прыйшоў,
Ды не пеша пойдзець.

Ёсць у майго кумочка
Ды дванаццаць канёў,
Усё вароненькія.

А для майго, для кумочка,
Для малодзенькага.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Каб учора ды кумачка
На радзінках была.

А сягонні мая кумачка
І на ксцінкі прыйшла.

Пеша прыйшла, пеша прыйшла,
Ды не пеша пойдзець.

Ёсць у майго у кумочка
А дванаццаць канёў,
А ўсё рыжанькія.

А для мае, а для кумачкі,
А для хіжанькія.

## 204. ЯК УЧОРА БАБУСЮХНА

Як учора бабусюхна
Я й на ксцінках была,
Я й сягоння да й бабусюхна
На прыксцінкі прыйшла.
Пеша прыйду, пеша прыйду,
Я й не пеша пайду.
Есць у мяне да бабусюхны
А дванаццаць каней.
А ўсе коні, а ўсе коні
Я ўсе ка́ранькія,
Дзеля цябе, да й бабусюхны,
Я ўсе старанькія.

## 205. А УЧОРА БАБКА НА РАДЗІНКАХ БЫЛА

А ўчора бабка на радзінках была,
А сягодні бабка на хрэсьбінкі прыйшла
І бліноў міску прынясла з канаплям.
Запрагіце бабкі шасцярык вараны,
Адвязіце бабку паціхусеньку,
Прывязіце бабку у карчомачку,
Напаіце бабку ды гарэлачкай,
Напаіце бабку ды п'янюсенька.

## 206. А УЧОРА БАБКА НА РАДЗІНКАХ БЫЛА

А учора бабка, а учора бабка на радзінках была,
Сягоння бабка, сягоння бабка ўсё на ксцінкі прыйшла.
Гаўрылка частуець, ён вяльбуець, і сам ля сябе:
— Запражыце, залажыце семярых вараных,
Адвязіце, адвязіце маю бабку дамоў.
— Нечым запрагаці, нечым закладаці,
Луччы тут начаваці.

А ў Гаўрылкі, а ў Гаўрылкі вінаград на дварэ,
А ў Гаўрылкі, а ў Гаўрылкі сядзіць кума на куце.
Ён частуець, ён вяльбуець, і сам ля сябе:
— Запражыце, залажыце семярых вараных,
Адвязіце, адвязіце маю кумку дамоў.
— Нечым запрагаці, нечым закладаці,
Луччы тут начаваці.

А ў Гаўрылкі, а ў Гаўрылкі вінаград на дварэ,
А ў Гаўрылкі, а ў Гаўрылкі сядзіць кум на куце.
Ён частуець, ён вяльбуець, і сам ля сябе:
— Запражыце, залажыце семярых вараных,
Адвязіце, адвязіце майго кума дамоў.
— Нечым запрагаці, нечым закладаці,
Луччы тут начаваці.

## 207. ЗАПРАЖЫ-КА, МОЙ КУМ

Запражы-ка, мой кум,
Ды дванаццаць валоў,
Завязі-ка, мой кум,
Сваю бабку дамой.

— А дзе ж мне, бабулічка,
Ды валоў сабіраць?
Луччы ж, мая бабулічка,
У мяне начаваць.

## 208. УЧОРА ЗВЯЧОРА НА РАДЗІНКАХ БЫЛА

Учора звячора на радзінках была,
А сягоння паранесенька на хрысцінкі прыйшла.
— Закладзіце, запражыце двананцаць вераб'ёў,
Адвязіце, адправадзьце бабусю дамой.
Ніц не паможа, ніц не паможа двананцаць вераб'ёў,
Як не захоча, так не паедзе бабуся дамой.

Учора звячора на радзінках была,
А сягоння паранесенька на хрысцінкі прыйшла.
— Закладзіце, запражыце двананцаць пар валоў,
Адвязіце, адправадзьце кумусю дамой.
Ніц не паможа, ніц не паможа двананцаць пар валоў,
Як не захоча, так не паедзе кумуся дамой.

Учора звячора на радзінках быў,
А сягоння паранесенька на хрысцінкі прыйшоў.
— Закладзіце, запражыце варанога каня,
Адвязіце, адправадзьце маладога кума.
Ніц не паможа, ніц не паможа вароненькі конь,
Як не захоча, так не паедзе мой кумочак дамой.

## 209. ЯК УЧОРА ДА БАБУСЮХНА

Як учора да бабусюхна
Да на ксцінках была,
А сягоднi да бабусюхна
На пахмелле прыйшла.

Упілася бабусюхна
Зелянога віна,
А не зайдзець бабусюхна
Да свайго да двара.

— Запражы ты, Іванічка,
Варанога каня,
А завязі бабусюхну
Да свайго да двара.

Палажы ты бабусюхну
На ўзгалоўе яе:
— А спі, мая бабусюхна,
На здароўе табе.

## 210. А УПІЛАСЯ БАБУСЕЧКА

А ўпілася бабусечка
Зелянога віна, *

А не дойдзець бабусечка
Да свайго ды двара.

— Запрагай-ка ты, Грышачка,
Варанога каня,

Да вязі ж да бабулечку
Ды да яе двара.

— А на ж табе, бабулечка,
Падгалоўе маё,

А спі ж да ты, бабулечка,
На здароўе табе.

Праспішся, працвярозішся,—
На пахмелле табе.

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 211. А УЧОРА БАБКА НА РАДЗІНКАХ БЫЛА

А ўчора бабка на радзінках была,
А сягоння бабка на ксцінкі прыйшла.
Запрагіце бабкі а пара валоў,
Адвязіце маю бабку дамоў.

## 212. СЯГОННЯ БАБКА

Сягоння бабка
На радзінках была.

А заўтра бабка
На хрысцінкі прыйшла.

Запрагіце
Вараных семярых.

Адвязіце
Маю бабку дамой...

## 213. А Я ЎЧОРА ІЗ ВЯЧОРА

А я ўчора із вячора
На хрэсьбінках была,
А сягоння ранюсенька
На пахмелле прыйшла.
Залажыце, запражыце
Дванаццаць сабак,
Адвязіце, адвязіце
Бабулечку ў кабак.
Залажыце, запражыце
Дванаццаць канёў,
Адвязіце, адвязіце
Бабульку дамоў.

## 214. А У ЗІНОЎІ, А У ЗІНОЎІ

А ў Зіноўі, а ў Зіноўі
Вінаград на дварэ,
А ў Іллюшкі, а ў Іллюшкі
Сядзіць кум на куце.
Прад ім чарка, прад ім чарка
Ўсё поўнінька стаіць,
Ён частуець, ён вяльбуець
А ўсё сам для сябе:
— Пі, кумочак, пі, кумочак,
Ды не ўсё выпівай,
І к заўтраму, кумочак,
І к заўтраму, кумочак,
На пахмелле кідай.
Запрагіце, закладзіце
Семярых вараных,
Адвязіце, адвязіце
Майго кума дамоў.
Коні з двара, коні з двара
А ні рухáюцца,
А кум за стол, а кум за стол
Падзвігаецца.

## 215. У НАШАГА ІВАНЬКІ

У нашага Іванькі
Вінаград на дварэ,
Пасадзіў ён ды сваю бабульку
Да й на самым куце.
Ой, частуе, ганаруе
Не людзей,— сам для сябе.
— Запражыце, запражыце
Да дванаццаць валоў,
Завязіце, завязіце
Ды й бабулю дамоў.
Наша бабулька-галубулька
Да й не пышная была,
Узяла падарак
Да й дадому павяла.

У нашага Іванькі
Вінаград на дварэ,
Пасадзіў ён свайго кума
Да й на самым куце.
Ой, частуе, ганаруе
Не людзей,—сам для сябе.
— Запражыце, запражыце
Каня варанога,
Завязіце, завязіце
Кума маладога.
Наш кумочак-галубочак
Не пышны быў,
Узяў падарак
Да й дадому пайшоў.

У нашага Іванькі
Вінаград на дварэ,
Пасадзіў ён сваю куму

Да й на самым куце.
Ой, частуе, ганаруе
Не людзям,— сам для сябе.
— Запражыце, запражыце
Лянівую кабылу,
Завязіце, завязіце
Куму маладую.
Кума-кумачка
Не пышная была,
Ўзяла падарак
Да й дадому пайшла.

## 216. А Ў КАГО, А Ў КАГО ВІНАГРАД НА ДВАРЭ?

А ў каго, а ў каго вінаград на дварэ?
У Колечкі, ў Колечкі вінаград на дварэ.
Вінаград на дварэ, а хрэсьбіны ў хаце,
Пасадзіў бабусю у самым куце.
Пасадзіў бабусю у самым куце,
Шальмуець, вяльмуець ён сам для сябе.
Шальмуець, вяльмуець ён сам для сябе,
А не так для сябе, для дзіцяці свайго.

## 217. А СКАЧЫЛА ПРОСІЧКА З ПЕЧКІ ДАЛОЙ

А скачыла Просічка з печкі далой,
Пакланілась Патапачкі да самых да ног:
— А Патапачка, невялікі панок,
Скінь, Патапачка, свой сіні жупанок,
Запрагі-тка, Патапачка, пару коні вараных,
Адвязі [-тка, Патапачка,] сваю бабусіньку дамой.

## 218. ОЙ, ЗАПАЛА, ОЙ, ЗАПАЛА

Ой, запала, ой, запала
Дарожка сняжком,
Да не пойдзе, да не пойдзе
Бабачка пяшком.

Запрагом мы, запрагом мы
Тройку лашадзей,
Адвязём мы, адвязём мы
Бабачку дамой.

Наша бабка, наша галубка
Падводаньку любіць,
Наша бабка, наша галубка
Нам гарэлачкі купіць.

## 219. ЯК ЗАДУЛА ДЫ ДАРОЖАЧКУ

Як задула ды дарожачку
Ды ўсе й белым сняжком. *

Як прыйшла да наша кумачка
Ды й на ксцінкі пяшком.

Яна пешшу прыйшла, пешшу прыйшла,
Яна ж не пешшу пайдзець.

Запражэш ты, ды Лявонечка,
Варанога каня.

Завязеш ты нашу кумачку
Ды й да дому яе.

Як праспіцца, працвярозіцца,—
На пахмелле ка мне.

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 220. А У САДЗЕ ВІШНЯ

А у садзе вішня, а у садзе вішня
З-пад караня выйшла.
Ужо ж пад нашу бабулічку
Падводунька выйшла.
Конь вараненькі, конь вараненькі,
Звошчык маладзенькі,
Конь гадаваны, конь гадаваны,
Вазок маляваны.

А у садзе вішня, а у садзе вішня
З-пад караня выйшла.
Ужо ж пад нашага кумочка
Падводунька выйшла.
Конь вараненькі, конь вараненькі,
Звошчык маладзенькі,
Конь гадаваны, конь гадаваны.
Вазок маляваны.

А у садзе вішня, а у садзе вішня
З-пад караня выйшла.
Ужо ж пад нашу кумачку
Падводунька выйшла.
Конь вараненькі, конь вараненькі,
Звошчык маладзенькі,
Конь гадаваны, конь гадаваны,
Вазок маляваны.

## 221. ВІНАГРАД НА ДВАРЭ

Вінаград на дварэ,
А хрэсьбіны ў хаці.
Пад нашу кумку,
Пад нашу любку
Падвода прыйшла,—
Вазок маляваны,
Конь гадаваны.
Калі наша кумка
Зап'ецца,
Наша кумка-любка
Падводай адвязецца.

## 222. НА ДВАРЭ Ў МЯНЕ

На дварэ ў мяне
Пару коні ў рыдване.
— А гуляй, бабка, у мяне,
Гуляй, сэрца, у мяне.
Пару коні залажу,
Бабку дамоў завязу.

На дварэ ў мяне
Пару коні ў рыдване.
— Гуляй, кумок, у мяне,
Гуляй, сэрца, у мяне.
Пару коні залажу,
Кума дамоў завязу.

На дварэ ў мяне
Пару коні ў рыдване.
— Гуляй, кумка, у мяне,
Гуляй, сэрца, у мяне.
Пару коні залажу,
Кумку дамоў завязу.

## 223. А Ў ВАСЕЧКІ НА ДВАРЭ

А ў Васечкі на дварэ
Пара коней у сядле.
— Як гуляй, дак гуляй,
Мой кумочак, у мяне.
Пара коней запражом
І кумочка адвязём.
Як гуляй, дак гуляй,
Мой кумочак, у мяне.

А ў Васечкі на дварэ
Пара коней у сядле.
— Як гуляй, дак гуляй,
Мая кумка, у мяне.
Пара коней запражом,
Маю кумку адвязём.
Як гуляй, дак гуляй,
Мая кумка, у мяне.

А ў Васечкі на дварэ
Пара коней у сядле.
— Як гуляй, дак гуляй,
Мая бабка, у мяне.
Пара коней запражом,
Маю бабку адвязём.
Як гуляй, дак гуляй,
Мая бабка, у мяне.

## 224. У ЯГОРА ПАРА КОНІ НА ДВАРЭ

У Ягора пара коні на дварэ,
Пагуляй, мая бабачка, ў мяне.
Пару коні запрагу, бабу двору завязу,
Пагуляй, бабачка, ў мяне.

У Ягора пара коні на дварэ,
Пагуляй, мая кумачка, ў мяне.
Пару коні запрагу, куму двору завязу,
Пагуляй, кумачка, ў мяне.

У Ягора пара коні на дварэ,
Пагуляй, мой кумочак, у мяне.
Пару коні запрагу, кума двору завязу,
Пагуляй, кумочак, у мяне.

## 225. АЙ, ТАМ НА ЛУГУ

Ай, там на лугу,
На зялёнай траве,
Ходзіць конь вараны
І з упрэжкаю.
Там ходзюць мужы
Да дзівуюцца:
— А чый ета конь,
Не 'цаніць, не купіць?
Іванька ідзець
Да ўсміхаецца:
— Ета конь вараны
То бабусі мае.

Ай, там на лугу,
На зялёнай траве,
Ходзіць конь вараны,
Конь аседланы,
Конь аседланы
І замузданы.
Там ходзюць мужы,
Дзіваваюцца:
— А чый ета конь,
Не 'цаніць, не купіць?
Іванька ідзець
Усміхаецца:
— Ета конь вараны
Ета кума майго.

Ай, там на лугу,
На зялёнай траве,
Ходзіць конь вараны
І з упрэжкаю.
Там ходзюць мужы

Да дзівуюцца:
— А чый ета конь,
Не 'цаніць, не купіць?
Іванька ідзець
Да ўсміхаецца:
— Ета конь вараны
Мае любыя кумы.

## 226. ЗАПРАЖЫЦЕ, ЗАПРАЖЫЦЕ

Запражыце, запражыце
Да дванаццаць валоў,
Адвязіце, адвязіце
Да бабусечку дамоў.
Пешкі прыйшла, пешкі прыйшла.
Да не пешкі пайду.
Валы не йдуць, валы не йдуць,
Упінаюцца,
Няхай жа наша бабуся
Нагуляецца.

Запражыце, запражыце
Каня варанога,
Адвязіце, адвязіце
Кума маладога.
Пешкі прыйшоў, пешкі прыйшоў,
Да не пешкі пайду.
Конь не йдзе, конь іржэ,
Упінаецца,
Няхай жа наш кумочак
Нагуляецца.

Запражыце, запражыце
Кабылу гнядую,
Адвязіце, адвязіце
Куму маладую.
Пешкі прыйшла, пешкі прыйшла,
Да не пешкі пайду.
Кабыла не йдзець, кабыла не йдзець,
Ўсё брыкаецца,
Няхай жа наша кумка
Нагуляецца.

## 227. ЗАПРАЖЫЦЕ, ЗАПРАЖЫЦЕ

Запражыце, запражыце
А двананцаць канёў,
Адвязіце, адвязіце
А бабульку дамоў.
А коні не йдуць,
А коні не йдуць,
І ўпінаючыся.
А бабулька на кут,
А бабулька на кут
Падзвігаецца тут:
— Я 'т свайго ўнучка,
'т свайго галубочка,
Я й дамоў не пайду,
Пакуль у ўнучка,
Пакуль ў галубочка
Ўсю гарэлку пап'ю.
Я ж не буду, я ж не буду
Усяе выпіваць,
Ой, буду ж я, ой, буду ж я
І к заўтраму астаўляць,
Ой, каб было, ой, каб было,
Чым пахмелля прагнаць.
Запражыце, запражыце
А плясніВенькага,
А ля бабулькі, а ля галубкі,
Ля шчасліВенькія.

## 228. КАЗАЛА БАБКА, КАЗАЛА ЛЮБКА

Казала бабка, казала любка:
— Я і дамоў не пайду,
Покі ўнучка палучу
Ды гарэлку не пап'ю.
Запражыце, запражыце
Вы дванаццаць мне валоў,
Ды адвязіце, ды адвязіце
Вы бабку дамоў.

## 229. А Я УЧОРА ДЫ КУМУСЕЧКА

А я ўчора ды кумусечка
Ды на ксцінах была,
А сягоння я, кумусечка,
На прыксцінкі прыйшла,
Бутылачку ды гарэлачкі
Ў кішане прынясла,
Не прастыя,— ўсё салодзенькія,
Для сваёй унучачкі,
Для малодзенькай.

## 230. А У МІРОНА МАЛАЙЦА

А ў Мірона малайца
Ёсць бачоначак вінца.
— Пагуляй, мая бабушка, й у мяне,
Пагуляй, Аўхімаўна, й у мяне.
Пару коні запрагу,
Бабу двору давязу.

А ў Мірона малайца
Ёсць бачоначак вінца.
— Пагуляй, мой кумочак, у мяне,
Пагуляй, Лук'янавіч, у мяне.
Пару коні запрагу,
Кума двору давязу.

А ў Мірона малайца
Ёсць бачоначак вінца.
— Пагуляй, мая кумушка, й у мяне,
Пагуляй, Ягораўна, й у мяне.
Пару коні запрагу,
Куму двору давязу.

## 231. ОЙ, Я Ў СВАЕ ЎНУЧАНЬКІ

Ой, я ў свае ўнучанькі
На чэсці была,
На чэсці была,
Медвіну піла.

— Й а бо, унучанько,
Дадому пусці,
Дадому пусці,
Музыкі наймі.

— А я цябе, бабанько,
Дадому не пусцю,
Дадому не пусцю,
Музыкі найму.

Да й запражу, бабанько,
А пару валоў,
Завязу цябе, бабанько,
А на твой двор.

— Я не хочу, унучанько,
Штоб ты завязла,
Я й зайду, унучанько,
Зайду я й сама.

## 232. А ПАРА, ПАРА, БАБУЛЕЧКА, ДА ДВАРА

— А пара, пара, бабулечка, да двара. *
— А яшчо не пара, нас Грышачка не адпраўляў.
А есь у яго да бачоначак віна,
Як віно пап'ём, тады ў двор пайдзём.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 233. У ЕЛЬНІЧКУ, У БЯРЭЗНІЧКУ

У ельнічку, ў бярэзнічку
Сарокі стракочуць,
Пытаецца ўнук у бабы,
Чаго бабка хочыць?
А ці мёду, ці віна,
Ці горкай гарэлкі?
— Гуляй, бабка, гуляй, любка,
Аж да панядзелка,
А будзе мёду і віна
І горкай гарэлкі.

## 234. БАБУСЯ ДАМОЎ АДПРАЎЛЯЕЦЦА

Бабуся дамоў адпраўляецца,
Ў яе кажушок надумаецца.
Ты бабуся мая, табе дамоў рана,—
Ёсць ў мяне для цябе стакан мёду,
А стакан мёду і два віна.
Закусачка ў печы, гарэлачка ў клеці.
Будзем піць і гуляць, на ўсё гора забываць.

## 235. ЕЛАЧКА ЗЯЛЕНАЯ

Ёлачка зялёная,
Веццейка да долу.
— Бабуля мая, любая,
Пара табе дадому.
Ужо з дубовай бочачкі
Да й не коціцца,
Да й не коціцца.
— Ўнучак мой, даражэнькі,
Мне ж дамоў
Ды й не хочацца,
Ды й не хочацца.

## 236. ОЙ, ПАРА, ПАРА УСІМ ДА ДВАРА

Ой, пара, пара ўсім да двара,
Толькі ж не пара бабцы да двара.

[Толькі ж не пара бабцы да двара].
У нашага ўнука — бочачка вінная.

Бочачку качу, з людзьмі пасяджу,
З людзьмі пасяджу, пабяседую.

# ЖАРТОЎНЫЯ ПЕСНІ ДА БАБКІ І КУМОЎ

## 237. А НАША БАБУЛЬКА МАЛІМОНКА

А наша бабулька малімонка, *
Не п'е гарэлкі, кажаць — горка.

Унучка бабцы падгадзіла,
Мёдам гарэлку падсаладзіла.

— А вазьміце бабулечку пад белыя ручкі,
Да вядзіце ж бабулечку да свае ўнучкі.

Яна ў яе ўсю гарэлку пап'ець,
Не так пап'ець, як у кішэню нальець.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 238. ЯК ПАЙДУ Я НА ГУМЕНЦА

Як пайду я на гуменца,
Улаўлю я верабейку,
Я згатую яго
Для бабусечкі сваёй.
Раскладу я верабейку
На дванаццаць страў:
— Еж, мая бабуся, не заласуйся
І у двор не запасуйся.
І ў рукаў не кладзі,
І дзяцям не насі.

## 239. БЕДАВАЛА НАША БАБУЛЬКА

♩ = 96

Бе – да – ва – ла на – ша ба – буль – ка,

бе – да – ва – ла на – ша ба – буль – (ка).

Бедавала наша бабулька: *
— А ці мая долька такая,
Ці мая унучка скупая?
Села на палочку ў куточку
Ды на сваго мужа мігаець:
— Прымі, прымі, мужу, бутэльку,
Бо вып'ецъ бабулька гарэлку,
Прымі, прымі, мужу, закуску,
Пабярэць бабулька у хусту.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 240. БАБУЛІНА ДОЛЯ ЛІХАЯ

Бабуліна доля ліхая,
Што яе ўнучка скупая.
Сядзіць ў куточку на палочку,
Усё на свайго мужа маргае:
— А прымі ж ты, мужа, бутэльку,
Бо пап'е бабулька ўсю гарэлку.
А як наша бабка пачула,
Ўсе са стала піражкі сапхнула:
— Было мяне бабкай не браці,
Было сабе лепшай шукаці.

## 241. БАБІНА ДОЛЯ ПЛАХАЯ

Бабіна доля плахая,
Што яе унучка скупая.
Усё на мілага міргае:
— Прымай, Пецечка, бутылкі,
Палье бабуля гарэлкі.

Кумава доля плахая,
Што яго кумка скупая.
Усё на мілага міргае:
— Прымай, міленькі, бутылкі,
Палье кумочак гарэлкі.

Кумкіна доля плахая,
Што яе кумочак скупы.
Усё на мілую міргае:
— Прымай, міленька, бутылкі,
Палье кумачка гарэлкі.

## 242. П'ЯНА БАБА, П'ЯНА

П'яна баба, п'яна, на парозе пала,
Палядзіце, хлопцы, у якой сарочцы.
Калі у згрэбнай, калі у згрэбнай,—
Яна і тут патрэбна.
Калі у тонкай, калі у тонкай,—
Завязіце дамоў яе.
А калі ў пасконнай, калі ў пасконнай,—
Завязіце к пітаманнай сваёй.

## 243. УПІЛАСЯ БАБКА, УПІЛАСЯ

Упілася бабка, упілася,
За столікам звілася, звілася.
Мышы-шышы шалелі, шалелі,
Хвартух бабцы праелі, праелі.
Стала бабка ўставаці, ўставаці,
Стала моцна плакаці, плакаці,
Нечым хвартух латаці, латаці.
— Збірайце, бабкі, халацця, халацця,
Бабцы хвартух наладзьце, наладзьце.

А ўпіўся кумок, упіўся,
За столікам ён звіўся, ён звіўся.
Мышы-шышы шалелі, шалелі,
Куму штаны праелі, праелі.
Стаў кумок ўставаці, ўставаці,
Стаў моцненька плакаці, плакаці,
Нечым штаны латаці, латаці.
— Збірайце дзяўчаты, лахманы, лахманы.
Куму латаці штаны ды штаны.

Упілася кумка, упілася,
За столікам звілася, звілася.
Мышы-шышы шалелі, шалелі,
Кумцы спадніцу праелі, праелі.
Стала кумка ўставаці, ўставаці,
Стала моцна плакаці, плакаці,
Нечым спадніцу латаці, латаці.
— Збірайце, хлопцы, халацце, халацце.
Куме спадніцу латаці, латаці.

## 244. НАША БАБКА ПАДПІЛА

♩=88

На – ша баб – ка пад – пі – ла, пад пры – печ – кам

1-4. 5.

спаць ляг – ла.

Наша бабка падпіла,
Пад прыпечкам спаць лягла.

А там мышы шалелі,
Хвартух бабкі праелі.

Стала бабка плакаці,—
Нечым хвартух латаці.

Заплакала галасом,
Да й зашыла валасом.

— Ты, дзядулька, не гуляй,
Ідзі бабку падымай.

## 245. УПІЛАСЯ БАБКА

Упілася бабка,
Упілася
І за печчу спаць
Улеглася.
А там мышы шалелі,
Шалелі,
Бабцы хвартух праелі,
Праелі.
— А ты, бабка, не ляжы,
Не ляжы,
А йдзі новы падвяжы,
Падвяжы.

## 246. У ГАРОДЗЕ ЗА ПЛАТОМ

У гародзе за платом
Крычыць баба жыватом.
А там мышы шалелі,
Бабе хвартух праелі.
Стала баба бедаваць —
Нечым хвартух залатаць.

## 247. УПІЛАСЯ БАБКА, УПІЛАСЯ

Упілася бабка, упілася,
Пад парогам звілася.
Ашалелі мышы, ашалелі,
Бабцы хвартух праелі.
Прачнулася бабка, стала плакаць,—
Нечым хвартух залатаць.

Упілася кумка, упілася,
Пад парогам звілася.
Ашалелі мышы, ашалелі,
Кумцы плацце праелі.
Прачнулася кумка, стала плакаць,—
Нечым плацце залатаць.

Ох, упіўся кум, упіўся,
За столікам ён звіўся.
Ашалелі мышы, ашалелі,
Ку́му ластаўку праелі.
Прачнуўся кум, стаў плакаць,—
Нечым ластаўку залатаць.

## 248. А УПІЛАСЯ БАБКА, УПІЛАСЯ

А ўпілася бабка, ўпілася,
Пад загнетам спаць улеглася,
А там мышы шалелі, шалелі,
Бабцы хвартух праелі.
— Ўставай, бабка, ўжо дзень,
Пайдзі хвартух перадзень.

А ўпілася кумка, ўпілася,
Пад загнетам спацінькі звілася,
А там мышы шалелі, шалелі,
Кумцы плацце праелі.
— Ўставай, кумка, ўжо дзень,
Пайдзі плацце перадзень.

А ўпіўся кумок, упіўся,
Пад загнетам спацінькі звіўся,
А там мышы шалелі, шалелі,
Куму штаны праелі.
— Ўставай, кумок, ўжо дзень,
Ідзі штаны перадзень.

## 249. БАБКА З УНУЧКАЮ ГАВАРЫЛА

Бабка з унучкаю гаварыла:
— Глядзі, мая бабка, не співайся,
За столікам у мяне не валяйся.
А яна ж на ўсё тое пазабылася,
За ўнучкін столік звалілася.
А ўнучкіны мышы шалелі,
Бабкіну юбку праелі.
Як стала бабка плакаць,
Што нечым юбку латаць.

Кума з кумою гаварыла:
— Глядзі мяне, кумка, не спаі,
Пад столік к сабе не палажы.
А кумка на тое забылася,
Пад столік звалілася.
А кумкіны мышы шалелі,
Кумкіна плацце праелі.
Кумка крэпка заплакала,
Усю нядзельку плацце латала.

Кум з кумою гаварыў:
— Глядзі мяне, кумка, не спаі,
Пад столік к сабе не палажы.
А кумок у кумы напіўся,
Пад столік зваліўся.
Кумкіны мышы шалелі,
Кумавы штаны праелі.
Як стаў кумок плакаць,
Што нечым штаноў латаць.

## 250. СЯДЗІЦЬ БАБКА НА КУЦЕ

Сядзіць бабка на куце,
Залаты персцень на руцэ. *

На руцэ, на руцэ,
Гасцінчачкі ў кішане́.

Ў кішане, ў кішане,
З кішані точацца.

Точацца, точацца,
А нам іх хочацца.

Хочацца, хочацца,
А ёй дацi маркотна.

Маркотна, маркотна,
А нам ўзяцi ахвотна.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 251. БАБКА КАШКУ НЯСЕЦЬ

Бабка кашку нясець,
А кум казной трасець.
У бабкі кашка смашна,
А ў кума казна ясна.
Таўчы, малоць — нядужа,
Да пастаночкаў — дасужа.
Таўчы, малоць,— «Ахці мне!»
А пастаночкі ж,— «Дайце мне!»

## 252. НА СТАЛЕ КАША СТАЛА

Allegretto

На ста_ле ка_ша ста_ла, за_ла_то_га вяр_ха
жда_ла. — Ой ты, ку_мач_ку_па_не,
ой, та_кі ў ця_бе ста_не.

На стале каша стала,
Залатога вярха ждала.
— Ой ты, кумачку-пане,
Ой, такі ў цябе стане.

Ой, ты, кумачку-пане,
Ой, такі ў цябе стане:
Ўсадзі руку ў кішэню,
Вымі грошыкаў жменю.

## 253. НА СТАЛЕ КАША СТАЯЛА

На стале каша стаяла,
Залатога кума ждала.
Ой, куманёк, куды ты пайшоў,
Чаму ж ты ды да нас не зайшоў?

Ой ты, кумачку-пане...
Ўсадзі руку ў кішэню,
Вымі грошыкаў жменю.

## 254. АДКУЛЬ ТЫ, БАБКА?

— Адкуль ты, бабка?
— З Магілева.
— Чаму ты, бабка,
Не калела?

— Адкуль ты, бабка?
— Із Расна.
— Нашто брахалі
Напрасна?

Як твая кашка
Без масла,
Каб табе ў грудзях
Захрасла.

## 255. А НА ДВАРЭ ДОЖ ІДЗЕЦЬ

А на дварэ дож ідзець
Ды на бабіну хату.
— Ідзі, бабка, нажні мяты
Ды накрый сваю хату.

А на дварэ дож ідзець
Ды на кумавы сені.
— Ідзі, кумок, накасі сена
Ды накрый свае сені.

А на дварэ дож ідзець
Ды на куміну ложу.
— Ідзі, кумка, нажні рожы
Ды накрый сваю ложу.

## 256. А ЯК [К] КУМУ КУМА

А як [к] куму кума́
Ў рэшаце́ прыплыла,
Грабянцом прыграбла.

А ў мяне [д]ля кумы
Верабей у саду,
Да й тэй без заду.

Як завешу [redacted] кацёл —
Паўтараста вядзёр,
І згатую [д]ля кумы
Адну шыячку.

— Еж ты, кума,
Не засалівайся,
Еж, ужывай,
І ў кішэню не хавай.

А тым ты, кума,
Не супоўніш двара
І не накорміш дзяцей, —
Толькі насмяшыш людзей.

## 257. НЯДУЖА БАБКА, НЯДУЖА

Нядужа, бабка, нядужа,
Нядужа, нядужа.
На падаркі — дасужа,
Дасужа, дасужа.
Таўчы, малоць: — Не магу,
Не магу, не магу!
На падаркі: — Сама йду,
Сама йду, сама йду!
Таўчы, малоць: — Ахці мне,
Ахці мне, ахці мне!
Падарачкі: — Дайце мне,
Дайце мне, дайце мне!

## 258. КАЗАЛІ, НАША БАБКА ХВАРАВІТА

Казалі, наша бабка хваравіта,
Ажны наша бабка варавіта.
А за гэты куточак
Зарабіла ласкуточак.
Таўчы, малоць — нядужа,
А па намётачку — дасужа;
Таўчы, малоць: — Ёсць сям'я,
А як па намётачку, — дык сама.

## 259. БАБУСЯ ТАУЧЫ, МАЛОЦЬ НЯДУЖА

Бабуся таўчы, малоць нядужа,
А па намётачках — дасужа.
Таўчы, малоць — сям'я,
А па намётачках — сама.
Таўчы, малоць — крох-вох,
А па намётачках — скок-скок.

## 260. ХАРАША БАБУЛЬКА, ХАРАША

Хараша бабулька, хараша,
Яна нам паставіла барыша.
Нядужа бабулька, нядужа,
На падарачкі — дасужа.
Стаўшы малоць,— не магу,
Па падарачкі — пабягу.

## 261. НАША БАБКА НЯДУЖА, НЯДУЖА

Наша бабка нядужа, нядужа,
Пастаночкі — дасужа, [дасужа],
Нашай бабкі, як нет,
Пастаночкі, дык як свет.

## 262. Я Б ГЭТУ БАБКУ




Я б гэту бабку *
Ды у бабкі не ўзяў.

Я б гэтай бабцы
Чаркі гарэлкі не даў.

Як наша бабка
Таўчэ-меле, — нядужа.

Як па намётку,—
Дасужа, дасужа.

Як наша бабка
Таўчэ-меле, — кох-кох-кох.

Як па намётку,—
Ох-ох-ох, ох-ох-ох.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 263. БАБУСЯ, БАБУСЯ

Бабуся, бабуся,
Таўчы-малоць — нядужа,
Бабуся, бабуся,
А па намётачкам, дык любя.

Бабуся, бабуся,
Таўчы-малоць — слаба́,
Бабуся, бабуся,
Па намётачкам, дык сама.

Бабуся, бабуся,
Таўчы-малоць, дык кох-кох,
Бабуся, бабуся,
А па намётачкам, дык скок-скок!

## 264. НАША БАБКА-ГАЛУБКА

Наша бабка-галубка
Да й не пышна была,
Узяўшы падарак,
Да й дадому павяла.

Наша кумка-галубка
Да й не пышна была,
Узяўшы падарак,
Да й дадому павяла.

Наш кумок-галубок
Да й не пышны быў,
Узяўшы падарак,
Да й дадому павёў.

## 265. А КАЗАЛІ, БАБКА ХВАРАВІТА

А казалі, бабка хваравіта, *
Ажна бабка варавіта.
Як жыта жаць, дак ляжыць,
Як іці у бабкі — бяжыць.

А казалі, кумок хваравіты,
Ажна кумок варавіты.
Як сена касіць, дак ляжыць,
Як куміць іці, дак бяжыць.

А казалі, кумка хваравіта,
Ажна кумка варавіта.
Як пшаніцу жаць, дак ляжыць,
Як куміць іці, так бяжыць.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 266. Я Ж БЫ ЕТУ БАБКУ

Я ж бы ету бабку *
І ў бабкі не ўзяў.

Я ж бы етай бабцы
Румкі водкі не даў.

У нас учора
Рада была.

Нам ета бабка
Нада была.

А мы абрадзілі
Бабку сваю.

Нам ета бабка
Не надабі.

Нам ета бабка
П'яніца.

А яшчэ к таму
Ляніва.

Таўчы, малоць —
Нядужа,

А у бабкі —
Дасужа.

Запражыце бабцы
Семярык вараных.

Адвязці бабку адно бы
Да й дадому яе.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 267. Я Б ГЭТУ БАБКУ

Я б гэту бабку,
Я б гэту любку
І за бабку не браў.
І гарэлку п'е }2 разы
І песень не пяе.

Я б гэтага кума,
Я б гэтага кума
І за кума не браў.
І гарэлку п'е }2 разы
І песень не пяе.

Я б гэту куму,
Я б гэту куму
І за куму не браў.
І гарэлку п'е }2 разы
І песень не пяе.

## 268 Я Ж БЫ ЕТАГА КУМА

Я ж бы етага кума
Кумам не браў, —
Гарэлкі не п'ець,
Песень не пяець.

Я ж бы ету куму
Кумой не браў, —
Гарэлкі не п'ець,
Песень не пяець.

Я ж бы ету бабку
Бабкай не браў, —
Гарэлкі не п'ець,
Песень не пяець.

## 269. Я Б ЕТУ БАБКУ

Я б ету бабку | 2 разы
І бабкай не ўзяў.
Гарэлку не п'ецъ, | 2 разы
Яна й нам не даецъ.

## 270. БАБУЛЬКА НАША

Бабулька наша,
Чырвона рожа, }2 разы
Чаму пяеш так
Непрыгожа? }2 разы

## 271. КАБ ЦЯБЕ, БАБКА

Каб цябе, бабка, *
Ніхто ў бабкі не браў.

А гарэлку п'еш,
Як у лейку льеш.

А гарэлку п'еш,
Нам канхвет не даеш.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 272. Я Б ГЭТУ БАБКУ

Я б гэту бабку *
Я бы ў бабкі не ўзяў.

Я б гэтай бабцы
Чаркі гарэлкі не даў.

Я б гэту бабку
За вароты прагнаў.

Я б гэту бабку
Сабакамі зацкаваў.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 273. Я Б ГЭТУ КУМКУ

Я б гэту кумку *
Ды ў кумы не браў:
Яна гарэлкі не п'еець
І дадому не йдзець.

Запражыце ж вы
Ды дванаццаць валоў,
Завязіце ж вы
Дый ўсё кумку дамоў.

А валы не йдуць,
Упіраюцца,
А кума ўсё на кут
Падзвігаецца.

* Кожны першы і трэці радкі паўтараюцца двойчы.

## 274. Я Б ГЭТУ БАБКУ

Я б гэту бабку,
Я б гэту любку
У бабы не браў:
Гарэлкі не п'ецъ
І песні не пяецъ,
Не закусываецъ.
— Выпі, бабка,
Выпі любка,
У ручку пацалую.
Выпіла, закусіла,
Сама сябе пахваліла,
Што я велькага роду,
П'ю гарэлачку, як воду,
Захінуўшысь у куток,
Па тры чаркі у раток.
— А ты, бабка мая,
А ты любка мая,
Другі раз вазьму цябе:
Ты гарэлку п'еш
І песні пяеш,
І закусываеш.

## 275. НАМ УЧОРА ПРАЯВА БЫЛА

Нам учора праява была,
А сягонння другая,
Нам учора бабка нада была,
А сягонння не нада, —
Праганіце бабку ў двор.



## 276. ЗАКЛАДАЙЦЕ, ЗАПРАГАЙЦЕ

Закладайце, запрагайце
Кабылу сівую,
Павязема да карчомкі
Бабулю старую.

Ой, высыпана, вытыкана
Ды дарожанька пяском,
Павязема мы бабульку
Да карчомкі пяшком.

## 277. ЗАЛАЖЫЦЕ, ЗАПРАЖЫЦЕ

Залажыце, запражыце
Ды дванаццаць коней,
Завязіце ж, завязіце
Ды бабаньку дамоў.
Яна ж у нас, яна ж у нас
Усю гарэлку пап'ець,
Астатачкі, паседачкі
У кішэнь забярэць.

## 278. АЙ, ДУДУ-ДУДУ

Ай, дуду-дуду,
А я тут не буду,
У людзі паеду,
Ці не лепей будзе.
Калі лепей будзе,
То там астануся.
А як горай будзе,
То назад вярнуся.

## 279. ДА БЫЛО У БАБКІ

[♩ = 80-96]

Да бы_ ло у баб_ кі,

да бы_ ло у люб_ кі ды два_ нац_

_цаць ва_ лоў,

ды два_ нац_ цаць ва_ лоў.

Да было у бабкі,
Да было у любкі
Ды дванаццаць валоў,
Ды дванаццаць валоў.

— Каторага, бабка,
Каторага, любка,
Ты вала прадасі,
Ты вала прадасі?

— Ёсць у мяне рабы,
Што робіць грабы,
Я таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне лысы,
Што робіць місы,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне крутарог,
Тэй ляціць з усіх ног,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне буры,
Што круціць дзюры,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне чорны,
Ды што робіць жорны,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне палавы́,
Да што ходзіць да вады,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне белы,
Ды што робіць дзверы,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне белавокі,
Ён лі мяне ходзіць бокам,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне круты,
Ён пільнуіць руты,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне сівы,
Ён пашыць нівы,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне красны,
Ён да дзетак ласы,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

Ёсць у мяне мышаты,
На ём ездзіць ў сваты,
Я й таго не прадам,
Да душы ж, не прадам.

## 280. А БЫЛО Ў БАБКІ

А было ў бабкі, было ў любкі
Чатыры бычкі,
Прыехалі к бабцы, прыехалі к любцы
Чатыры купцы.

— Прадай, бабка, прадай, любка,
Прадай бычка чорнага нам.
— У мяне чорны куе жорны,
Я й таго не прадам.

— А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка лысенькага.
— А ў мяне лысы, ён мые місы,
Я й таго не прадам.

— А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка буранькага.
— А ў мяне буры, ён пасе куры,
Я й таго не прадам.

— А прадай, бабка, а прадай, любка.
Бычка рабенькага.
— У мяне рабы павязе ў бабы,
Я й таго не прадам.
Павязе ў бабы, бабулькай назавуць.

## 281. А БЫЛО Ў БАБКІ, А БЫЛО У ЛЮБКІ

А было ў бабкі, а было ў любкі
А чатыры бычкі, *
Прыехала к бабцы, прыехала к любцы
А чатыры купцы.

— Прадай, бабка, прадай, любка,
Бычка лысенькага.
— Мой бычок лысы, ён мые місы,
Я ж яго не прадам.

— А прадай, бабка, а прадай, любка,
Бычка чорненькага.
— А мой чорны, ён меле ў жорны,
Я ж яго не прадам.

— Прадай, бабка, прадай, любка,
Бычка рабенькага.
— А мой рабы, ён возіў бабы,
Я ж яго не прадам.

---

* Кожны другі і чацвёрты радкі паўтараюцца двойчы

## 282. ЁСЦЬ У НАШАЙ БАБКІ

Allegretto

Ёсць у на_шай баб_ кі, ёсць у на_шай

люб_ кі тры– ча_ ты_ ры ва_

_лы, тры– ча_ ты_ ры ва_ лы.

Ёсць у нашай бабкі,
Ёсць у нашай любкі
Тры-чатыры валы. *

Прыехалі к бабцы,
Прыехалі к любцы
Тры-чатыры купцы.

— Ёсць у мяне чорны,
Ды што возіць жорны, —
Я й таго не прадам.

Ёсць у мяне белы
На ўсякія дзелы, —
Я й таго не прадам.

* Кожны апошні радок паўтараецца двойчы.

Есць у мяне рабы,
Той, што возіць бабу, —
Я й таго не прадам.

Есць у мяне крутарог,
Возіць п'яных за парог, —
Я й таго не прадам.

## 283. ЯК Я СІВЫ ВОЛЫ МАЎ

♩ = 54

Як я сі - вы во - лы маў, па ўсім ся - ле ку - ма - ваў

Сі - вы во - лы па - зны - буў, то й кум мя - не па - за - буў.

Як я сівы волы маў,
Па ўсім сяле кумаваў.
Сівы волы пазныбуў,
То й кум мяне пазабуў.

Ў кума булі хрысціны,
Та й не вьіслаў дзяціны.
Ў кума булі хрысціны,
Та й не выслаў дзяціны.

Як пайшоў [illegible] па месцы,
Купіў валоў за дзвесце;
Стаў я барыш вупіваць,
Стаў і кум мой прыбуваць.

— Ой, дзе ж ты, кумойку, буў,
Што ты волікі набуў?
— Я, кумойку, рана ўстаў,
То мне пан-бог шчасце даў.

## 284. БАБА ЕЎКА, ДЗЕД ТУМАШ

Баба Еўка, дзед Тумаш,
Го-го-го.
Паехалі на кірмаш,
Го-го-го.
Што павезлі прадаваць,
Го-го-го.
Гэта трэба зрахаваць,
Уха-ха-ха.
Дзве курыцы, пятуха,
Го-го-го.
І асміначку аўса,
Го-го-го.
Дзед сеў прадаваць,
Го-го-го.
Баба пайшла мазі ўзяць,
Уха-ха-ха.
Распрадаўшы ўвесь тавар,
Го-го-го.
Пайшлі яны ў жывы рай,
Го-го-го.
Дзед кажыць паўбутылкі,
Го-го-го.
Баба — цэлую бутылку,
Уха-ха-ха.
Напіліся, наеліся ўраспрох,
Уха-ха-ха.
Ледзьве яны пералезлі праз парог,
Уха-ха-ха.
Дзед сеў за пана,
Го-го-го.
А баба за хурмана,
Уха-ха-ха.

А як баба не спала,
Го-го-го.
Дык кабылка трапятала,
Го-го-го.
А як баба заснула,
Го-го-го.
Дык кабылка не цягнула,
Уха-ха-ха.
Як праснецца той дзед,
Го-го-го.
Глядзь — кабылкі ўжо нет,
Уха-ха-ха.
— Ах ты, баба, пся крэў,
Уха-ха-ха.
Дзе кабылку ты падзела?
Го-го-го.
Ці не ў кашы яе з'ела?
Ўха-ха-ха.

## 285. КУМА МАЯ, КУМАЧКА, ДЗЕ ЖЫВЕШ?

♩ = 126

— Ку_ ма ма _ я, ку _ мач_ ка, дзе жы _веш?

— Ку_ ма ма _ я, ку _ мач _ ка, дзе жы _ веш?

Ча_ му мя _ не ў гос _ цей _кі не за_ веш?

Ча _ му мя _ не ў гос _ цей _кі не за _ веш?

— Кума мая, кумачка, дзе жывеш? *
Чаму мяне ў госцейкі не завеш?

— Ці ты, куме, розуму пытаеш,
Ці ты маёй хатачкі не знаеш?

А вунь мая хатачка ля вады,
З высокага дзераўца, з лебяды.

Яшчэ к таму сенечкі прыпляту,
З харошага дзераўца, з асату.

Тады цябе ў госцейкі пазаву,
Як свежае рыбачкі навару.

А свежая рыбачка — акунёк,
А любенькі госцічак — мой кумок.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 286. А КУМУШКА-ЛЮБУШКА, ДЗЕ ЖЫВЕШ?

— А кумушка-любушка, дзе жывеш?
Чаму мяне ў госцейкі не завеш?
— Тады цябе ў госцейкі пазаву,
Як новую хатачку збудую.
Я збудую хатачку з лебяды,
У харошым месцейку, ля вады.
А к таму ж я сенушкі прыпляту,
А з тоўстага дзераўца, з асату.
Налаўлю я рыбачкі — акуньца,
Пазаву у госцейкі я кумца.
Харошая рыбачка акунец,
А добрыя госцейкі кума й кумец.

## 287. А КУМАЧКА, ЛЮБАЧКА

— А кумачка, любачка, гдзе ідзеш?
Скажы ж ты й мне праўданьку, гдзе жывеш,
Чаму мяне ў госці не завеш?
— Жыву я з краю мора ля вады,
Збудавана хатачка з лебяды.
Я да яе сені дапляту
З вялікага дзераўца — з асату,
Тады цябе ў госці пазаву.

## 288. ОЙ, КУМ ДА КУМЫ ЗАЛЯЦАУСЯ

[Allegro]

Ой, кум да ку – мы за – ля – цаў –
– ся, ка – на – пе – лек се – яць а – бя – цаў –
– ся. Ой, се – яў, пры – ся – ваў, пры – ся – ва – ю –
– чы ка – заў: — Ты ку – ма, ты ду – ша,
вад ўсе ку – мы ха – ра – ша! Ой, ні ад –
– но – (й) не ма – ю та – ко – (й),
як ты, ку – мач – ка ма – я.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелек сеяць абяцаўся.
Ой, сеяў, прысяваў,
Прысяваючы казаў:

— Ты кума, ты душа,
Над ўсе кумы хараша!
Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелек рваці абяцаўся.
Ой, рваў да й вырываў,
Вырываючы казаў:
— Ты кума, ты душа,
Над ўсе кумы хараша!
Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелек біці абяцаўся.
Ой, біў да й прыбіваў,
Прыбіваючы казаў:
— Ты кума, ты душа,
Над ўсе кумы хараша!
Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелек слаці абяцаўся.
Ой, слаў да й прысцілаў,
Прысцілаючы казаў:
— Ты кума, ты душа,
Над ўсе кумы хараша!
Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелек збіраці абяцаўся.
Ой, збіраў, вызбяраў,
Вызбяраючы казаў:
— Ты кума, ты душа,

Над ўсе кумы хараша!
Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелек церці абяцаўся.
Ой, цёр да выціраў,
Выціраючы казаў:
— Ты кума, ты душа,
Над ўсе кумы хараша!
Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Канапелек часаць абяцаўся.
Ой, часаў, вычэсваў,
Вычэсваючы казаў:
— Ты кума, ты душа,
Над ўсе кумы хараша!
Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Палаценца ткаці абяцаўся.
Ой, ткаў да вытыкаў,
Вытыкаючы казаў:
— Ты кума, ты душа,
Над ўсе кумы хараша!
Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Палатна бяліці абяцаўся.
Ой, бяліў, пабяліў,
А пабяліўшы казаў:
— Ты кума, ты душа,
Над ўсе кумы хараша!

Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

Ой, кум да кумы заляцаўся,
Ў свойчыкі качаці абяцаўся.
Ой, скачваў, прыкачваў,
Прыкачваючы казаў:
— Ты кума, ты душа,
Над ўсе кумы хараша!
Ой, ні адной
Не маю такой,
Як ты, кумачка мая.

## 289. КУМ КУМЕ ЗАЛЯЦАЎСЯ

Кум куме заляцаўся,
Сеяць канапелькі абяцаўся.
Кум куме засяваў,
Кум куме прысяваў,
Прысяваючы казаў:
— Ай ты, кумушка-душа,
За ўсе кумы хараша!

Кум куме заляцаўся,
Рваць канапелькі абяцаўся.
Кум куме зарываў,
Кум куме прарываў,
Прарываючы казаў:
— Ай ты, кумушка-душа,
За ўсе кумы хараша!

Кум куме заляцаўся,
Церці канапелькі абяцаўся.
Кум куме заціраў,
Кум куме прыціраў,
Прыціраючы казаў:
— Ай ты, кумушка-душа,
За ўсе кумы хараша!

Кум куме заляцаўся,
Прасці канапелькі абяцаўся.
Кум куме запрадаў,
Кум куме прыпрадаў,
Прыпрадаючы казаў:
— Ай ты, кумушка-душа,
За ўсе кумы хараша!

24. Зак. 308

Кум куме заляцаўся,
Ткаць канапелькі абяцаўся.
Кум куме затыкаў,
Кум куме прытыкаў,
Прытыкаючы казаў:
— Ай ты, кумушка-душа,
За ўсе кумы хараша!

Кум куме заляцаўся,
Бяліць канапелькі абяцаўся.
Кум куме забяліў,
Кум куме прыбяліў,
Прыбяляючы казаў:
— Ай ты, кумушка-душа,
За ўсе кумы хараша!

## 290. ОЙ, КУМ У КУМЫ ПАПЫТАУСЯ

Ой, кум у кумы папытаўся,
Канапелькі пахаць абяшчаўся.
Пахаў і пахаў,
І пашучы казаў:
— Кумка мая,
Хто б табе запахаў
Усё, каб ды не я.

Ой, кум у кумы папытаўся,
Канапелькі сеяць абяшчаўся.
Сеяў і сеяў,
І сеючы казаў:
— Кумка мая,
Хто б табе засяваў
Усё, каб ды не я.

Ой, кум у кумы папытаўся,
Канапелькі абразаць абяшчаўся.
Абразаў, абразаў,
Абразаючы казаў:
— Кумка мая,
Хто б табе абразаў
Усё, каб ды не я.

Ой, кум у кумы папытаўся,
Канапелькі мачыць абяшчаўся.
І мачыў і мачыў,
І мачыўшы казаў:
— Кумка мая,
Хто б табе замачыў
Усё, каб ды не я.

Ой, кум у кумы папытаўся,
Канапелькі цягаць абяшчаўся.
Цягаў, пацягаў,
І цягаючы казаў:
— Кумка мая,
Хто б табе пацягаў
Усё, каб ды не я.

Ой, кум у кумы папытаўся,
Канапелькі сушыць абяшчаўся.
Сушыў і сушыў,
І сушыўшы казаў:
— Кумка мая,
Хто б табе пасушыў
Усё, каб ды не я.

Ой, кум у кумы папытаўся,
Канапелькі расстаўляць абяшчаўся.
Расстаўляў, расстаўляў,
Расстаўляючы казаў:
— Кумка мая,
Хто б табе расстаўляў
Усё, каб ды не я.

Ой, кум у кумы папытаўся,
Канапелькі мяць абяшчаўся.
І мяў і мяў,
І мяўшы казаў:
— Кумка мая,
Хто б табе мяў
Усё, каб ды не я.

## 291. ДЫ ДОЖДЖ ЛІЕЦЬ, ВЕЦЕР ВЕЕЦЬ

Ды дождж ліецъ, вецер веецъ
На куміну хату.
— Ідзі, кумок, касі мяту,
Накрый куме хату.

Ды дождж ідзецъ, вецер веецъ
На куміны сені.
— Ідзі, кумок, касі сена,
Накрый куме сені.

Ды дождж ідзецъ, вецер веецъ
На кумін ложак.
— Ідзі, кумок, касі рожу,
Накрый куме ложак.

## 292. ДОЖДЖ ІДЗЕ, З СТРЭХ ЦЯЧЭ

Дождж ідзе, з стрэх цячэ
Да на бабіну хату. } 2 разы

— Кінь [і], бабка, піць, гуляць
Да йдзі мяжу жаці,
Пакрый сваю хату.

Дождж ідзе, з стрэх цячэ
Да на кумавы сені. } 2 разы

— Кінь, кумок, піць, гуляць
Да йдзі касіць сена,
Пакрый свае сені.

Дождж ідзе, з стрэх цячэ
Да на куміну ложу. } 2 разы

— Кінь, кумка, піць, гуляць
Да йдзі жаці рожу,
Пакрый сваю ложу.

## 293. ОЙ, КУМ КУМЕ РАД

Ой, кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград:
— Шчыпі, кума, ягодкі,
Каторыя салодкі.
Каторыя салодкі, —
То для кумы-малодкі,
А каторыя горкі, —
То для маёй жонкі.

## 294. ОЙ, КУМ КУМЕ РАД

Ой, кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград:
— Шчыплі, кумка, ягодкі,
Каторыя салодкі,
А каторы горкі,
Кідай для маёй жонкі.

## 295. КУМ З КУМЫ РАД, РАД

[♩ = 72 – 76]

Кум з ку – мы рад, рад. – Сха – дзі, ку – ма,

ў сад, ў сад. Збі – рай, кум – цю, я – год – кі,

ка – то – ры – я са – лод – кі. А ка – то – ры

гор – кі, а – стаў ма – ёй жон – цы.

Кум з кумы рад, рад.
— Схадзі, кума, ў сад, ў сад.
Збірай, кумцю, ягодкі.
Каторыя салодкі.
А каторы горкі,
Астаў маёй жонцы.

## 296. КУМ ДА КУМЫ ВЕЛЬМІ РАД

Кум да кумы вельмі рад,
Ды павёў кумку ў зялён сад.
— Выбірай, кумка, ды ягадкі,
[Выбірай, кумка], ды салодкія.
Салодкія — для кумы,
А горкія — для жаны.

## 297. А КУМ КУМЕ ВЕЛЬМІ РАД

А кум куме вельмі рад,
А павёў куму ў зелен сад:

— А шчыпі, кумка, ягодкі,
А каторыя салодкі.

А што спелыя — кумцы маей,
А зялёныя — жонцы маей.

А ты ж, кумачка, жывіся,
А ты, жоначка, давіся.

## 298. А КУМ КУМЕ РАД

А кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград:
— Шчыпі, кума, ягодкі,
Каторыя салодкі.
Каторыя вінны,
То для маёй мілай,
Каторыя сладкі,
То для маёй маткі,
Каторыя горкі,
То для чужэй жонкі.

## 299. АЙ, КУМ КУМЕ РАД

[Allegretto]

Ай, кум ку - ме рад, за - вёў ку - му
ў ві - на - град. — Шчы - пі, ку - ма, я - га - ды,
Ка - то - ры - я гор - кі —
ка - то - ры - я на - да - бі.
гэ - та ма - ёй жон - кі, (і г. д.)

Ай, кум куме рад,
Завёў куму ў вінаград:
— Шчыпі, кума, ягады,
Каторыя на́дабі.
Каторыя горкі —
Гэта маёй жонкі,
Каторыя сладкі —
Гэта маёй маткі,
Каторыя харашы —
Сама, кума, паясі.

## 300. КУМ ДА КУМЫ ПРЫЕХАЎ

Allegro

Кум да ку_мы пры_е_хаў, кум да ку_мы пры_е_хаў.
Ку_ма ма_я, ку_муш_ка ты ма_я,
чыр_во_на_я я_га_да ты ма_я.

Кум да кумы прыехаў. *
Прыпеў:

Кума мая, кумушка ты мая,
Чырвоная ягада ты мая.

— Ой, дай, кума, гарэхаў.
Прыпеў.
Ой, еш, кума, ягадкі.
Прыпеў.
Каторыя салодкі.
Прыпеў.
А каторыя горкі.
Прыпеў.
Гэта для мае жонкі.
Прыпеў.
А я куму частаваў.
Прыпеў.
Да на заўтра запрашаў.
Прыпеў.

---

* Кожны радок (без прыпева) паўтараецца двойчы.

## 301. А КУМКУ МНЕ ВЕЛЬМІ РАД

А кумку мне вельмі рад,
Павёў кумку ў зелен сад.
— Шчыпі, кумка, ягодкі,
А каторыя салодкі.
А каторыя горкія, —
Для мае жонкі гордыя,
А каторыя кіслыя, —
Для мае жонкі пышныя.

## 302. А КУМ КУМОЙ РАД

А кум кумой рад,
Павёў куму ў сад,
Пасадзіў куму
У саду на дубу.
Сядзіць кума дзень,
Сядзіць і другі,
Как нету, так нету
Ад кума прывету.
Ад кума прывету,
Ад кума прыгляду.
— Я ж думала, мой кум
Па праўдзе жывець,
Ажно мой кум,
Што ступіць, то салжэць.

## 303. УЗЯЎ КУМ КУМУ ЗА ПРАВУЮ РУКУ

Узяў кум куму за правую руку,
Павёў кум куму у вінны садок,
Пасадзіў кум куму а пад вішаньку:
— Сядзі, мая кумка маладзенькая,
Нап'емся мы мёду саладзенькага.
На кумé каралі — семсот давалі,
А на куму штаны — няма ім і цаны.

## 304. ПРЫЙШОЎ КУМ ДА КУМЫ

Прыйшоў кум да кумы,
Кума рады поле.
— Добра, куме, што прыйшоў,
Цяпер мая воля.
А ліхая свякроў
На радзіны пайшла,
А мой свёкар дабрэсенькі
Спіць на печы п'янесенькі.
А я й мужа пазаву,
Вас гарэлачкай напаю,
Мёдам, кашай накармлю.
Свякроў прыйдзе п'яна, —
Таго яна й не ўвазнае.

## 305. КУМА КУМА ЛЮБІЛА

Кума́ ку́ма любіла,
К сабе ў госці зазвала.
— Ты кума, ты душа,
Саўсім кума хараша.

Кум к куме ў сені,
Кума к куму ў крупені.
— Ты кума, ты душа,
Саўсім кума хараша.

Кум к куме ў хату,
Кума куму букату.
— Ты кума, ты душа,
Саўсім кума хараша.

Кум к куме на парог,
Кума куму пірог:
— Чым цябе, кум, частаваць?
Ці віном зеляном,
Ці салодкім мядом?

## 306. А Ў ГОРАДЗЕ, НА РЫНАЧКУ

А ў горадзе, на рыначку,
Піў кум з кумой гарэлачку,
Не прастую — налівачку.
А кум куме палцінaчку,
Кума куму халсцінaчку.
— Полна, кума, гарэлку піць,
Пара, кума, дзіця красціць.

## 307. А ЯСЕН МЕСЯЦ УСЮ НОЧ СВЕЦІЦЬ

А ясен месяц усю ноч свеціць,
А кума з кумам усю ноч едуць.
Яны, ехаўшы, ды паспорылі
За маленькага ды рабёначка:
—Не дзіві, кумок, што суроў платок.
— Не дзіві, кумка, — не салодак мёд.
А суроў платок, — мы бяліць будзем,
Не салодкі мёд, — саладзіць будзем,
Мы з табою, кумачка, піць будзем.

## 308. КУМ ХОДЗІЦЬ ПА САДУ

Кум ходзіць па саду,
Кума па гароду,
Сойдземся, абоймемся,
Нап'ёмся мёду.
Кумачка п'яна
На ганачку пала.
— Паглядзіце, хлопцы,
Чы ў тонкай сарочцы.
Калі яна ў тонкай,
Дайце ёй пакой.
А калі ў зграбнай,
Дайце ёй пакой беднай,
А калі ў пласкуннай,
Завядзіце яе ў пакой.

## 309. І КАМЫШ ТРАШЧЫЦЬ

І камыш трашчыць,
І вада плюшчыць.
Вот кум да кумы
Судака ташчыць.
— Ох, кумушка,
Галубушка,
А звары мне судака,
Штобы юшка была;
І юшачка,
І пятрушачка,
Кума мая, кума мая,
Кума-душачка.
І піць будзем,
І гуляць будзем,
А як смерць прыйдзець, —
Паміраць будзем.

## 310. ОЙ, ГРОМ ГРЫМІЦЬ, І МАРОЗ ТРАШЧЫЦЬ

Tempo di marcia

Ой, гром гры - міць, і ма - роз тра - шчыць,
ой, наш кум да ку - мы гу - сач - ка ім - чыць,
ой, наш кум да ку - мы гу - сач - ка ім - чыць.

Ой, гром грыміць, і мароз трашчыць,
Ой, наш кум да кумы гусачка імчыць. *

— Ой, куманька, ты галубанька,
Спячы ты мне гусачка, кабы была юшачка.

І юшачка, і пятрушачка,
Кума люба, кума міла, кума-душачка.

Ой, гром грыміць, і мароз[іна] ўеццца,
Кума дома няма, ўсё гора мінецца.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 311. Я ПАЙДУ ПА ЗАГУМЕННЮ

— Я пайду па загуменню,
Да кумочак мой мілы,
Да галубчык мой сізы.

А ўлаўлю я шэрага зайца,
Да кумочак мой мілы,
Да галубчык мой сізы.

Таму-сяму па лапачцы,
Да кумочак мой мілы,
Да галубчык мой сізы.

А майму куму да ўсё тулаўца,
Да кумочак мой мілы,
Да галубчык мой сізы.

— А пайду я кала рэчанькі,
Да кумусюхна міла,
Да галубачка сіза.

Улаўлю я шэрую гуску,
Да кумусюхна міла,
Да галубачка сіза.

Таму-сяму па лапачцы,
Да кумусюхна міла,
Да галубачка сіза.

А маёй куме ўсё тулаўца,
Кумусюхна міла,
Кумусюхна люба,
Да галубачка й сіза.

## 312. КЛАНЯЛАСЯ КУМА КУМУ




Кланялася кума́ ку́му
Нізенька у ножкі: *

— Дзякуй табе, мой кумочак,
Што правёз дарожкі.

Кланялася кума куму
У белыя грудцы:

— Дзякуй табе, мой кумочак,
Што звазіў у людцы.

Кланялася кума куму
Нізенька у пяткі:

— Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз дахаткі.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

### 313. КЛАНЯЛАСЯ КУМА КУМУ

Кланялася кума куму
Нізенька ў ножкі:
— Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз з дарожкі.

Кланялася кума куму
Нізенька ў пяткі:
— Дзякуй табе, мой кумочак,
Што прывёз дахаткі.

## 314. КЛАНЯЛАСЯ КУМА КУМУ

Кланялася кума куму
Нізенька ў ножкі:
— Дзякуй табе, мой кумок,
Што прывёз з дарожкі.
Я ж думала, мой кумок,
Мы з табой заблудзім,
Я думала, мой кумок,
У дамку не будзем.

## 315. ЦАЛАВАЛА КУМА КУМА

Цалавала кума кума
У белыя шчочкі:
— Дзякуй табе, мой кумок,
Што прывёз з дарожкі.
Цалавала кума кума
У белыя пяткі:
— Дзякуй табе, мой кумок,
Што прывёз дахаткі.

## 316. ЕХАЎ КУМ СА КУМОЮ

Ехаў кум са кумою
Са кумінага двара,
Залатая карэта,
Сярэбраная дуга.
— А ты, кум, не ляжы,
Падвяжы куме гужы.

# 317. ТЫ КУМАЧКА МАЛАДАЯ

𝅗𝅥 = 132

— Ты ку – мач – ка ма – ла – да – я, ках – та –
– еч – ка зе – ля – на – я. Трэ – ба
стаць, па – пы – таць, ай дзе бу – дзеш на – ча –
– ваць, — ці дво – ру па – е – дзеш,
ці дво – ру па – е – дзеш?

— Ты кумачка маладая,
Кахтаечка зеляная.
Трэба стаць,
Папытаць,
А(й) дзе будзеш
Начаваць, —
Ці двору паедзеш,
Ці двору паедзеш?

— Ты, кумочак маладзенькі,
У цябе кахтан зеляненькі.

Трэба стаць,
Папытаць,
А(й) дзе будзеш
Начаваць, —
Ці двору паедзеш,
Ці двору паедзеш?

## 318. А Ў НЯДЗЕЛЬКУ ПАРАНЕНЬКУ

А ў нядзельку параненьку
Піў кум з кумой гарэлку.
Змовіла кума да кума:
— Пакінь, куме, гарэлку піць,
Паедзем, куме, дзіцятка хрысціць.
Ай, едуць поле і другое,
На трэцяе уз'язджаюць,
А змовіў тут кум да кумы:
— Кінем дзіця ў калявіну,
Самі пойдзем на Ўкраіну.
Ідуць поле і другое,
На трэцяе ўзыходзяць,—
— Ой, стой, куме, паслухаем,
Ці не шуміць дубровачка,
Ці не стогне дарожачка,
Ці не бяжыць пагонечка?
Шуміць, шуміць дубровачка,
Стогне, стогне дарожачка,
Бяжыць, бяжыць пагонечка:
— Пастой, куме, ты не ўхадзі,
Чужы жаны ты не звадзі,
[Чужы жаны ты не звадзі],
Чужы жаны вянчалныя,
Свае кумы падхросныя!
Падхросная кума —
Так, як родная сястра!

26. Зак. 308

## 319. У ГОРАДЗЕ, НА РЫНАЧКУ

У горадзе, на рыначку,
П'ець кум з кумой гарэлачку.
— Польна, кума, гарэлку піць,
Пара, кума, дзіця хрысціць,
Не панскага, — храсцьянскага.
Кінем дзіця ў калявіну,
Самі пойдзем на Україну.
Пайдзём поле і другое,
На трэцяе ўступаючы,
Станем, кума, паслухаем:
Ці не стогнець дарожанька,
Ці не шуміць дубровушка,
Ці не гоніць пагонюшка...
Стогніць, стогніць дарожанька,
Шуміць, шуміць дубровушка,
Гоніць, гоніць пагонюшка,
Пагонюшка — родны кумок:
— Ты стой, кума, ты не ўхадзі,
Дзіця майго ты не ўнасі;
Маё дзіця ражоная,
Тваё дзіця хрaшчоная...

## 320. КАБ У СЛЫШКУ НА РЫНАЧКУ




Каб у Слышку на рыначку *
Кум з кумою гарэлку п'ець,

Не прастую — кавітаю.
А й кум куму падмаўляець:

— Кінем дзіця ў калявіну,
Мы паедзем на Ўкраіну...

А станем мы, паслухаем,
Ці не шуміць дубровушка,

Ці не стогнець дарожачка,
Ці не гоніць пагонушка?

Шуміць-шуміць дубровушка,
Стогнець-стогнець дарожачка,

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Гоніць-гоніць пагонушка,
Ўсё дзяціны татухна...

— Хвала табе, божа,
Што мы ў грэх не ўступілі,
Дзіцятачка не згубілі.

## 321. ШУМІЦЬ, ШУМІЦЬ ДУБРОВАЧКА

Шуміць, шуміць дубровачка,
Стогнець, стогнець дарожачка,
Едуць кумы Колечкавы,
Едуць поле і другое,
На трэцея уз'язджаюць,
А кум каня садзяржаець,
Куму сваю замаўляець:
— Кума мая, люба́ мая,
Кінем дзіця ў калявіну,
Пайдзём з табой на часіну.
— Кумочак мой, галубочак,
Не ехаў ты дзіця хрысціць,
А ехаў ты да куму змусціць.

## 322. ШУМ, ШУМ ЧЭРАЗ НОВЫЯ СЕНІ

Шум, шум чэраз новыя сені,
Пара кумоў ды за столікам селі.
Адзін кум ды на скрыпачку грае,
Другі кум куму намаўляе:
— Кінь, кума, ды дзіця у крапіву,
Паедзем, кума, мы з табой на Украіну.

## 323. ЦЕРАЗ БОР САСНА КАЛЫХАЛАСЯ

Цераз бор сасна калыхалася,
Калыхаўшыся, паваліласяя,
Кума з кумам пасварылася.
За што прыйшло пасварыцца ім:
Ці за дзетачкі за храшчоныя,
Ці за пірагі за пляцёныя?
Не за пірагі за пляцёныя,
Да за дзеці за храшчоныя.

## 324. ЦЕРАЗ БОР САСНА ПАВАЛІЛАСЯ

Цераз бор сасна паваліласе,
Кума з кумам пасварылася,
Ні за яблачкі, ні за садовыя,
А за дзетачкі за хрышчоныя,
Ні за трэсачкі за сячоныя,
А за дзетачкі за хрышчоныя.

## 325. ОЙ, ДЫ КУМ З КУМОЙ ЦЕРАЗ ТЫН ЖЫЛІ

Ой, ды кум з кумой цераз тын жылі,
Цераз тын жылі дый не зналіся,
Дый не зналіся, не чапаліся.
Цераз бор сасна паваліласа.
А кума з кумам пасварылася:
— А ці ты ка мне, а ці я к табе!
Праміж тых кумоў цякла рэчанька,
Рэчка быстрая, беражыстая.

## 326. ЧЭРАЗ БОР САСНА ПАВАЛІЛАСЯ

Чэраз бор сасна павалілася, *
Ай, кума з кумой пасварылася:
— Ой, не ты ж ка мне, а не я к табе,
Не твае дзеці, не мае дзеці.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 327. НА ДВАРЭ САСНА ПАХІЛІЛАСЯ

На дварэ сасна пахілілася,
А кума з кумам пасварылася.

А за што ж яны пажурыліся,
А за што ж яны пасварыліся?

Ці за чарачку за мядовую,
Ці за шышачку за хмялёвую?

На дварэ хмара перабралася,
А кума з кумам паяднлася.

— А хадзі, куме, кісялю есці,
А хадзі, куме, кісялю есці.

І з сыцíцаю, і з вадзіцаю,
Са мной, добрай маладзіцаю.

## 328. ЧЭРАЗ БОР САСНА ПАВАЛІЛАСЯ

Чэраз бор сасна паваліласа,
Кума з кумом пасварылася.
А за што ж яны пасварыліся,—
Ці за шчэпачкі ці за дробныя,
Ці за дзетачкі ці за родныя?
Ўжо ж на дворайка перабралася,
Кума з кумом паядналася.
— Ай, хадзі, куме, кісель есць.
Ай, мой кісель саладзенькі,
І з сыціцаю, і з мядзіцаю,
Са мной, добраю маладзіцаю.

## 329. НА ГАРЭ ЛІПКА НАХІЛІЛАСЯ

На гарэ ліпка нахілілася,
А кума з кумам пасварылася.
А за што яны пасварыліся?
Ці за трэсачкі за цісовыя,
Ці за дзетачак за хрышчоных?
Не за трэсачкі за цісовыя,
А за дзетачак за хрышчоных.
Кума кума перапрашавала:
— Хадзі, кумок, кісялёк есці,
Кісялёк есці із сыціцаю,
Кісялёк есці із сыціцаю,
Са мной, добрай маладзіцаю.

## 330. ЦЕРАЗ ГУЛАЧКУ УСЁ КУМА МАЯ

Цераз гулачку ўсё кума мая,
Цераз другую — куміна дачка.
— Вы кумачкі, вы галубачкі,
Падружачкі мае!
Вы куміцеся, вы любіцеся,
Любіце і мяне.

## 331. ІШОЎ КУМ ПА САДУ

Ішоў кум па саду,
Кума па гародзі,
Нясець кум чапялу,
Кума скавароду.
Кум дроў насячэць,
Кума бліноў напячэць,
Кум бліноў не хочыць,
Кала кумы рагочыць.

## 332. КУМА ПА САДЗЕ ХАДЗІЛА

Кума па садзе хадзіла,
Кума расаду садзіла.
А кум па садзе пахадзіў,
Куміну расаду пахваліў.
— Расці, расадка, бухмата,
Жыві, кумачка, багата;
Расці, расадка, высока,
Жыві, кумачка, далёка;
Расці, расадка, нізенька,
Сядзь, мая кумачка, ка мне блізенька.

## 333. КУМ ПА ГОРАЧКІ ПАХАДЖЫВАЕЦЬ

Кум па горачкі пахаджываецъ, *
Сваю кумачку паваджуецъ.
— Лучша мае кумы ў свеце няма,
Куплю куме зялёнага саяна́.

— Не купляй, кум, зялёнага саяна,
А купі, кум, п'янога віна.
А кум куму абманіў, абманіў,
Куме віна не купіў, не купіў.

Кума кума падвяла, падвяла,
Куму штаноў не дала, не дала.
Цяпер такі пастаноў, пастаноў,
Што кум ходзіць без штаноў, без штаноў.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

27 Зак 308

## 334. ДА ХТО ІДЗЕ?

— Да хто ідзе?
— Кум да кума.
— Ды што нясе?
— Куль саломы.
— А што ў тым кулі?
— Чаравічкі для кумы.
Ой, кумка мая,
Чырвоная рожа,
Мне ля цябе
Пасядзець гожа.

## 335. ІШОЎ КУМ ДА КУМЫ

[Allegro moderato]

І – шоў кум да ку – мы, знай – шоў куль

са – ло – мы. Ку – ма ма – я, ку – мач – ка

ты ма – я, чыр – во – на – я я – гад – ка ты ма – я!

Ішоў кум да кумы,
Знайшоў куль саломы.
Кума мая, кумачка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая!

А ў том да кулі
Чаравічкі куміны.
Кума мая, кумачка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая!

— Ой, дам табе, кумачка,
Чаравічкі вышываны.
Кума мая, кумачка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая!

Будзеш, кума, класці
Чаравічкі вышываныя.
Кума мая, кумачка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая!

— А я тваіх чаравічак
Класці не буду.
Кума мая, кумачка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая!

А я цябе, маладога,
Любіці не буду.
Кума мая, кумачка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая!

## 336. КУМ ПА ВУЛІЦЫ ІШОУ

Кум па вуліцы ішоў,
Куль саломы найшоў,
А у тым жа кулі
Чаравічкі былі.
— А кумачка мая,
Што знайшоў я для цібя.
Кума ножку падымае,
Чаравічкі абувае.
— А кумачка ты мая,
Што я віжу у цібя?..

## 337. ІШОУ КУМ ДА КУМЫ

Ішоў кум да кумы
І нёс куль саломы.
А шчо ў том куле?
Чаравічкі куме.
Кумы дома не застаў,
Чаравічкі прасвістаў.

## 338. ПРЫЙШОЎ КУМ ДА КУМЫ

Прыйшоў кум да кумы
Пазычаць бараны:
— Ой ты, кумачка, кума,
Ты пазыч мне бараны.
Кума бараны не дала,
Толькі крык падняла.

## 339. ЦІ ЗНАЕШ ТЫ, БАБКА

— Ці знаеш ты, бабка,
Ці знаеш, галубка,
За што гарэлку п'еш? } 2 разы

— Ўчора куронка,
Сёння парасёнка.
І за тое гуляю. } 2 разы

Учора кум, учора кум
А на рыначку быў.

Кум куме, кум куме
Чаравічкі купіў.

Ён купіў, ён надзеў,
На куму паглядзеў.

— Ты кума, ты кума.
Ты ўсім хараша.

## 340. КУМ ДА КУМЫ ПРЫЕХАЎ

Кум да кумы прыехаў,
Прывёз куме гарэхаў.

Прыпеў.

Кума мая, кумачка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая.

Кум да кумы прыйшоў,
Прынёс куме барышоў.

Прыпеў.

Кум да кумы пад пярыну,
А кума яму звярыну.

Прыпеў.

— Я й, кумачка, што за звер?
Я баюся, каб не з'еў.

Прыпеў.

— Ці ты ў лесе не бываў,
Ці ты звяроў не відаў?

Прыпеў.

— Гэта ж тая выдра,
Што лятала быдра.

Прыпеў.

## 341. ОЙ, КУМ У КУМЫ ПЫТАЕ

Ой, кум у кумы пытае:
— Ці ужэ, кумо, світае?
Кума мая, кумачка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая!

— Яшчэ, куме, не відно,
Хаваймася пад радно.
Кума мая, кумачка ты мая,
Чырвоная ягадка ты мая!

Ў мяне, куме, трава асака,
Касі, куме, з высака.

## 342. ОЙ, ПАЕХАЎ МОЙ МІЛЕНЬКІ

Ой, паехаў мой міленькі
На поле гараці,
Кінуў мяне, маладзеньку,
Абед гатуваці.

Гараў, гараў мой міленькі
З вясны да пакровы,
Да нагараў мой міленькі
На міску хвасолі.

Пайшла тую хвасоленьку
Да й рассадзіла,
Рассадзіўшы хвасоленьку,
Да йду дадомы.

[Рассадзіўшы хвасоленьку,
Да йду дадомы],
Заглянула я ў шыночак,—
Мілы п'е з кумою...

— А чы ж табе, мая кума,
Няма дома дзела,
Шчо ты з маім чалавекам
Ў карчомцы засела?

— Ідзі, жынко, дадому
Вячэру варыці,
А я буду сам з кумою
У карчомцы піці.

Як прыйшла я дадоманьку,—
Ні руба, ні дрова...

Сюды, туды павярнулась,—
Вячэра гатова.

Наварыла боршчу, кашы
І памыла ложкі,
Сама села у куточку,
Заплакала трошкі.

## 343. ПАСАДЖУ Я КВАСОЛІНУ

Allegro moderato

Па́ - са - джу я ква - со - лі - ну,
са - ма йду да - до - му,
а мой мі - лы чар - на - бры - вы
п'е ў карч - ме з ку - мо - ю.

Пасаджу я квасоліну,
Сама йду дадому,
А мой мілы чарнабрывы
П'е ў карчме з кумою.

— Ой, нядобра, няхораша,
Мой міленькі, робіш,
Як дзень, як ноч п'янюсенькі
Із кумою ходзіш.

Годзе, мілы чарнабрывы,
Із кумою піці,
Ой, хадзема дадоманьку
Вячэру варыці.

— Мая міла чарнабрыва,
Яшчэ вазьму кварту,
Кума мая харошая,—
Яшчэ болей варта.

Пад вішнямі, чарэшнямі
Палягалі спаці;
— Мая міла чарнабрыва,
Не дай людзям знаці.

Я, малада, як ягада,
Тады не ўтрывала
І, выйшаўшы на вуліцу,
Ўсім людзям сказала.

Там за садам, за гародам,
Йшчэ за пералазам
Іскавалі куму з кумам,
Ды абое разам.

— За што ж цябе, мой міленькі,
Разам іскавалі?
— То за тое, мая міла,
Што з кумою спалі.

## 344. У САДОЧКУ НА ВІДОЧКУ

У садочку на відочку
Там за пералазам,
Там скованы кум з кумою
Па 'дной назе разам.

— Ой, запрагу сівы волы
Ды пайду араці.
За ім міла, чарнабрыва,
Квасольку ўтыкаці.

Паўтыкала квасолінку
Ды пайшла дадому.
— Там мой мілы, чарнабрывы,
П'е ў карчме з кумою!

— Кумка мая, любка мая,
Што гэта ты робіш?
Нашто майго чалавека
Да ўтраты даводзіш?

# ХРЭСЬБІННЫЯ БЯСЕДНЫЯ ПЕСНІ

## А. Застольныя

### 345. СЯДЗЕМ, СЯДЗЕМ, ПАБЯСЕДУЕМ

Сядзем, сядзем, пабяседуем,
Хай нам людзі пазавідуюць,
Што мы з родам харашэнька жывём:
Мы не б'емся, не ругаемся,
А сойдземся,— павітаемся,
Разойдземся,— распрашчаемся.

## 346. ЯК ПАЙДУ Я ДЫ КАЛА ДУНАЯ

Як пайду я ды кала Дуная,
Ды кала ціхага,
Да ці не ўвіджу каго
Свайго роднага?
Аж мая матулька калінку ламаець
Ўсё ж чырвоненькаю.
— Хадзі, мая матулька, бяседу гуляць,
Ўсё й вясёленькаю.

## 347. А ЛЯТАЛА СЫЗА ПАВУНЬКА

А лятала сыза павунька
Да па жоўтым пяску.
А ні жаль мне тэя павунькі,
А ні пер'я яе,
А жалка мне свае матулькі,
Што далёка ад мяне.
Навару я бочку мядочку,
Дзве віна,
Пазаву я сваю матульку,
Пагуляю й сама.

## 348. ОЙ, НАВАРЫЛА МЛОДА ГАНЕЧКА

Й ой, наварыла млода Ганечка
Да дзве бочачкі меду.
Ох і зазвала сваю й радзіну
Да сябе на бяседу.
— Й ох і частуйся, мая радзіна,
Й у мяне на бяседзе,
Я й даўно ждала,
Я й рада стала,
Што й бяседы даждала.

## 349. А У ЛУЗЕ ДУБ НЕ ЗЯЛЁНЫ

♩ = 52

А у лу - зе дуб не зя -

- лё - ны, а у лу - зе дуб не зя - лё - ны.

А у лузе дуб не зялёны, *
А на куце люд не вясёлы.
Каля плоту дуб зеляненькі,
Супроціў печы люд весяленькі.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 358. АХ ВЫ, СТОЛІКІ МАЕ

Ах вы, столікі мае,
Вы цісовыя,
Ах, што вы стаіце
Не засланенькія?

Ах вы, госцікі мае,
Вы любовенькія,
А што ж вы сядзіце́
Невясёленькія?

Да хазяюшка твая
У палозе ляжыць,
Яна мысліць аб тым,
Як бы мужу ўнаравіць.

Мужыковы нровы
Да я выведала,
Да я выведала,
Многа выцерпела.

Мужыковы нровы
Да на плечыках ляжаць,
Да на плечыках ляжаць
І ў галоўках шумяць.

## 351. ОХ ВЫ, СТОЛІКІ Ж ДА МАЕ

Ох вы, столікі ж да мае,
Вы цісовенькія,
Ох, чаго вы стаіце
Незасціланыя?

Ох вы, госцікі мае,
Вы любовенькія,
Ох, чаго вы сядзіце
Нечастовенькія?

Ох, чаго вы сядзіце
Нечастовенькія?
Ці мой хлебушак пушок,
Ці мой мілы наравок?

Калі хлебушак пушок,
То я выпалую,
Калі мілы наравок,
То я выведаю.

Хлеба пячонага
Я не выпалаю,
А дружка вянчальнага
Я не выведаю.

## 352. АХ ВЫ, КУМАЧКІ МАЕ

[Moderato]

Ах вы, ку_ мач_кі ма _ е, вы, га_ лу_ ба_
_чкі ма _ е. Ой, ча_ го хмур_ но
ся _ дзі _ це, ча _ му вод_ кі не п'я_ це?

Ах вы, кумачкі мае,
Вы, галубачкі мае.
Ой, чаго хмурно сядзіце,
Чаму водкі не п'яце?

[Чаму водкі не п'яце],
Не закусуваеце?
Ой, ці мой хлебушок пушок,
Ці мой дружок не вясёл?

Калі хлебушок пушок,
Трэба яго запалаць,
Ой, а калі друг не вясёл,
Трэба яго накараць.

Не трэба хлебушка палаць,
Бо хлеб печаны,
Ой, не трэба друга караць,
Бо друг венчаны.

[Не трэба друга карацъ,
Бо друг венчаны].
Ой, ёсць у мне маладой
Да чатыры жырбулі.

Першая жырбуля,
Што чужая старана;
Ой, а другая жырбуля,
Што хатанька чужая.

Трэцяя жырбуля,
Што свякроўка ліхая;
Ой, чацвёрта жырбуля,
Што дзяціна малая.

## 353. Я УЧОРА, МАЛАДА

Я ўчора, малада,
П'яна была, п'яна была,
Сягоння, малада,
Не буду піць, не буду піць.
Мелі́ся у мяне
Госцейкі быць, госцейкі быць.
Дарагія госцейкі —
Кум да кума, кум да кума,
Найлепшыя госцейкі —
Брат да сястра, брат да сястра.
[Д]ля кума, [д]ля кумы
Піва вару, піва вару,
[Д]ля брата, [д]ля сястры
Мёд саладжу, мёд саладжу.

## 354. СЯГОННЯ Ў НАС ІМЯНІНЫ

Сягоння ў нас імяніны,
У добрай хаце, ў гаспадыні.
Першыя госці — дзед і баба,
Другія госці — кум з кумою,
Трэція госці — брат з сястрою.
Дзед і баба — для парады,
Кум з кумою — для пасядзення,
Брат з сястрою — для пагуляння.

## 355. ВЫБАЧАЙЦЕ, ГОСЦІ

Выбачайце, госці,
Ой, за маю чэсць,
Ох, якія мы рады,
Шчо вы ў нас есць.

Ох, куме з кумою —
То й першыя госці,
А брат із сястрою —
Да другія госці.

Ох, брат із сястрою —
Да другія госці,
А зяць із дачкою —
Да трэція госці.

Із кумам, з кумою
Гарэлкі нап'емся,
А з братам, з сястрою
То й нагаварэмся.

А з братам, з сястрою
То й нагаварэмся,
Ох, з зяцем, з дачкою
Толькі пасварэмся.

## 356. ПА ЗАГОР'Ю СІНІЯ КРАСКІ ЦВІЦЕЛІ

Па загор'ю сінія краскі цвіцелі,
А па застоллю любыя госці сядзелі;
А цвіўшы, цвіўшы, сінія краскі адпадуць,
Піўшы, гуляўшы, любы госці паедуць.
Любы госці — браты ды шваграве,
Родныя госці — кумкі да кумовы.

## 357. ЧАСТУЙЦЕСЯ, ГОСЦІ

Частуйцеся, госці, *
Просім вашай міласці.

Штоб вы пілі, елі,
Весяленька сядзелі.

Добрыя мыслі мелі,
Харошыя песні пелі.

— Хазяіну чэсь-хвала,
Што бяседа весяла.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 358. ЧАСТУЕ МЭДАМ САЛАДЗЕНЬКІМ

Частуе мэдам саладзенькім
Да конем вараненькім:
— Піце, ежце ды дадому йдзіце,
А да мяне добры мыслі мейце.

## 359. НЕ ДОРАГА ПІВА П'ЯНАЕ

Не дорага піва п'янае,
Да дорага пасядзеннійка,
Мужское пагуляннійка,
Мужское, гаспадарскае.
А вы [ў] бяседзе людзі добрыя,
Гукаюць яны мужское.
А будзем мы піва варыці,
А будзем мы сыноў жаніці.
А будзем мы гарэлку гнаці,
А будзем мы дочак аддаваці.

## 360. А СЯДЗЕЛІ У БЯСЕДЗЕ

А сядзелі у бяседзе
Мужы чэсныя,
А ра́дзілі яны раду,
Раду добраю:
Ад чаго а свет-Масква
Загарэлася?
Загарэлась свет-Масква
Ад удовушкі.
А згарэла тры цэркаўкі,
Тры саборненькіх,
А згарэлі тры папы,
Тры духоўненькіх,
А згарэлі тры дзякі,
Тры наўчоненькіх.
А не жаль жа трох дзякоў,
Трох наўчоненькіх,
А не жаль жа трох папоў,
Трох духоўненькіх,
А і жаль жа тры цэркаўкі,
Тры саборненькіх.

## 361. ОХ, УЧОРА, МАЕ КУМАЧКІ

Moderato

Ох, у - чо - ра, ма - е ку - мач - кі,
у нас ра - дзін - кі бы - лі,
у нас ра - дзін - кі бы - лі.

Ох, учора, мае кумачкі,
У нас радзінкі былі. *

А сягоння, мае кумачкі,
Мы на хрэсьбінкі прыйшлі.

Не шкадуйце, мае кумачкі,
Па рубельчыку даць,

То мы будзем, мае кумачкі,
Аж да ўторнічка гуляць.

Не шкадуйце, мае кумачкі,
Па каровачцы даць,

То мы будзем, мае кумачкі,
Ўсю нядзелечку гуляць.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

29. Зак. 308

## 362. АД НЯДЗЕЛЬКІ ДА НЯДЗЕЛЬКІ

Ад нядзелькі да нядзелькі
Будзем мы, госцейкі,
Гуляць хрэсьбінкі.
Ад нядзелькі да нядзелькі
Будзем мы, госцейкі,
Піць гарэлку.
Зложымся, госцейкі,
Па рубаль сорак,
Будзем мы, госцейкі,
Піць і ў аўторак.
Ой, астанецца водкі і мёду,
Будзем мы, госцейкі,
Піць і у сроду.
Хаця ж мы можам
Прапіць і майткі,
Але вып'ем мы
Яшчэ й у чвартак.
Ой, астанецца водкі шкляніца,
Вып'ем мы, госцейкі,
Яшчэ у пятніцу.
Кончым мы, госцейкі,
Сваю работу,
Вып'ем мы, госцейкі,
Яшчэ і ў суботу.
А той водкі будзе не веле,
Вып'ем мы, госцейкі,
Яшчэ й ў нядзелю.

## 363. АСТАЎМА, МІЛЫ, МЫ УСЁ ДЗЕЛА




Астаўма, мілы, мы усё дзела,
То будзем піці йшчэ ў панядзелак.

Вазьмема, мілы, мы рублёў сорак,
То будзем піці яшчэ ў аўторак.

Замема, мілы, пасці чарэду,
То будзем піці яшчэ ў сярэду.

Прадайма, мілы, казла, барана,
То будзем піці у чэцвер рана.

Прадайма, мілы, рабу цяліцу,
То будзем піці яшчэ ў пятніцу.

Астаўма, мілы, усю работу,
То будзем піці яшчэ ў суботу.

А злажы, мілы, кашулю белу,
То будзем піці яшчэ ў нядзелю.

## 364. ОЙ, КУМЕ, КУМЕ

Ой, куме, куме,
Смачна гарэлка,
Будама піці
Да панядзелка.

Ад панядзелка
Аж да ваўторка,
Ой, куме, куме,
Смачна гарэлка.

Прадамо, куме,
Усю чэраду,
Вып'емо, куме,
Шчэ і ў сераду.

Прадамо, куме,
Шчэ кабыліцу,
Вып'емо, куме,
У чацвярыцу.

Прадамо, куме,
Усю пшаніцу,
Вып'емо, куме,
Шчэ і ў пятніцу.

Кончыма, куме,
Усю работу,
Вып'емо, куме,
Шчэ і ў суботу.

Ад панядзелка
Да панядзелка,
Ой, куме, куме,
Смачна гарэлка.

## 365. ОЙ, КУМЕ, КУМЕ, СМАЧНА ГАРЭЛКА

Ой, куме, куме, смачна гарэлка,
Вып'ема, куме, шчэ з панядзелка.

Прадайма, куме, шчэ й валоў сорак,
Вып'ема, куме, шчэ й у аўторак.

Прадайма, куме, гусей чарэду,
Вып'ема, куме, шчэ й у сярэду.

Прадайма, куме, міскі да ложкі,
Вып'ема, куме, шчэ й ў чэцвер трошкі.

Прадайма, куме, белу цяліцу,
Вып'ема, куме, шчэ й у п'ятніцу.

Закончым, куме, усяку работу,
Вып'ема, куме, шчэ й у суботу.

Зложыма, куме, сарочку белу,
Вып'ема, куме, шчэ й у нядзелю.

Ад панядзелка да панядзелка,
Ой, куме, куме, смачна гарэлка.

## 366. ОЙ, КУМЕ, КУМЕ

Ой, куме, куме,
Добра гарэлка,
Будам піяці
Да панядзелка.

Ой, піла, піла,
Чапец згубіла,
Прыйшла дадому,
Мужа пабіла.

— Ідзі, пракляты,
Чапца шукаці,
Каго ні стрэнеш,—
Будаш пытаці.

— Ой, вы, суседзі,
Добрыя людзі,
Хто чапец найдзе,—
Магарыч будзе.

## 367. ГАРЭЛАЧКА-ПАНЕНАЧКА

Гарэлачка-паненачка,
Як я цябе люблю, ай! *

А хто ж цябе будзець піць,
Як я, млада, памру?

Будуць піці і гуляці
Саседачкі мае, ай!

Будуць піці і гуляці,
Мяне ўспамінаці:

— А дзе ж тая п'янічанька,
Што з намі выпівала?

А дзе ж тая младзёшанька,
Што з намі гуляла?

— Прап'ём, прап'ём, братулінька,
Каня варанога, ай!

— Не будзем мы, сяструлінька,
Каня прапіваць, ай!

А на кім жа, сяструлінька,
Пашаньку пахаці, ай?

— Прап'ём, прап'ём, братулінька,
Мы свёкра ліхога, ай!

---

* Кожная страфа паўтараецца.

— Не будзем мы, сяструлінька,
Свёкра прапіваці, ай!

А хто ж будзець, сяструлінька,
Дома даглядаці, ай?

— Прап'ём, прап'ём, братулінька,
Свякроўку ліхую.

— Не будзем мы, сяструлінька,
Свякрову прапіваці, ай!

А хто ж будзець, сяструлінька,
Дзетак гадаваці, ай?

## 368. ГАРЭЛІЦА ГОРКА

Гарэліца горка,
Як я цябе люблю,
А хто ж цябе піць будзе,
Як я млода памру?

Будуць піць, гуляці
Ды суседзі мае,
Будуць піць, гуляці
Й мяне ўспамінаці:

— А дзе тая гулюшачка,
Што з намі гуляла,
А дзе тая птушачка,
Што з намі спявала?

## 369. ГАРЭЛАЧКА-ВІШНЁВАЧКА

Гарэлачка-вішнёвачка,
Як [redacted] цябе люблю.
А хто ж цябе будзе піці,
Як я, молада, памру?
Ой, памру ж я, памру,
Пахавайце ў месці,
Барылачку з гарэлачкай
Нада мной павесце.
А хто ж будзе піці,
Той — ўспамінаці:
— А дзе ж тая п'янюсенька,
Што нідзе не відаці?

## 370. ГАРЭЛАЧКА, ГАРЭЛАЧКА

Гарэлачка, гарэлачка,
Як я цябе люблю,
А хто ж цябе будзе піці,
Як я памру?

Не хавайце пры дарозе,
А схавайце ў лесе,
А над маёй галовачкай
Бутылку павесце.

А над маёй галовачкай
Бутылку павесце,
Сюды-туды павярнуся,
Гарэлкі нап'юся.

## 371. АХ ТЫ, МАЯ ГАРЭЛІЦА

Ах ты, мая гарэліца,
Як я цябе люблю!
А хто ж будзе памінаці,
Як я п'яніцай памру?
Будуць піці, памінаці
І мяне ўспамінаці.

## 372. ГАРЭЛАЧКУ П'Ю, Я ЯЕ ЛЮБЛЮ

Гарэлачку п'ю, [redacted] яе люблю,
Бо хто ж будзе гарэлачку піці,
Во як я памру?

Будуць людзі піць, будуць гаварыць:
— Дзе ж тая горка п'янічэнька,
Што ў карчомцы п'е?

І сюды гара, і туды гара,
Паміж тымі крутымі гарамі
Ўсхадзіла зара.

Эта не зара, ні мая, мая,
Эта ж міла, міла чарнабрыва,
— Напой мне каня.

— Напаю каня, як буду твая,
З халоднай вада крынічэнькі,
З поўнага вядра.

Ў цябе ні каня, ў цябе ні двара,
Ў цябе ўсяйго адзін куст каліны,
Та й то не цвіла.

## 373. ВЫП'ЕМ МЫ ПА РУМАЧЦЫ

♩ = 144

Вы - п'ем мы па ру - мач - цы,
вы - п'ем па дру - гой, гэй!
А за трэц - цяй ру - мач - кай
пес - ню за - пя - ем.

Вып'ем мы па румачцы,
Вып'ем па другой, гэй!
А за трэццяй румачкай
Песню запяем.

Ай, ляцела ластаўка
З-пад цёмнай зары, гэй!
— Прыедзь, прыедзь, мамачка,
З роднай стараны.

— Досаць табе, ластаўка,
З-пад зары лятаць, гэй!
А мне роднай мамачкі
Ў госці ажыдаць.

Ай, хадзіла ў морушка
Часта ваду браць, гэй!
А чаму мне з морушка
Ды дна не відаць?

А сіняе морушка
Вадой заліта, гэй!
А родная мамачка
Зямлёй закрыта.

## 374. ДЫ СЯДЗЕМ ЖА МЫ НА ЛАВАЧЦЫ

[Moderato]

Ды ся_дзем жа мы на ла_вач_ цы,
ды вы_ п'ем жа мы па ча_ рач_ цы.
І ды ся_ дзем жа мы на роў_ нень_ кай,
ды вы_ п'ем жа мы па поў_ нень_ кай.

Ды сядзем жа мы на лавачцы,
Ды вып'ем жа мы па чарачцы.
І ды сядзем жа мы на роўненькай,
Ды вып'ем жа мы па поўненькай.

## 375. А Ў МАСЦЕ, МАСЦЕ СОН-ТРАВА РАСЦЕ

А ў масце, масце сон-трава расце,
Ой, пад масточкам — жоўты красачкі, *

Жоўты красачкі-аднагодачкі.
Ой, у Ланькаве добрыя жоначкі:

Ой, дзе піруюць, там і начуюць,
Дзе й гарэлачку, там — нядзелечку,

Дзе й салодкі мёд, дык там цэлы год,
А дзе й квасіну, там ні часіну.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 376. ОЙ, ПАД МОСЦІКАМ

Ой, пад мосцікам
Жоўтыя красачкі,
Жоўтыя красачкі,
Карагодачкі.

А ў Ланькаве
Добрыя жоначкі;
Дзе піруюць,
Там і начуюць.

Дзе піруюць,
Там і начуюць,
Дзе нядзелечка,
Там пасцелечка.

## 377. А Ў МАСЦЕ, А Ў МАСЦЕ

А ў масце, а ў масце
Сон-трава расце,
Жоўты красачкі
Ўсё й мягодачкі.
У Гаранскай вуліцы
Добрыя жоначкі:
А й дзе мядок чуюць,
Там заначуюць,
А й дзе гарэлачку,
Там нядзелечку.

## 378. ЯК ВЫЙДУ Я ДЫ НА ВУЛІЦУ

Як выйду я ды на вуліцу, *
Пагуляю сабе.
А жоначкі ды лябёдачкі
Перанялі мяне.
За столікі за цісовыя
Пасадзілі мяне.
Гарэлачкай-самагоначкай
Напаілі мяне.
Пад вішанькай, пад зялёненькай
Спаць паклалі мяне.
— А ты, вішанька, ты зялёная,
Не шумі нада мной,
А ты, свякруха, нядродная мамка,
Не журы ты мяне.
Калі будзеш журыць, калі будзеш журыць,
Буду горда хадзіць.
Па вадзіцу пайду, па вадзіцу пайду,
Я вядзёрцы паб'ю.
Каля печы пайду, каля печы пайду,
Я гаршчэчкі паб'ю.
Я ж табе, свякроўка, мая свякроўка,
Шкоданькі нараблю.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 379. ЧУЦЬ ЖА МНЕ, ЧУЦЬ

Чуць жа мне, чуць,
Дзе гарэлачку п'юць,
Дзе гарэлачку п'юць,
А мяне не завуць.

Набяруся я ума,
Пайду я сама.
— Добры дзень, Мішачка,
Я й табе свая.

## 380. У МАЙГО ДЗЕДКА П'ЮЦЬ

У майго дзедка п'юць, мяне не завуць,
Ой, выйду ж я на вулачку
Да й зайграю на дудачку,
Ці не пазавуць.

Набяруся ума — пайду я сама.
Ці не скажа мой дзедачка:
— Садзісь за стол, дарагенька
Госцейка мая.

## 381. КАБ ДАЛІ Ж МНЕ ГАРЭЛАЧКІ

Каб далі ж мне гарэлачкі,
Піла ж бы я, піла, *
Каб за добрым таварышам,
Жыла ж бы я, жыла.

Каб далі ж мне гарэлачкі,
Я ж бы напілася,
Каб за добрым таварышам,
Я ж бы нажылася.

Я чарачку сталовую
Па стале пакачу,
А дайце мне гарэлачкі,
Я сама заплачу.

* Кожны другі і чацвёрты радкі паўтараюцца двойчы.

## 382. ДА ДАЙЦЕ Ж МНЕ




Да дайце ж мне *
Сем чарак гарэлкі.

Анну чарку
Да мне лі смялосці,

А другую
Для весялосці,

А трэцюю,
Каб я была п'яна,

Чацвертую,
Каб я й запяяла.

А пятую,
Каб [illegible] была дужа,

А шостую,
Каб набіла мужа,

---

* Кожны першы радок, апрача апошніх дзвюх строф, паўтараецца двойчы.

А сėмую,
Каб спаць палажыла.

— Дзякуй табе,
Мая міла,
Што нядужа біла.

Стаўлю табе
Гарнец мёду,
Гарэліцы й піва.



## 383. ОЙ, ДАЙЦЕ МНЕ, ДАЙЦЕ МНЕ

Ой, дайце мне, дайце мне
Пяць чарак гарэлкі. *

Адну чарку гарэліцы,
Каб я упілася.

Другую чарку гарэліцы,
Каб я была дужа.

А трэцюю гарэліцу,
Каб любіла мужа.

А чацвёртую гарэліцу,
Каб была дасужа.

А пятую гарэліцу,
Каб набіла мужа.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 384. ВЫП'ЕМ, КУМКА, ЧАРАЧКУ

Вып'ем, кумка, чарачку,
Каб жылі мы ў парачку.

Прыпеў:

Вып'ем, кумка, вып'ем тут,
На тым свеце не дадуць.

Вып'ем, кумка, вып'ем дзве,
Каб нам былі рады ўсе.

Прыпеў.

Вып'ем, кумка, вып'ем тры,
Каб нас людзі любілі.

Прыпеў.

Вып'ем, кумка, чатыры,
Каб нас людзі хвалілі.

Прыпеў.

Вып'ем, кумка, вып'ем пяць,
Хай нас людзі не стыдзяць.

Прыпеў.

Вып'ем, кумка, вып'ем шэсь,
Хай нам будзе слава-чэсь.

Прыпеў.

Вып'ем, кумка, вып'ем сем,
Каб была нам слава ўсем.

Прыпеў.

Вып'ем, кумка, вып'ем восем,
Каб нам добра скрозь жылося.

Прыпеў.

Вып'ем, кумка, вып'ем дзевяць,
Няхай людзі нас не дзеляць.

Прыпеў.

Вып'ем, кумка, вып'ем дзесяць,
Няхай людзі нас не весяць.

Прыпеў:

Вып'ем, кумка, вып'ем тут,
На тым свеце не дадуць.

## 385. СЯДЗІЦЬ ГАЛУБЧЫК А НА КУСЦІКУ

Сядзіць галубчык а на кусціку,
Ён расіцу п'ець,
Яго галубка, яго сызая,
Гняздзечка ўець.
— Пакінь, галубка, пакінь сызая,
Гняздзечка віць,
Хадзі, галубка, хадзі, сызая,
Расіцы піць.
— Мне ж бачыцца, сызы галубчык,
Што ты не любіш мяне.
Аж гарнецца тваё сярдзечка
Вох-і-вох-ці ка мне.

Сядзіць Якім на покуці,
Ён мёд-віно п'ець,
Яго Тацянка, яго душачка,
Прасцідлачкі тчэць.
— Пакінь, Тацянка, пакінь, душачка,
Прасцідлачкі ткаць,
Хадзі, Тацянка, хадзі, душачка,
Мёду-віна піць.
— Мне ж бачыцца, мой Якімка,
Што ты не любіш мяне,
Аж хінецца тваё сярдзечка
Вох-і-вох-ці ка мне.

## 386. ВІНО П'ЯНА, ВІНО П'ЯНА

Віно п'яна, віно п'яна,
А гарэлка горка,
Распілася, разгулялася Валодзькава жонка. *

Штодзянёчак, штодзянёчак
Дома не бывае,
А хто ў яе, а хто ў яе дома даглядае?

Ёсць у садзе, ў вінаградзе
А ружовыя кветкі,
Даглядаюць ў яе дома маленькія дзеткі.

* Кожны трэці радок паўтараецца двойчы.

## 387. МІЛ ГАРЭЛКІ НЕ П'Е

Міл гарэлкі не п'е
І мне не дае.
Набяруся я ума
І пайду сама.

За руб вып'ю гарэлачкі,
За другі — віна,
Як гуляць, так гуляць
Да белага дня.

Петушочкі пяюць,
Я ж дамоў не йду.
Ужо зара ўзышла,
Я дамоў пайшла.

Дзевярок-лебядзёк,
Ля варот стаіць,
— Братовачка маладая,
Будзе мілы біць.

— Дзевярок-лебядзёк,
Прашу бараніць.
— Братавачка, не магу,
Было так не піць.

## 388. ПАПРАСІЛІ МЯНЕ НА ХРЫСЦІНАЧКІ

Папрасілі мяне на хрысцінацкі,
Да няма ж у мяне кашулечкі.
Ой, пайду я да суседачкі
Пазычаць кашуліначкі.
Суседачка дурна назвала:
— Як я прала, дык ты спала,
Як я бяліла, дык ты ножкі мыла,
А як насіць, дык ты прасіць.

## 389. Я Ж МОЛАДА У ГРЫБЫ ПАЙШЛА




Я ж молада у грыбы пайшла,
З грыбоў ішла, у банкет зайшла.

А ў банкеце забавілася,
З суседачкай размовілася.

Дамоў прыйшла, ўжо й зара зайшла,
Аж новы двор адчыняецца.

Аж новы двор адчыняецца,
Аж мой мілы прачыхаецца.

— Ды дзе ж анна малада была?
— Я ж, мой мілы, лі цябе спала.

Я ж, мой мілы, лі цябе спала,
Белы ручкі на цябе клала.

Ці ты, мілы, адурачыўся,
Чаму ка мне ні 'дварачваўся?

## 390. Я І МОЛАДА ВА ГРЫБЫ ПАЙШЛА

Я і молада ва грыбы пайшла,
Я і молада да і ў пір зайшла,
Я і молада загулялася.
І пятух пяець, я дамоў ня йду,
І другі пяець, я не думаю,
А трэці пяець, я дамоў пайшла.
Мой новы двор адчыняецца,
Мой ліхі муж прабуджаецца.
— А й гдзе, жана, ўсю ноч была?
— А я, молада, за табой спала,
Белы ручкі на цябе клала.
А ці ты ж, мілы, адурачыўся,
Ўсю ноч ка мне не варочаўся.

## 391. НЕ Ў ПІРУ БЫЛА, А У БЯСЕДАЧЦЫ




Не ў піру была, а ў бяседачцы, *
Я не мёд піла, а гарэлачку.

Я піла, піла — не ўпівалася,
А дамоў ішла — не шаталася.

Ка двару прыйшла — пашатнулася,
За вярэіхну ухвацілася.

Вярэя мая ўся тачоная,
Ўся тачоная, пазлачоная.

Нова клетачка адчыняецца,
А мой міленькі прачынаецца.

— А і дзе ж, жана, ты ўсю ноч была?
— А я, малада, за табой спала.

А ці, мілы, ты адурачыўся,
Ночку ўсю ка мне не варочаўся.

Не ў піру была, у суседачкі,
Я не мёд піла, а гарэлачку.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 392. ХАДЗІ, МІЛЫ, Ў БЕЛУ ЛОЖУ СПАЦЬ

Хадзі, мілы, ў белу ложу спаць,
Я ж, малада, на ўсю ноч гуляць.
Я ж, малада, загукалася,
І з малойцамі загулялася.
Пятух пяець, я й дамоў не йду.
Другі пяець — я й не думаю.
Зара ўзышла, я й дамоў пайшла.
Аж мой мілы абчынаецца,
У мяне, млодай, ён пытаецца:
— Дзе ж ты, міла, даетуль была?
— Я ж, малада, ля цябе спала,
Ручкі-ножкі на цябе клала,
А ты, мілы, адурачыўся,
Усю ночку не 'тварачываўся.

## 393. А У ГАРОДЗЕ ЯЛІНАЧКА

А ў гародзе яліначка,
За гародамі сосна.
Хоць я пяю, весялюся,
А мне ж сэрдачку тошна.
На вуліцы на шырокай
Там кумоўе й бабоўе.
Яны судзяць і гавораць
Аба мне, маладой:
— Да, знаць, гэта жана ў мужа
Да ніколі не біта.
Сядзіць яна ў бяседзе,
Як пчолка ў брэдзе.
Сядзіць яна ў радочку,
Як пчолка ў мядочку.

## 394. СЛАВА БОГУ, ШТО Я УПІЛАСЯ

Слава богу, што я ўпілася, *
Яшчэ к таму з раднёю сышлася.
Слава богу, што мой мужык добры,
Ён жа мяне не б'ецъ, не караецъ,
Ён жа мяне за жоначку маецъ.
— Гуляй, міла, гуляй, чарнаброва,
Калі мая галоўка здарова.
Як жа мая галоўка схінецца,
Тады твая ўся гульня мінецца.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 395. ДЗЯКУЙ БОГУ, ШТО МОЙ МУЖЫК ДОБРЫ

Дзякуй богу, што мой мужык добры, *
А ён жа мяне не б'е, не карае,
Ён жа мяне за галубку мае.
— Гуляй, гуляй, мая чарнаброва,
Пакуль мая галоўка здарова.
Як жа мая галоўка схінецца,
Тагды тваё гулянне мінецца.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 396. ДЫ БОЖА МОЙ, ДЫ МІЛЮСЕНЬКІ

Ды божа мой, ды мілюсенькі,
Што мой мілы ды п'янюсенькі,—
Ні мне яго ды й дамоў вязці,
Ні мне яго тут пакінуці.
Дамоў вязці, ён паваліцца,
А тут кінуўшы, набадзяецца.
Ды мы ішлі, не хіляліся,
А з нас людцы насмяяліся.
Мы ў варотцах паваліліся,
А з нас людцы надзіваліся.

## 397. АЙ, ПІЎ БА Я ПІВА

Ай, піў ба я піва,
Дык з пахмеллійка ліха.

А любіў Мікалай жонку,
Дык нагудзілі людзі.

А няхай людзі гудзюць,—
Мікалай жонку любіць.

## 398. РАСА ЖЫТА РАСІЛА




Раса жыта расіла,
Жонка мужа прасіла:
— Йдзем, мужу, дадому. } 2 разы

Нашы конікі іржаць,
Яны естачкі хацяць,
Йдзем, мужу, дадому. } 2 разы

— А нашто нам конікі,
Перад намі столікі,
Яшчэ пасядзема,
Людзей паглядзема.

Раса жыта расіла,
Жонка мужа прасіла:
— Йдзем, мужу, дадому. } 2 разы

Нашы кароўкі мычаць,
Яны естачкі хацяць,
Йдзем, мужу, дадому. } 2 разы

— А нашто нам кароўкі,
Перад намі талеркі,
Яшчэ пасядзема,
Людзей паглядзема.

Раса жыта расіла,
Жонка мужа прасіла:
— Йдзем, мужу, дадому. } 2 разы

Нашы куркі сакацяць,
Яны естачкі хацяць,
Йдзем, мужу, дадому. } 2 разы

— А нашто нам курачкі,
Перад намі чарачкі,
Яшчэ пасядзема,
Людзей паглядзема.

Раса жыта расіла.
Жонка мужа прасіла:
— Йдзем, мужу, дадому. } 2 разы

Нашы коцікі мяўчаць,
Яны естачкі хацяць,
Йдзем, мужу, дадому. } 2 разы

— А нашто нам коцікі,
А мы ў людзей госцікі,
Яшчэ пасядзема,
Людзей паглядзема.

## 399. НАШЫ КАРОЎКІ МЫЧАЦЬ




Нашы кароўкі мычаць,
Яны естачкі хацяць,
Рушайма дадому мы! } 2 разы

Перад намі місачкі,
Перад намі талеркі,
Яшчэ пасядзема мы! } 2 разы

Ой, пілі мы ў аўторак,
Прапілі рублёў сорак
З табою, валыначка,
З табой, украіначка.

Ой, пілі мы ў сераду,
Прапілі ўсю чараду
З табою, валыначка,
З табой, украіначка.

Ой, нас людзі судзілі,
Што мы доўга сядзелі,
А што каму да таго,
Прапіў сваё — не яго.

## 400. ДОСЫЦЬ НАМ, ЖОНКІ, У БЯСЕДЗЕ СЯДЗЕЦЬ

Досыць нам, жонкі, ў бяседзе сядзець,
Пойдзем мы, жонкі, на вулку глядзець,
Як чужыя мужыкі жонак шануюць,
Як мой дурнішча кіі гатуець.
Ўсе кіі, ўсе кіі, ўсе дубовыя,
Усе тыя кіёчкі паламаліся,
А мае плечачкі не зламаліся.

## 401. Я У ХАРОШЫМ ДОМІКУ БЫЛА

Я ў харошым доміку была *
Да гарэлачку з мядком піла.

Да баюся дадому ісці,
Будзе мяне мой муж біці.

Да будзе мяне мой муж біці,
Да некаму бараніці.

Хваліць богу свякроўку маю,
Яна мяне адбароніць.

Да яна мяне адбароніць,
Да сыночка перапросіць:

— Да сыночак, галубочак,
Не бі жонку у галоўку.

Да галоўка яе квола,
На пахмелле нездарова.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 402. Я СЯГОННЯ У МЯДУ ГУДУ




Я сягоння у мяду гуду, *
Вечар ідзець, — я дамоў не йду.
Пятух пяець,— я й не думаю,
Зара ўзышла,— я й дамоў прыйшла.
Я ў вароцечкі пастукала,
Пад ваконцам я й паслухала.
А свякратка ўсё журбу журыць,
А мой мілы па сянёх ходзіць,
Ды ён свайго татульку просіць:
— Не бі жонкі, пака п'яная,
Ды набі яе цвярозую,
Ды ўсё беленькай бярозаю.
А бяроза за ўвесь лес бялей,
А мне жана за ўвесь свет мілей.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 403. ДЗЕ І ТАЯ БАРЭЛАЧКА

Дзе і тая барэлачка,
Што была гарэлачка?

Прыпеў:

Ох, я ўдалая,
Белая, румяная.

Я ўчора ў піру была,
П'яная дамоў прыйшла.

Прыпеў.

Прыйшоўшы, па двору хаджу,
Свайго мілога буджу.

Прыпеў.

Я ў дзверы пастукала,
У ваконца паслухала.

Прыпеў.

Свёкарка журыць, точыць,
Ён мяне пабіць хоча.

Прыпеў.

А мой мілы па хаце ходзіць,
Ён свайго татульку просіць.

Прыпеў.

— Татулька, мой родненькі,
Не бі жаны п'яненькай.

Прыпеў.

Бі жану цвярозую
Белаю бярозаю.

Прыпеў.

Бяроза бяленькая,
Мне жана міленькая.

Прыпеў.

Бяроза за бель бялей,
Мне жана за ўсіх мілей.

Прыпеў:

Ох, я ўдалая,
Белая, румяная.

32. Зак. 308

## 404. Я У БАБІНАЧКАХ БЫЛА

Я ў бабіначках была, *
Не ўпівалася.

А дамовачкі ішла,
Не хілялася.

Ля вароцічак
Пахілілася.

А на ганачку
Павалілася.

Выйшаў міленькі
Ды начаў ругаць:

— А нашто, жана,
Упівалася,

На каго, жана,
Спадзявалася?

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 405. Я У ПІРУ БЫЛА, НЕ УПІВАЛАСЯ

Я ў піру была, не ўпівалася,
Я дамоў ішла, не хілялася,
А ў вароціках пахілілася,
Пахілілася й павалілася.
Свёкар-бацюшка ды ў вакно глядзіць:
— Ты нашто, шэльма, упівалася,
На каго, шэльма, спадзявалася,
Ці на свёкра, ці на свякроўку,
Ці на дзевера, ці на залоўку?
— На свякратачку, як на татачку,
На свякроўку, як на мамачку,
На дзевера, як на брацікa,
На залвіцу, як на сястрыцу.

## 406. Я У ПІРУ БЫЛА, Я У ПІРУШАЧКІ

Я ў піру была, я ў пірушачкі,
Я й мёд піла, я й гарэлачку,
Я й піла, піла, не ўпівалася,
Па уліцы шла, не шаталася,
А ў вароціках пахілілася,
За вярэечку ухвацілася.
А свякратанька ў вакенца глядзіць:
— А чаго ж ты, шэльма, напівалася,
На каго ж ты, шэльма, спадзявалася?
— На цябе, свякратку, як на татаньку,
На цябе, свякратку, як на роднага,
На цябе, свякроўка, як на маманьку,
На цябе, свякроўка, як на родную.

## 407. Я ВЯЧОР МЛАДА

Я вячор млада
Я ў піру была.

Я ў піру была,
Я ў бяседушкі.

Я ў бяседушкі,
Я ў саседушкі.

Я ў саседушкі
Я не мёд піла.

Я не мёд піла,
А гарэлачку.

А гарэлачку
Я не з румачкі.

Я не з румачкі,
А з стаканчыка.

А з стаканчыка
Я піла малада.

Я піла малада
З поўнага вядра.

З поўнага вядра,
З краю да дна.

Цёмным лесам йшла,
Не баялася.

Чыстым полем шла,
Не шаталася.

А к двару прыйшла,
Пашатнулася.

За калітачку
Абпірнулася.

— Ты калітачка
Мая родная.

Падзяржы мяне,
Бабу п'яную.

Бабу п'яную,
Шэльму п'яную.

## 408. Я У ПІРУ БЫЛА, Я У БЯСЕДУШКЕ

Я ў піру была, я ў бяседушке,
Я ў бяседушке, у суседушкі,
Я не мёд піла, а гарэлачку.
Я піла молада з поўнага вядра,
З поўнага вядра цераз край да дна.
Я піла, піла, напівалася,
Цёмным лесам ішла, не баялася,
Чыстым полем ішла не шаталася,
А к двару падышла, пашацілася,
За вярмелюшку я схвацілася.
— А вярмель мой, вярмель, ты вярмелюшка,
Падзяржы мяне, бабу п'яну, бабу хмельную.

## 409. УПІЛАСЯ МОЛАДА, ЛЕДЗЬВЕ ЙДУ

♪ = 84

У - пі - ла - ся мо - ла - да, ледзь - ве йду, у - пі - ла - ся
мо - ла - да, ледзь - ве йду. Стра - ці - ла я ку - рач - ку, —
не най - ду, стра - ці - ла я ку - рач - ку, — не най - ду.

Упілася молада, ледзьве йду, *
Страціла я курачку,— не найду.

Ідуць хлопцы вулачкай — рагочаць,
Яны маю курачку валочаць.

— Ой, хлопчыкі, хлопчыкі, прашу вас,
Аддайце мне курачку на кірмаш.

Прыехáлі свірскія таргачы,
Таргавалі курачку тры начы.

А павялі курачку у куток,
Абскубалі пёрачкі і чубок.

Што ж я буду молада рабіці,
Чым я ж буду хлопчыкаў звадзіці?

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 410. СЯДЗЕЛІ МУЖЧЫНАЧКІ НА СТРАСЕ

Сядзелі мужчыначкі на страсе, *
Увідзелі курачку на лясе.
— Ціпы-ціпы, курачкі, дадому,
Не рабіце шкодачкі нікому.
А я шкоды нікому не раблю.
За то цябе, курачка, я люблю...
Прыехалі мінскія таргашы,
Хочуць гэту курачку патрашыць.
— Я гэту курачку не прадам,
Ёсць на гэту курачку гаспадар.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 411. АЙ, ДАМОЎ, ДАМОЎ, ДАМОВАЧКІ

Ай, дамоў, дамоў, дамовачкі,
А мне дамоў не хочацца,
У мяне многа работачкі:
Учыніла тры дзежачкі,
А на замеску — ні жменечкі.
Каб добрыя суседачкі,
Прынеслі б мне тры жменечкі,
Замясіла б я тры дзежачкі.

Ай, дамоў, дамоў, дамовачкі,
А мне дамоў не хочацца,
Дома многа работачкі:
Аснавала тры сценачкі,
А патыкаць — ні цэвачкі.
Каб добрыя суседачкі,
Прынеслі б мне тры цэвачкі...

## 412. ЯК ПАЗВАЛІ МЯНЕ НА БЯСЕДУ

Як пазвалі мяне на бяседу *
Цераз вуліцу ды к суседу.
Ці самому ісці, ці жонку пусціць?
— Ідзі, жонка, на бяседу,
Цераз дарогу ды к суседу.
Павышы людзей не садзіся,
За поўны стакан не бярыся,
Ідучы дамоў, не хістайся.
А я мужыка не слухалася,
Павышы людзей садзілася,
За поўны стакан хвацілася,
Дамоў ішла — маталася,
За чужыя платы хваталася.
А чужыя платы ламаліся,
А з мяне людзі смяяліся.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 413. ОЙ, МІКІТА, МІКІТА




— Ой, Мікіта, Мікіта,
Чом не арэш на жыта,
Гэй, чом не арэш на жыта?

— Я на жыта паараў,
На пшаніцу думаю,
Гэй, на пшаніцу думаю.

Як Мікіта валы меў,
Усе Мікіту зналі,
Гэй, усе Мікіту зналі.

Як Мікіта валы збыў,
Ўсе Мікіту забылі,
Гэй, ўсе Мікіту забылі.

Ой, у кума п'юць, ядзяць,
На Мікіту не глядзяць,
Гэй, на Мікіту не глядзяць.

— Ой, мы, жонка, не паны,
Йдзем дадому мы адны,
Гэй, йдзем дадому мы адны.

## 414. А Ў КАТЛЕ МЕДЗЯНОЕ ДНО




А ў катле медзяное дно, *
У Нупрэйкі дарагі абычáй:
А й дзе п'ець, сам дворачку йдзець,
Хімачку ды за ручку вядзець.
— Хімачка, а ты душа мая,
Ці мякка ды падушка твая?

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 415. ЧАРАЧКА ЗАЛАТАЯ

Чарачка залатая *
Па сталу пахадзіла,
Ўсіх гасцей напаіла,
Спатачкі палажыла.

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## Б. Уласна бяседныя

### 416. ОЙ, ПАЙДУ Я ЦЁМНЫМ ЛЕСАМ

Ой, пайду я цёмным лесам
Да й наламлю лому. *

Завёў мяне дурны розум
На чужую старану.

На чужую старану,
Ні бацька, ні мацер.

Толькі ў садзе зяляном
Пяюць салаўі.

— Пойце, пойце, салавейкі,
Рознымі галасамі.

А я пайду ў сад зялёны,
Абальюся слязамі.

* Кожная страфа паўтараецца двойчы.

## 417. КАБ Я ЗНАЛА, КАБ Я ВЕДАЛА

Каб я знала, каб я ведала
Сваё горкае бясшчасційка
А бяздольная замужжыка,
Не сядзела б доўга з вечара,
Не паліла б я й лучыначкі
Ды не шыла б я й кашулечкі,
Ды пашыла б сабе скрылліка,
Ды пашыла б залаценькая,
Паляцела б на Ўкраіначку,
Села б, пала б сярод рыначку.
Сталі б людцы сабірацїся,
З гэтай пташкі дзівавацїся:
— Ды што ж гэта за пташачка,
Ды што ж гэта ды за шэрая:
Сама шэра ды шарусенька,
А скрылліка залацюсенька?
Ды як учуў мой татулічка:
— Ціху, людцы, не дзівуйцеся,
Ды гэта ж не пташачка,
Ды гэта ж й не зязюлечка,—
Гэта ж маё ды й дзіцятачка;
Яна ад мяне адлучоная,
Далёка замуж аддадзёная.

# 418. У ПОЛІ ВЕТРЫК БУЙНЫ




Ў полі ветрык буйны, эй, *
Калінку калышыць.

Калінку калышыць, эй,
Дачка бацьку клічыць:

— А татачка-сонца, эй,
Скажу табе слоўца.

Скажу табе слоўца, эй,
Чатыры прычыны.

Адна[я] прычына, эй,
Свякроўка журліва.

* Першы радок кожнай страфы паўтараецца другі раз без «эй».

Другая прычына, эй,
Свёкар наравісты.

Трэцяя прычына, эй,
Дзевяры ліхія.

Чацвёрта прычына, эй,
Залвіцы-судзіцы.

— Дзіця маё, дзіця, эй,
Не кажы нікому.

Не кажы нікому, эй,
Толькі мне старому.

Свякроўка журліва, эй,
Ў хаце гаспадыня.

Свёкар наравісты, эй,
Яму болей рупіць.

Яму болей рупіць, эй,
Хлеба й солі купіць.

Залвіцы-судзіцы, эй,
Яны ў людзі пойдуць.

Яны ў людзі пойдуць, эй,
Аб іх судзіць будуць.

Дзевяры ліхія, эй,
І ім людзі трэба.

## 419. А Ў ПОЛІ ВЕТРЫ

А ў полі ветры *
Шабуняюцца й.

І ай, вароцікі
Расчыняюцца й.

Аж мой татачка
Ка мне ў госці йдзець.

І стрэну татачку
Пасярод двара й.

І вазьму татачку
Я пад пашачку.

І павяду татачку
Ў нову хатачку.

І п'саджу татачку
На лавачку.

І скажу татачку
Усю праўдачку:

— І мой ты татачка,
Ты мой родненькі,

І ўчора зь вечара
Ў нас журба была.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Ў нас журба была
І бітва была й.

Ўчора зь вечара
Мяне свёкар біў.

І пабіўшы мяне,
Сам на пір пайшоў.

І ў піру седзючы,
Выхваляецца й.

І майму роду
Наругаецца.

І харашо й піці
Зеляно віно.

І харашо біці
Чужога дзіця.

Ён не просіцца,
Ён не жаліцца.

Толька слёз(ы)камі
Й абліваецца.

— Дзіця маё дарагое,
Дзіця даражэнька.

Ай, насі злота,
Не развязывай.

Ай, гаруй гора,
Не расказывай.

— І мой ты татачка,
Ты мой родненькі.

І насёмшы залота,
Дык развяжацца.

І гараваўшы гора,
Дык раскажацца.

## 420. ЧЫРВОНАЯ КАЛІНАЧКА

Чырвоная каліначка,
Чаго ў лузе схілілася?
Чаго ў лузе схілілася,
А я, маладая, зжурылася?
Ой, цяжка, цяжка полю без камення,
Мне яшчэ цяжэй без племення;
Цяжка, цяжка саду без зязюлькі,
Мне яшчэ цяжэй без матулькі;
Цяжка, цяжка траве без расіцы,
А мне яшчэ цяжэй без сястрыцы;
Цяжка, цяжка дубу без лісточкаў,
Яшчэ мне цяжэй без браточкаў.

## 421. А У ЛУЗЕ КАЛІНА

А ў лузе каліна *
Адно другую туліла.

А мне, беднай сіраціне,
Прытуліцца няма дзе.

Зямля ад неба высока,
А я ад мамачкі далёка.

А брацетка на вайне,
Не ведае аба мне.

А сястрыца ў горы,
Не бачымся ніколі.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 422. ОЙ, ГІКНУЛАСЬ МНЕ ЛЯГЕНЬКА

— Ой, гікнулась мне лягенька,
Успамянуў мяне й а мой батэнька:
— Дзесь маё дышэнька міла?
Ой, на чужой далекей старане,
І роблячы, не ўроблячы,
І годзячы, не ўгодзячы,
Ой, вячэраньку варучы,
Белу пасцель мужу сцелячы.

## 423. АЙ, УСТАНУ РАНА, РАНЮСЕНЬКА

Ай, устану рана, ранюсенька,
Памыюся бела, бялюсенька.
А пайду я ў ціхі Дунаёчак,
А сяду я ў новы чаўночак.
Новы човен вада занімаець,
А я думала, што я ўтаплюся,
А я, молада, ратунку прашуся.
Мой татка на беражку косіць,
І сам не йдзець, і людзей не просіць.
— Плыві, дзіця, ты з гэтай вадою,
Хоць не будзе мне гора з табою.
Не будзеш у парозі стаяці,
Не будзеш братом дакучаці.

## 424. ПАЛАЖУ КЛАДАЧКУ

Палажу кладачку
Чэраз быстру рэчку,
Пайду да баценька
На ўсю цёмну ночку.

Гібка кладка, гібка,
На вадзе схістнецца,
Як баценька умрэ,
Гасціна мінецца.

Як баценька умрэ,
То маценька будзе,
Так і мне, маладой,
Гасцінанька будзе.

А як маценька умрэ,
То браценька будзе,
Так і мне, маладой,
Гасцінанька будзе.

А як браценька умрэ,
То сястронка будзе,
Так і мне, маладой,
Гасцінанька будзе.

## 425. ПАЙДУ Я, ПАЙДУ ЛУГАМ, РАКОЮ

Пайду я, пайду лугам, ракою, *
Сарву я, сарву красачку правай рукою.
У маіх ручках красачка звяла,
Я гэтай зачопкі тры гады ждала.
Тры гады, тры гады, тры нядзелечкі,
Я ў гэтай зачопцы неспадзевачкі.

* Кожны радок паўтараецца двойчы

## 426. ОЙ, У ЛЕСЕ НА ВЕРАСЕ

Ой, у лесе на верасе
Трава парасла,
Да ўжэ ж маю галаваньку
Журба абнясла.

Я ж тую журбу, я ж тую журбу
На паперку спішу,
Да я ж тую да паперачку
Ў край Дунай пушчу.

— Да плыві, плыві, белая паперка,
Да да новага двара,
А ў новым у дварэ
Там дачушка мая.

Да ў мае дачушкі
Да калінка цвіце,
Да ў мае дачушкі
Уся радзімачка п'е.

Ніхто ж мяне, старэнькую,
Да туды не заве,
Ой, набяруся я, старэнькая,
Набяруся ўма.

Ой, набяруся я, старэнькая,
Набяруся ўма,
Да пайду я, старэнькая,
К дачушцы сама.

Ой, сяду, сяду ў свае дачушкі
У канцы стала;

А маёй дачушцы ды жаль стала,
Мая дачушка заплакала:

—Сядзь ты, мамачка, сядзь, родненькая,
Сядзь ты ля мяне,
Ніхто ж цябе, старэнькай,
Тут не абсмяе.

## 427. СОЎНІКА ЗА ЛЕС КОЦІЦЦА

Соўніка за лес коціцца,
Мая родзіна расходзіцца,
Матулічка дамоў ладзіцца.
Ак пайду я правадзіць яе
Праз тры полі, праз тры чыстыя,
Праз тры рэчкі, праз тры быстрыя,
Праз тры лугі, праз зялёныя,
Праз тры лясы, праз тры цёмныя.
Для бярозкі прыстанулася,
Матулічка аглянулася:
— Чаго, дзіця, прыстанулася,
Ці травою заблуталася,
Ці расою замачылася?
— Матулічка мая родная,
Ні травою заблуталася,
Ні расою замачылася,—
Заблутала чужа сторана,
Заблутала невядомая.
Свёкарка — не родны татулька,
А свякроўка — не родна матулька,
Дзеверкі — не родны брацітхі,
А залавіцы — не родны сястрыцы.
— Дзіцятухна мая родная,
Мей галовачку пакорнаю,
І сэрдзічка адваротная,—
Будзіць табе свая сторана,
Будзіць табе і вядомая,
А свёкарка — родны татулька,
А свякроўка — родна матулька,
А дзеверкі—родны брацітхі,
А залавіцы — родны сястрыцы.
Вот мы з табой нагукаліся,
Нагукаліся ды й рассталіся.

## 428. ЧЫЯ ТА БАБУСЯ

Чыя та бабуся
Са радзінушак ішла,
Са радзінушак ішла,
Яна прыгодушку знайшла.
[Яна прыгодушку знайшла]
Да на большага сына.
Да на большага сына
І на большую нявестку.
— Ох ты, сын мой, сыночак,
Твой расхожы разумочак.
Ты чаму жану не б'еш,
Ты чаму жану не ўчыш?
— Ох ты, мац, мая мац,
Да за што жану біц,
За што яе біц,
За што яе журыц,
Калі мая жана
Мне па 'бычаю прыйшла?
[Мне па 'бычаю прыйшла],
Па маём разумочку.
— А чаму ж твая жана
Да ў варот не стаяла,
А мяне не страчала?
— Ох ты, мац, мая мац,
Не тваё яна дзіцяці,
Што цябе сустрачаці...

## 429. А ШУМЕЛА-ГРЫМЕЛА

А шумела-грымела,
Што сасоначка ў бару:
А шумеўшы да грымеўшы,
Яна перастала.
Журыла-браніла мацi
Большага сына:
— А чаму ж ты, мой сынка,
Да чаму жаны не б'еш,
А чаму жаны не б'еш,
Чаму яе не вучыш?
— Ах ты, мацъ мая, мацi,
Не сваё ж то дзiцяцi
У варотах стаяцi,
У варотах стаяцi,
Да цябе сустракацi.

## 430. ПІЛА Б Я, ГУЛЯЛА

Піла б я, гуляла,
Да мне не з кім:
Ўся мая радзіна
На Ўкраіні.
— Ах ты, міленькі,
Дарагенькі,
Запрагі мне
Каня варанога,
Паеду па бацюшку
Раднога.
— Мая мілая, дарагая,
Мне табе каня
Не ўпрагаці,
Цібе бацюшку
Не сыскаці.

Піла б я, гуляла,
Да мне не з кім:
Ўся мая радзіна
На Ўкраіні.
— Ах ты, міленькі,
Дарагенькі,
Запрагі мне
Кабылу варануя,
Паеду па матушку
Радную.
[— Мая мілая, дарагая],
Мне табе кабылу
Не ўпрагаці,
Цібе матушку
Не сыскаці...

## 431. УПІЛАСЯ ЎДОЎКА, УПІЛАСЯ

Упілася ўдоўка, упілася
Ці ад хмяльку, ці ад мядку?
— Не ўпілася я, [не ўпілася я]
Ні ад хмяльку, ні ад мядку,
А ўпілася я, [а ўпілася я]
Ад тугі, ад таскі.

## 432. ЭЙ, У ПОЛІ БУЕН ВЕЦЕР ВЕЕЦЬ

Эй, у полі буён вецер веець,
Там удовачка пшанічэньку сеіць.
Яна сеіць аж да самай ночы,
Выплакала ўдоўка свае вочы.
Яшчэ ўдоўка дамоў не прыйшла,
Ужо ўдоўчына пшанічка ўзышла.
Яшчэ ўдоўка к лаўцы не прысела,
Ужо ўдоўчына пшанічка паспела.
Пайшла ўдоўка пшанічкі глядзеці,
Там вывела зязюлька свае дзеці.
Хто пабярэ зязюльчыны дзеці,
Той не будзе ніколі ўдавеці.
Я пабяру зязюльчыны дзеці,
Не буду ніколі ўдавеці.

## 433. ОЙ ТЫ, ДУБЕ

Ой ты, дубе,
Я — бяроза,
Ой ты, п'яны,
Я — цвяроза.

Ты п'еш,
А я плачу,
Маладосць сваю
Трачу.

Што й за п'яніцу
Пайшла,
Неўмыватага
Ліца.

Покуль лічка
Вымыла,
То й брус мыла
Змыліла.

Пака кудры
Расчасала,
То й грабушок
Паламала.

## 434. ОЙ, ТЫ Ж МАЦІ, МАЦІ

Ой, ты ж маці, маці,
Мяне ж муж не любіць.
Мяне ж муж не любіць,
Да д(ы)ругой ходзіць.

І пойдзе, як змяркае,
Ды прыйдзе, як світае.
Да й кладзецца с(ы)пацi
Папярэк кравацi.

Да й кладзецца спацi
Папярэк кравацi,
Да сцяны ачыма,
Да мяне плячыма.

— Й адвярніся, мілы,
Я й ножку разую,
Й у тваё бела лічэнька
Сем(і) раз пацалую.

— А бадай ж ты, міла,
Да таго не даждала,
Шоб маё ж лічэнька
Сем раз і цалавала.

Ёсць у мяне ж гінша,
Гіншая, другая,
Я й намілаваўся,
Я й ж нацалаваўся.

— Да прысягала ж богу
І святому Юр'ю, —

Не буду гаварыці
З табою, дурню.

Ў чыстому ж полі
Цэркаўка стаяла,
Да там я, маладая,
Богу прысягала.

Прысягала ж богу
І святому Юр'ю, —
Не буду я жыці
Із табою, дурню.

Прысягала ж богу
І святой Міколі, —
Ды й не буду жыці
З табою ніколі.

# 435. БЯРОЗКА, БЯРОЗКА КАРАНІСТАЯ




Бярозка, бярозка
Каранiстая,
Даў бог мне мужыка
Наравiстага.

Пакуль я наравы
Ды разведала,
Нi раз я, нi раз я
Не п'абедала.

Сямейка маленька
На работку йдзе,
А мой муж п'яненькi
З карчомкi iдзе.

## 436. А НЕ ШУМІЦЕ, ЗЯЛЁНЫЯ ЛУГІ




А не шуміце, зялёныя лугі, } 2 разы
Не задавайце майму сэрцу тугі. } 2 разы
А маё сэрца і так тугу маець, } 2 разы
А мой татачка вялік банкет маець. } 2 разы
Ходзіць па сянёх, мяне ўспамінаець, } 2 разы
Чаму дачушка ў гасцёх не бываець. } 2 разы
— Ці ты, дачушка, конікаў не маеш, } 2 разы
Ці ты, дачушка, дарожкі не знаеш? } 2 разы
—А мой татачка, я й конікі маю,
А мой татачка, я й дарожку знаю.
А мой татачка, я й дарожку знаю,
За благім мужам радню забываю.
Сыра лягчынка дарожку залягла. } 2 разы
Сыру лягчынку пасеч, парубаці,
Ў свайго татачкі ў гасцях пабываці.

## 437. ЦЯЧЭ РЭЧАЧКА, ЦЯЧЭ БЫСТРАЯ

Цячэ рэчачка, цячэ быстрая,
Вадзіцу замуціла.
—Чаму смутная, невясёлая,
Ці не мамачка біла?

— І не мамачка біла:
Я такая ўрадзіла.
І не даў мне бог, не судзіў мне бог,
Каго верна любіла.

Ой, пайду я да броду,
Да броду па воду,
Як стану ж я, як гляну ж я,
Ці харошага роду?

Я й роду харошага,
І ліца прыкраснага,
За ліхім мужам, за нядбайлічкам
Бедна доля, няшчасная.

Пайду да касцёла
І стану за дзвярыма.
Бабы моляцца, дзеўкі строяцца,
А я ллюся слязіма.

Ой, выйду я з касцёла,
Сяду на камені,
Распушчу касу хоць па воласу
Да й на правым рамені.

## 438. У ЧЫСТЫМ ПОЛІ КАРЧОМКА СТАІЦЬ

Ў чыстым полі карчомка стаіць,

Ду́ма ж мая й ду́ма, ду́ма мая вялікая.*

У тэй карчомцы тры брацікі п'юць,
Тры брацікі п'юць, п'юць і гуляюць.
Першы брацітка шапачку прапіў,
Шапачку прапіў, выйшаўшы гойкнуў.
Другі брацітка коніка прапіў,
Коніка прапіў, выйшаўшы свіснуў.
Трэці брацітка жоначку прапіў,
Жоначку прапіў, ручкі сашчапіў.
Прыйшоў дамоўкі, дзетачкі плачуць:
— Ой, татка, татка, дзе ж наша мамка?
— Ціхуце, дзеткі, ды вы не плачце,
Вон ваша маці хустачкі мыець.
Пайшлі дзетачкі маткі глядзеці,
Ідуць дамоўкі, дзетачкі плачуць:
— Ах, татка, татка, дзе ж наша мамка?
— Ціхуце, дзеткі, ды вы не плачце,
Вон ваша мамка цялят заганяець.
Пайшлі дзетачкі мамкі глядзеці,
Ідуць дамоўкі, дзетачкі плачуць:
— Ах, татка, татка, нет нашай мамкі.
— Ціхуце, дзеткі, ды вы не плачце,
Пастаўлю хатку навюсінькаю,
Прывяду матку маладзюсінькаю.
— Згары, татка, з новенькай хаткай,
Прападзі, татка, з маладой мамкай, —
Лепшая была старая хатка,
Мілейшая была родная мамка.

* Прыпеў пасля кожнага радка.

## 439. ПА УЛІЦЫ, ВУЛІЦЫ

І па уліцы, вуліцы, эй, *
Дзевіца пагулііць.

Дзевіца пагулііць, эй,
Песенькі паухаіць.

Песенькі паухаіць, эй,
Молайца пагукаіць.

— Ай, моладзец, моладзец, эй,
Забі сваю жоначку.

Забі сваю жоначку, эй,
Вазьмі мяне, дзевачку.

Вазьмі мяне, дзевачку, эй,
Вумнаю, разумнаю.

Вумнаю, разумнаю, эй,
Гожую, прыгожую й.

Не бі жонку з вечара, эй,
А бі жану з поўначы.

Людзечкі паўлягуцца, эй,
Дзетачкі паўспяцца.

А прашнулісь дзетачкі, эй,
Пытаюцца ў татачкі:

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы

— А татачка, татачка, эй,
А й дзе наша мамачка?

— А дзетачкі, дзетачкі, эй,
Уна ваша й мамачка.

Па саду пагуляіць, эй,
Вішанькі пашчыпаіць.

Вішанькі пашчыпаіць, эй,
Песенькі паухаіць.

— А татачка, татачка, эй,
Не наша й ета мамачка.

Эта твая клюхніца, эй,
А наша разлучніца й.

Разлучыла дзетачак, эй,
Ад мамачкі родныя й.

## 440. ПАД ДУБАМ, ДУБАМ ЯЧМЕНЬ МАЛАЧУ

Пад дубам, дубам ячмень малачу,
Вышэй дубочка калоссе ляціць,
Паміж карэнняў зярнятка ляжыць,
З-пад таго дуба рэчачка бяжыць,
Па тэй рэчачцы чаўночак плыве,
А ў тым чаўночку малойчык сядзіць.
Чэша ён кудры частым грабяшком,
Кідае вычосткі на быстру раку.
— Плывіце, вычосткі, к таму беражку,
Дзе мая жана вадзіцу брала;
Пытайцеся ў яе, ці тужыць па мне.
— Хай па ім тужыць агонь ды вада,
Каб я тужыла па ім, малада.
Часаў ён цёскі з маіх белых плеч,
Віў ён вяроўкі з маіх русых кос,
Пушчаў ручайкі з маіх дробных слёз.
— Ай, жана, жана, няпраўда твая,
Цясаў я цёскі з белай бярозкі,
Віў я вяроўкі то з лык, то з пянькі,
Пушчаў ручайкі з дробнага дожджу.

## 441. ХМЕЛЬ ДА ХМЕЛЬ ДА КАЛІНАЧКУ КЛОНІЦЬ

Хмель да хмель да каліначку клоніць,
Цешча на зяця ані вочкам не ўзглянець.
— Зяцінька, ты дзіцятка маё,
Узяў дочку, выхаваначку маю,
Яна ж у мяне, як калінка, гарэла,
Яна ж у цябе бялей ліпанькі збялела.
— Мужанёк, а й ты яснае сонца,
Не скажы маёй мамцы ні слоўца.

## 442. ДА Я У СВАЙГО ТАТАЧКІ НА ВЫГОДЗЕ

Да я ў свайго татачкі на выгодзе,
Сеяла гарошкі ў вагародзе.
— Расцеце, гарошкі, вышэй плоту,
Аддаў мяне татачка замуж за блазноту.
Чужыя малойцы п'юць, гуляюць,
А мае блазноты не прымаюць.
А бадай вам, людзі, коле ў грудзі,
А з мае блазноты будуць людзі.

## 443. МОЙ СВЯКРАТКА ДОБРЫ

Мой свякратка добры,
Як татачка родны.
Сам уставае,
Мяне накрывае.

Сам уставае,
Мяне накрывае:
— Спі, мая нявестка,
Спі, маладая.

Спі, мая нявестка,
Спі, маладая,
Тваё дзіця мала,
Спаць не давала.

А муж уставае,
Мяне абуджае:
— Уставай, жана,
Уставай, маладая.

Уставай жана,
Уставай, маладая,
Ноч немалая,
Ты ўсю праспала.

## 444. ЗА ГАРОЮ ЯЛІНАЧКА




За гарою яліначка,
А ў гародзе расце жыта.

Знатна тая жонка ў мужа,
Каторая ды й не біта.

Яна сядзіць у радочку,
Як вішанька у садочку.

Яна сядзіць, размаўляе,
Як вішанька, расцвітае.

За гарою яліначка,
А ў гародзе расце жыта.

Знатна тая жонка ў мужа,
Каторая штодзень біта.

Яна сядзіць у радочку,
Як чарнічанька ў барочку.

Яна сядзіць і ўздыхае,
Як чарнічанька, ўсыхае.

## 445. А ХТО, ХТО КАЛЯ РЭЧАНЬКІ СВІШЧЫЦЬ

А хто, хто каля рэчанькі свішчыць,
А хто, хто каля быстранькай свішчыць?
Селязенька каля рэчанькі свішчыць, —
Ён сваю шэру вуціцу клічыць:
— Подзь, падзі, сера вуцічка, ка мне,
А ў мяне гняздзечка з трысцечка,
А ў мяне сіза пёрушка
А ў мяне пад крылушкам цёпла.

А хто, хто па сенях ходзіць?
Іванька па новым сеням ходзіць,
Ён сваю Аўдусічку клічыць:
— Подзь, падзі, Аўдусічка, ка мне,
А ў мяне кравацъ цісавая,
А ў мяне пярыны пуховы,
А ў мяне 'дзіяла цяплое.
Падайшла Аўдусічка грозна,
Раскідала ўсе пярынушкі розна,
Раскідала ўсе пуховыя розна.
Прыйшоў Іванічка з места,
Ён сабраў усе пярынушкі ўместа,
Ён сабраў усе пуховыя ўместа.

## 446. БОГ ТАМУ ДАЎ




Бог таму даў,
Хто сыночкі маець. *

Ў пол дарожкі
Мамку пераймаюць.

Пераняўшы,
Пад ручачкі вядуць.

А прывёўшы,
За столікам садзяць.

Пасадзіўшы,
Мёдам-віном пояць.

Напаіўшы,
Пасцелечку сцелюць.

* Кожная страфа паўтараецца двойчы.

Пасцяліўшы,
І сам пакоіцца.

— Ой, ці мякка
Мамчына пасцелька?

— Мякка, мякка
Сынкова пасцелька.

Цвярдзей, сынку,
Нявешчына слоўца.

Ой, вазьмі ж ты,
Мой сыночак, пужку.

Ой, набі ж ты
Сваю жану-душку.

Сам не знаю,
А што мне зрабіці.

Ой, мне жалка
Сваю жану біці.

Каб жа сва́ей
Мамкі не ўгнявіці,

Вазьму пужку,
Буду біці душку.

Не па жонца,
Па белай саломца.

Не па дусца,
Па белай падусца.

Не па жане,
Па беленькай сцяне.

Дзякуй богу
За маю натуру,

Набіў жану
Сваю, не чужую.

## 447. ТУГА МАЯ, ТУГА

Andantino

Ту – га ма – я, ту – га ад вер – на – га
дру – га: па – ла – маў па –
– лі – цы ад са – хі, ад плу – га.

Туга мая, туга
Ад вернага друга:
Паламаў паліцы
Ад сахі, ад плуга.

Ці мне йсці да лесу
Паліцы цясаці,
Ці мне да дзяўчыны
На ўсю ноч ехаці?

Ой, кіну я, кіну
Свіціну на спіну,
А сам, маладзенькі,
На ўсю ночку дзвіну.

— Гэта табе, маці,
За тваю навуку,
Сядзі каля печы,
Калышы ўнуку.

— Было не хадзіці
З ранку каля ганку,
Было не даваці
«Дзень добры» каханку.

## 448. ЛУЖКОМ, ЛУЖКОМ СЦЕЖКА ШЛА

Лужком, лужком сцежка шла,
Той сцежкаю дзеўка шла,
Зайшла яна к татачку.
— А татачка родненькі,
Парай раду добрую,
Дзе дзеўцы падзецца
Із маленькім дзіцяткам?
— Дзіцятачку ў рэчку ўкінь,
Сама, млода, утапіся.

Лужком, лужком сцежка шла,
Той сцежкаю дзеўка шла,
Зайшла яна к міленькаму.
— А міленькі дружочак,
Парай раду добрую,
Дзе мне, моладзе, падзецца
З маленькім дзіцяткам?
— Дзіцятачку ў люлечку,
А сама, молада, у пярыны.

# 449. У МАЙГО БРАЦІТКІ БЯСЕДАЧКА




У майго брацітки бяседачка,
У майго брацітки вясёлая.

У майго брацітки вясёлая,
А я й, молада, не ведала.

А я й, молада, не ведала,
Сабраўшы сямейку, па̀бедала.

Сабраўшы сямейку, па̀бедала,
К брату ў госці паехала.

К брату ў госці паехала,
А брат сястрыцы ўлякнуўся.

А брат сястрыцы ўлякнуўся,
Да з хлебам-соллю схамянуўся.

Да з хлебам-соллю схамянуўся,
— Прымай, жана, ты хлеб з стала.

Прымай, жана, ты хлеб з стала,
А там ідзець нялюбая сястра.

А там ідзець нялюбая сястра,
Няхай яна сама ідзець.

Няхай яна сама ідзець,
А то сваіх дзетак вядзець.

— І ты, брацітка, не пужайся,
Ты, родненькі, не пужайся.

Ты, родненькі, не пужайся,
А з хлебам-соллю не хавайся.

А з хлебам-соллю не хавайся,
А я ж учора вячэрала.

А я ж учора вячэрала.
А сягоння паабедала.

А сягоння паабедала,
Я к табе, брацітка, не ў госці йшла.

Я к табе, брацітка, не ў госці йшла,
Цябе, брацітка, адведаці.

Цябе, брацітка, адведаці,
Сваіх дзетачак не маючы.

## 450. ДЫ БРАТ СЯСТРЫ ПАБАЯЎСЯ

Ды брат сястры пабаяўся,
Пабаяўся,
Із хлебам-соллю ісхаваўся,
Ісхаваўся.
— Прымай, жана, ды хлеб з стала,
Ды хлеб з стала,
А там ідзець сястра мая,
Сястра мая.
Няхай яна сама ідзець,
Сама ідзець,
А то сваіх дзетак вядзець,
Дзетак вядзець.
— Ты, брацітка, не пужайся,
Не пужайся,
З хлебам-соллю не хавайся,
Не хавайся, —
Я учора вячэрала,
Вячэрала,
А сягоння пабедала,
Пабедала,
К брату ў госці паехала,
Паехала.

## 451. ЯК СЯСТРЫЦА БЕДНА ЖЫЛА

Moderato

Як ся_стры_ца бед_на жы_ла,

ў бра_та ў го_сці_ках не бы_ла,

ў бра_та ў го_сці_ках не бы_ла.

Як сястрыца бедна жыла,
У брата ў госціках не была. *

Як сястра пабагацела,
К брату ў госці захацела.

Сеў брат з жаной на абедзе.
Глядзь у вакно: сястра едзіць.

— Прымай, жана, да хлеб з стала,
Едзіць у госці сястра мая.

Прымай, жана, ты хлеб скарэй,
Вязець сястра да воз дзяцей.

Яна ж гэта як пачула,
Назад каня завярнула.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Сталі з брата ўсе смяяцца,
Сталі яму наругацца.

Дагнаў сястру на паўдарожкі,
Пакланіўся ёй у ножкі.

— Да вярніся, сястра мая,
Да паглядзі жыцця майга.

— Ёсць у мяне свае дзеці,
Ёсць на каго паглядзеці.

І ёсць ў мяне хлеб у возе,
Паабедаю ў дарозе.

Ёсць у мяне свая хата,
Не горшая, як у брата.

## 452. У МАЙГО БРАЦІТКІ БЯСЕДАЧКА

У майго брацітки бяседачка,
У майго брацітки вясёлая.

Ды запрасіў ён усю радзіну,
Ды запрасіў ён усю радзіну.

Толькі не прасіў аднэй сястрыцы,
Толькі не прасіў гаратніцы.

— Чаму, брацітка, ўчара не прасіў,
Чаму, брацітка, ўчара не прасіў?

— Мая сястрыца, часу не меў,
Мая сястрыца, часу не меў.

— Было прыслаці хоць салавейку,
Было прыслаці хоць пташачку.

Было прыслаці хоць пташачку,
Па маім двара паскакала б.

Па маім двара паскакала б,
Шчырую праўду расказала б.

## 453. ОЙ, ДАУНО, ДАУНО Я У БРАТА БЫЛА

Ой, даўно, даўно я ў брата была,
Ўся мая дарожачка травой зарасла.
Травой-муравой пазарастала,
Калінаю-малінаю пазавісала.
Вазьму я касу, траву пакашу,
Чырвоную калiначку ў пучкі павяжу.
Чырвоную калiначку ў пучкі павяжу,
Да брацеткі, да роднага ў госці паеду.
А брацетка мой, мяне не ждучы,
Пазачыняў вароцечкі, з карчомкі йдучы.
— Мая ты жана, прымай хлеб з стала,
Едзе ў госці бяздольніца — сястрыца мая.
А я, малада, ды не ўстрывала,
Уз'ехала на падвор'е, зашчабятала:
— Брацетка мой, не зачыняй свой двор,
Хоць любіш, ці не любіш, а пагаворым з табой.

## 454. ШТО ПЕЦЕ, ЛЮДЗІ, ГАРЭЛІЦУ

Што пеце, людзі, гарэліцу,
А я буду воду,
Парадзіла да мяне маці
Маленечку зроду.

Маленечку зроду...
Не ўкінула ды мяне маці
У халодную воду.

У халодную воду...
Да й аддала ды мяне маці
К вялікаму роду.

К вялікаму роду...
Род вялікі, род багаты,
Свякроўка ліхая.

Свякроўка ліхая...
Ўзяў мяне друг-няўдаліца,
А сама маладая.

А сама маладая...
Есь у мяне два брацейкі,
Зроду не бывалі.

Зроду не бывалі...
Куды едуць, не заедуць,
На лесе начуюць.

На лесе начуюць...
Яны маю горку долю
Цераз людзі чуюць.

Цераз людзі чуюць...
Дровы сякуць, агонь кладуць,
Вячэру гатуюць.

Вячэру гатуюць...
— Вячэрайма, пане-браце,
Да не ў сястры ў хаце.

## 455. ОЙ, НА МОРЫ НА БЕРАЖКУ

Ой, на моры на беражку
З'ела рыбка краску. *

У брацяткі, у роднага
Я й выпала з ласкі.

— Ой, брацятка, ой, родненькі,
Не добра ты чыніш.

Як я іду у госційкі,
Варот не адчыніш.

Ай, брацятка, ай, родненькі,
Не добра ж ты чыніш...

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 456. ПА БАГАТАЮ СЯСТРУ

Па багатаю сястру,
Па багатаю сястру
Тры паслы пасылаюць, *

Па мяне, худобачку,
Па мяне, бяздолніцу,
Праз людзей наказалі.

А багатаю сястру,
А багатаю сястру
Сярод поля пераймаюць,

А мяне, худобачку,
А мяне, бяздолніцу,
У хаце на парозе.

А багатаю сястру,
А багатаю сястру
На куце пасадзілі,

А мяне, худобачку,
А мяне, бяздолніцу,
Процiў печы на лаўца.

А багатаю сястру,
А багатаю сястру
Віном-мёдам паілі,

А мяне, худобачку,
А мяне, бяздолніцу,
Гаркою гарэліцай.

* Кожны трэці радок паўтараецца двойчы.

А багатаю сястру,
А багатаю сястру
На тры ночкі ўнімаюць,

А мяне, худобачку,
А мяне, бяздолніцу,
Процiў ночкі адпраўляюць.

Ды як пайшла сястрыца,
Ды як пайшла родная,
Тужучы, бядуючы,

Тужучы, бядуючы,
Тужучы, бядуючы,
Белы ручкі ломючы:

— Ды збярыцеся, ваўкі,
Ды збярыцеся, звяры,
Разарвіце ж вы мяне,

Каб я болі не хадзіла,
Каб я болі не хадзіла,
Сэрца свайго не крушыла.

Як учула сястрыца,
Як учула родная,
Пад аконцам седзючы:

— Вы, брацiткі-саколікі,
Вы, брацiткі-саколікі,
Садзіцеся на конікаў,

Даганіце сястрыцу,
Даганіце сястрыцу,
Да вярніце ж вы яе.

Пераймайце ж вы яе,
Пераймайце ж вы яе,
Як мяне пераймалі,

Ды гукайце ж вы із ей,
Ды гукайце ж вы із ей,
Як са мной вы гукалі.

Ды пасадзіце ж вы яе,
Ды пасадзіце ж вы яе,
Гдзе мяне вы садзілі.

Ды частуйце ж вы яе,
Ды частуйце ж вы яе,
Як мяне частавалі.

Удзяржайце ж вы яе,
Удзяржайце ж вы яе,
Як мяне удзяржалі.

Ды сцяліце пасцельку,
Ды сцяліце пасцельку,
Як і мне усцілалі.

## 457. НАВАРЫЎ БРАТ НАШ ПІВА

Наварыў брат наш піва *
І сабраў радню на гулянне.
Ой, як багатую сястру
Брат у госці зазываў
І двое коні пасылаў.
А як беднай гаротніцы
Дык праз людзей брат наказаў.
І як багатую сястру,
Дык на дварэ пераймаець,
І як бедную-гаротніцу
У хаце не чапаюць.
А як багатую сястру,
Дык на куце пасадзілі,
І як бедную-гаротніцу
У парозе паставілі.
Як багатую сястру
І віном-мёдам частуюць,
А як бедную-гаротніцу
Горкаю гарэлкаю.
Як багатую сястру
Начаваць астаўляюць,
А бедную-гаротніцу
Проці ночкі й выпраўляюць.
А як выйшла яна ў поле,
Як крыкнула ратуначку:
— Ой, збярыцеся, звяры-воўкі,
А вы ж мяне разарвіце,
У чыстым полі разнясіце.
Як пачулі брат з сястрой,
Дык сястра стала бедаваці:
— Ой, ды паедзем, брат, даганяці.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

— А не бядуй ты, сястрыца,
Ай ды адна мамка нас раджала,
Ды не 'днэй долькай награждала.
А нам з табой панаваці,
А ей, беднай, гараваці.

## 458. ІДЗЕЦЬ СЯСТРА ПА ВУЛІЦЫ

Ідзець сястра па вуліцы,
А брат па садочку.
— Пастой, пастой, сяструлечка,
Бып'ем мы мядочку.

— Півай, півай, мой брацітка,
Калі табе п'ецца,
А мне, беднай сіротачцы,
У жызні не ўдаецца.

Адна мамка нас радзіла,
Адна й гадавала,
Няроўную, мой брацюлечка,
Нам долю й давала.

Табе дала, мой брацітка,
Долю грашавую,
А мне дала, мой брацітка,
Долю слезавую.

Табе дала, мой брацітка,
Віно-мядок піці,
Мая доля, мой брацітка,
Із п'яніцай жыці.

## 459. ПАП'ЕМ МЫ, ПАП'ЕМ, ПАГУЛЯЕМ

Пап'ем мы, пап'ем, пагуляем,
Ці мы долейкі не маем?
Адна маці нас радзіла,
Не аднэй доляй надзяліла:
Цябе, брацітку, багатою,
Мяне, сястрыцу, беднатою,
Цябе, брацітку, надзялілі валюкамі,
А мяне, сястрыцу, — рукаўкамі.
Будзем піці і гуляці
І пароўну плаціці:
Ты, брацітка, — чырванцáмі,
А я, сястрыца, — рукаўкамі,
Ты, брацітка,— з кішанёчка,
А я, сястрыца, — з рукавочка.

# 460. НА ПОЛІ ДУБОЧКІ

[Andante]

На по - лі ду -
ма - е бра -
- боч - кі ўсё ку - на - ты -
- точ - кі ўсё ба - га - ты -
1. - я, а
2. // - я.

На полі дубочкі
Ўсё кунатыя,
А мае браточкі
Ўсё багатыя.

Аддалі мяне замуж
За сіне мора,
За сіняе мора,
Ў вялікае го(ра).

Адзін брацітка
Ні жаласны быў,
А другі брацітка
Жаласнейшы быў.

А другі брацітка
Жаласнейшы быў,
Сцежку пратаптаў жа,
Сястру дапытаў.

## 461. ОЙ, ЦЁМНАЯ НОЧКА

Ой, цёмная ночка,
Ой, яшчэ цямней будзе,
Люлі, люлі, яшчэ цямней будзе.

Ой, судзяць, гаворадь,
Ды што з мяне будзе,
Люлі, люлі, што з мяне будзе.

Няхай жа і судзяць,
Няхай жа і гавораць,
Люлі, люлі, няхай і гавораць.

А маей натуры
Не перастановяць,
Люлі, люлі, не перастановяць.

Бо мая натура
Айца, матулі,
Люлі, люлі, ды айца, матулі.

## 462. ДЫ У ГАРОДЗЕ ЯЛІНАЧКА

Ды ў гародзе ялінaчка,
Ды за гародам сосна,
Хоць я пяю, весялюся, —
Майму сэрдзячку тошна.
Злыя людзі і суседзі
На мяне налягаюць,
Зямлю маю па́шынечку
Па загону разганяюць,
Дзетак маіх малюсенькіх
Па суседзях разбіраюць.

## 463. БЫЛА ЦІХА НА МОРЫ ПАГОДА

Была ціха на моры пагода,
Дзесь паехаў мой мілы ў дарогу.

Дзесь паехаў мой мілы ў дарогу
Да й пакінуў жану нездарову.

Прыязджае мой мілы з дарогі,
Сустракае жану на парогі:

— Здароў, міла, здароў, чарнабрыва,
Чыя ў цябе на руках дзяціна?

— Была ў мяне цыганачка ўранцы,
Пазабыла дзяціну на лаўцы.

— Брэшаш, міла, брэшаш, чарнабрыва,
Цыганская дзяціна чарненька.

Цыганская дзяціна чарненька,
А руская дзяціна бяленька.

## 464. ЦЁПЛА ЛЕТА, ЯШЧЭ ЦЯПЛЕЙ БУДЗЕ

Moderato

Цёп - ла ле - та, я - шчэ цяп - лей бу - дзе, як мой
мі - лы з да - ро - гі пры - бу - дзе, як мой мі - лы
з да - ро - гі пры - бу - дзе.

Цёпла лета, яшчэ цяплей будзе,
Як мой мілы з дарогі прыбудзе. *

Прыбыў, прыбыў мой мілы з дарогі,
Спаткаў мяне ў сенях на парозе.

— Здрастуй, здрастуй, міла чарнабрыва,
Яка ў цябе на руках дзяціна?

— Ўчора ў мяне цыганачка была,
Ой, то яна дзяціну забыла.

— Брэшаш, міла, брэшаш, чарнабрыва,
Не такая цыганска дзяціна.

— Прашу, мілы, а з сяней да хаты,
То я буду праўданьку казаці:

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

Быў у мяне казак маладзенькі,
Ён начаваў тры ночы цямненькі.

Ён начаваў тры ночы цямненькі,
Я думала, што то мой міленькі.

## 465. ДЗЕСЬ ПАЕХАЎ МОЙ МІЛЫ У ДАРОГУ




Дзесь паехаў мой мілы у дарогу,
Кінуў дома ён жану нездарову.
Э-ха-хо!

Прыязджае праз нядзелю-другую,
Ды знаходзіць ён дзяціну малую.
Э-ха-хо!

— Ой, скажы мне, ой, скажы, дарагая,
Скуль ўзялася та дзяціна малая?
Э-ха-хо!

— У нас двору дзве цыганкі стаялі,
Яны сваіх тут дзяцей пакідалі.
Э-ха-хо!

То, што больша, — пайшло мамку шукаці,
А малое я ўзяла гадаваці.
Э-ха-хо!

## 466. РАСЦВІЛАСЯ РОЗА ПРЫ ПАРОЗЕ




Расцвілася роза пры парозе,
Забавіўся мой мілы ў дарозе.

Ды прыехаў мой міленькі позна,
Параскідаў падушачкі розна.

— Ой, на каго ж, мой міленькі, злуеш,
Што ты маю пасцель белу псуеш?

Ці на свайго каня варанога,
Ці на свайго дружэнька вярнога?

Ці на сваю матулю старую,
Ці на мяне, жану маладую?

— Ні на свайго каня варанога,
Ні на свайго дружэнька вярнога.

Ні на сваю матулю старую,
А на цябе, жану маладую.

А на цябе, жану маладую:
Скуль узяла дзяціну малую?

## 467. ОЙ, ТАМ КАЛЯ РЭЧКІ, ОЙ, ТАМ КАЛЯ БРОДУ

Ой, там каля рэчкі, ой, там каля броду
Заве казак дзеўку з сабою ў камору.
— Не пайду, казача, з табою ў камору,
Бо я, маладзенька, баюсь пагавору.
— Не бойся, дзяўчына, не бойся пагавору,
Казак маладзенькі не зробіць нічога.
Не спіць дзеўка ночку, не спіць і другую,
На трэйцю ночку сільненька заснула,
Казак насмяяўся, дзяўчына не чула.
Ой, легла дзяўчына, як розавы цвяточак,
Ой, ўстала дзяўчына, як белы цвяточак.
Ой, легла дзяўчына, як мак зацвітае,
Устала дзяўчына, рукамі ўспляснула.
— Ой, божа ж мой мілы, шчо я нарабіла,
Шчо я свайму роду няславу зрабіла,
Шчо я свайму бацьку, шчо ■ сваей мацер
І сваей роднай сястры зрабіла няславу.
— Не плач, дзеўка люба, не плач, дзеўка міла,
А я ж табе даю сто рублей на мыла,
Чырвонец на піва, дзвесце на хрысціны,
Дзвесце на хрысціны, для свае дзяціны.
Ты ж будзеш мыцца, півам напівацца,
Да й да свайго роду да й не прызнавацца.
— Эх, я буду мыцца з вечара да ранку,
Не вымыю лічка, яке было змалку.

## 468. ОЙ, МАЦІ, МАЦІ

Allegretto

— Ой, ма_ці, ма_ці, два_рак у ха_це,
сту_ка_е, гру_ка_е, не да_е спа_ці,
сту_ка_е, гру_ка_е, не да_е спа_ці.

— Ой, маці, маці,
Дварак у хаце,
Стукае, грукае, } 2 разы
Не дае спаці.

— Ой, доню, доню,
Бі кацюбою,
Дварака із хаты } 2 разы
Стром галавою!

— Не трэба, маці,
Дварака біці,
Лепей жа яго } 2 разы
Прыгалубіці.

Ой, маці, маці,
Штось каля мяне,

Штось каля мяне
Заварушылась. } 2 разы

Штось каля мяне
Заварушылась,
Ці шчука-рыба
Або дзяціна. } 2 разы

— Як шчука-рыба —
Будзем варыці,
А як дзяціна —
Бога прасіці, } 2 разы

Каб ўмела жаці
І вышываці,
Каб так гуляла,
Як яе маці. } 2 разы

## 469. ПАЛЫН, ПАЛЫН — ТРАВА ГОРКАЯ

Палын, палын — трава горкая,
Мая долечка яшчэ горшая.
Мая долечка яшчэ горшая,
Што мой міленькі не любіць мяне.
Робіць кравацьку адзінокую,
Спацькі кладзецца — к сценцы хінецца.
Мілей сцяна, як я, жана.
Пайду к мамачцы на парадачку:
— Парай, мамачка, што рабіць мне,
Што мой міленькі не любіць мяне.

## 470. ОЙ, ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ

𝅗𝅥 = 102

Ой, пай - ду я лу - гам, лу - гам,
ой, пай - ду я лу - гам, лу - гам,
гам мой мі - лы а - рэ плу - гам.

Ой, пайду я лугам, лугам,*
Там мой мілы арэ плугам.

Панясу я яму есці,
Чы не скажа ён мне сесці.

Панясу я яму піці,
Чы не будзе гаварыці.

Вон напіўся і наеўся
І на роллю паваліўся.

— Чаго лежыш да й не орыш,
Чаго к мене не гаворыш?

— Ой, ляжу я, да й думаю,
Што няўдалу жонку маю.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Ой, няўдалу, неўрадліву,
Да людзей не гаварліву.

— Чы ты сватаўся ўпаўночы,
Шчоб вылезлі табе вочы.

Трэба было хадзіць удзень,
Да й пытацісся людзей.

Нашы людзі не татары,
Шчо пыталі, то й казалі

## 471. ЯК ПАЙДУ Я ЛУГАМ, ЛУГАМ

Як пайду я лугам, лугам,
Арэць мой міленькі плугам.
Як панясу яму есці,
Ці не скажаць ён мне сесці.
Як наеўся, так напіўся,
Па пожанцы пакаціўся:
— Ой, цяжкая арба мая,
Нялюбая жана мая.

## 472. ЯК ПАЙДУ Я ЛУЖ(Ы)КОМ, ЛУЖ(Ы)КОМ

Як пайду я луж(ы)ком, луж(ы)ком, *
Ці не арэ мой мілы плуж(ы)ком.

Ах, вон арэ да й гукае,
Ой, на біты шлях да паглядае.

Шчо ўсе жонкі да й абед нясуць,
А мае да й немае.

Як панясу я яму есці,
Ці не скажа вон(ы) мне сесці.

Вон наеўся, вон напіўся
Да на роллю да й паваліўся.

— Ой, каб жа мне жонка такая,
Як і мая да братавая.

— Ах, я бровы ў сажу ўмажу,
Братавую да пераважу.

А лічанька да памалюю,
З казакамі да памандрую.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 473. ОЙ ВЫ, СІВЫЯ ГАЛУБЫ

Allegro moderato

Ой вы, сі - вы - я га - лу - бы,
ой вы, сі - вы - я га - лу - бы,
на свет бе - лы ды не гля - дзяць.

Ой вы, сівыя галубы, *
На свет белы ды не глядзяць.

На свет белы ды не глядзяць,
Пра нялюбыя гаварацць:

— Не пад мыслі [redacted] жонку ўзяў,
Ой, не стану я з ёю быць.

Ой, не стану я з ёю быць,
Пайду ў войска ды я служыць.

Ой, праслужу ды я гадок,
Павярнуся я ў свой бачок.

Ой, праслужу ды я другі,
Павярнуся я да жаны.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

## 474. ДЫ ВЫЙДУ Я НА ВУЛАЧКУ

Ды выйду я на вулачку,
Ды гляну я туда-сюда:
Адкуль сонейка ўзойдзець.
Адкуль міленькі ўз'ездзіць.
Узыйшло сонейка з-пад зорачкі,
Едзець міленькі з-пад горачкі.
— Паганяй, хлопец, скарэй коні,
Каб не відзеў жаны стоя;
Паганяй, хлопча, скарэй клячу,
Каб не відзеў жаны плача.

## 475. ОЙ, ДА ВЫЙДУ Я ДА НА ВУЛАЧКУ

Ой, да выйду я да на вулачку,
Да стану я на пагурачку.

Ой, да гляну я ў адзін бачок,
Да гляну я ў другі бачок.

Аж там едуць да два госцейкі,
Два госцейкі да родныя.

Да пайду я прымаўляючы,
Каморачкі адмыкаючы.

Каморачкі адмыкаючы,
Міленькага пабуджаючы.

— Устань, устань, да мой міленькі,
Устань, устань, чарнабрывенькі.

Прыехалі да нас госцейкі,
Прыехалі да нас родныя.

— Адыйдзіся, жана нямілая,
Твая радня пастылая.

Як учулі мае брацііфкі,
Як учулі мае родныя.

З страмён ножак не вымаючы
І да мяне ж гукаючы:

— Заставайся, сястра, здарова,
Да няшчасная твая доля.

## 476. ЦЕРАЗ БОР, БОР ДАРОЖКА

Цераз бор, бор дарожка,
Там стаяла бярозка,
Там ехалі два брацiткі,
Там ехалі два родныя.
Едучы гаварылі:
— Паедзем к сястрэ ў госці.
Прыехалі к вароцечкам,
Прыехалі к цясовенькім.
Ай, стук, пастук у варотцы,
Ай, стук, пастук у новыя:
— Атпрыся, сястрыца,
Атпрыся, родная.
— Стойце, братцы, не 'тапруся,
Пайду мілага будзіць.
— Устань, мілы, абачхніся,
На вадзічкі, памыйся,
На вадзічкі, памыйся,
На рушнічок, утрыся,
Прыехалі любыя госці, —
Мае браты, твае швагры.
— Адстань, жана нямілая.
Твае госці нялюбыя.
— Едзьце, брацікі, дадому,
Не хваліцеся нікому,
Сваім жонам, маей мамцы.
Мамка будзець бедаваці,
А жоны будуць паругаці:
У сястры ў гасцях пабывалі
І конікаў не зсядлалі.

## 477. ОЙ, КАБ ЖА Я ЗНАЛА

♩=88–112

Ой, каб жа я зна_ла, што ма_я до_ля лі_
_ха_ я, не пай_шла ж бы я
за_ муж, я ж та_ка_ я ма_ла да_ я.

Ой, каб жа я знала,
Што мая доля ліхая,
Не пайшла ж бы [redacted] замуж,
Я ж такая маладая.

Не купляла б я тога
Вянка руцянога,
Да купіла б я тое
Крыльцо залатое.

Паляцела б я туды,
Дзе мой мілы п'е, гуляе,
Бо ён п'е, ён гуляе
Да іншую падмаўляе.

А я, маладзенька,
Пад вакенцам стаяла,
Пад вакенцам стаючы,
Горкі слёзы ліючы.

Ой, вы мае слёзы,
Не упадзьце нікуды,
Да й упадзьце на тую,
На саперніцу маю.

Да й упадзьце на тую,
На саперніцу маю,
Ой, што нас разлучае,
Нас із жызні збівае.

## 478. ДУБ ДА ДУБА ПАХІЛІЎСЯ

Allegro moderato

Дуб да ду - ба па - хі - ліў - ся,
а дзяў - чы - не сон пры - сніў - ся.
Дуб да ду - ба па - хі - ліў - ся,
а дзяў - чы - не сон пры - сніў - ся.

Дуб да дуба пахіліўся,
А дзяўчыне сон прысніўся. *

Ой, прысніўся сон чудненькі,
Што прыехаў мой міленькі.

А [я] выйшла, адчыніла, —
Не той мілы, што любіла.

Не це вочы, не це бровы,
Не це вусны да размовы.

— Ой ты, коню сівагрывы,
Раскажы, дзе ёсць мой мілы?

— А твой мілы за гарою
Размаўляе із другою.

---

* Кожная страфа паўтараецца двойчы.

## 479. ЯК ЗАЖУРУСЯ, ЗАПЕЧАЛЮСЯ

Як зажуруся, запечалюся,*
Пайду ў вішнёвы сад, развесялюся.
А ў маім садзе сем пар галубоў,
І п'юць, і ядуць, і кахаюцца,
Правым крылушкам абнімаюцца.
Скуль браўся маёр з-пад крутых гор,
Голуба убіў, галубку згубіў.
Ўзяў галубку на правую руку,
Прынёс дадому, пасыпаў пшанічку.
Пасыпаў пшанічку, паставіў вадзічку.
Галубка гудзе, піць, есці не йдзе.
Галубка пайшла, усіх перайшла,
Усіх перайшла, свайго не найшла.
Паехаў за сіне мора, нагнаў галубоў поўна мора.
А я хадзіла, выбірала, няма таго, каго мела.
Адзін высокі і вашаваты,
А мой міленькі прыгожы, багаты.
Гэты высокі дрыгалісты,
А мой міленькі кавалерысты.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 480. ОЙ, РАНА-РАНЮСЕНЬКА




Ой, рана-ранюсенька,
Рана па расе. *

Выганяла Кася волы, —
Развіднялася.

Выганяла Кася волы
У новым дварэ,

Увідала Васіленьку,
На сівым кані.

— Ой ты, Кася-Касюленька,
Відаць, госця жджэш,

Што так рана-ранюсенька
Волікі пасеш?

— А што табе, Васіленьку,
Да маіх гасцей,

Выганяю сівы волы
Для прыемнасці.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 481. ПЛАВАЛА ВУТАЧКА-ГУСЬ НА ВАДЗЕ

Плавала вутачка-гусь на вадзе,
Яе пер'ейка ўсё ў залаце.
— Сучыся, пер'ейка, сучыся,
Учыся, маё дзіця, учыся,
Дык як мілага назваці.
Назавеш яго сакалком,
Накрые ён цябе рукаўком,
Назавеш ты яго душою,
Накрые ён цябе шубою.

## 482. ТРЫ СЯСТРЫЦЫ СТРЫКАЛІСЯ

Тры сястрыцы стрыкаліся,

Ай, каліна, маліна,
Ай, ягодачка мая.*

Сястра ў сястрыцы пыталася:
— Якаво, сястра, за старым жыць?
— А ў клець ідучы, цалуючы, мілуючы,
З клеці ідучы, піхаючы, штурхаючы.
Сястра ў сястрыцы пыталася:
— Якаво, сястра, за роўным жыць?
А ў клець ідучы, цалуючы, мілуючы,
І з клеці йдучы, цалуючы, мілуючы.

* Прыпеў, які паўтараецца пасля кожнага радка.

## 483. СЯСТРА БРАТУ ПІРОГ ДАЕЦЬ

Сястра брату пірог даець,
Пірог даець,
А брат сястру дамоў завець,
Дамоў завець:
— Паедзем, сястрыца, разам дамоў,
Разам дамоў.
— А мой брацітка, мне й тут дабро,
Мне й тут дабро.

## 434. ОЙ, ЗЕЛЕНА, ЗЕЛЕНА У ЛУЗЕ ТРАВА

Ой, зелена, зелена ў лузе трава,
Затым яна зелена, што дождждык ідзе.
Ой, молада, молада ў мужа жана.
Затым яна молада, што доля дабра,
Спіць яна ў пярыначкі да белага дня.
А яе свякровушка ўсё пакрыквае,
Да яе, маладую, ўсё й пабуджвае.
— Ой, матушка, матушка, матушка родная,
Ты не маеш волюшкі над маей жаной.
— Куры каноплюшкі павыгрэбвалі,
А жыта-пшанічанька нязжата стаіць,
А тонкі кужалец да няпрадзен ляжыць.
— Я куры з канопелек сам папужну,
На жыта-пшанічаньку я жней станаўлю,
На тонкі кужалец праллю пасаджу.
Ой, мілая, мілая, мілая мая,
Устань, мы паедзем пракатаемся
Да з сваімі жнейкамі рассчытаемся.

## 485. АЙ, ЗЕЛЕНА, ЗЕЛЕНА Ў ЛУЗЕ ТРАВА

Ай, зелена, зелена ў лузе трава,
За тым яна зелена, што блізка вада.
Ай, молада, молада ў мужа жана,
Ой, затым яна молада, што доля хараша,
Ой, затым яна молада, што блізка карчма.
Ой, пойдзе яна ў карчомачку, нап'ецца віна,
Ой, спіць яна ў пярынушкі да белага дня.
Для яе малютачкі мамкі ды нянькі,
А як пойдзе мілы яе пабуджаці:
— Ой, устань, устань, мілая, годзе табе спаці,
Ой, ужо нашу малютачку па саду носяць,
А ўжо нашы жнейкі у полі нажаліся,
Ой, цябе, міленькая, яны праждаліся.
Ой, пайдзем, мілая, у поле прагуляемся.

## 486. СУДЗІ, БОЖА, НЯДЗЕЛЬКІ ДАЖДАЦІ




Судзі, божа, нядзелькі даждаці, *
То й пайду я да роду гуляці.
А мой родзік не очэнь багаты,
Просіць мяне споўна выпіваці.
Ой, не буду споўна выпіваці,
Ёсць у мяне тры беданькі ў хаце:
Адна бяда — дзяціна малая,
Друга бяда — свякруха ліхая,
Трэцця бяда — мой мілы гняўлівы.
Ой, пайду ж я ціха пад акенца,
Ой, шчо робіць мае міла сэрца.
Сядзіць мілы на белай краваці,
Ручанькай белай лісційка піша,
Ножанькай ён дзяціну калыша.
— Люля й, люля й, дзяціна малая,
Дзесь гуляе маці маладая.
Гуляй, гуляй, мая чарнаброва,
Пакаль мая галоўка здарова.
А як мая галоўка схітнецца,
Тады твае гулянне мінецца.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 487. САЛАВЕЙКА ЛУГАВЫ

Салавейка лугавы, *
Не пой рана на зары.

Не пой рана на зары,
Не будзі свекрыві.

Мая свякроў ліхая,
Да заране ўстае.

Да заране ўстае.
Усім дзела раскажа.

Усім дзела раскажа,
Сама пойдзе і спаць ляжа.

Ой, я выйду на сяло,
Нідзе агню не відно.

У нашай печы жар гарыць,
Маці з сынам гаварыць:

— Чаму жоначку не б'еш,
Нашто волю даеш?

— Нашто маю жонку біць?
Яна ўмее ўсё рабіць.

Усё дзела паробіць
І свякроўцы ўнаровіць.

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Ідзі, мацi, ты ў лес,
Няхай цябе звер із'есць.

Ідзі, мацi, жабраваць,
Чым нас, млодых, разлучаць.

## 488. ДАРОЖКА, ДАРОЖКА, А ТЫ ШЫРАКАЯ

Дарожка, дарожка, а ты шыракáя й, *
Каб па той дарожкі тры сады стаяла.
А ў первым садочку й кукуля кукуіць,
А ў другом садочку й салавей шчабечыць,
А ў трэцім садочку сын з маткай гаворыць.
— Ай, сынку, мой сынку, сынку мой любезны.
Ай, што табе міла, мілей ўсяго свету,
Ці цёшча, ці жонка, ці родная маці?
— Ай, мацъ, мая маці, найшла што пытаці.
Ай, цёшча мне міла, міла для заезду,
Ай, жонка мне міла, міла для савету,
Ай, маці мне міла, мілей ўсяго свету.
Насіла, балела, раджала, ўмірала,
Ай, цём(ы)ныя ночкі, ночкі не ўсыпала,
З калыбера ножкі, ножкі не ўнімала.

---

* Кожны радок паўтараецца двойчы.

## 489. ЯК АЖАНІЛА СЫНА

Як ажаніла сына,
То была ў мяне сіла.
А аддала дочку,
Трудна й жываточку.
А хто мне выпера
Белую сарочку?
А як дочка прала,
То белу пасцель слала,
Да й бога прахала:
— Каб мая мамонька
Здаравенька спала.
А нявехна прала,
Сем раз праклінала:
— Каб мая свякроўка
Здарова не ўстала.
— А сынку вярнейшы,
Хто табе мілейша,
Ці жонка, ці цешча,
Ці родна мамонька?
— Ой, цешча мне міла,
Бо жану радзіла,
А жонка мне міла,
Бо верна дружына,
А мамонька міла,
Шчо мяне радзіла.
Як мяне раджала,
Тры разы ўмірала;
Адну ночку свечачка палала,
Як мяне мамонька
На свет яўляла.

## 490. А ПА ВОЗЕРУ, А ПА СІНЕНЬКАМУ

А па возеру, а па сіненькаму,
Селязенька плывець,
Сваю вутачку, сваю шэрую,
За сабою вядзець.
— А ты, вутачка, а ты, шэрая,
А ці тут начаваць?
Калі тут начавацъ, калі тут начавацъ,
Дак гняздзечка савіваць.
Калі далі ляцець, калі далі ляцець,
Разлягайся, трава,
Разлягайся, трава, разлягайся, трава,
Разлівайся, вада.

А па сенічках, а па новінькіх,
Там Якімка ідзець,
Сваю Тацянку, сваю душачку,
За сабою вядзець.
— А ты, Тацянка, а ты, душачка,
А ці тут начавацъ?
Калі тут начаваць, калі тут начаваць, —
Караваць будаваць.
Калі далі ехаць, калі далі ехаць,
То коніка гадаваць.
Запрагайце каня, запрагайце каня
У маляваны вазок,
Мы ж паедзем, мая душачка,
У татулькаў дварок.

## 491. А ПА МОРУ, МОРУ

А па мору, мору,
Мору сінему
Селязенька плывець. *

Сваю вутачку,
Сваю сізую
За сабою вядзець.

— А ты, вутачка,
А ты, сізая,
А ці тут начавааць?

Калі тут начаваць,
Калі тут начаваць, —
Гняздзечка савіваць.

Калі далей плысці,
Калі далей плысці, —
Разлівайся, вада.

Разлівайся, вада,
Разлівайся, вада,
Разлягайся, трава.

А па сенечках,
А па новенькіх
Молад Сенька ідзець.

Сваю Валечку
Маладзенькую
Ён за ручку вядзець.

* Кожны трэці радок паўтараецца двойчы.

— А ты, Валечка
Маладзенькая,
А ці тут начаваць?

Калі тут начаваць,
Калі тут начаваць, —
Каравець будаваць.

Калі далей ехаць,
Калі далей ехаць,—
Запрагайце каня.

Запрагайце каня,
Запрагайце каня
У маляваны вазок.

Воз маляваны,
Воз маляваны,
І фурман каханы.

## 492. ЦЕМНА НОЧКА ДЫ НЯВІДНАЯ

Цёмна ночка ды нявідная,
Галовачка мая бедная.

З кім я буду начаваці,
Што я буду ды вячэраці?

Капусціну ды лебядзіну,
Шчуку-рыбу ды ашатрыну.

Пушчу каня на даліну,
Сам пайду я да дзяўчыны.

Сам пайду я да дзяўчыны,
На пуховы ды на пярыны.

## 493. А Ў НОВАЙ КАМОРЫ

А ў новай каморы
Нехта гавора. *

Эй, Маруську Пятрочка
Ўсё ўгаварвае:

— Эй, Маруська, душа мая,
Дзе ложак твая?

Маруська, душа мая,
Ты здагадалася

І ў новай каморы
Спацькі клалася.

---

* Кожны другі радок паўтараецца двойчы.

## 494. ЧЫЕ ПЧОЛЫ НА ДУБРОВЕ

Allegro

Чы – е пчо – лы на дуб – ро – ве,

а ма – е ў са – доч – ку, а

хто лю – біць да – лё – ку – ю, а

а су – ся – доч – ку, а // – ку.

Чые пчолы на дуброве,
А мае ў садочку,
А хто любіць далёкую,
А я сусядочку.

А я тую, далёкую,
Людзям падарую,
А да свае суседачкі
Я й сам павандрую.

Ой, у тае, далёкае,
Валы ды каровы,
А ў гэтае суседачкі
Чорненькія бровы.

Голуб сівы, голуб сівы,
Галубка сівейша,
Айцец мілы, матка міла,
Дзяўчына мілейша.

З матуляю пасваруся —
Граху набяруся.
З дзяўчынаю лягу спаці —
Не разгаваруся.

## 495. ЯК У САДЗЕ, У САДОЧКУ

Як у садзе, ў садочку
Там зязюля кукуець,
Каб я знала, каб я ведала,
Дзе мой мілы начуець. *

Калі ў полі, ў дарозі, —
Памажы яму, божа,
Калі ў дзевачкі, на пасцелечкі,
Накажы яго, божа.

А пайду я, пайду я,
Куды раньшы хадзіла,
Ці не ўвіджу я, ці не ўбачу,
Каго раньшы любіла.

Сядзіць мілы над ракою,
Ён падпёршы рукою,
Пісьмо пішыць, цііжало дышыць,
Не гаворыць са мною.

Ці ж я не такая,
Як і тая другая,
Я й харошая, і й прыгожая,
Толькі доля ліхая.

---

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

## 496. ЯК ПАЙДУ Я Ў ЛУГ ПА КАЛІНУ

Як пайду я ў луг па каліну,
Да выламлю калінаву ветку.
Горша, горша мне ягодкі есці,
Ідуць, ідуць мне ад татулькі весці:
Хочуць аддаць мяне за старога.
А я старога здаўна не любіла,
Па яго следу камень пракаціла.
Цяжка, цяжка мне камень каціці,
Да цяжэнька за старэнькім жыці.

Як пайду я ў луг па маліну,
Да выламлю малінаву ветку.
Салодка мне маліначкі есці,
Ідуць, ідуць мне ад татулькі звесці:
Хочуць аддаць мяне за малойца.
Я й малойца і здаўна любіла,
Па яго следу персцень пракаціла.
Лёгка было мне персцень каціці,
Лёгенька за малойцам жыці.

## 497. І ТУДЫ ГАРА, І СЮДЫ ГАРА

І туды гара, і сюды гара,
Ай, між‌ду тымі горамі крутымі
Ўсхадзіла зара. *

Ета не зара, — дзяўчына мая,
Яе бровi чорныя і ліцо румянае,
За вадою йшла.

— Дзяўчына мая, напой мне каня,
Ай, з тае, з тае, з тае крынічэнькі,
З поўнага вядра.

— Напаю каня, як буду твая,
Ай, та́ды сядзем, сядзем ды паедзем
Да твайго двара.

Ў цябе ні двара, ў цябе ні кала,
Ай, толькі ста́іць адзін куст каліны,
Й тая не цвіла.

— Каліна мая, чаго не цвіла?
— Ай, былі, былі сільныя марозы,
Змарозілі міня.

— Дзяўчына мая, чаго ж ты ад(ы)на?
— Ай, былі войны, ўсіх рабят пабілі,
Пары не знайшла.

---

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

## 498. УЖО СОНЦА НІЗЕНЬКА

Allegretto

Ўжо сон - ца ні - зень - ка, ўжо
ве - чар блі - зень - ка, пры - бы - вай, пры-
-бы - вай, ка - за - ча - сар - дэнь - ка.

Ўжо сонца нізенька,
Ўжо вечар блізенька,
Прыбывай, прыбывай,
Казача-сардэнька.

Прыбывай, прыбывай
Аж да мае хаты,
То [illegible] цябе пушчу,
Каб не чула маці.

Ой, як я пускала, —
За ручку сціскала,
А як выпраўляла, —
Сільненька плакала.

Сільненька плакала,
Казака пытала:
— Ці ёсць ў цябе жонка,
Ці ёсць ў цябе дзеці?

— Ёсць у мяне жонка,
Яшчэ дзетак двое,
Адхіліся, дзеўка,
Баліць сэрца мое.

## 499. ОЙ, ЗНАЦІ, ЗНАЦІ

Scherzando

Ой, зна - ці, зна - ці, хто лю - біць

поль - ку: вы - бі - та сце - жач - ка

це - раз фа - соль - ку, // соль - ку.

Ой, знаці, знаці,
Хто любіць польку:
Выбіта сцежачка
Цераз фасольку. *

Ой, знаці, знаці,
Хто беларуску;
Выбіта сцежачка
Цераз пятрушку.

Ой, знаці, знаці,
Хто каго любіць;
Хоць здаля сядзе, —
Сэрцам галубіць.

Ой, знаці, знаці,
Хто з каго кпіцца;
Блізка сядае, —
К чорту дзівіцца.

---

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

## 500. З СЕРАДОНЬКІ НА ЧАЦВЕР

Allegretto

З се_ ра_донь_ кі на чац_ вер, па_ мя_ та ю,

як ця_ пер, вя лі мя_ не ба_ дзя - кі

це - раз рэч_ ку два дзя - кі.

З серадонькі на чацвер,
Памятаю, як цяпер,
Вялі мяне бадзякі
Цераз рэчку два дзякі.

— Не вядзіце ў асаце,
Бо [redacted] накалюся,
Я гарэлкі не піла,
Я вас не баюся.

Завядзіце ў лебяду,
Бо лябёдка дробна,
Засцяліце хвартушыну,
Бо я благародна.

Ой, ішла я праз сяло,
І было мне стыдна:
Нясла курку пад пахою,
Было хвосцік відна.

## 501. МАТУШКА-ЛАСТУШКА, ГАЛОЎКА БАЛІЦЬ

— Матушка-ластушка, галоўка баліць.
— Дзецічка мілая, платком завяжы.
— Матушка-ластушка, платок караток.
— Дзецічка мілая, другім падвяжы.
— Матушка-ластушка, жыватох баліць.
— Дзецічка мілая, ляж на печ, паляжы.
— Матушка-ластушка, дзіця радзіла.
— ...Страмніца, з кім прыжыла?
— Матушка-ластушка, з паповым батраком.

## 502. ПАСЕЮ ШАЛВЕЮ

Moderato

Па - се - ю шал - ве - ю ра - нень - ка ў ня -
- дзе - лю, за лю - ты - мі ма - ра - за - мі
шал - ве - юш - ка не ўзы - хо - дзіць.

Пасею шалвею
Раненька ў нядзелю,
За лютымі маразáмі
Шалвеюшка не ўзыходзіць.

Ідзе мой міленькі
З карчомкі п'яненькі:
— Ой, адчыні, міла, брамы,
Бо я іду, твой каханы.

— Ой, я не адчынюся,
Бо цябе баюся.
Расступіся, сыра зямля,
То я ў табе схаваюся.

Зямля расступіла,
Я лезці не пасмела,
Даруй, божа, мае грахі,
Што я, бедна, саграшыла.

## 503. ДОЛЯ МАЯ НЕШЧАСЛІВА

*Палюбіла шмаравоза*

Moderato

До - ля ма - я не - шча - слі - ва, што я

на - ра - бі - ла: па - лю - бі - ла шма - ра

- во за, до - ля не шча - слі - ва.

Доля мая нешчасліва,
Што я нарабіла:
Палюбіла шмаравоза,
Доля нешчасліва.

Той шмаравоз намазаў воз,
Паехаў ў дарогу,
Мяне, младу, маладую,
Пакідае дома.

Напяку ж я піражочкаў
І белага сыра,
А хто прыйдзе на вячоркі,
Таму буду міла.

Адзін кажа: «Куме, куме!»
Другі: «Браце, браце!»
Як узяў жа за чупрыну,
То й з парога цягне.

Уцякаў жа той дзячэнька
Цераз тры гароды,
Ублытаўся ў гарбузенне
І нарабіў шкоды.

— Вы, дзяўчаты-маладзіцы,
Вы, добрыя людзі,
Выблытайце з гарбузення,
Вам шкоды не будзе.

Лепей была ў сваім доме
Бульбачка без солі,
Ніж ў чужое маладзіцы
Піражкі на столе.

Лепей было ў сваім доме
На сухой драбіне,
Ніж ў чужое маладзіцы
На белай пярыне.

## 504. НЕ ЖАНІУСЯ — БЫЛО ГОРА

Не жаніўся — было гора,
Ой-ё-ёй,
А жаніўся — стала гора,
Ой-ё-ёй.

Няма ў хаце лыжкі, міскі,
Ой-ё-ёй,
Да калыскі трэба нянек,
Ой-ё-ёй.

Да калыскі трэба нянек,
Ой-ё-ёй,
А да печкі кашаварак,
Ой-ё-ёй.

Дам я жонцы тры капейкі,
Ой-ё-ёй,
— Пайдзі, жонка, на базар,
Ой-ё-ёй.

Пайдзі, жонка на базар,
Ой-ё-ёй,
Купі, жонка, хлеба, солі,
Ой-ё-ёй.

Хлеба, солі не купіла,
Ой-ё-ёй,
На базары заблудзіла,
Ах, божа мой.

— А вы, людзі, мае людзі,
Ой-ё-ёй,

Не бачылі жонкі мае?
Ой-ё-ёй.

Не бачылі жонкі мае,
Ой-ё-ёй,
Мая жонка з прызнакамі,
Ах, божа мой.

## 505. У НЯДЗЕЛЬКУ П'Ю, П'Ю

У нядзельку п'ю, п'ю,
У панядзелак сплю, сплю,
А ва ўторак снапоў сорак
Пшанічаньку б'ю.
Набіла пшанічкі
Чатыры дайнічкі,
Пойдзем жа прап'ём,
Мае вы сястрычкі.
Жана з карчмы нахіляецца,
А муж з жаны насміхаецца:
— А мая ты міла,
Куды ты хадзіла?
— Я на полі хадзіла,
Цябе шукала.
— А мая ты міла,
Няпраўду сказала,
Ты ў карчомцы была,
З казаком гуляла.
Зацвіла, зацвіла
Ў полі каркалуша,
Зазлавала жана
Да на свайго мужа,
Як прыйшла ды лягла,
Зрабілася нядужа.
— Устань, устань, жонка,
Прынёс табе піва.
— Бадай жа ты спокуй,
Я не буду жыва.
— Устань, устань жонка,
Прынёс табе мёду.
— Бадай жа ты спокуй,
Я не ела зроду.

— Устань, устань, жонка,
Прынёс табе гарэлкі.
— Бадай жа ты спокуй,
Схавай для дзеўкі.
— Устань, устань, жонка,
Прынёс табе дубінку.
Буду лячыць, буду лячыць
Галовачку, спінку.
Як ляжала, як ляжала,
Так скоранька ўстала:
— А мой жа ты мужу,
Я цябе шаную,
Запрагу бараноў,
Тры дні бараную.
Ой, я бараную,
Сяду, адпачыну,
Як запрагу я калёсы,
Еду па лучыну.
Пад гару еду,
Сама прысядаю.
— Ой ты, косю, косю,
Ты не станавіся,
Ты на мяне, маладу,
Болей не сварыся.

40. Зак. 308

## 506. ЖАНА НА МУЖА ГНЕВАЛАСЯ

Жана на мужа гневалася,
Гневалася.
Не вячэраўшы спацькі лягла,
Спацькі лягла.
— Устану ра́ненька, умыюся бе́ленька,
Паснедаю, паснедаю.
Запалю свечачку, пайду у печачку,
Там парася, там парася.
Скруціла, звярцела, адна яго з'ела,
Я й хараша, я й хараша.
Чатыры качачкі, гаршочак кашачкі,
І таго мала, і таго мала.
Ехалі жаўнеры, на мяне глядзелі,
Што я дабра, што я дабра.

## 507. ЖАНА МУЖА ЗАШАНАВАЛА

Жана мужа зашанавала,
На папары навязала.
Палажыла сена вязку,
Паставіла вады ражку.
— Еж, мой міленькі, да напівайся,
На чужых жонак не заглядайся.
Яі б навязала на канюшыне,
Дык я баюся, што ён загіне.
Я б навязала на сарадэлі,
Так баюся, каб ваўкі не з'елі.
Сама пайшла на заўтрая глядзець,—
Вязка сена цалюсенька,
Ражка вады паўнюсенька,
А мой мілы круглюсенькі.

## 508. НЕ ВЕДАЛА ЖОНКА

Не ведала жонка,
Як мужыка ўчыці,
Запрагала ў борану,
Пайшла валачыці.

Выпрагала з бараны,
Запрагала ў ярма:
— Не еш, не еш, мой міленькі,
Ў мяне хлеба дарма!

Выпрагала з ярма,
Запрагла ў калёсы:
— Не сядзі дарэмна ў хаце,
Паедзем да лесу!

Прыехалі з лесу,
Трэба адпачыці...
— Бяры хутчэй цэпа ў рукі,
Ідзі малаціці!

Бяры цэпа ў рукі,
Ідзі малаціці,
А я да карчомкі
Гарэлачку піці!

Прыйшла з карчмы, набурчала:
— Калышы дзяціну,
А я, млада-маладая,
Пайду адпачыну!

## 509. А ЗАЗВАЛІ МЯНЕ Ў ПІР




А зазвалі мяне ў пір,
Пасадзілі на куце. *

Мне ж і есці даюць,
Мне і піці даюць.

Но толькі мне не люба,
Што й з старым спаць кладуць.

А й дзе ж тыя таржочкі,
Што старых прадаюць?

Я б старога прадала,
Я б тры грошы узяла.

Маладога б купіла,
Я б золатам плаціла.

---

* Кожная страфа паўтараецца двойчы.

## 510. АЙ, ПАЕДЗЕМ МЫ

♩=60

Ай, па- е- дзем мы, ай, па- е- дзем мы

толькі для першай страфы ♩=84

к мам-цы ў гос- ці- кі. Мой муж на- ка- кі,

я, ма- ла- да, на свін-ні, дзет- кі на каз- лят- ках.

Ай, паедзем мы *
К мамцы ў госцікі.
Мой муж на кані,
Я, малада, на свінні,
Дзеткі на казлятках.

Ай, як сядзем мы —
Мой муж на куце,
Я, малада, длі яго,
Дзеткі длі мяне.

Ай, як вып'ем мы —
Мой муж піўца,
Я, малада, вінца,
Дзеткі гарэлачку.

---

* Кожны першы радок паўтараецца двойчы.

Ай, закусім мы —
Мой муж піражком,
Я, малада, тваражком,
Дзеткі сырчыкам.

Ай, зайграем мы —
Мой муж у дуду,
Я, малада, ў гудуду,
Дзеткі ў жалеечку.

Ай, станцуем мы —
Мой муж казака,
Я, малада, драбака,
Дзеткі вальчыка.

## 511. МАЕ МУЖЧЫНАЧКІ, СКАЖУ Я ВАМ НАВІНУ

Мае мужчыначкі, скажу я вам навіну,
Што сівая свіння на дубе гняздо звіла,
На дубе гняздо звіла, казянятак прывяла.
А мой муж прамудры быў, шылам сена накасіў,
Пад прыпечкам стог злажыў,
Стог злажыў, казянятак накарміў.

## 512. ЯК ЗАДУМАЎ ПАН ВЕРАБЕЙ

Allegro

Як за - ду - маў пан ве - ра -
бей ху - цень - ка жа - ніц - ца,
1-5.
смач - ных рэ - чаў ска - шта - ваць і мё - ду на -
- піц - ца. 6. // за зда - роў - е ве - ра - б'я.

Як задумаў пан верабей
Хуценька жаніцца,
Смачных рэчаў скаштаваць
І мёду напіцца. *

Выдаў мяшок асцякоў
І назад вярнуўся.
Мосце-пане верабей,
Да шлюбу гатуйся.

Запрагайце шасцёх коней
Пад пояс шырокі,

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца двойчы.

Я паеду у залёты
Да пані сарокі.

Крук і качар і пятух
Прад ім прадкавалі,
Два індыкі паперадзе
Ім песні спявалі.

А сарокі-белабокі
Пайшлі танцаваці,
А вароны, стары жоны,
Гэта замячаці.

А вароны, стары жоны,
Елі, пілі, аж да дня,
Елі, пілі аж да дня
За здароўе вераб'я.

# ХРЭСЬБІННЫЯ ПРЫПЕЎКІ

1

Кумка рыбку пячэ,
З скавародкі цячэ.
— Пастой, кумка, не пячы,
З скавародкі палячы.
Ў каго русы вусок,
Таму рыбкі кусок.
Ў каго рыжа барада,
Таму і юшкі шкада.

2

Ішоў кум да кумы
Цёмнае ночы,
Сядзіць сава проці яго,
Вытрашчыўшы вочы.
Ён на яе: гіля, гіля!
Яна і прысела.
Каб не тая кума яго,
Яна б яго з'ела.

3

Завітай, завітай,
Келішак зялёны!
Хто вып'е дванасце,
Тэн бэндзе збавёны.

4

Ой ты, кум, кумянёк,
Чыні сваю волю.
Ой, хадзем, паскачэм
Гайдучка з табою.

5

А кумок, галубок,
Чыні сваю волю.
Ой, пойдзем гайдучка
Да ўдваіх з табою.

6

Як жа кумы не любіць,
Кеды кума ладна.
На ёй сукня, як на пані,
Панчошка едвабна.

7

Завітай наша флаша,
Келішку зялёны!
А кто з него выпіе,
То бедзе збавёны.

8

— Такі, кума, дайся.
Такі дагадайся,
Такі часам пад поясам
Пашчупаці дайся.
— Чы ты, куме, п'яны,
Чы ты апантаны?
Чы ты, куме, зыйшоў з ума?
То ж я твая родна кума.

9

Кум да кумы едзе,
Кума ў велькай бедзе.
— Ой, мой куме, мой злоты,
Выбаў мяне з клапоту...

10

Прыехалі на даліну.
— Давай, кумко, бо я згіну.
— Ці ты, куме, п'яны,
Ці ты апянтаны?
Ці ты, куме, без розума?
То ж я, твая родна кума.

11

— Кацярына, кума мая,
А ў гародзе свіння твая.
— Няхай рые, хоць начуе,
Бо салодкі корань чуе.

12

Да хто ідзе? Кум да кумы.
Да што нясе? Куль саломы.
А што ў том кулі, кулі?
Чаравічкі кумі, кумі.

13

Палядзі, дзядзько,
Што дзядзіна робіць:
Да ўсе куркі папродала,
Адзін пеўнік ходзіць.

Я пеўніка не прадам.
Бо ён дома гаспадар.
Каля рэчкі прайшоў,
Скакарэчыўся,
Сабе ножку зламаў
І скалечыўся.

14

Кума мая харошая
Харашо скакала,

Як у маём свіраначку
Гарэлка стаяла.

15

Каціласяя, валілася
Калодачка з печы,
Ой, пабіла калодачка
Бабулечцы плечы.

16

Ай, кум [к] куме } 2 разы
Баразёнкай паўзець.
Ай, кум куме } 2 разы
Агурэчкі нясець.

17

А чарачка крышталёвенькая,
Ды чаму яна не поўненькая?
Ці ты, чарачка, пабітая,
Ці ты поўна не налітая?

18

А хто п'е, таму налівайце,
А хто не п'е, таму не давайце.
А хто п'е, чалавек добры,
А хто не п'е, таму век доўгі.

19

А чарачка-радовачка,
Як я цябе люблю,
А хто ж цябе піць будзе,
Да як жа я ўмру?

# ПРЫГАВОРКІ БАБКІ І КУМА

## 20

Бабка перад ад'ездам кумоў з дзіцем:

— Дзе тут ёсць айцец, матка, браты, сёстры, дзядзькі, цёткі, суседзі, прыяцелі, бліжнія, дальнія, невыборныя,— усіх пакорна прашу дзіцятка да храста паблагаславіць.

## 21

Бабка, перадаючы дзіця кумам:

— Наце вам народжана, нам прынясець хрэшчна...

Занясі, божа, да храста святога, пазволь, божа, ва хрысціянску веру ўвясці. Прывядзі, божа, і парадзіллю да першага здароўя; дай, божа, шчоб вана яго ахрысціла і да розума давяла, і на вяселлі пагуляла.

## 22

Кум разам з кумой, аддаючы дзіця бацьку пасля вяртання з царквы:

— Наце ваша раджонае, а наша хрышчонае. Судзіў бог бачыць пад храстом, судзі, божа, бачыць пад вянцом.

## 23

Кум, перадаючы дзіця бацьку:

— Дай жа, божанька, штоб вам у ём мець пацеху, у горасці — уцеху.

## 24

Як бабка ставіць гаршчок кашы на стол.

Б а б а: Ну, гаспада кунпанія, госці дарагія! Прасілі вас на хлеб, на соль, вот прашу і на бабіну кашу, прашу паклась па чырвонцу...

*Усе кладуць па два грошы ці па чатыры...*

К у м (*разбіваючы гаршчок*): Ой, баба, які гаршчок крэпкі ў ганчара выбрала. Ніяк не разбіць.

Б а б а: Ну, кумок, у другі раз як пайду, дак не буду браць такога крэпкага. Ужэ прыстаўлю дзіравы, абы кашу зварыць.

К у м (*б'е ціхенька гаршчок у другі раз*): Ай, баба, ці не зялезны твой гаршчок? Ніяк не разаб'еш.

Б а б а: Ну-тка бі, бі! Відна, кумок мала еў.

*Гаршчок разбіваецца.*

Б а б а (*бярэ чарапочкі ад гаршка*): На каго каша нахінецца, таму кварту купляць.

Г о с ц ь (*у адказ*): А табе штонядзелі быць у етым дзелі.

## 25

Б а б а: Кумочак-галубочак, салавейка, прахаю цябе, не бі майго гаршка, бо ён жа ў мяне не просты, а срэбны з залатымі беражкамі, да й не тут купаваны, я ж за ім едзіла ў Альвова.

К у м: Бабко! Ты ўжо стара, трохі слепа, не дабачыш, гэта ж гаршчок гліняны да й той расколаты.

Б а б а: Ты, куме, пап'ян, то і не бачыш.

К у м: Я хоць і пап'ян, але ж ўсё-такі бачу, што гэта чэрап, а не срэбны, а калі срэбны, то ён не разаб'ецца. (*З размаху разбівае гаршчок аб стол*).

Г о с ц і: Але ж ты, куме, добра б'еш гаршкі, каб ты так біў цэпам да касою.

К у м: Я майсцер на ўсё, а падчас, як п'яны з каршмы прыйду, то і жонцы ўсе гаршкі пераб'ю.

## 26

Каша гатуецца там, дзе ксціны. Кашу даюць бабе, яна ставіць на стол.

К у м (*спрашвае*): Аткуда прыйшла?

Б а б а: Пусціце на́нач.

К у м: Вашы дакументы.

Яна дае палатно, гэта «дакументы». Становіцца на лаву, абкрываецца палатном:

— Вот мае дакументы.

Кум бярэ, чытае, што ўздумае. Тады:

— Пусціць старуху нанач?

У с е: Раз дакументы харошыя, пусціць нанач. Старуха харошая.

Тады баба садзіцца ўжо за стол.

27

Баба, як падымае высока кашу:

— Пашлі, гасподзь, штоб наш сынок вялік рос і шчасліў быў. На палке́ рабяткі, пад палком цыляткі, а на варку жарабяткі. Пашлі, гасподзь, у этат дом хлеб да соль, ва полі капамі, на лугах стагамі, у амбары карабамі, на гумне варахамі, а ў печы пірагамі.

28

Бабка, як ставіць кашу на стол:

— Радзі, божа, хлеб, пладзі, божа, статак, цялятак на вару, дзетак на палу! Зміры, божа, цароў і каралёў і ўсю браццю нашу!

Хто мой гаршчочак разаб'ець, тэй паўгарчыка гарэлачкі вазьмець.

29

Бабка, калі ставіць сваю кашу на стол:

— Дай жа, божа, каб у гэтым доме было многа дзетак на палу, жарабятак з цыляткамі на двару, парасятак з ягняткамі на вару і ўсякага дабра гэтаму двару.

30

Бабка, як падносіць усім кашы на чарапку разам з чаркай гарэлкі:

— На-тка бабінай кашы, паглядзім на рублікі вашы. Гарэлачку выпі, кашай заясі, талерачку пазалаці.

31

Бабка пры раздачы кашы:

— Во пасылаець вам пані палагава́я кашы і масла к ней. Кушайце за здаровейка нашай радзіны, штоб здароў быў і добра малаціў.

## 32

Як бабка ставіць перад кумамі гаршчок з кашай і бутэльку салодкай гарэлкі, што падаў ёй бацька нованароджанага:

— Мой унучак,— ваш хрэснік,— кашку прыслаў, а бацька ягоны вінца здагадаў. Прашу адведаць, бабку пацешыць, унучка паславіць, маць з бацькай паздравіць.

З гэтай жа прамовай бабка звяртаецца і да іншых гасцей.

## 33

Кум ад сябе і ад кумы адказвае:

— Нам хрэснік —прыветнік, не ўстаў ўзрасці,—вялеў кашу нясці, гасцей частаваць, дабра нажываць. Дай, божа, здароўя яму, быць вумнаму, разумнаму, шчасліваму, багатаму, радзіцелям пацехай ва мла́дасці, карміцелем іх старасці, а нам — гуляць на радасці. Маць з бацькаю паздраўляем, прыбыткаў большых жалаем. Бабу за ўнука і ўгашчэнне прывячаем.

## 34

Кашу з ячменю кум разбіваець, потым адкупляець.

Кум: Я разбіваю, я адкупляю.

Бабка: Плоцім за кашу, не за вашу,— за нашу.

Усяго тварыцца: і спяваюць, і танцуюць.

## 35

Бабка, кладучы на талерку тры грошы:

— Бог да нас чужаземца прыслаў і ад вас, дзядзькі і цёткі, успамогу ўзяць заказаў. Прашу чым яго падарыць, каб было за што мыла купіць, і прашу нікому не адмаўляць, бо будзе чужаземец смаракаваць, бо ён з далёкіх строн прыбыў і вас усех накорміць і напоіць. Дайце, а не адмаўляйце. Гэты госць прыбыў, каб век тут быць.

## 36

Бабка, атрымаўшы падарунак ад парадзіхі:

— Дзякуй, унучка і ўнучак, за падарак і піражок. Каб мой унучак, а ваш сынок, вялікі рос і вяселлем трос.

37

Бабка на «муравінках», абвязаўшыся падараванай халсцінай:
— Каб мой унук вялікі рос, шчасліў быў! Каб на яго долю паслаў бог усяго ўволю!

38

Кум, б'ючы кашу (гаршчок):
— Гадуй, божа, малое, да каб на той год другое.

## ЗАСТОЛЬНЫЯ ТОСТЫ І ЖАРТЫ

39

Няхай гаспод гадуе да долю гатуе. Дай, божа, прыждаць ды вяселле гуляць.

40

Гаспадар, падняўшы першую чарку, да бабкі:
— Будзем жывы і здаровы, бабуля!
Б а б к а: Сахарам на душу, галубок.

41

Кум, падняўшы першую чарку:
— Як мы відзелі Ваньку пад храстом, штоб так відзелі пад вянцом; штоб добра пахаў ды добра малаціў. *(Да бацькоў)*: Дай бог вам і на лета эта

42

Дай жа, божа, на жыццё, на быццё, на добрае здароўе, на доўгі век.

43

Гаспадыні — талерачку, гаспадару — гарэлачку, сыну — долі шчаснае.

44

Будзь багаты, Аляксей, поўнай хатаю дзяцей.

45

Каб свой розум і навука далі сыну сілу ў рукі.

46

Хай шануе сын зярнятка, будзе людзям, будзе і ў сваю хатку.

47

Прывячайце гасцей, каб на радзіны хадзілі часцей.

# ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАЎКІ

48

У нашай Кацярынкі штогод хрэсьбіны і радзінкі.

49

Што гадок, то і сынок.

50

Што гадок, то і ядок.

51

Бабіных груш не руш, а свае трасі — бабе нясі.

52

Бабка на гарэлку слабка.

53

Кумаўство — не вялікае сваяўство [прыяцельства].

54

Пана ў кумы не бяры, у хату здольніка не прымай, жонцы праўды не кажы.

55

Як не кум, то да кумы не падладжвайся.

56

Кума звяла з вума.

57

Хто кумы не цалаваў, той і слодычу не знаў.

58

Кума куму не наробіць шуму.

59

Не разбіўшы гаршчочка, не будзеш есці кашкі.

60

Гнісь, кум, не гнісь, да каля кішэні павярнісь.

61

Кум куме — палціну, а кума — халсціну.

62

На вяселле ідуць з вачамі, а на ксціны — з жыватамі.

63

З добрага цеста добрая паляніца, з добрай дзеўкі добрая і маладзіца.

64

Без жонкі не банкет, а без хлеба не абед.

65

Не тая маці, што нарадзіла, а тая маці, што ўскарміла.

66

Жонка твая сямейніца, што год — то ўдод.

67

Што родзіцца, усё згодзіцца.

68

То не кума, што з кумам не піла.

69

Ехаў дахаты, а трапіў да кумы.

70

Кума ад кума без ума.

71

Не быўшы кумам, не піць піва.

72

Хто бабе не ўнук.

# АСНОЎНАЯ ЛІТАРАТУРА І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Альхимович — П. Ф. Альхимович. Сборник белорусских народных легенд, былин, песен, с описанием некоторых обрядов, обычаев, праздников и игрищ крестьян Себежского уезда Витебской губ. 1882—1890. АГТ, V, 7.

Аникиевич — К. Т. Аникиевич. Сенненский уезд Могилевской губернии. Могилев, 1907.

Бел. п. — Беларускія песні. М., 1946.

Богданович — А. Е. Богданович. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895.

Выпісы — М. Гарэцкі і інш. Выпісы з беларускае літаратуры, ч. І. 1. Вусная народная творчасць. 2. Старадаўняе пісьменства. М.—Л., 1925.

Гарэцкі, Ягораў — М. Гарэцкі, А. Ягораў. Народныя песні з мелодыямі. Мінск, 1928. (ІБК. Беларуская этнаграфія ў доследах і матэрыялах. Кн. IV).

Грынблат, 1940 — М. Я. Грынблат. Доля жаночая ў беларускім фальклоры. У кн.: Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1940.

Грынблат, 1967 — М. Я. Грынблат. Сямейна-абрадавая паэзія. У кн.: Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць. Гісторыка-тэарэтычнае даследаванне. Мінск, 1967, стар. 77—90.

Даль — Владимир Даль. Толковый словарь живого великорусского языка. I—IV. М., 1955.

Дембовецкий — А. С. Дембовецкий. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. І. Могилев, 1882.

Добровольский — В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник. Ч. II. СПб, 1894.

Довнар-Запольский — М. В. Довнар-Запольский. Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов, вып. 1. Песни пинчуков. Киев, 1895.

Довнар-Запольский, Оч. — М. В. Довнар-Запольский. Очерки семейственного обычного права крестьян Минской губ. Исследования и статьи, т. І. Киев, 1909.

Дроздов — М. А. Дроздов. Из этнографии Смоленского края. 1. Крестины. Смоленский вестник, 1896, № 41, 44, 47.

Дубяйкоўскі — Народныя пагаворкі. Сабраў Л. В. Дубяйкоўскі. Рукапіс. (Б-ка АН БССР. Аддзел рэдкай кнігі).

Е. П. — Е. П.(ассек). Народные белорусские песни. СПб, 1853.

Елатаў — В. І. Елатаў. Ад песні да песні. Мінск, 1961.

Жанч. — Жанчына ў беларускай народнай творчасці. Мінск, 1940.

Жарт. пісні — Жартівліві пісні. Родинно-побутові. Київ, 1967.

Зеленин — Д. К. Зеленин. Описание рукописей ученого архива Русского географического общества, вып. I—III. Пг, 1914—1916.

Каминский — Вяч. А. Каминский. Белорусы Ново-Александровского уезда, Ковенской губернии, в их песнях, обрядах и обычаях. Филологические записки. Воронеж, 1910, вып. II, стар. 276—303; вып. III. стар. 422—440; вып. X, стар. 739—767.

Карский — Е. Ф. Карский. Белорусы. Т. III. Очерки словесности белорусского племени. 1. Народная поэзия. М., 1916.

Киреевский — Песни, собранные П. В. Киреевским, вып. 9. М., 1872.

Киркор — А. Киркор. Этнографический взгляд на Виленскую губернию. Этнографический сборник, вып. III. СПб, 1858.

Косич — М. Н. Косич. Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни. СПб, 1902.

Крачковский — Ю. Ф. Крачковский. Быт западно-русского селянина. М., 1874.

Ляцкий — Е. А. Ляцкий. Материалы для изучения творчества и быта белоруссов. I. Пословицы, поговорки, загадки. М., 1898.

Малевич — С. Малевич. Белорусские народные песни. СПб, 1907, Сб. ОРЯС, т. 82, № 5, стар. 1—194.

Мицкевич — А. М. Мицкевич. Семейная обрядность белорусского народа. Автореферат канд. дисс. Минск, 1966.

Никифоровский, Прим. — Н. Я. Никифоровский. Простонародные приметы и поверья, суеверныя обряды и обычаи, легендарные сказания о лицах и местах. Витебск, 1897.

Никифоровский, Част. — Н. Я. Никифоровский. Белорусские песни «частушки». Вильна, 1911.

Нікольскі — Н. М. Нікольскі. Жывёлы ў звычаях, абрадах і вераннях беларускага сялянства. Мінск, 1933.

Носович — И. И. Носович. Белорусские песни. СПб, 1874.

Носович, Посл. — И. И. Носович. Сборник белорусских пословиц. СПб, 1874.

Носович, Слов. — И. И. Носович. Словарь белорусского наречия. СПб, 1870.

Радченко — З. Радченко. Сборник малорусских и белорусских народных песен Могилевской губ. СПб, 1911.

Рапановіч — Беларускія прыказкі, прымаўкі і загадкі. Склаў Я. Рапановіч. Мінск, 1958.

Романов, Бел. сб. — Е. Р. Романов. Белорусский сборник. Вып. I—II; VII; VIII. Киев, 1886; Вильна, 1910, 1912.

Романов, Говор. — Е. Р. Романов. Материалы для изучения говоров Могилевской губ. «Живая старина». СПб, 1902, II—IV.

Романов, Мат. — Е. Р. Романов. Материалы по этнографии Гродненской губ., ч. I—II. Вильна, 1911—1912.

Росл. у. — Рославский уезд. «Смоленский вестник», 1893, № 13.

Самцэвіч — П. А. Самцэвіч. Хрэсьбіны ў в. Унтальянка Барыс. раёну Менскай акругі. «Наш край», 1928, № 11.

Сахараў — С. П. Сахараў. Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў. Рыга, 1940.

Свитова — К. Свитова. Народные песни Брянской области. Ред. Л. Н. Лебединский. М., 1965.

Сербов — И. А. Сербов. Белорусы-сакуны. Краткий этнографический очерк. Пг, 1915.

Серебренников — Ф. Серебренников. Обычаи и обряды крестьян Себежского уезда при крестинах, свадьбах и похоронах. Памятная книжка Витебской губ. на 1865 год. СПб, 1865.

Сержпутовский — А. К. Сержпутовский. Сборник белорусских пословиц-поговорок. (Рукапіс). АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 21.

Сумцов — Н. Сумцов. О славянских народных воззрениях на новорожденного ребенка. ЖМНП, СПб, 1880, ноябрь, ч. CCXII.

Т — ч — В. Л. Т — ч. Народные песни, записанные в Пинском уезде. «Минские губ. ведомости», 1891, №№ 5, 10, 15.

Тэраўскі — Ул. Тэраўскі. Беларускі лірнік. Спеўнік на чатыры галасы. Берлін, 1922.

Укр. нар. пісні — Українські народні пісні, кн. I—II. Київ, 1955.

Фёдараў — Л. Фёдараў. Новыя запісы мелодый беларускіх народных песень. У кн.: Беларускае мастацтва, вып. II. Мінск, 1960.

Цітовіч — Песні беларускага народа. Выбранае. Складанне і каментарыі Г. І. Цітовіча. Мінск, 1959.

Чубинский — П. П. Чубинский. Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край. т. IV. СПб, 1877.

Чуркін, 1949 — М. Чуркін. Беларускія народныя песні і танцы. Мінск, 1949.

Чуркін, 1959 — Беларускія народныя песні. Запіс М. Чуркіна. Мінск, 1959.

Шейн, Бел. п. — П. В. Шейн. Белорусские народные песни с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями. СПб, 1874.

Шейн, Мат. — П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I, ч. 1; т. III. СПб, 1887, 1901.

Шлюбскі — А. Шлюбскі. Матэрыялы да вывучэння мовы і фальклору Віцебшчыны, ч. II. Мінск, 1928 (ІБК).

Шырма — Беларускія народныя песні ў чатырох тамах. Запіс Р. Шырмы, т. 2. Мінск, 1960.

Янкоўскі — Беларускія прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы. Склаў Ф. Янкоўскі. Мінск, 1962.

Янчук — Н. А. Янчук. По Минской губернии. (Заметки из поездки в 1886 г.). Известия ОЛЕАЭ, т. LXI. М., 1889. (Труды этнографич. отдела, кн. IX).

Białar. p. — Białaruskija (kryvickija) narodnyja pieśni j kazki. Kniżka I, II. Vilnia, 1938, 1939.

Biruta — Biruta. Pieśni białoruskie z powiatu Lidzkiego. Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. XYI. Kraków, 1892.

Czeczot — J. Czeczot. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1846.

Dworakowski — Ct. Dworakowski. Zwyczaje rodzinne w powiecie Wysoko-Mazowieckiem. Warszawa, 1938.

Głoger — Z. Głoger. Pieśni przy chrzcinach i porgzebie na Podlasiu nadnarwiańskiem. «Wisła», t. III. Warszawa, 1889.

H. K. — H. K. Chrzciny u ludu białoruskiego. (wieś Krapużyn w pow. Mińskim). «Wisła», Warszawa, 1897, zesz. 2.

Hurynowicz — A. Hurynowicz. Zbiór rzeczy białoruskich. (Z gminy Wiszniewskiej, parafii Żodziskiej, pow. Święciańskiego, gubernii Wileńskiej). Kraków, 1893.

H r y n i e v i č — Biełaruskije pieśni z notami. Sabrau i wydau A. Hryniewič. T. I. Pieciarburh, 1910.

F e d e r o w s k i — M. Federowski. Lud Białoruski. T. V, VI. Pieśni. Warszawa, 1958, 1960.

J e l s k i — Al. Jelski. [карэсп. з Мінскай губ.]. «Kraj» Petersburg, 1889, N 13.

K r a s z e w s k i — J. Kraszewski. Litwa. Starożytne dzieje, ustawy, język, wiara, obyczaje, pieśni, przysłowia, podania. T. I—II. Warszawa, 1847, 1850.

M o s z y ń s k i — K. Moszyński. Kultura ludowa Słowian, t. II. Kultura duchowa, zesz. 1, 2. Kraków, 1934, 1939.

Z e l e n i n — D. K. Zelenin. Russische (Ostslavische) Volkskunde. Berlin—Leipzig, 1927.

### Іншыя скарачэнні

АГТ — Архіў Геаграфічнага таварыства СССР
АІМЭФ—Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР
б.— былы
бел.— беларускі
бл.— блакнот
в.— вёска
вар.— варыянт
вобл.— вобласць
вол.— валасць
воп.— вопіс
вуч.— вучань (вучаніца)
гл.— глядзіце
г. п.— гарадскі пасёлак
губ.— губерня
зап.— запісаў (запісала)
заўв.— заўвага
ін-т — інстытут
л.— ліст
м.— мястэчка
м/г — магнітаграма
наст.— настаўнік
п.— павет
пар.— параўнаць
пас.— пасёлак
пед.— педагагічны
перадрук.— перадрукавана
р.— раён
с.— сяло
скар.— скарочаны
спр.— справа
с/с —сельсавет
ст.— стагоддзе
ст. ст.— старога стылю
стар.— старонка
студ.— студэнт
сш.— сшытак
укр.— украінскі
ф.— фонд
ЦДзА — Цэнтральны дзяржаўны архіў
хут.— хутар

## ХРЭСЬБІННЫЯ ПЕСНІ *

### ПРА ПАРАДЗІХУ І БАЦЬКУ ДЗІЦЯЦІ

#### 1. А ў каморачцы аганёк гарыць

Зап. Л. І. Ткачова ў 1965 г. у в. Зубава Аршанскага р. ад Усціінні Цярэнцьеўны Войніч, 54 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 97, бл. 1, л. 7.

---

* Назвы мясцовасцей даюцца па адміністрацыйнаму падзелу, які існаваў у час запісу твораў.

Роды па даўняму звычаю адбываліся ў каморы, у клеці або іншай гаспадарчай будове, часам у сенцах. Парадзіха павінна была быць ізалявана ад членаў сям'і і ўсіх староньніх.

### 2. Ванькава жонка

Зап. студ. А. М. Клышко ў 1967 г. у в. Азяраны Дзятлаўскага р. ад Алены Адамаўны Мінкевіч, 72 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 25, л. 13.

*Шаўковым адбабам* — хусткай (заўв. збіральніка). Больш дакладна: *адбаб* — скажонае слова *ядваб*, што таксама азначае шоўк; *ядвабны* — шаўковы.

### 3. Хто, хто каля рэчкі свішчыць?

Зап. А. С. Ліс у 1966 г. у в. Дзедзіна Міёрскага р. ад Разаліі Касцюкевіч (родам з-пад Шаркаўшчыны).

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 114, бл. 1, л. 14. (Гл. заўв. да 1).

### 4. Ды хто, хто каля рэчанькі свішча?

Зап. А. І. Гурскі ў 1963 г. у в. Бараны Глыбоцкага р. ад Тафіліі Ігнатаўны Крывёнак, 54 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, бл. 10, л. 20.

Кароткі вар. папярэдняга тэксту з суседняга Міёрскага р.

### 5. Па сінем мору селязенюшка

Добровольский, стар. 5, № 9.

Зап. у в. Плоскае Смаленскага п. ад Матроны Міхалёвай.

### 6. Саскачыла да Хрузачка

Добровольский, стар. 4—5, № 8. Зап. у в. Плоскае Смаленскага п. ад М. Міхалёвай.

У песні, відаць, захаваліся сляды старадаўняга звычаю кувады (ад франц. couvade — выношванне, выседжванне), які вызначаў пэўныя правілы і нормы паводзін мужа на час цяжарнасці і асабліва родаў жонкі.

*Ільнаці* — праяўляць уважлівасць, прыхільнасць (рус.— *льнуть*).

### 7. Звалілася, скацілася

Раманов, Бел. сб., VIII, стар. 341.

Зап. у в. Кутня Быхаўскага п. Магілёўскай губ.

Тут больш выразна, чым у папярэдняй песні, выступаюць сляды кувады.

## 8. Садавая яблынка

Зап. З. Я. Мажэйка ў 1963 г. у в. Аношкі Лепельскага р. ад Хрысціны Казіміраўны Гарбачовай, 82 г.

Спявалася парадзісе.

Напеў з'яўляецца ўзорам раннетрадыцыйнай музычнай лірыкі. Пры квінтавым ладзе важную ролю адыгрываюць квартавыя інтанацыі, у тым ліку трыхордавыя абароты магічна-заклінальнага характару (2, 4 такты).

## 9. А сын у мамкі ночку начаваў

Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Пасынкі Мядзельскага р. ад Настасіі Мацвееўны Савук, 53 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 68, бл. 2, л. 13, № 13.

Хрэсьбінная баладная песня.

*Прыйшоў у пакой — пакой немяцён.* Згодна з даўнім народным павер'ем, хату, у якой ляжыць нябожчык, нельга падмятаць.

## 10. Усе бабкі на кс цінкі йдуць

Зап. М. М. Казлоўская ў 1967 г. у в. Ланькава Бялыніцкага р. ад В. Я. Прыстронавай, 41 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 109, бл. 1, л. 13, № 10.

Адзіная ў сваім родзе хрэсьбінная песня, якая захавала глухі водгук старадаўняга культу мядзведзя, што быў вядомы многім народам свету, асабліва на Поўначы. Рэшткі мядзведжага культу ў беларусаў або іх продкаў прасочваюцца па веснавому абраду камаедзіцы, які быў зафіксаван у Барысаўскім п. Мінскай губ. і спраўляўся перад благавешчаннем (Шейн, Мат., III, стар. 162—163), па казках, у якіх адлюстраваны даўнія ўяўленні аб магчымасці нараджэння чалавека ад жывёлы, аб шлюбе жанчыны з мядзведзем, аб мядзведзі, які паходзіць ад чалавека і г. д. (Нікольскі, стар. 30, 31, 52—57).

У публікуемай песні «медзвяжоначак», відаць, спалучае ў сабе рэшткі старажытных уяўленняў аб гэтым звеоы з імкненнем магічна перадаць дзіцяці мядзведжую сілу.

Іншыя вар. гэтай песні не выяўлены.

## 11. Чыя жана, чыя жана

Тэкст зап. М. Я. Грынблат, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Асаўлянскія Хутары Крывіцкага р. ад Луцэі Мацееўны Місун, 80 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 94.

Спявалася бацьку. Твор мае шмат вар. і належыць да пашыранай групы хрэсьбінных песень, у якіх выяўляліся неаднолькавыя адносіны да нараджэння дзяўчынкі і хлопчыка, што было абумоўлена старым гаспадарчым укладам вёскі. (Грынблат, 1940, стар. 20).

Мелодыя адносіцца да так званых «тыповых напеваў», г. зн. напеваў, на блізкія або ідэнтычныя варыянты якіх выконваецца цэлы шэраг розных

па зместу, але аднолькавых па функцыі тэкстаў (гл. таксама песні 167, 312, 382, якія зап. ад той жа спявачкі). У аснове прыведзенага «тыповага напеву» ляжыць зыходны мінорны пентахорд, які надае песні лірычна-журботны каларыт.

### 12. Парадзіха ў палозе ляжыць

Шейн, Мат., I, 1, стар. 22.
Зап. наст. Тоўсцік у Барысаўскім п. Мінскай губ.
Больш акрэслены вар. тэксту папярэдняй песні. (Гл. заўв. да 11).
Вар. з Барысаўскага р.: Самцэвіч, стар. 40:

А на ложку, а на беленькім
Парадзінуха ляжыць.

Вар. са Смалявіцкага р. (в. Зарэчча) зап. студ. М. В. Кулінчык у 1967 г. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 20, сш. 4, л. 11—12); вар. з Ушацкага р. (в. Качаны) зап. студ. П. І. Пратасевіч у 1967 г.:

Ай, заскрыпела часовая [цясовая] ложа,
Ай, застагнала да Валечка ў ложы.

На просьбу парадзіхі прынесці вішнёвага соку муж адказвае:

— Калі на сына, то мушу дастаці,
Калі на дочку, прашу выбачаці.

(АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 24, сш. 4, л. 32—33). Вар. з Віцебскага п. (в. Хаерщчына), зап. у 1913 г. Гл. Шлюбскі, стар. 13, № 20:

Да зашумела калінка ў лозі,
Да застагнала Гануля ў палазі...

Скар. вар. зап. А. Кудласевіч у 1968 г. у Столінскім р. (в. Тамашова). АІМЭФ, ф. 13. воп. 1, спр. 9, сш. 6.

### 13. Хто ж у нас у палозе ляжыць?

Носович, стар. 234. Вар. Гл. заўвагу да 11.
Відаць, узята ў Чачота. Гл. Czeczot, стар. 45:

Хто ж у нас у полазе ляжыць?
Пёкалка наша ў полазе ляжыць.
Да зажыдала вішнёвага соку...

### 14. А хто ў нас у полазе ляжыць?

Шейн, Мат., I, 1, стар. 21.
Зап. М. І. Хмялеўскі ў в. Мадэліна Віцебскага п. Вар. (Гл. заўв. да 11).

### 15. Ды зацвіцела калінка ў лазе

Сахараў, стар. 68, № 170.

Зап. у 1938 г. на хут. Судрабу Ілукстэнскага п. (Латвія) ад У. Нейжбарт-Бяляўскай. Вар. (Гл. заўв. да 11).

### 16. Ды зацвіцела калінка ў лозе

Сахараў, стар. 68, № 171.

Зап. Т. Бартуль у 1929 г. у в. Кісялёўцы Даўгаўпілскага п. (Латвія) ад Г. Шапіліхі. Вар. (Гл. заўв. да 11).

### 17. Да наша Манечка ў палозе ляжала

Зап. А. І. Гурскі ў 1963 г. у в. Бараны Глыбоцкага р. ад Т. І. Крывёнак. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, бл. 10, л. 19.

Вар. Гл. заўв. да 11. Апошнія два радкі выдатна заканчваюць песню, выражаючы ўжо іншыя, роўныя адносіны да нараджэння дзяўчынкі і хлопчыка.

### 18. Ой, дымна, дымна ў садзе

Косич, стар. 34.

Зап. у 1897 г. у в. Барадзінка Мглінскага п. Чарнігаўскай губ. ад жанчыны 78 г.

Блізкі вар.: Свитова, стар. 174—176, № 124 («Рано, рано трое куры пели»). Фоназапіс К. Г. Світавай і Л. А. Бачынскага 1953 г. у в. Мохнаўка Старадубскага р. Бранскай вобл. (б. Чарнігаўскай губ., паблізу таго месца, дзе запісала песню М. Косіч). Тут песня пра князя Васіля, які таксама «на войну поехал», а ўслед за ім «послы» з тым жа паведамленнем. У гэтым вар. князь адмаўляецца вяртацца дамоў з-за дачкі:

Я за дочкай домой не вернуся,
Моя дочка гостейка во дворе.

Старадубаўшчына, дзе запісан вар., характарызуецца збіральніцай як стык, у якім «скрыжавалася, а дакладней сказаць, злілася ў адно песнятворчасць трох славянскіх народаў: рускіх, беларусаў і ўкраінцаў, што здаўна насялялі гэту зямлю». (Свитова, стар. 8).

### 19. Рана, рана, яшчэ і пеўні не пелі

Е. П., стар. 25, № 1.

Зап. у сярэдзіне XIX ст. у Быхаўскім п. Магілёўскай губ.

Адзначана як апавядальная (повествовательная). Кароткі вар.

### 20. А ў сенячках, у сенячках

Шлюбскі, стар. 7, № 1.
Зап. у 1914 г. у в. Смалькі Віцебскага п.
Велічальная песня, якая спявалася парадзісе.

### 21. Як у сенячках музыкі іграюць

Шлюбскі, стар. 8, № 4.
Зап. А. Краско ў 1922 г. у в. Лескавічы Віцебскага п.
Вар. велічальнай песні да парадзіхі.

### 22. А завешаны каўры аж да самае зямлі

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілова Халопеніцкага р. ад Тэклі Емяльянаўны Кручок, 96 г.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 2.
Вар., у якім поруч з парадзіхай услаўляецца бабка.

### 23. Ды ў хаце людзей сабралася

Зап. студ. Брэсцкага пед. ін-та ў 1968 г. у в. Падлоззе Ляхавіцкага р. ад Вольгі Паляшчук, 73 г.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 1, спр. 9, л. 10.

### 24. Дзеўкі, маладухі перакоп капалі

Шлюбскі, стар. 12—13, № 18.
Зап. у 1913 г. у в. Хаершчына Віцебскага п.
Песня — услаўленне парадзіхі.
*Перакоп капалі* — капалі запруду, гаць або канаву, мяжу і г. д.
*Перабору сачылі* — шукалі перакат, мелкаводдзе.
Магчыма, пачатковыя радкі песні ў вобразнай форме апавядаюць, як у час работы дзеўкі і маладзіцы «перабіралі» ўсіх жанчын і сярод іх найпрыгажэйшай аказалася «Янкіна жонка» — парадзіха, што «чырваней, прыгажэй» за «калінаву ветку».

### 25. Не цясовы церам стаіць

Шлюбскі, стар. 13, № 21.
Зап. у 1914 г. у в. Нікраполле Віцебскага п.
Песня, якая ўслаўляе бацьку securitiesнованароджанага дзіцяці.
*Харашо ўвіт* — шчыльна змацаваны («звіты») вянкі зруба.
У запісу песні, відаць, прапушчаны чацвёрты радок. Аб гэтым гавораць змест песні, яе страфічная будова (па 4 радкі) і рыфмоўка.

## 26. У нашага Якімкі

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 339.

Зап. у в. Казіміраўка Магілёўскага п.

*Святліца брусаваная* — хата з абчэсаных бярвенняў-брусоў, адзнака багатага жылля. Звычайны ў абрадавых песнях прыём ідэалізацыі быту сялянства. Пар. калядныя песні: «Багаты двор на сямі вярстах, на васьмі стаўбах,— стаўбы точаныя, пазалочаныя...» (Романов, Бел. сб., VIII, стар. 116).

*Па раду сказаць* — па імю бацькі або маці. *Па хрясту сказаць* — назваць сваё імя.

## 27. Сцелецца да ўецца

Зап. В. П. Коўчур у 1946 г. у в. Цараўцы Слуцкага р. ад калгасніцы Г. Ф. Крывашэй.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 17, бл. 1, л. 1. Мясцовая назва песні — «Радзільная» *.

Апошняя страфа выяўляе няроўныя адносіны да нараджэння дзяўчынкі і хлопчыка. (Гл. заўв. да 11).

## 28. І сцелецца да ўецца

Тэкст зап. Л. Г. Савікоўская, напеў — Г. І. Цітовіч у 1946 г. у в. Казловічы Слуцкага р. ад Марыі Мікалаеўны Галец, 70 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 3, бл. 1, л. 13—14. «Радзінная».

Блізкі вар. папярэдняга тэксту з таго ж раёна.

## 29. Жана мая дарагая

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Бокшыцы Слуцкага р. ад Марыі Міканораўны Шэлег, 55 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99$^{а}$, бл. 2, л. 8. № 7.

Кароткі вар. папярэдніх тэкстаў.

Усе тры вар. песні (27—29) зап. у адным раёне, але кожны з іх мае свае адметныя асаблівасці. Пар. апошнія дзве страфы 1-га тэксту, апошнюю страфу 2-га тэксту і апошнюю страфу 3-га тэксту.

## 30. Піў бы я мёд і віно

Зап. Л. М. Фёдараў у 1958 г. у в. Каравайніца Сіроцінскага р. ад Ганны Васільеўны Галузы, 57 г. (родам з в. Мясаедава таго ж р.).

Хрэсьбінная-велічальная да бацькі нованароджанага.

Мелодыя «хвалепадобнага» рысунку; няспешнасць і плаўнасць яе развіцця падкрэсліваюць лірычна-віншавальныя эмоцыі песні.

---

* Тут і далей мясцовая назва катэгорыі песень даецца ў двукоссі.

Вар. тэксту з таго ж р. (в. Мішнавічы) зап. І. К. Цішчанка ў 1960 г. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 49, бл. 1, л. 15).

### 31. Піў бы я мёд і віно

Зап. А. С. Ліс у 1964 г. у в. Ходцы Сенненскага р. ад Марʼі Максімаўны Багданавай, 42 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 86, бл. 2, л. 30. Вар.

### 32. Пасярод двара дый Іванавага

Шейн, Мат., І, 1, стар. 19.

Зап. у Дуброўне Горацкага п. Магілёўскай губ.

Спявалі парадзісе.

*А стаіць цяром да падрублены* — г. зн. высокі, на падрубах, дадатковых ніжніх вянках або на падклеці. («Изба стоит на подрубе, на рубленой подклети». Даль, III, стар. 200). Апошняе можа сведчыць аб сувязі песні з рускім фальклорам. «Изба на подклети» характэрна для паўночных рускіх абласцей. Больш верагодна—прыём ідэалізацыі быту (гл. заўв. да 26).

*Падворʼе вадзіць* — весці гаспадарку ў доме і на сядзібе.

Напеў, вельмі чоткі па метрарытміцы, мае своеасаблівы «прыпеўкавы» характар. У аснове ладавага развіцця — пераменнасць тыпу мажор — паралельны мінор.

### 33. Ой, чыя ж то жана

Шейн, Мат., І, 1, стар. 18—19.

Зап. у Копысі Горацкага п. Магілёўскай губ.

Спявалі парадзісе.

### 34. Ах ты вольха, ты вольха

Шейн, Мат., І, 1, стар. 20.

Зап. наст. Тоўсцік у Барысаўскім п. Мінскай губ.

### 35. Каліна, маліна мая

Шейн, Бел. п., стар. 1, № 1.

Зап. у Чашніках Лепельскага п. Віцебскай губ. ад М. Каткевічоўны. Вар. папярэдняга тэксту. Спявалі парадзісе.

### 36. Івалга, івалга

Шейн, Бел. п., стар. 9, № 20.

Зап. наст. Прэабражэнскі ў м. Капцэвічы Лепельскага п. Віцебскай губ.

Велічальная, адрасавана бацькам дзіцяці.

*Бавэлна, баволна* — вата (Носович, Слов., стар. 11).
*Сыта* — мядовы напітак, вада, падсалоджаная мёдам.

### 37. Хораша свята прачыстая

Шейн, Бел. п., стар. 7, № 14.
Зап. М. Ф. Сазонаў у Смалянецкай вол. Лепельскага п. Віцебскай губ.
Велічальная, адрасавана парадзісе.
Паралелізм, узяты з кола вобразаў і сімвалаў хрысціянскага культу («прачыстая» — багародзіца; святы, якія прысвечаны ёй, царква адзначала 15 жніўня, 8 верасня і 1 кастрычніка ст. ст.), сведчаць аб адносна познім паходжанні гэтай песні, прынамсі ў эпоху феадалізму.

### 38. Чэраз рэчаньку, чэраз быструю

Шейн, Мат., I, 1, стар. 20—21.
Зап. у Дуброўне Горацкага п. Магілёўскай губ. ад старой сялянкі.
Найбольш стары запіс песні, якая вядома ў многіх вар. і была пашырана ў б. Віцебскай і на поўначы Магілёўскай губ. Шэйн адзначае, што апрача Дуброўны яе спявалі ў Чавускім і Быхаўскім п.
На хрэсьбінах спявалася бацькам дзіцяці.
*Рэдзя дзетачак* — радзіўшы, раджаючы дзяцей (заўв. П. Шэйна).
Другая палавіна напеву інтанацыйна і ладава некалькі адарвана ад першай. (Асабліва «рэжа слых» скачок на септыму). Натуральней за ўсё трактаваць у даным выпадку другую частку напеву на кварту ўніз, г. зн. транспанаваць яе з соль-мажор у асноўную танальнасць — рэ-мажор.
Чуркін, 1949, стар. 58, 144, № 111. Блізкі вар. з напевам, таксама з Дуброўны.

### 39. Чэраз рэчаньку, чэраз быструю

Зап. Л. А. Малаш у 1969 г. у в. Туркі Докшыцкага р. ад Алены Гапанёнак, 59 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 22, сш. 2, л. 12. Вар.

### 40. Чэраз рэчаньку, чэраз быструю

Зап. К. Б. Кузняцова і М. С. Малочка ў 1959 г. у в. Стэцава Багушэўскага р. ад Ганны Пятроўны Арловай, 41 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 43, бл. 3, л. 26—27. Вар.

### 41. Цераз рэчаньку, цераз быструю

Зап. А. І. Гурскі ў 1965 г у в. Зубава Аршанскага р. ад Уліты Сямёнаўны Івановай, 70 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 95, бл. 1, л. 6. Вар.

### 42. Цераз рачаньку, цераз быстраю

Сахараў, стар. 71, № 181.
Зап. І. Ігнатовіч у 1929 г. у в. Іаніны Даўгаўпілскага п. (Латвія) ад сваёй маці. Скар. вар.

### 43. Цераз рэчаньку, цераз быструю

Фёдараў, стар. 171.
Зап. у 1958 г. у в. Антанішкі Ушацкага р. ад наст. Вольгі Мітрафанаўны Марозавай (Гаспадзёнак), 52 г. Блізкі вар. папярэдняга тэксту, напеў іншы.

Напеў выяўляе тыповую для беларускай народнай музыкі паслядоўнасць асноўных апорных тонаў мелодыі, якія ўтвараюць у сукупнасці характэрны пентатанічны абарот (у даным выпадку — соль-ля-мі-рэ-соль). Абарот гэты часам скарыстоўваецца і як асобныя напеўкі.

Вар. тэксту з таго ж р. (Ушачы) зап. студ. А. Ф. Коршун у 1967 г. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 19, сш. 3, л. 14—15).

### 44. Чэраз рэчаньку

Гарэцкі, Ягораў, стар. 6, № 10.
Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад Просі Гарэцкай, 66 г. Блізкі вар. тэкстаў 38—43, напеў іншы.

Напеў уяўляе сабой рэдкі прыклад вытрыманага ад пачатку да канца поўнага пентатонавага ладу (звычайна пентатоніка ў беларускай музыцы трапляецца як элемент у гептатанічнай сістэме). Мелодыя мае светлы, уздымны характар, блізкі да характару вяснянак. (Апошні такт даецца ў іншым метрычным варыянце).

### 45. Чэраз кладачку, чэраз дубовую

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Слабодка Шклоўскага р. ад Марыі Станіславаўны Юцовай, 62 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 1, л. 18—19. Вар.

### 46. Чэраз рэчаньку, чэраз быструю

Зап. К. Б. Кузняцова ў 1964 г у в. Гаршчэўшчына Талачынскага р. ад Марыі Цімафееўны Бохан, 57 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 91, бл. 2, л. 17, № 9. Вар.

Яшчэ вар.: Дембовецкий, стар. 582, № 6 (в. Галовічы Чавускага п. Магілёўскай губ.); Шлюбскі, стар. 13—14, № 22 (Косаўшчына Лепельскага п.); зап. А. С. Емяльянаў у 1960 г. у в. Цяцерын Бялыніцкага р. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр 8, л. 48, 53); зап. А. С. Ліс у 1964 г. у Расонах. (Там жа, ф. 8, воп. 1, спр. 86, бл. 1, л. 35); зап. В. М. Мі-

хайлоўская ў 1964 г. у в. Пасад Сенненскага р. (Там жа, спр. 85, бл. 1, л. 59—60); зап. Л. І. Ткачова ў 1967 г. у в. Ланькава Бялыніцкага р. (Там жа, спр. 107, бл. 1, № 5); зап. В. І. Скідан у 1967 г. у в. Лакуцці Шклоўскага р. (Там жа, спр. 105, л. 1).

## 47. Чэраз бор сасна

Гарэцкі, Ягораў, стар. 3—4, № 6.

Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай.

Велічальная бацькам дзіцяці. Вядома ў радзе вар., якія былі пашыраны пераважна на Магілёўшчыне, Віцебшчыне, а таксама Смаленшчыне.

У напеве звяртае на сябе ўвагу характэрны трыхордавы абарот (гл. заўв. да 8). Аднак тут ён з'яўляецца асновай квартавага ладу. Лірычны элемент у гэтым напеве адчуваецца менш, чым у песні 8; у ім пераважаюць абрадава-заклінальныя формулы-інтанацыі. (Даецца іншы верагодны вар. метрычнай разбіўкі).

## 48. Чэраз бор сасна

Шэйн, Мат., І, 1, стар. 23.

Зап. у в. Машкова Аршанскага п. Збіральнікам адзначана як песня, што спяваецца кумам. Вар.

Шлюбскі, стар. 11—12, № 15. Вар. тэксту з Віцебскага п. (в. Таўсцюкі).

## 49. Чэраз бор сасна

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Стары Дрыбін Горацкага р. ад Матруны Дарафееўны Куцанковай. 70 г. (родам з в. Чарнарэчкі таго ж р.).

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 3, л. 40—41. Вар.

## 50. Ты кума мая, ты душа мая

Добровольский, стар. 7—8, № 14.

Зап. у в. Данькава Смаленскага п.

Вар. Адзначана, што гэтай песняй «велічаюць гаспадара і гаспадыню».

## 51. Як і кум з кумой чэраз тын жылі

Шейн, Мат., І, 1, стар. 23—24.

Зап. М. І. Хмялеўскі ў в. Мадэліна Віцебскага п. Адзначана, што амаль без змен спяваецца і ў Смаленскай губ., але кумам. Вар.

## 52. А кум з кумой

Зап. А. С. Ліс у 1964 г. у Расонах ад Агаты Луферавай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 86, бл. 1, л. 45. Вар. Тэкст, відаць, не закончаны.

## 53. Чараз бор сасна павалілася

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 343.

Зап. у Рагачоўскім п. Магілёўскай губ. Вар.

Яшчэ адзін вар. з Магілёўскага п.— там жа, стар. 345; кароткі вар. са Жлобіна, адзначаны як калядная, з прыпевам: «Святы вечар!» — там жа, стар. 117.

## 54. Салавей, салавей з зязюлькай разгаварываў

Этнографические описания Виленской губернии Ошмянского уезда, составленные сельским священником. АГТ, IV, спр. 6, л. 21, № 1.

Запіс сярэдзіны XIX ст.

Даволі рэдкі ўзор хрэсьбіннай песні, якая адрасавана, відаць, бацькам дзіцяці.

## 55. У нядзельку рана-параненьку

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 339.

Зап. у в. Казіміраўка Магілёўскага п.

Адрасавана бацькам.

## 56. Паздароў, божа, каваля

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 330.

Зап. у Шчарбінскай вол. Віцебскага п.

Песня вядома ў радзе вар. пераважна на поўначы Беларусі. Звычайна яе выконвала бабка, плешчучы ў далоні, пасля таго, як падавала сваю «бабіну кашу» на стол.

Калі ў папярэдняй песні яшчэ толькі контурна выступае вобраз бацькі-«каваля», то ў данай песні і наступных яе вар. вобраз гэты абрысаваны ўжо зусім выразна. Шчырасць пачуццяў, з якой госці славяць бацьку і дзякуюць яму за вясёлае застолле, жыццёвая праўдзівасць вобраза «каваля» засланяюць сабою тую лёгкую фрывольнасць, што ўласціва гэтым песням.

Укр. вар.: Чубинский, стар. 14, № 5; стар. 15, № 11. З Валыні.

Іншыя беларускія вар.: Самцэвіч, стар. 36. Барысаўскі р.; Шлюбскі, стар. 10, № 8. Зап. у 1923 г. у Віцебску.

## 57. А спасіба кавалю

Зап. В. Ф. Дунец у 1961 г. у в. Рубеж Бешанковіцкага р. ад Усціnні Баталка.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 5, сш. 4, л. 6. Кароткі вар.

## 58. Дзяку таму кавалю

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 347.

Зап. у Сенненскім п. Магілёўскай губ. Вар.

## 59. А спасіба таму кавалёчку

Зап. К. Б. Кузняцова і М. С. Малочка ў 1959 г. у в. Стэцава Багушэўскага р. ад Г. П. Арловай.

АІМЭФ, ф.8, воп. 1, спр. 43, бл. 3, л. 29. Вар.

## 60. Дзякуй таму кавальку

Зап. І. К. Цішчанка ў 1961 г. у в. Кімія Барысаўскага р. ад Зоі Антонаўны Хацкевіч, 78 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 59. л. 89. Вар.

## 61. Яе мужычок зрабіў добру славу

Довнар-Запольский, стар. 40, № 304.

Зап. у в. Дабраслаўка Пінскага п. Мінскай губ.

Велічальная бацьку. З групы песень, у якіх госці дзякуюць гаспадару за гасціннае застолле.

## 62. Ой, белая бярозачка

Зап. Л. І. Ткачова ў 1961 г. у в. Лукашова Пастаўскага р. ад Лідзіі Мікалаеўны Івашкі, 47 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 66, бл. 2, л. 3, № 3. (Гл. заўв. да 61).

## 63. А белая бярозачка

Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Сосенка Вілейскага р. ад Марыі Паўлаўны Віцько, 48 г.

АІМЭФ, ф. 8. воп. 1, спр. 64, бл. 3, л. 30. Вар.

## 64. А хто, хто па каморачцы ходзя?

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 341.

Зап. у в. Кутня Быхаўскага п. Магілёўскай губ.

У гэтай і трох наступных песнях адлюстраваны пэўныя нормы паводзін, якіх, згодна са звычаёвым правам, строга прытрымлівалася жанчына ў пасляродавы перыяд у адносінах з мужам.

*Цвілёвы* — тут, відаць, цюлявыя. Маецца на ўвазе палог, якім завешаны ложак.

## 65. А ў каморы, а ў каморы

Шейн, Бел. п., стар. 8, № 17.

Зап. наст. Прэабражэнскі ў м. Капцэвічы Лепельскага п. Віцебскай губ.

Тут указаны і тэрмін, на які забараняюцца шлюбныя адносіны ў пасляродавы перыяд,— шэсць тыдняў. (Гл. заўв. да 64).

Падобныя забароны існавалі і ў украінцаў на Валыні. Гл. Чубинский, стар. 14, № 8:

Ой, у первую неділю
Дибле журавель по родиллю.
— Иди геть, журавель,
Не загоївсь в породиллі
Животочок.
Ой, на шостую неділю
Дибле журавель по родиллю.
— Прийди, прийди, журавель,
Бо загоївсь в породиллі
Животочок.

Вар. гэтай украінскай хрэсьбіннай песні з Валыні: Чубинский, стар. 14, № 6.

Тэрмін «нячыстага стану» жанчыны пасля родаў, які вызначаны ў 40 дзён (тыя ж шэсць тыдняў), прызнаны ў многіх народаў: егіпцян, яўрэяў, грэкаў, а таксама ў рускіх, пшаваў і інш. (Сумцов, стар. 77). Медыцына вызначае працягласць пасляродавага перыяду (puerperium) таксама ў 6—8 тыдняў.

### 66. Што й у нашага Мішачкі

Косич, стар. 35.

Зап. у 1897 г. у в. Барадзінка Мглінскага п. Чарнігаўскай губ. ад жанчыны 78 г. Вар.

### 67. Паехаў муж Панас ды ў дарожаньку

Шейн, Бел. п., стар 7—8, № 16.

Зап. наст. Прэабражэнскі ў м. Капцэвічы Лепельскага п. Віцебскай губ.

У песні асуджаецца спроба мужа парушыць тэрмін пасляродавай забароны шлюбных адносін. (Гл. заўв. да 64, 65).

### 68. У нашага Сцяпанкі

Зап. М. М. Казлоўская ў 1967 г. у в. Ланькава Бялыніцкага р. ад М. А. Шнейдар, 46 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 109, бл. 1, л. 5, № 3.

### 69. А рой, рой ды па мору плывець

Зап. Б. Ф. Дунец у 1961 г. у в. Рубеж Бешанковіцкага р. ад У. Баталка.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 5, сш. 4. л. 5.

Як адзначыў збіральнік, песню спяваюць на хрэсьбінах, калі віншуюць бацькоў.

### 70. У нядзельку рана-параненьку

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 346.

Зап. у Сенненскім п. Магілёўскай губ.

Песні аб выпрошванні долі для дзіцяці належаць да найбольш даўніх хрэсьбінных песень. Аднак гэты тэкст, як і іншыя песні аб забеспячэнні долі нованароджанаму, што змешчаны ў даным раздзеле, з'яўляецца ўжо ў пэўнай меры трансфармаваным у выніку пашырэння хрысціянства і ў сувязі з пазнейшым развіццём грашовых адносін (Гл. Грынблат, 1940, стар. 14—20; Грынблат, 1967, стар. 78—79).

### 71. А ў нядзелечку спараненечку

Шейн, Мат., I, 1, стар. 24.

Зап. М. І. Хмялеўскі ў в. Мадэліна Віцебскага п.

Спявалася кумам.

### 72. А ў нядзельку раненька

Зап. студ. Брэсцкага пед. ін-та ў 1968 г. у в. Падлоззе Ляхавіцкага р. ад В. Паляшчук.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 1, спр. 9, л. 9.

### 73. Спарадзіла міня мамка у вяліку пятніцу

Каминский, стар. 291.

Зап. у Нова-Аляксандраўскім п. Ковенскай губ.

З нараджэннем дзіцяці звязана даўняя вера ў шчаслівыя і нешчаслівыя дні, месяцы і нават часткі сутак. Са зместу прыведзенай песні вынікае, што «вялікая пятніца» (пятніца апошняга тыдня перад вялікаднем) лічылася для нованароджанага шчаслівым днём. Мяркуючы па іншай, неабрадавай песні, субота, наадварот, прызнавалася нешчаслівым днём:

Спарадзіла мяне мацi
Рана у суботу
Да дала мне горку долю
На маю сухоту... (Радченко, стар. 51, № 116).

Тое ж у бытавой песні, якую зап. студ. В. Ф. Гусціновіч у 1960 г. у в. Любачын Лунінецкага р.:

Да ўродзіла ж мэне мацi
У святы дзень суботу,
Да дала ж мне моя мацi
Доленьку сухоту.

(АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 4, ч. 1, л. 13).

У іншым вар. нешчаслівым днём аказалася «святая нядзелька». Зап. студ. Н. В. Скіба ў в. Ялуцавічы Зельвенскага р. (Там жа, воп. 10, спр. 30, сш. 4, л. 12).

### 74. Кумка на куце села

Шейн, Мат., I, 1, стар. 25.
Зап. Я. В. Капецкі ў м. Ветрына Лепельскага п. Віцебскай губ.
Спявалася да кумы.
Перадрук. у Выпісы, стар. 47, № 3.
У тэксце звяртае на сябе ўвагу выраз «хрэсьбінкі скакаці» (пра вяселле кажуць — «гуляць», у рускіх — «играть свадьбу»), які падкрэслівае асабліва вясёлы характар гэтай сямейнай урачыстасці — з песнямі і скокамі.
Вар.: Шейн, Бел. п., стар. 445, № 1. (з Полацкага п. Віцебскай губ.):

Кумка на куце села,
Тры песенькі спела...

### 75. Кумачка на накуце села

Зап. Л. А. Малаш у 1969 г. у в. Туркі Докшыцкага р. ад А. Гапанёнак. Расшыфроўка м/г Н. М. Маркавай.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 22, сш. 2, л. 37. Вар.
*На накуце* — на покуці.
Напеў блізкі да вясельных песень велічальнага характару. У аснове напеву — трыхорд, але ўжо іншы, чым той, што мы назіралі ў 8 і 47, быццам «адваротнай» структуры (замест м.3+б.2 — б.2+м.3). Гэты трыхорд мае больш прасветлены характар і часта сустракаецца таксама ў вяснянках.

### 76. Бабуся на куце села

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 1. Вар.

### 77. Каля месяца, каля яснага

Зап. студ. Е. Н. Лукашкова ў 1967 г. у в. Перагон Слаўгарадскага р. ад Таццяны Ігнатаўны Лукашковай, 60 г.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 11, сш. 8, л. 1—2. Вар.

### 78. Каб у нядзельку

Гарэцкі, Ягораў, стар. 6—7, № 11.
Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай.
З гэтай песні і двух наступных вар. вынікае, што, згодна з даўнім народным вераваннем, долю дзіцяці вызначае багародзіца.
У напеве ясна адчуваюцца інтанацыі вясенніх лірычных песень. Важную ролю пры гэтым адыгрывае тэтрахорд у межах квінты (квінтавы лад без II ступені), якім пачынаецца мелодыя песні. (Напеў эквірытмічны тэксту толькі ў першай страфе).

Вар. тэксту: Дембовецкий, стар. 581, № 3. Зап. у Літвінаўскім прыходзе Горацкага п. Магілёўскай губ.

### 79. А ў нядзеліньку паранюсіньку

Шейн, Бел. п., стар. 7, № 15.

Зап. наст. Прэабражэнскі ў м. Капцэвічы Лепельскага п. Віцебскай губ. Вар.

### 80. Ай, у нядзельку вельмі раненька

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 349.

Зап. у м. Высокае Аршанскага п. Магілёўскай губ. Вар.

### 81. Сягонняшні вечарок у небе зазвінела

Романов, Бел., сб., VIII, стар. 349.

Зап. у в. Болецк Гарадоцкага п. Віцебскай губ.

Вар., у якім долю дзіцяці вырашае не багародзіца, а сам бог, у процівагу папярэднім вар. (78—80), дзе пра долю бог раіцца з багародзіцай, пытаючы яе рашэння.

### 82. Па ўсіх акенцах анёлы стаяць

Зап. студ. Каўпак у 1948 г. у Брэсцкай вобл. (дакладна месца не ўказана).

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 3, л. 1.

Песня, нягледзячы на вонкавую рэлігійную абалонку, не пазбаўлена ў той жа час і пэўных атэістычных настрояў.

### 83. Усе жоначкі дзеравенскія

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 340.

Зап. у в. Кутня Быхаўскага п. Магілёўскай губ.

### 84. У Іваньхі вінаград на дварэ

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Стары Дрыбін Горацкага р. ад Арыны Арцёмаўны Бяззубенка, 87 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 1, л. 20.

Спяваецца гаспадару.

*Вінаград* — у гэтай і іншых беларускіх народных песнях трэба разумець у сэнсе *сад*. «Сад-вінаград» часта сустракаецца ў беларускіх песнях і частушках.

У адным апісанні хрэсьбін у ўкраінцаў Падольскай губ. вінаградам называюць садавіну, якую бабка падае на стол (Чубинский, стар. 12).

## 85. У нашага Івана

Зап. К. П. Кабашнікаў у 1968 г. на хут. Старaселле Касцюковіцкага р. ад Яфіміі Андрэеўны Фраленка, 60 г. і Соф'і Якаўлеўны Малюшынай, 57 г. (перасяленцаў са Старога Сяла Веткаўскага р.).

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 2, л. 63.

З адпаведнымі заменамі ў II і III строфах тое ж спяваецца асобна куме і бабцы.

Блізкія вар. у тым жа р. зап. В. І. Скідан у пас. Варашылава (АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 7, бл. 1, л. 35), Л. М. Салавей у в. Белая Дуброва (другая страфа: «Ён садзіў, паліваў не чужым ён,— сабе»; там жа, спр. 10, бл. 2, л. 13), а таксама А. С. Ліс у в. Дуброўка Краснапольскага р. (Апошнія радкі: «Штоб яму, штоб яму бог долечку даў»; там жа, спр. 4, бл. 1, л. 9) і Г. А. Барташэвіч у в. Галёнкі Горацкага р. (Там жа, спр. 110, бл. 1, л. 20).

## 86. А ў каго да явар на дварэ?

Дембовецкий, стар. 581, № 1.

Зап. у Аршанскім п. Магілёўскай губ. Вар.

## 87. Арэшанька-чарушанька

Зап. Л. М. Салавей у 1968 г. у в. Белая Дуброва Касцюковіцкага р. ад Кацярыны Канстанцінаўны Кавалёвай, 43 г. (родам з в. Красніца таго ж р.).

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 10, бл. 2, л. 14.

## 88. Бабулька ж мая міленькая

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1970 г. у в. Міхалішкі Астравецкага р. ад Юзэфы Сільвестраўны Пагады, 53 г. Расшыфроўка м/г В. І. Ялатава.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 33, бл. 2, л. 22—23.

Кароценькую песню з добрым пажаданнем дзіцяці гл. яшчэ: Довнар-Запольский, стар. № 303 (зап. у в. Дабраслаўка Пінскага п. Мінскай губ.):

На радзіначках была,
Гарэлачку піла.
— Судзі, божа, да тому дзіцяці
Да вяселле спяваці.

Песня ў меладычных адносінах мае двухчасткавую структуру з ясна акрэсленым тэматызмам і нават дынамікай кожнай часткі. Такая музычная форма для хрэсьбінных песень вельмі рэдкая.

## 89. Нігдзе ж мы так не пагулялі

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 337.

Зап. у в. Казіміраўка Магілёўскага п.

## 90. А й сон з драмой

Гарэцкі, Ягораў, стар. 7, № 12.

Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай.

Мелодыя нагадвае калыханку; яна вельмі напеўная і выразная ў сваіх «баюльных» інтанацыях (асабліва каларытны тут «натуральны» ўводны тон).

### ПРА БАБКУ-ПАВІТУХУ

## 91. Межы клетачкі, меж істопачкі

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 339.

Зап. у в. Казіміраўка Магілёўскага п.

*Сувой* — скрутак саматканага палатна.

*Прашчá, прошча* — ахвяра, кавалак палатна. (Заўв. збіральніка).

## 92. Наша Агата савой хадзіла

Зап. М. В. Кулінчык у 1967 г. у в. Зарэчча Смалявіцкага р. ад Таццяны Іосіфаўны Кавэцкай, 55 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 20, сш. 4, л. 11—12.

Расшыраны вар., у якім, аднак, першыя два радкі з'яўляюцца, відаць, пазнейшым пераасэнсаваннем або скажэннем. Можна меркаваць, што першапачаткова гэта былі словы з папярэдняга вар.: *сувой каціла* (гл. заўв. да 91), а не *савой хадзіла*, як у гэтым запісу. У першым вар. словы больш прымеркаваныя да радзін.

## 93. У нядзелю ранесенька

Шейн, Мат., III, стар. 388.

Зап. у м. Ельск, Мазырскага п. Мінскай губ.

Спявала бабка.

## 94. То й не стук стучыць

Косич, стар. 32.

Зап. у 1897 г. у в. Водвінка Мглінскага п. Чарнігаўскай губ. ад жанчыны 65 г.

Укр. вар.: Чубинский, стар. 11, № 3. Барысполь Пераяслаўскага п. Кіеўскай губ.; больш кароткі вар.: там жа, стар. 7, № 1 (с. Савіна Асцёрскага п. Чарнігаўскай губ.).

*Апрастай* — вызвалі, дапамажы.

## 95. Ай, не стук стучыць

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Стары Дрыбін Горацкага р. ад А. А. Бяззубенка.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 1, л. 23—24. Вар.

### 96. На дварэ і стучыць, і гручыць

Зап. А. І. Гурскі ў 1965 г. у в. Салаўі Аршанскага р. ад Марыны Сямёнаўны Балашэнкі, 52 г. і інш.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 95, бл. 2, л. 8. Вар.

Тое ж спяваецца куме і куму з адпаведнымі заменамі і зваротамі: «За кумачкай (кумочкам) бяжыць»; «Ён кумачцы (кумочку) пакланяецца»; «Ты кумуся даражэнькая (кумочак даражэнькі)»; «Пераксці мае дзіцятачка».

### 97. Стучэла-гручэла

Добровольский, стар. 3, № 5.

Зап. у в. Правержанка Ельнінскага п. Смаленскай губ. ад Еўдакіма Іванова.

*Вабдзелка* — павітуха.

### 98. Ай, стучыць-гручыць

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 336.

Зап. у с. Любавічы Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ.

Шлюбскі, стар. 7, № 2. Вар. зап. П. Стэфкін у 1921 г. у в. Барсукі Віцебскага п. Спяваецца «бабульцы», «кумочку» і «кумульцы».

### 99. Не стук стучыць ды па сенечках

Гарэцкі, Ягораў, стар. 1—2, № 2.

Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай.

Гл. заўв. да 96, 98.

Форма напеву — *аавв* («пара перыядычнасцей»). Мелодыя лірычнага складу. Больш павольная рытмічная пульсацыя ў другой частцы напеву (замест асноўнай долі — «восьмая» — даецца «чвэрць») абумоўлена заклінальным сэнсам песні. (Метр другой часткі напеву зменены: замест 3/4 даецца 2/4).

### 100. Хто ж там стучыць па вуліцы

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 336.

Зап. у в. Аслянка Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ.

### 101. Не стук стучыць па вуліцы

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 336.

Зап. у в. Аслянка Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ. Вар.

### 102. Што стучыць, што гручыць

Добровольский, стар. 2, № 3.

Зап. у в. Інькава Парэцкага п. Смаленскай губ.

## 103. Па вуліцы да стучыць-гручыць

Добровольский, стар. 3, № 4.
Зап. у в. Каблукова Краснінскага п. Смаленскай губ. ад Гапкі Парфенавай. Вар.

## 104. Не па масту па калінаваму

Добровольский, стар. 1—2, № 2,
Зап. у в. Свалы Краснінскага п. Смаленскай губ. Вар.

## 105. А што па масту па калінаваму

Шейн, Мат., I, 1, стар. 22.
Зап. Н. Някрасаў у в. Прудкі Смаленскага п. Вар.

## 106. Гоман-гоман

Гарэцкі, Ягораў, стар. 1, № 1.
Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай.
Зацягванне двух апошніх тактаў у першай і другой палавіне напеву — вынік заклінальных мэт інтанавання. У аснове ладавай будовы напеву — трыхорд першага тыпу (гл. 8).

## 107. Ды хто ў нас, ды хто ў нас

Тэкст зап. Ю. Ф. Мацкевіч, напеў — Г. І. Цітовіч у 1946 г. у в. Крывічы Старобінскага р. ад Саламеі Маркаўны Чарэўка, 50 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 10, л. 46.
Спяваюць бабцы.
Напеў велічальнага характару. Ладавая ўраўнаважанасць у межах мажорнай тэрцовай ячэйкі, анапестычная будова асноўнага інтанацыйнага зерня мелодыі ствараюць уражанне спакою, упэўненасці і ўрачыстасці. Пераход у паралельны мінор — своеасаблівы прыём «асур'ёзнівання» сітуацыі. Напеў гучыць як нейкі «наказ».

## 108. Хто ў нас, хто ў нас паўночы ходзіць?

Янчук, стар. 90, № 49.
Зап. у в. Гарадок Бабруйскага п. Мінскай губ. Вар.

## 109. Ой, хто, хто з паўночы ходзіць?

Зап. К. П. Кабашнікаў у 1960 г. у в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р. ад Вольгі Казіміраўны Міцкевіч, 60 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 57, л. 22. Вар.

### 110. Хто касіць ідзе

З даваенных запісаў М. Я. Грынблата. Весткі аб месцы запісу згублены.
АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 4, л. 2.

### 111. Ды ўсе мужыкі

Зап. А. С. Ліс у 1963 г. у в. Лебедзева Маладзечанскага р. ад Лізаветы Сцяпанаўны Сарокі.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 84, бл. 3, л. 4. Вар.

### 112. А цераз мора, цераз сіня

Самцэвіч, стар. 37.
Тое ж да кумы:

— А хадзі ж, мая кумка,
Хадзі ж, мая галубка,
А хадзі ж ты ка мне.

Тое ж да кума:

— Хадзі ж, мой кумочак,
Хадзі ж, мой галубочак,
А хадзі ж ты ка мне.

### 113. Цераз гару сцежачка ляжала

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 4. Вар.

### 114. Ідзе бабусенька да свае ўнучкі

Шейн, Мат., III, стар 389.
Зап. у м. Ельск Мазырскага п. Мінскай губ.

### 115. Запражы ж ты, душулінка, варанога каня

Сахараў, стар. 69, № 175.
Зап. І. Ігнатовіч у 1929 г. у в. Іоніны Краслаўскай вол. Даўгапілскага п. (Латвія) ад сваёй маці.
Спявае бабка.

### 116. Бабуся мая гордая

Шейн, Бел. п., стар. 2—3, № 4.
Зап. наст. Прэабражэнскі ў м. Чашнікі Лепельскага п. Віцебскай губ.

*Пура* — мера, роўная тром пудам.
*Сем мер* — сем пудоў.
*Сетачку-брадню* — брэдзень, рыбалоўная прылада.

### 117. Бабуся мая горная

Добровольский, стар. 4, № 7.
Зап. у в. Свалы Краснінскага п. Смаленскай губ. Вар.

### 118. Паражыллечка наша ў полажы ляжала

Довнар-Запольский, стар. 39, № 294.
Зап. у в. Дабраслаўка Пінскага п. Мінскай губ.
*Вана́* або *вона́* — яна (асаблівасць палескай гаворкі).

### 119. Антоська ў полазі ляжыць

Зап. Л. М. Салавей у 1969 г. у в. Рудка Пінскага р. ад Меланні Паненка, 74 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 18, сш. 5, л. 19. Вар.
*Стрэж, божа* — сцеражы, божа.

### 120. Ой, ў полю садочак

Federowski, VI, стар. 553, № 4065.
Зап. у в. Пацуі каля м. Свіслач Гродзенскай губ.
У залежнасці ад абставін спяваецца «сыночка» або «дачушку».
Гэта песня спяваецца да кумы, якой дораць «плахту» на «хвартух».
*Дылем дыляваны* — агароджаны дылямі, г. зн. тоўстымі дошкамі-аполкамі.
*Плахта* — у даным выпадку кавалак саматканага палатна.
У аснове напеву «святочная інтанацыя» (па тэрміналогіі Ф. А. Рубцова) — сыходны мажорны пентахорд. У сваім поўным выглядзе ён выступае тут у другой палавіне напеву. Гэты абарот — тыповая меладычная формула народнага ўслаўлення. Каларытныя фаршлагі падкрэсліваюць асаблівае стаўленне выканаўцы да аб'екта ўшанавання.

### 121. Ці ведаець бабка

Зап. Л. І. Ткачова ў 1963 г. у в. Бараны Глыбоцкага р. ад Т. І. Крывёнак.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, бл. 8, л. 8.

### 122. Ці ведаеш, бабка

Зап. З. Я. Мажэйка ў 1963 г. у в. Аношкі Лепельскага р. ад Х. К. Гарбачовай. Вар.
Спяваецца бабцы.

Структура мелодыі «хутка — павольна» падобна да структуры беларускіх традыцыйных прыпевак. Аднак складаны метр другой палавіны сведчыць аб значнай трансфармацыі гэтай формы.

### 123. Бабка да ўнучкі

Зап. [illegible]. П. Чыгрын у 1959 г. у в. Харэўшчына Багушэўскага р. ад Ганны Іванаўны Сліжовай, 39 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 45, бл. 1, л. 40, № 41.

*Жашчыць* — спяшаецца (Н о с о в и ч, Слов., стар. 158: *жосткі* — скоры).

### 124. Бабка к унучцы

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1967 г. у в. Заполле Бялыніцкага р. ад Аляксандры Іванаўны Ігнатовіч, 59 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 110, сш. 3, № 13. «Хрэсьбіны». Вар.

Вар. з Крупскага р. (г. Купленка) зап. студ. М. М. Аўхімовіч у 1967 г. («Бабка к унучцы баразенькай ішла... два гурочкі нясла»). Т а м ж а, ф. 13, воп. 10, спр. 11, сш. 7, л. 20.

### 125. Ой, скочыла паражыльнечка

Зап. М. С. Шушкевіч у 1969 г. у в. Фядоры Столінскага р. ад Агапкі Мельніковіч.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 19, сш. 1, л. 31.

Той жа тэкст паўтараецца «свякрованцы, свёкру і ўсёй радзіне». Як заўважыла выканаўца, «колісь малада замужам мусіла дзякаваць за абед усім: ад свякрові да дзяцей» (маюцца на ўвазе дзеці заловак і ятровак).

### 126. А йшла бабка з замор'я

З даваенных запісаў. Пашпарт песні згублены.

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 4, л. 6.

Хрэсьбінная песня-замова.

## ВЕЛІЧАЛЬНЫЯ ПЕСНІ ДА БАБКІ І КУМОЎ

Гэта адзін з самых значных раздзелаў хрэсьбінных песень. Яны адрасаваны найбольш паважаным удзельнікам сямейнага святкавання. У песнях падкрэсліваецца, што бабка, кум і кума — самыя пачэсныя госці на хрэсьбінах, ім і самае пачэснае месца ў застоллі — на куце, іх асабліва гасцінна частуюць і абдорваюць, усяляк велічаюць за нібы сапраўды багатае адзенне, а кумоў — яшчэ за прыгажосць і маладосць; пасля хрэсьбін з павагай адвозяць дадому.

Асаблівае пашырэнне гэтага віду хрэсьбінных песень відаць са шматлікіх варыянтаў, якія запісаны ў розных месцах Беларусі.

### 127. У Антонькі ды явор на дварэ

Гарэцкі, Ягораў, стар. 2, № 4.

Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай.

Тое ж з адпаведнымі заменамі спяваецца да кума і кумы.

Форма напеву — *авсв*. Яна часта скарыстоўваецца ў тэкставай страфе, якая мае будову *аа* (простая паўторнасць). Форма гэта, верагодна, больш ранняга паходжання, чым «пара перыядычнасцей» (гл. 99).

### 128. Што й у нашага Іванічкі

Косич, стар. 35.

Месца запісу дакладна не адзначана (поўнач Чарнігаўскай губ.).

Вар. папярэдняй і ў той жа час самастойная песня з зусім іншым заканчэннем.

### 129. А ў нашага Івана явар на дварэ

Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Шыпяны Смалявіцкага р. ад Евы Мініч, 56 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 63, бл. 1, л. 11.

І тут вар'іруюцца пачатковыя страфы са страфамі папярэдніх двух тэкстаў, і ў той жа час песня мае зусім іншае заканчэнне, хаця ўсе вар. адНолькава прасякнуты павагай да бабкі. У песнях разам з бабкай ушаноўваецца гаспадар — бацька дзіцяці. У даным вар., бадай, найбольш правільная народная «рэдакцыя» радка «Справіў ён хрэсьбіны людзям і сабе» замест «Сабраў пір не людзям ён,— сабе» або «Сабраў ён пір-бяседу да не людзям, сабе».

### 130. Лятаў верабей

Косич, стар. 34.

Зап. у 1897 г. у в. Водвінка Мглінскага п. Чарнігаўскай губ. ад жанчыны 65 г.

*Пазыбаў* — пахістаў, пагайдаў, тут, магчыма, — падзяўбаў.

*Грынечка* — уласнае асабовае імя Грышачка, Рыгорка.

### 131. Па куму з кумам сем паслоў слалі

Зап. К. Б. Кузняцова ў 1963 г. у в. Лоск Маладзечанскага р. ад Агаты Аляксандраўны Лазар, 37 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 80, бл. 7, л. 11.

### 132. Бабка мая, чырвоная рожа

Тэкст зап. М. Я. Грынблат, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Асаўлянскія Хутары Крывіцкага р. ад Л. М. Місун.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 86.

Напеў у характэрным мінорным квартавым ладзе з эпізадычнай «натуральнай» VII ступенню. Ступень гэта ў больш позніх ладавых канструкцыях робіцца своеасаблівым «рычагом» для пераводу мелодыі ў паралельную мажорную танальнасць. Апошняя тут ледзь адчуваецца (3 такт).

### 133. Венаград на дварэ

Самцэвіч, стар. 40.
Тое ж спяваецца да «кумкі-галубкі» і «кума-васілёчка».
Асабліва яркі ўзор песні-ўшанавання бабкі, кумы і кума, кожнага паасобку.

### 134. Весела, ясна сонца на небе

Шейн, Мат., I, 1, стар. 26.
Зап. наст. Тоўсцік у Барысаўскім п. Мінскай губ.
Тое ж, як указвае збіральнік, спяваецца і да кумы, хоць замены ў тэксце не адзначаны. Павінна быць адпаведна: «Весялей, ясней у ўнучкі *куме* на куце» і «Яшчо званчэй *кумулін* голас ў даму».

### 135. Весела, ясна сонца на небе

Шейн, Мат., I, 1, стар. 26.
Зап. наст. Тоўсцік у Барысаўскім п. Мінскай губ.
Перадрук. у Выпісы, стар. 47, № 4.
Вар. папярэдняй песні, які адрасаваны асобна куму. Апошняя страфа мае атэістычнае адценне.

### 136. А ўчора бабка, а ўчора любка

Самцэвіч, стар. 37.
Узор трохчасткавай хрэсьбіннай песні, якая ў аднолькавых выразах адрасавана паслядоўна бабцы, куме і куму. Такая трохчленная будова найбольш характэрна для велічальных хрэсьбінных песень.
*На бакі развяду* — адкладу ў бок.

### 137. Упіла да ўела чорная галачка

Довнар-Запольский, стар. 39, № 298.
Зап. у в. Дабраслаўка Пінскага п. Мінскай губ.

### 138. Не кукуй, зязюлечка, рана

Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Жыцькава Барысаўскага р. ад Ганны Іванаўны Рыжковай, 51 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 62, бл. 4, л. 24.
Тое ж з адпаведнымі заменамі ў апошнім радку спяваецца куме і куму.

### 139. Не кукуй, зязюлечка, рана

Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Кімія Барысаўскага р. ад Соф'і Андрэеўны Хацкевіч, 56 г., З. А. Хацкевіч і інш.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 60, л. 38. Скар. вар.

### 140. Я ўчора, малада

Романов, Бел. сб., VII, стар. 38, № 34.

Зап. у Дзісненскім п. Віленскай губ. ад сялянкі Піліпенкавай.

Перадрук.: Чуркін, 1949, стар. 106, № 32.

Спявалася кумам.

Мелодыя яўна не беларускага характару: павялічаная секунда як элемент арнаментыкі, паменшаная кварта ды і ўвесь інтанацыйны склад указваюць на яўрэйскія фальклорныя вытокі. Калі гэта не памылка збіральніка, то перад намі цікавы прыклад музычных узаемасувязей у межах традыцыйнага цыкла.

### 141. Ой ты, салавей, начная пташка

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1961 г. у в. Савічы Пастаўскага р. ад Вольгі Сцяпанаўны Скрыцкай, 74 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 67, бл. 2, л. 20.

З гэтай песні відаць, што роля і значэнне кумоў ва ўмовах старой вёскі былі важнымі не толькі ў жыцці «хросніка», але ў пэўных выпадках і для яго бацькоў. Усё гэта тлумачыць, чаму з такой павагай ставіліся да кума і кумы на хрэсьбінах.

### 142. Наша бабулька да й малімонка

Тэкст зап. Л. Р. Савікоўская, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Кіржына Крывіцкага р. ад Настассі Іванаўны Грышкевіч, 60 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 102.

*Малімонка* — ласуха.

*Унучка* — тут парадзіха; жанчына, у якой бабка «бабіла» дзіця, звалася ўнучкай гэтай бабкі.

Тыповая для раннетрадыцыйнай мелодыкі пераменнасць паралельных танальнасцей у суадносінах мажор — мінор. У кадэнцыі спецыфічнае «праглытванне» апошняга складу з адначасовым зацягваннем перадапошняга. Гэта выклікана характэрным для беларускай музыкі імкненнем да мужчынскіх клаўзулаў.

### 143. Ой, на высокай гарэ

Этнографические описания Виленской губернии Ошмянского уезда, составленные сельским священником. (Сярэдзіна XIX ст.). АГТ, IV, 6, л. 21, № 2.

Песня паўтараецца некалькі разоў, пры гэтым мяняецца толькі апошні радок: «Кумочкаў частавала»; «Дзедачку частавала»; «Дзядзечку частавала» і г. д. Пералічваюцца ўсе госці.

### 144. А чаго, бабка, а чаго, любка

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 1—2.

Спявалі бабцы.

### 145. Кум в кумой на покуце сядзяць

Ш е й н, Мат., І, 1, стар. 24.

Зап. наст. Тоўсцік у Барысаўскім п. Мінскай губ.

Спявалася кумам, але гэты ж тэкст адрасоўваўся і бабцы. Гэта відаць са звароту да ўнучка, што апраўдана толькі з боку бабкі. У даным кантэксце зблытана, павінна было быць: «Можна, кумок, без віна гуляць», бо і бацькі нованароджанага, і запрошаныя імі кумы ў адносінах паміж сабой— кумы.

### 146. Івалга да на бавалні гняздо ўе

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 345.

Зап. у в. Хонава Быхаўскага п. Магілёўскай губ.

Спявалася куму.

Гл. таксама 36, які ўяўляе сабой больш шырокі вар. з Лепельскага п., адрасаваны да гаспадыні — парадзіхі.

*На бавалні* — на мяккім, на пуху, ваце.

### 147. А кум із кумой на куце сядзіць

Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Жыцькава Барысаўскага р. ад А. І. Круглік.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 63, бл. 4, л. 4.

### 148. Кум з кумою на куце сядзіць

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 2.

Вар. Спявалі кумам.

Яшчэ вар.: са Смалявіцкага р. (в. Зарэчча) зап. М. В. Кулінчык у 1967 г. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 20, сш. 4, л. 13); зап. Е. Н. Лукашкова ў 1967 г. у в. Перагон Слаўгарадскага р. (Т а м ж а, спр. 11, л. 2).

### 149. Ходзе па вуліцы ўнук

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 344.

Зап. у в. Хонава Быхаўскага п. Магілёўскай губ.

*Унук* — тут бацька ў адносінах да бабкі, што «бабіла» ў яго жонкі дзяцей.

## 150. Каля месяца, каля яснага

Зап. студ. Н. М. Мікулік у 1960 г. у в. Міхайлава Барысаўскага р. ад Марыі Іванаўны Карповіч, 73 г.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 27, сш. 6—7, л. 54.

## 151. А скочыла наша Хрыстынка

Раманов, Бел. сб., VIII, стар. 347.
Зап. у Сенненскім п. Магілёўскай губ.
Узор трохчасткавай велічальнай хрэсьбіннай песні, якая па чарзе спяваецца бабцы, куме і куму.

## 152. А скакнула Ганутачка

Гарэцкі, Ягораў, стар. 2, № 3.
Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай. Вар. З адпаведнымі заменамі спяваецца таксама куму і куме.
Метрыка мелодыі зменена; даецца па іншых варыянтах, у якіх адчуваецца больш арганічная, на наш погляд, для данага зместу «застольная», разгойдвальная рытмічная пульсацыя.

## 153. А ў саду вішня

Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Лошніца Барысаўскага р. ад Кацярыны Пятроўны Ахрамовіч, 50 г., Варвары Піліпаўны Рыбак, 52 г. і Марыі Архіпаўны Гаўрыльчык, 43 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 62, бл. 1, л. 22—23.
Трохчасткавая песня бабцы, куме і куму.

## 154. Чарачка медавáя

Зап. А. І. Гурскі ў 1965 г. у в. Салаўі Аршанскага р. ад М. С. Балашэнка і інш.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 95, бл. 2, л. 6.
Трохчасткавая песня да бабкі, кумы і кума.

## 155. Й ёлачка зялёная

Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Шыпяны Смалявіцкага р. ад Вольгі Сцяпанаўны Прончанка, 46 г., Таццяны Феліксаўны Антонавай, 51 г. і Марыі Мікалаеўны Таўкач, 50 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 62, бл. 1, л. 8.
Трохчасткавая песня да бабкі, кумы і кума.

## 156. Ні слава, ні слава

Зап. Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Забор'е Плешчаніцкага р. ад Лізаветы Сівец.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 23.

Форма напеву — адна са старажытнейшых — *аа* (простая паўторнасць), аднак складаная метрарытміка надае ёй даволі дынамічны выгляд. Гэтаму садзейнічаюць і элементы ладавай пераменнасці ў мелодыі.

## 157. Шуркава бабулька

Зап. Л. І. Павецьева ў 1967 г. у в. Ланькава Бялыніцкага р. ад Праскоўі Мікалаеўны Шархуновай, 57 г. і Матроны Мацвееўны Шнетусь, 56 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 107, бл. 1, л. 4.

## 158. А ў саду яблынька бяленька цвіціць

Зап. А. С. Емяльянаў у 1960 г. у в. Цяцерын Бялыніцкага р. ад Настассі Ільінічны Нашыванкінай, 54 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 8, л. 47. Вар.

## 159. Да й у Сцяпанкі на дварэ

Тэкст зап. М. Г. Стырнэ, напеў — Г. І. Цітовіч у 1949 г. у в. Стаялы Клічаўскага р. ад Кацярыны Архіпаўны Раташынскай, 35 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 26, бл. 2, л. 13.

*У рамяне* — на конавязі.

У напеве — вельмі незвычайная для ладу кадэнцыя на II ступені. Характар тэматызму, а таксама прынцыпы яго развіцця дазваляюць аднесці гэты напеў да познетрадыцыйнай лірыкі. Апошняя страфа скарочаная.

## 160. Паглядзі, бабка, паглядзі, любка

Самцэвіч, стар. 39.

Спяваецца бабцы, куму і куме, калі парадзіха пачынае рыхтаваць для іх «намёткі» — падарункі, адрэзы тканіны.

Гэты і наступныя пяць тэкстаў належаць да спецыяльных песень, якія суправаджаюць цырымонію абдорвання бабкі і кумоў на хрэсьбінах.

## 161. Цёмная хмара на двор находзіць

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 3.

Спяваецца бабцы, калі ёй аддаюць «намётку». Тое ж з адпаведнымі заменамі спяваецца асобна куме і куму.

## 162. Паеду я да да Мугулева

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 345.
Зап. у в. Хонава Быхаўскага п. Магілёўскай губ.
Спяваюць, калі парадзіха абдорвае бабку, кума і куму на хрэсьбінах.
*Трубка-рубка* — сувой, кусок палатна (рубка аднаго кораня з *рубахай*).
*Нейдзе* — няўжо, ці.

## 163. Рана пеўнічкі заспявалі

Д о в н а р-З а п о л ь с к и й, стар. 39, № 296.
Зап. у в. Дабраслаўка Пінскага п. Мінскай губ.
Спяваецца, калі абдорваюць бабку.
Вар. т а м ж а, стар. 40, № 300:

Сваёй бабаньцы да галубаньцы
Падаркі краяла,
Тонкія да бяленькія,
Як папіру, раўненькія.

## 164. Гуляла бабуся, гуляла

Зап. М. Я. Грынблат у 1968 г. у в. Бялынкавічы Касцюковіцкага р. ад Ксені Фёдараўны Парчэўскай (Паршчэўшчыхі), 66 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 1, бл. 1, л. 36—37.

Гэту песню спяваюць, адзначыла выканаўца, «як парадзіха дае бабцы намётку; баба пяець і пріплёсківаець», г. зн. прытанцоўваючы і пляскаючы ў далоні.

## 165. А каб я была шэраю зязюляю

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 3.

Пяецца пасля таго, як бабка атрымала ад парадзіхі падарунак — «намётку». Радок «А ці бялюсенька, а ці танюсенька» захаваў сведчанне аб тым, што першапачаткова бабку, відаць, сапраўды абдорвалі намёткай, г. зн. доўгім рушнікам з тонкага кужэльнага палатна на галаўны ўбор. З цягам часу назва «намётка» перайшла на любы іншы прадмет, якім парадзіха абдорвала бабку на хрэсьбінах, пераважна матэрыял на сукенку або хустку.

## 166. Бабачка кашу крае

Д о в н а р-З а п о л ь с к и й, стар. 39, № 295.
Зап. у в. Дабраслаўка Пінскага п. Мінскай губ.
Належыць да катэгорыі хрэсьбінных песень і іншых славесных твораў, якія выконваюцца пры раздачы «бабінай кашы».

### 167. Кладзіце на мыла

Тэкст зап. М. Я. Грынблат, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Асаўлянскія Хутары Крывіцкага р. ад Л. М. Місун.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 88.

Спяваецца, калі дзеляць «бабіну кашу». Кожны з гасцей, атрымаўшы сваю порцыю кашы, кладзе на талерку колькі-небудзь грошай «на мыла» дзіцяці. Усе сабраныя грошы бабка перадае парадзісе.

«Тыповы напеў» (гл. заўв. да 11).

### 168. Бабуля, бабуля

Зап. Л. А. Малаш у 1969 г. у в. Туркі Докшыцкага р. ад А. Гапанёнак.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 22, сш. 1, л. 38.

### 169. А баранечка чорненькі, чорненькі

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 3.

Выконваецца, як дзеляць «бабіну кашу».

Песня складзена ў традыцыйнай манеры народнай загадкі: «Баранечка чорненькі»— закураны гаршчок з кашай, «воўначка сучацца» — румяны верх кашы, «стрыч будзем» — есці кашу.

### 170. А ў бару дуб'ё

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Лядцы Дубровенскага р. ад Хрысціны Пятроўны Малахавай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99, бл. 3, л. 33, № 2.

Хрэсьбінная-велічальная да бабкі, кумы і кума. Як у калядных песнях гіпербалічна ўсхваляецца неіснуючае багацце гаспадара, так і тут спяваецца пра «дарагое» адзенне найбольш паважаных удзельнікаў хрэсьбін.

*Ялаватае* — бясплоднае, з голым галлём.

### 171. На двары вярба сукаватая

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Ляўкі Аршанскага р. ад Веры Яфімаўны Філіповіч, 51 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99, бл. 1, л. 29, № 3. Вар.

### 172. А ў бару сасна ялаватая

Зап. А. І. Гурскі ў 1965 г. у в. Салаўі Аршанскага р. ад М. С. Балашэнка, Таццяны Сямёнаўны Яфрэменка, 41 г. і Настассі Іванаўны Барцовай, 47 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 95, бл. 2, л. 5. «Ксціны».
Вар. (Гл. заўв. да 170).
*Ягор* — явор.

**173. Усе людзі дзівавалiся**

Тэкст зап. Л. Р. Савікоўская, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Асаўлянскія Хутары Крывіцкага р. ад Л. М. Місун. Вар.

У напеве ясна адчуваецца квартавая ладавая пераменнасць. Гэта параўнальна ўжо складаныя ўнутрыладавыя суадносіны. Характар інтанацыйнага развіцця (турботны і нават змрочны) некалькі не супадае з больш аптымістычным зместам тэксту (3-я і 4-я строфы выконваюцца як 2-я).

**174. Кум ля кумы сядзіць**

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1967 г. у в. Ордаць Шклоўскага р. ад Марыі Фёдараўны Сідаравай, 69 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 110, сш. 3, л. 46, № 15.

**175. А на бабцы саян**

Самцэвіч, стар. 37.
Зап. у Барысаўскім р.
Хрэсьбінная-велічальная да бабкі, кума і кумы. (Гл. заўв. да 170).

**176. А каб я была**

Зап. студ. Г. С. Маеўская ў 1960 г. у в. Жыцькава Барысаўскага р. ад Надзежды Міхайлаўны Адамейка, 48 г.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 27, сш. 11, л. 72.

**177. Бабулька, пахнучая мята**

Зап. І. К. Цішчанка ў 1961 г. у в. Кімія Барысаўскага р. ад З. А. Хацкевіч і інш.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 59, 85.

**178. Каб я знала, ведала**

Зап. М. П. Гваздзёў у 1965 г. у в. Зубава Аршанскага р. ад Хімы Сцяпанаўны Рабекінай, 53 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 94, бл. 1, л. 19—20.
Велічальная трохчасткавая песня да бабкі, кума і кумы.
Блізкі вар.: Романов, Бел. сб., VIII, стар. 349. Высокае Аршанскага п. Магілёўскай губ.

### 179. Каб я знала, малада

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Стары Дрыбін Горацкага р. ад М. Д. Куцанковай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 1, л. 37—39. Вар.

### 180. Каб я знала, каб я ведала

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 345.

Зап. у в. Княжыцы Магілёўскага п. ад сялянкі Д. Самсонавай. Вар.

### 181. Каб я знала, каб я ведала

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 346.

Зап. у Сенненскім п. Магілёўскай губ. Вар.

Яшчэ вар. зап. В. І. Скідан у 1967 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 105, бл. 1, № 3).

### 182. Што ж то за красачка

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 340—341.

Зап. у в. Кутня Быхаўскага п. Магілёўскай губ.

Трохчасткавая велічальная песня да бабкі, кума і кумы.

*Пагодка* (*паготкі, пагодкі, ногцікі*) — жоўтая асенняя кветка, што расце ў садзе (Calendula L.).

### 183. А ў каго зелен сад на двары

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 348.

Зап. у в. Болецк Гарадоцкага п. Віцебскай губ.

Трохчасткавая велічальная песня да кума, кумы і бабкі, якія заслужылі самага пачэснага месца за хрэсьбінным сталом і ўрачыстых провадаў дадому.

Песня вядома ў радзе вар., пераважна на поўначы Беларусі. (Гл. наступныя вар. тэксту).

*Везь, сесь* — усечаныя формы ад *везці, сесці*.

*Чацвертачок* — чацвяртак, чвэрць рубля, 25 капеек.

*Паставіла кашы гаршок* — тут: згатавала, зварыла.

### 184. Запражыце, запражыце

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1964 г. у г. п. Расоны ад Агафʼі Кандратаўны Інчыленка, за 50 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 90, бл. 1, л. 12—13. Вар.

*Скуток* — палатно, якім кума пакрывала дзіця пры абрадзе хрышчэння.

## 185. Сядзіць баба на куце

Зап. К. Б. Кузняцова ў 1964 г. у в. Гаршчэўшчына Талачынскага р. ад М. Ц. Бохан.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 91, бл. 2, л. 14—15, № 7. Вар.

*Шкуток* — тут: намётка, падарунак ад парадзіхі.

*Чырванчок* — чырвонец; залатая манета.

## 186. Сядзіць бабка на куце

Зап. В. Ф. Дунец у 1961 г. у в. Рубеж Бешанковіцкага р. ад У. Баталка.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 5, сш. 4, л. 6.

Вар. Відаць, збіральнікам не запісана трэцяя частка песні, якая павінна быць адрасавана куму.

*Суляці* — злятай.

Кароткі вар. зап. І. К. Цішчанка ў 1960 г. у в. Мішневічы Сіроцінскага р. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 49, бл. 1, л. 38).

## 187. Нашто ж ты, кумок

Зап. М. Я. Грынблат у 1960 г. у в. Глушыца Сіроцінскага р. ад Пёклы Ларыёнаўны Гаравой, 68 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 47, бл. 4, л. 4—5. Вар.

## 188. У нашага кума бела бяроза

Шейн, Бел. п., стар. 6, № 12.

Зап. П. В. Шэйн у м. Чашнікі Лепельскага п. Віцебскай губ.

## 189. Чэраз рэчку кладачка

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 342.

Зап. у Раснянскай вол. Сенненскага п. Магілёўскай губ.

Збіральнік адзначае, што песня гэта з'яўляецца нібыта абавязковай для хрэсьбін і з нязначнымі зменамі (— А што нясеш, кумуся?— Накрытачку, госпад-бог... — А што нясеш, кумочак? — А красточак, госпад-бог... і да т. п.) пашырана па ўсёй Беларусі. Між тым вядомыя вар. сведчаць, што песня была пашырана толькі на поўначы і паўночным усходзе Беларусі (Віцебшчына, Магілёўшчына).

Даволі рэдкі ўзор велічальнай хрэсьбіннай песні да бабкі і кумоў, у якой праявіўся ўплыў хрысціянства.

## 190. Чэраз рэчку кладачка

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1964 г. у г. п. Расоны ад А. К. Інчыленка.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 90, бл. 4, л. 14—16, № 11—13. Вар.

*Напратачка* — вопратка; тут — кавалак палатна для нованароджанага.

## 191. А куды ты ідзеш, кумюся?

Шейн, Мат., I, 1, стар. 26.
Зап. наст. Свідэрскі ў в. Ігрушкі Сенненскага п. Магілёўскай губ.
Скар. вар. Запіс, відаць, няпоўны, бо песня адрасавана толькі куме.

## 192. Кала цэркаўкі сцежачка

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 341.
Зап. у в. Кутня Быхаўскага п. Магілёўскай губ.
Вар. Урывак гэтай песні («Каля цэркаўкі дарожка») зап. С. М. Міско ў 1967 г. у в. Галёнкі Горацкага р. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 107, бл. 1, № 21).

## 193. А кумачка-галубачка

Зап. І. П. Чыгрын у 1959 г. у в. Іванск Чашніцкага р. ад Фядоры Сцяпанаўны Сакалоўскай, 66 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 45, л. 4, № 52.

## 194. Не пасмею ў бабусечкі папытаці

Косич, стар. 34.
Зап. у 1897 г. у в. Водвінка Мглінскага п. Чарнігаўскай губ.

## 195. Запяём песню расхожую

Шлюбскі, стар. 11, № 14.
Зап. у 1923 г. у в. Таўсцюкі Віцебскага п.
Спяваецца перад адыходам хрэсьбінных гасцей дадому.

## 196. Запрагайце, закладайце

Шейн, Мат., I, 1, стар. 28.
Зап. вуч. Я. Копац у с. Падлессе Слуцкага п. Мінскай губ.
Тое ж спяваецца куме:

Запрагайце, закладайце
Жарабіцу сівіцу,
Да адправадзьце, адвязіце
Куміцу-галубіцу...

Велічальная хрэсьбінная песня з вельмі пашыранай групы твораў аб праводзінах бабкі і кумоў дадому. (Гл. наступныя 197—227). Характэрна, што для бабкі, як спяваецца ў песнях, запрагалася «дванаццаць валоў» (часцей у запісах з паўднёвых і цэнтральных раёнаў) або «семярык вара-

ных (у паўночных і ўсходніх раёнах). Для провадаў кумкі запрагалася «жарабіца сівіца», для кума — «конь вараны».

Па старому звычаю бабка і кумы па дарозе частавалі ў карчме гарэлкай усіх удзельнікаў праводзін.

Часам песні аб праводзінах бабкі і кумоў набывалі жартаўлівае адценне і замест валоў або коней у воз запрагалі «сівую свінку», «дванаццаць вераб'ёў», «дванаццаць авец», «дванаццаць сабак» і г. д.

### 197. Запрагайце, запрагайце

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Бокшыцы Слуцкага р. ад М. Н. Шэлег.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99-а, бл. 2, л. 10, № 8.

Блізкі вар. запісаны амаль праз 80 год пасля папярэдняга тэксту таксама на Случчыне, што сведчыць аб добрай захаванасці гэтага віду абрадавай паэзіі.

Самцэвіч, стар. 35, № 2. Вар. з Барысаўскага р.

### 198. Запрагайце, закладайце

Тэкст зап. Ю. Ф. Мацкевіч, напеў — Г. І. Цітовіч у 1946 г. у в. Крывічы Старобінскага р. ад Саламеі Маркаўны Чарэўка, 50 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 10, л. 45. «Хрэсьбінная. Адвозячы ўсіх дамоў».

Вар. (Гл. заўв. да 196).

У аснове напеву інтанацыя заклінальнага характару вяснянак — зыходны мінорны пентахорд з прапушчанай II ступенню. Тройчы паўтораны, гэты абарот яшчэ больш падкрэслівае імператыўны характар мелодыі.

### 199. Запрагайце, закладайце

Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1960 г. у в. Карцэвічы Нясвіжскага р. ад Таццяны Сцяпанаўны Крыўко, 56 год.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 52, л. 14—15. Вар.

### 200. Запражыце, запражыце

Зап. Н. Русаловіч у 1948 г. у в. Скарынічы Мінскага р. ад сваёй бабкі Г. Станішэўскай, 60 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 5, спр. 6, л. 29. Вар.

### 201. Запражыце, залажыце

Зап. Л. І. Ткачова ў 1961 г. у в. Крупнікі Крывіцкага р. ад Веры Аляксандраўны Бабкевіч, 51.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 66, бл. 2, л. 27, 29. Вар.

Яшчэ вар. зап.: М. П. Гваздзёў у 1950 г. у в. Салтанаў Рэчыцкага р. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 92, ч. I, л. 6); А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Крупнікі Крывіцкага р. (Там жа, ф. 8, воп. 1, спр. 64, бл. 1, л. 46): Т. С. Гайдук у 1969 г. у в. Калюж Бярэзінскага р. (Там жа, ф. 13, воп. 10, спр. 23, сш. 7, л. 1).

### 202. Бабусюхна, любусюхна

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Стары Дрыбін Горацкага р. ад Просі Атрахімаўны Пацанковай, 76 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 1, л. 28—31.

Са значнай групы хрэсьбінных велічальных песень аб урачыстых праводзінах бабкі і кумоў на «дванаццаці валах» або «канях», «кабылах». Усе вядомыя вар. з Магілёўшчыны.

### 203. Каб учора ды бабусечка

Гарэцкі, Ягораў, стар. 3, № 5.

Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай. Вар.

*Для хіжанькія* — тут: для зграбненькай, прыгожанькай. (Даль, IV, стар. 547, сярод розных тлумачэнняў ёсць *хіжы* — акуратны, хайны і лоўкі, жвавы; абодва паняцці са Смаленшчыны і наогул з заходніх губерняў).

### 204. Як учора бабусюхна

Шейн, Мат., I, 1, стар. 28—29.

Зап. у в. Галавічы Чавускага п. Магілёўскай губ. Вар.

*На прыксцінкі* — на другі дзень пасля «ксцін» — хрэсьбін, калі застолле яшчэ працягвалася для больш вузкага кола сваякоў і суседзяў. Частаванне на другі, а часам і на трэці дзень пасля хрэсьбін у розных месцах Беларусі называлася па-рознаму: пахрысціны, прыксціны, пахмелле, муравінкі, змуркі, зліўкі і інш.

Вар. з в. Бардзілава Халопеніцкага р. зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 4):

А ўчора, бабка, а ўчора, любка,
Я на хрэсьбінкі прыйшла,
А сягоння, бабка, а сягоння, любка,
На пахмеллейка прыйшла...

Вар.: Дембовецкий, стар. 582, № 5 (в. Галовічы Чавускага п.).

### 205. А ўчора бабка на радзінках была

Шлюбскі, стар. 11, № 13.

Зап. у 1914 г. у в. Забулдычына Полацкага п. Віцебскай губ.

## 206. А учора бабка на радзінках была

Шейн, Мат., І, 1, стар. 29.
Зап. М. І. Хмялеўскі ў в. Мадэліна Віцебскага п.
Велічальная песня з тэматычнай групы аб урачыстых праводзінах бабкі і кумоў. Блізкія па зместу песні вядомы ў розных месцах Беларусі.
*Вяльбуець* — хваліць, узвялічвае.

## 207. Запражы-ка, мой кум

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 337.
Зап. у в. Аслянка Мсціслаўскага п. Вар.

## 208. Учора звячора на радзінках была

Янчук, стар. 90, № 50.
Зап. у Гарадку Бабруйскага п. Мінскай губ. (Гл. заўв. да 204).

## 209. Як учора да бабусюхна

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 343.
Зап. у Рагачоўскім п. Магілёўскай губ. (Гл. заўв. да 204).

## 210. А ўпілася бабусечка

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Ляды Дубровенскага р. ад Х. П. Малахавай.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99, бл. 3, л. 36, № 3. Вар.
Дроздов, № 47. Вар. з Рослаўскага п. Смаленскай губ.:

Упилася кумусенька зелена вина,
Не дойдет кумусенька до своего двора...

Тое ж паўтарае «кума» ў адрас бабкі. Збіральнік адзначае: «Гэта, здаецца, адзіная песня, якая дапускаецца ў хрэсьбінным баляванні. Звычайна ж песень пры хрэсьбінах не спяваюць». (Датычыць Рослаўскага п.).

## 211. А ўчора бабка на радзінках была

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 349.
Зап. у в. Болецк Гарадоцкага п. Віцебскай губ.
Відаць, не поўны запіс.
«Смоленский вестник», 1893, № 13. Вар. з Рослаўскага п. Смаленскай губ.:

Вчера я на родинках была,
А сядни на кстинки попала...

Иванушка молодой,
Паночек небольшой,
Запрягай-ка двенадцать волов,
Ты вези-ка свою бабку домой...

Песня, відавочна, беларуская, але недакладна запісана.

### 212. Сягоння бабка

Зап. М. Я. Грынблат у 1964 г. у в. Плятнішча Віцебскага р. ад Ірыны Ільінічны Сіняковай, 59 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 87, бл. 4, л. 8—9.

Вар. папярэдняй. Адносна гэтай песні выканаўца заўважыла, што «яна не ўся».

### 213. А я ўчора із вячора

Зап. І. К. Цішчанка ў 1961 г. у в. Кімія Барысаўскага р. ад Э. А. Хацкевіч і інш.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 59, л. 90. Вар.

### 214. А ў Зіноўі, а ў Зіноўі

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 347—348.

Зап. у в. Дзеравягі Віцебскага п.

Гэта ж песня спяваецца куме і бабцы з адпаведнымі заменамі ў тэксце: бабцы замест «семярых вараных» загадваюць запрэгчы «семярых валоў».

Вар.: Шлюбскі, стар. 8, № 3. Зап. у 1914 г. у в. Белая Дуброва Віцебскага п. Таксама спяваецца бабцы, куму і куме; там жа, стар. 17. Кароткі вар. з в. Барсукі Віцебскага п.; Аникиевич, стар, 112; Янчук, № 50. Мінская губ.

### 215. У нашага Іванькі

Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Салтанаў Рэчыцкага р. ад Кацярыны Ракусевіч, 80 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 60, л. 79—80.

Песня выконвалася перад тым, як разбівалі гаршчок з «бабінай кашай». *Ганаруе*— ушаноўвае.

### 216. А ў каго, а ў каго вінаград на дварэ?

Зап. В. Ф. Дунец у 1961 г. у в. Рубеж Бешанковіцкага р. ад У. Баталка.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 8, спр. 5, сш. 4, л. 5. Вар.

*Шальмуець, вяльмуець* — ушаноўвае.

## 217. А скачыла Просічка з печкі далой

Добровольский, стар. 1, № 1.

Зап. у в. Свалы Краснінскага п. Смаленскай губ.

Адносіцца да песень аб урачыстых праводзінах бабкі. Відаць, тое ж спявалася асобна куму і куме, але засталося незаўважаным збіральнікам.

Печ, а таксама каляпечны слуп адыгрывалі немалаважную ролю ў старадаўняй абраднасці радзін. Печ, што замяніла першабытны ачаг, і наогул печны кут лічыліся месцам знаходжання духа — ахоўніка хатняга дабрабыту, і не дзіўна, што тут выконваліся розныя абрадавыя дзеянні сямейна-гаспадарчага характару. Парадзіха, напрыклад, пэўны час адлежвалася на печы, на печ кідалі лыжку з бабінай кашай і г. д.

## 218. Ой, запала, ой, запала

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1960 г. у в. Казловічы Слуцкага р. ад Настассі Пятроўны Калядкі, 40 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 50, л. 35. «Пяюць бабцы».

Другая страфа, відавочна, «мадэрнізавана»,— ранейшыя «валы» заменены «тройкай лашадзей», што адразу парушыла стыль песні і нават рыфму.

## 219. Як задула ды дарожачку

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Ляўкі Аршанскага р. ад Веры Яфімаўны Філіповіч, 51 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99, бл. 1, л. 28, № 2.

Відаць, тэкст уяўляе сабой толькі адну частку трохчасткавай песні, якая павінна быць аднолькава адрасавана як куме, так куму і бабцы.

## 220. А у садзе вішня

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 346—347.

Зап. у Сенненскім п. Магілёўскай губ.

Вар. зап. Ф. І. Юхневіч ад Т. Е. Кручок у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 3).

## 221. Віняград на двара

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 330.

Зап. у Шчарбінскай вол. Віцебскага п. Вар. папярэдняй.

## 222. На двара ў мяне

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 344.

Зап. у в. Хонава Быхаўскага п. Магілёўскай губ.

З групы хрэсьбінных песень аб урачыстых праводзінах бабкі і кумоў.
*Рыдван* — вялікі воз для снапоў.

### 223. А ў Васечкі на двара

Зап. М. Я. Грынблат у 1960 г. у в. Жарабічы Сіроцінскага р. ад Ульяны Максімаўны Донавай, 65 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 47, бл. 5, л. 38—39. Вар.

Кароткі вар. (толькі да бабкі) зап. І. К. Цішчанка ў в. Слабада таго ж р-на. (Т а м ж а, спр. 49, бл. 2, л. 37).

### 224. У Ягора пара коні на двара

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Каўшова Мсціслаўскага р. ад Сарафімы Піліпаўны Вяркеевай, 69 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 2, л. 12—13. Вар.

### 225. Ай, там на лугу

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 343—344.

Зап. у Рагачоўскім п. Магілёўскай губ.

Трохчасткавая велічальная хрэсьбінная песня да бабкі і кумоў.

*Замуздань* — закілзаны.

### 226. Запражыце, запражыце

К о с и ч, стар. 34.

Зап. у 1899 г. у в. Расуха Мглінскага п. Чарнігаўскай губ. ад жанчыны 60 г.

Ш е й н, Мат., І, 1, стар. 27, № 18. Вар.

### 227. Запражыце, запражыце

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 340.

Зап. у в. Казіміраўка Магілёўскага п.

Калі бабку вязуць на баране́, дык дадаюць:

Запражыце, запражыце
А дванаццаць сабак,
Адвязіце, адвязіце
А бабульку ў кабак.

*Пляснівенькага* — (пра каня) сівы ў плямы; тут — такі, які добра, роўна ступае.

### 228. Казала бабка, казала любка

Сахараў, стар. 69, № 174.
Зап. у 1938 г. у г. Краслава Даўгаўпілскага п. (Латвія) ад Г. Сімачыхі.
Спявае бабка ў канцы хрэсьбін, на адыходзе.

### 229. А я ўчора ды кумусечка

Зап. М. П. Гваздзёў у 1967 г. у в. Плешчыцы Шклоўскага р. ад Ганны Васільеўны Ксяндзовай, 40 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 108, бл. 3, л. 26.
Гэты ж тэкст з адпаведнымі заменамі спяваецца да «бабусенькі» і «кумочка».

### 230. А ў Мірона малайца

Добровольский, стар. 4, № 6.
Зап. у в. Правержанка Ельнінскага п. Смаленскай губ.

### 231. Ой, я ў свае ўнучанькі

Зап. М. Я. Грынблат у 1969 г. у в. Глінка Столінскага р. ад Марыі Філіпаўны Рэндзель («Бабкі»), 68 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 14, сш. 1, л. 22—24.
«Хрыстыны. Бабіна песня. Сэды, да гэто сповай, да ўсэ. Гэта самае — і кума́м». (Заўвага выканаўцы).

### 232. А пара, пара, бабулечка, да двара

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Ляды Дубровенскага р. ад Х. П. Малахавай.
АІМЭФ, ф. 8, воп 1, спр. 99, бл. 3, л. 32, № 4.
Спяваецца ў канцы хрэсьбін, на адыходзе.

### 233. У ельнічку, ў бярэзнічку

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, л. 4.
Спяваецца бабцы.

### 234. Бабуся дамоў адпраўляецца

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 3.

## 235. Елачка вялёная

Зап. М. В. Кулінчык у 1967 г. у в. Зарэчча Смалявіцкага р. ад Т. І. Кавэцкай.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 20, сш. 4, л. 11—12.

З песень, што выконваюцца перад адыходам хрэсьбінных гасцей.

## 236. Ой, пара, пара ўсім да двара

Зап. А. І. Гурскі ў 1965 г. у в. Салаўі Аршанскага р. ад М. С. Балашэнка.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 95, бл. 2, л. 7.

Гэты ж тэкст з адпаведнымі заменамі спяваецца куме і куму.

### ЖАРТОЎНЫЯ ПЕСНІ ДА БАБКІ І КУМОЎ

## 237. А наша бабулька малімонка

Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Сосенка Вілейскага р. ад М. П. Віцько.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 64, бл. 3, л. 18.

*Палгадзіла* — дагадзіла.

Гэты тэкст у параўнанні з яго блізкім вар. (гл. 142) мае зусім іншае заканчэнне. Яно адразу надае песні жартаўлівае адценне, што выражаецца ў дабрадушных «кпінах» з бабкі.

Кароткі вар. (чатырохрадкоўе, як прыпеўка) з таго ж р. (в. Зацямень) зап. студ. Ф. С. Уладыка ў 1967 г. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 11, сш. 10, л. 17).

## 238. Як пайду я на гуменца

Косич, стар. 33—34.

Зап. у 1897 г. у в. Водвінка Мглінскага п. Чарнігаўскай губ. ад жанчыны 65 г.

Песня адзначана збіральніцай як «мілы жарт».

Расшыраны вар.: Свитова, стар. 177—179, № 125, з напевам («Як пойду я на гуменько»). Фоназапіс К. Г. Світавай і Л. А. Бачынскага ў 1953 г. у в. Камень Старадубскага р. Бранскай вобл. РСФСР ад Якаўчанкавай. (Былы Старадубскі п. да рэвалюцыі таксама належаў Чарнігаўскай губ. і быў суседнім з Мглінскім п., адкуль паходзіць публікуемы тэкст). Песня адрасавана паслядоўна куму, куме і бабцы.

## 239. Бедавала наша бабулька

Тэкст зап. М. Я. Грынблат, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Асаўлянскія Хутары Крывіцкага р. ад Л. М. Місун.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 87.

Спявалася бабцы.

*На палочку* — на палу, на нарах, спальным месцы ў хаце (рус. *полати*). Характар напеву гл. у заўв. да 132.

### 240. Бабуліна доля ліхая

Зап. студ. Т. І. Абрамовіч у 1967 г. у в. Гарадок Маладзечанскага р. ад калгасніц Ганны Іванаўны Зялёнка, 50 г. і Паўліны Вікенцьеўны Чанада, 57 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 11, сш. 6, л. 23. «Радзільная». Вар.

### 241. Бабіна доля плахая

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1961 г. у в. Шыпяны Барысаўскага р. ад В. С. Прончанка, М. Я. Таўкач і М. Ф. Антонавай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 61, л. 9. Вар.

Трохчасткавая песня да бабкі і кумоў.

### 242. П'яна баба, п'яна

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 340.

Зап. у в. Казіміраўка Магілёўскага п.

Песня запісана з парушэннем рытмікі і строфікі.

*К пітаманнай* — дадому. (Н о с о в и ч, Слов., стар. 416: *пітаманны* — уласны, уласнай працай набыты).

### 243. Упілася бабка, упілася

С а м ц э в і ч, стар. 38.

Пашыраная ў многіх вар. жартоўная хрэсьбінная песня, якая незласліва, толькі каб развесяліць гасцей, «кпіць» з бабкі і кумоў, «дражніць» іх. Запісы амаль выключна з паўночных раёнаў Беларусі (гл. наступныя тэксты).

З адпаведнымі заменамі спяваецца куму («Куму ластаўку праелі») і куме («Куме ластавіцу...»).

*Шышы* — свавольнікі.

*Халацце* — старыя анучы, рыззё.

### 244. Наша бабка падпіла

Р о м а н о в, Бел. сб., VII, стар. 39, № 36. Сенненскі п. Магілёўскай губ. Вар.

Спяваецца ў канцы хрэсьбін, перад праводзінамі бабкі дамоў.

Напеў з секундавай ладавай пераменнасцю. Ясна выступаюць старажытныя квартавыя заклінальныя інтанацыі. Форма напеву — *аа*, у адрозненне ад 156 менш дынамічная, бо мае вельмі простую метрарытміку.

### 245. Упілася бабка

Зап. Л. І. Ткачова ў 1964 г. у в. Гаршчэўшчына Талачынскага р. ад Веры Сцяпанаўны Варашэль, 40 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 89, бл. 1, л. 24. Вар.

### 246. У гародзе за платом

Сахараў, стар. 70, № 179.
Зап. у 1937 г. на хут. Судрабу Ілукстэнскага п. (Латвія) ад У. Нейжбарт-Бяляўскай. Кароткі вар.

### 247. Упілася бабка, упілася

Зап. І. П. Чыгрын у 1959 г. у в. Харэўшчына Багушэўскага р. ад Ефрасінні Васільеўны Печкуровай, 40 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 45, л. 39, № 38. Вар.

### 248. А ўпілася бабка, ўпілася

Зап. К. Б. Кузняцова у 1964 г. у в. Гаршчэўшчына Талачынскага р. ад М. Ц. Бохан.
АІМЭФ, ф 8, воп. 1, спр. 91, л. 18—20, № 8—10. Вар.
Яшчэ вар.: Носович, стар. 100; Никифоровский, Част. № 571, 1574; Шлюбскі, стар. 9, № 5 (Янавічы Віцебскага п.):

Цыт-цы, дзеткі, не плачце,
Шукайце ў клеці скумаццця.
Бабцы шубку залапім
І чорным дзёгцем замажам.

Шырма, стар. 419.

### 249. Бабка з унучкаю гаварыла

Зап. А. І. Гурскі ў 1965 г. у в. Зубава Аршанскага р. ад Усцінні Цярэнцеўны Войніч, 50 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 95, бл. 1, л. 14—16.
*Кума з кумою, кум з кумою* — маецца на ўвазе «размова» кумы і кума з парадзіхай-гаспадыняй. Паміж сабой яны ўсе кумы.

### 250. Сядзіць бабка на куце

Зап. І. К. Цішчанка ў 1961 г. у в. Кімія Барысаўскага р. ад З. А. Хацкевіч, С. А. Хацкевіч, Ганны Пятроўны Любасей, 52 г. і іншых пажылых калгасніц.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 59, л. 84.
Тое ж з адпаведнымі заменамі спяваецца асобна куму і куме.
*Точацца* — ліецца, цячэ пацiху.

## 251. Бабка кашку нясець

Сахараў, стар. 69. № 173.
Зап. А. Лукашэвіч у в. Мураванка Рэзекненскага п. (Латвія) ад Г. Лімяшонак.

Належыць, як і наступныя дзве, да жартоўных песень, якія спяваюць бабцы ў час вясёлай цырымоніі раздачы хрэсьбіннай кашы. (Гл. таксама 166—169).

*Пастаночкі* — падарункі бабцы ад парадзіхі, звычайна матэрыял, «намётка».

## 252. На стале каша стала

Шырма, стар. 252, № 178.
Зап. у 1928 г. у в. Шакуны Пружанскага п. ад Захвеі Хвораст.
З нямногіх выяўленых песень, якія спяваюцца на хрэсьбінах пры раздачы «бабінай кашы». Па звычаю, яе павінен «выкупіць» кум. Да яго і адрасавана гэта песня-«кпіны».
*Ой, такі ў цябе станс* — хапае, ёсць у дастатку (грошай).
Напеў лірычнага характару. Квінтавая ладавая ячэйка з характэрным зачынам песні ў форме разгорнутага трохгучча, а таксама іншыя інтанацыйныя і рытмічныя асаблівасці — адзнака познетрадыцыйнай песні баладна-лірычнай тэматыкі; у прыватнасці, выяўляюцца блізкія рысы з некаторымі песнямі цыкла «непадзеленага кахання». Вельмі незвычайная для традыцыйнага меласа і пераменнасць ладу: пераход у танальнасць мінорнай дамінанты. Мяркуючы па іншых песнях спявачкі (гл. 363, 399, 464), напевы большасці хрэсьбінных песень, якія запісаны ад яе, пабудаваны на аднатыповых напеўках-зачынах. Гэта дазваляе дапусціць у даным выпадку наяўнасць асноўнага «тыповага напеву», які, аднак, вельмі свабодна вар'іруецца.

## 253. На стале каша стаяла

Зап. студ. Я. І. Зяньковіч у 1967 г. у Нясвіжы ад Ф. П. Мялешка.
АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 14, сш. 2, л. 11. Вар.

## 254. Адкуль ты, бабка?

Зап. К. Б. Кузняцова ў 1964 г. у в. Гаршчэўшчына Талачынскага р. ад М. Ц. Бохан.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 91, бл. 2, л. 16, № 8.
Жартоўная песенька-дыялог, што выконваецца на хрэсьбінах пры цырымоніі раздачы «бабінай кашы».

### 255. А на дварэ дож ідзець

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 346.
Зап. у Сенненскім п. Магілёўскай губ.

### 256. А як [к] куму кума

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 342.
Зап. у Рагачоўскім п. Магілёўскай губ.

### 257. Нядужа бабка, нядужа

Зап. К. Б. Кузняцова ў 1963 г. у в. Лоск Маладзечанскага р. ад А. А. Лазар.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 86, бл. 7, 10.

Адна з пашыраных пераважна ў паўночнай частцы Беларусі жартоўных песень, якія дружалюбна «кпяць» з бабкі ў час абдорвання яе парадзіхай (Гл. наступныя сем тэкстаў).

### 258. Казалі, наша бабка хваравіта

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 347.
Зап. у Сенненскім п. Магілёўскай губ. Вар.
Спяваецца, як абдорваюць бабку на хрэсьбінах.
*Варавіта* — тут хітравата.

### 259. Бабуся таўчы, малоць нядужа

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 3. Вар.

Спяваецца, як абдорваюць бабку.

### 260. Хараша бабулька, хараша

Зап. К. Б. Кузняцова ў 1963 г. у в. Лоск Маладзечанскага р. ад Надзеі Вікенцьеўны Брадзінскай, 58 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 80, бл. 3. л. 25. Вар.

Спяваецца, як абдорваюць бабку.

### 261. Наша бабка нядужа, нядужа

С а х а р а ў, стар. 69, № 172.

Зап. у 1929 г. у Індры Даўгаўпілскага п. (Латвія) ад А. Невяроўскай. Вар.

Спяваюць бабцы, калі яе абдорвае парадзіха.

*Пастаночкі* — кавалак кужалю, які даецца бабцы парадзіхай (заўв. збіральніка).

## 262. Я б гэту бабку

Е л а т а ў, стар. 47—48, № 29.

Зап. у 1959 г. у в. Сцецава Аршанскага р. ад Ульяны Осіпаўны Арловай, 55 г. Вар.

«Дабрадушнае падсмейванне над «бабкай» (заўв. збіральніка).

Спяваецца, як абдорваюць бабку.

Напеў суровага характару, які некалькі разыходзіцца з жартоўным зместам песні. Гэта адна з асаблівасцей старажытнай паэзіі, якая ў радзе выпадкаў змяніла свой славесны кантэкст, але захавала першапачатковы меладычны каларыт.

## 263. Бабуся, бабуся

С а м ц э в і ч, стар. 37.

Спяваецца бабцы, як дораць ёй «намётку».

Н. К., стар. 290. Вар. з Мінскага п. (у польскім перакладзе «як мажліва дакладным»):

Piarchucha babka, piarchucha,
Tłuc, młocić nie duża.
Tłuc, młocić niewiestką szle,
A po podarki sama idzie.

Ш л ю б с к і, стар. 13, № 19. Вар., зап. у 1913 г. у в. Хаершчына Віцебскага п.:

Да полу, бабка, да полу,
Дадуць намётку да долу;
Як таўчы, малоць, — бабка нядужа,
Па намётачку бабка дасужа...

## 264. Наша бабка-галубка

Зап. М. П. Гваздзёў у 1960 г. у в. Салтанаў Рэчыцкага р. ад Вольгі Ракусевіч, 75 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 92, ч. 1, л. 1.

## 265. А казалі, бабка хваравіта

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1967 г. у в. Ордаць Шклоўскага р. ад Марыі Фёдараўны Сідаравай, 69 г. і Надзежды Лукінічны Шмектавай, 41 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 110, сш. 3, л. 47, № 16.

Тут з'едлівыя кпіны з бабкі-«сімулянткі» пашыраны таксама на кума і куму.

*Куміць* — быць кумам, кумой. Характэрны тэрмін, што ўзнік па аналогіі з тэрмінам «бабіць», які вызначае функцыі бабкі.

### 266. Я ж бы ету бабку

Зап. А. С. Ліс у 1964 г. у Багушэўску Сенненскага р. ад В. М. Сініцы. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 86, бл. 1, л. 10—11.

### 267. Я б гэту бабку

Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Жыцькава Барысаўскага р. ад Марыі Сцяпанаўны Круглік, 72 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 63, бл. 2, л. 22.

Самцэвіч, стар. 39. Вар. з таго ж Барысаўскага р.; Шлюбскі, стар. 9, № 5. Вар., зап. у 1922 у в. Лескавічы Віцебскага п.; Шейн, Бел. п., № 2; Аникиевич, стар. 111.

### 268. Я ж бы етага кума

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 349.

Зап. у в. Болецк Гарадоцкага п. Віцебскай губ. Вар.

Блізкі вар. зап. М. П. Гваздзёў у 1965 г. у в. Зубава Аршанскага р. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 94, бл. 1, л. 10).

### 269. [redacted] б ету бабку

Зап. К. П. Кабашнікаў у 1964 г. у в. Мазалава Віцебскага р. ад Фёклы Малахаўны Даўгалавай, 65 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 93, бл. 1, л. 48. Вар.

### 270. Бабулька наша

Зап. Л. І. Ткачова ў 1961 г. у в. Крупнікі Крывіцкага р. ад Веры Аляксандраўны Бабкевіч, 51 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 66, бл. 2, л. 28.

### 271. Каб цябе, бабка

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Плешчыцы Шклоўскага р. ад Г. В. Ксяндзовай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 1, л. 2—3.

Песня спяваецца паслядоўна бабцы, куму, куме.

Калі куме:

Каб цябе, кумка,
Ніхто ў кумы не браў.

Куму:

Каб цябе, кумок,
Ніхто ў кумы не браў...

А далей так, як бабцы.

Заўвага выканаўцы: «Песня на ксціны прілягае, але не на той голас... Як на ксцінах пяеш, то яно адна к аднэй пляцецца».

## 272. Я б гэту бабку

Зап. І. П. Чыгрын у 1959 г. у в. Харэўшчына Багушэўскага р. ад Г. І. Сліжовай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 45, бл. 1, л. 40, № 39.

## 273. Я б гэту кумку

Зап. Л. І. Ткачова ў 1964 г. у в. Гаршчэўшчына Талачынскага р. ад В. С. Варашэнь.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 89, бл. 1, л. 25.

## 274. Я б гэту бабку

Шлюбскі, стар. 9—10, № 7.

Зап. у 1914 г. у в. Косаўшчына Лепельскага п. Віцебскай губ.

Адрозніваецца ад іншых блізкіх па зместу песень тым, што заканчваецца «прымірэннем» бабкі з «унукам», які абяцае і «другі раз» узяць яе за бабку.

## 275. Нам учора праява была

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1964 г. у г. п. Расоны ад А. К. Інчыленка.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 90, бл. 4, л. 17, № 14.

Спяваецца жартам бабцы ў канцы хрэсьбін.

## 276. Закладайце, запрагайце

Шырма, стар. 418.

Спявалі, як вазілі бабку да карчмы пасля хрэсьбін.

## 277. Залажыце, запражыце

Зап. І. Э. Гапановіч у 1967 г. у в. Апенькі Вілейскага р. ад Антаніны Каэтанаўны Надольскай, 70 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 12, сш. 5, л. 5.

*Астатачкі, паседачкі* — тое, што засталося на стале пасля бяседы, «пасядзеннійка».

У іншым вар. зап. студ. Н. І. Андрэевым у 1962 г. у в. Рацемля Навагрудскага р. (Там жа, спр. 1, сш. 14, л. 6, № 9):

Астатачкі, паследачкі
У кішэнь забярэць.

## 278. Ай, дуду-дуду

Зап. А. М. Клышко ў 1967 г. у в. Азяраны Дзятлаўскага р. ад А. А. Мінкевіч.

АІМЭФ, ф. 1, воп. 10, спр. 25, л. 13.

Заўв. выканаўцы: «У сваёй вёсцы я хадзіла ў бабкі прынімаць дзяцей. Заўсёды пасля родаў хадзіла на хрэсьбіны. Пасля п'янкі «брылі» мужчынам барады. З лучыны рабілі «брытаўку», а зеркальца было з дошчачкі. Мужыкі за гэта давалі грошы і везлі ў магазін купляць цукеркі. Ехала я на баране (што аруць поле), якую мужчыны цягнулі, і пела гэтыя песні».

## 279. Да было у бабкі

Романов, Бел. сб., VII, стар. 38, № 35.

Зап. у Дзісненскім п. Віленскай губ. ад Піліпенкавай.

Спявалася пры раздачы «бабінай кашы». Вядома ў радзе вар. пераважна ў цэнтральных раёнах Беларусі. Гл. наступныя тэксты.

*Грабы* — граблі.

Песня пра бабіных валоў (быкоў) і купцоў, жартоўная па свайму характару, трывала прымацавана да песеннага рэпертуару хрэсьбін. Амаль усюды, дзе запісаны варыянты гэтай песні, яны адзначаны як хрэсьбінныя, відаць, таму, што асноўным персанажам іх з'яўляецца бабка. Праўда, дзе-нідзе песня пра бабіных валоў, якіх яна ні за што не згаджаецца прадаць, спяваецца дзецям.

Так, вар. Гарэцкі, Ягораў, стар. 147—148, № 217 адзначаны як песня, якую «пяюць дзецям».

У в. Бялынкавічы Касцюковіцкага р. хрэсьбінная песня пра бабку і купцоў ператворана нават у своеасаблівую калыханку:

— Бабка, бабка,
Прадай воліка.
— Дзедзька, дзедзька,
Каторынькага?
— Прадай, бабка,
Рабага,
Прадай, бабка,
Лысага,
Лысага,
Сівага.
— А мне рабы
Заграбецъ грады,
Таго не прадам... і г. д.

Зап. М. Я. Грынблат у 1968 г. ад К. Ф. Парчэўскай. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 1, бл. 1, стар. 40—41).

Характар суадносін паміж тэкстам і напевам песні гл. у заўв. да 262. Аднак скарыстанне ўнутрыскладовых распеваў азначае тут прынцыпова новы стыль меладызавання, які прыйшоў на змену першапачатковай рэчытацыі і значна ажывіў чыста музычнае інтаніраванне.

## 280. А было ў бабкі

Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Кімія Барысаўскага р. ад С. А. Хацкевіч, З. А. Хацкевіч і іншых пажылых жанчын.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 60, л. 36. Вар.

Яшчэ вар.: Самцэвіч, стар. 42. З таго ж Барысаўскага р.; таксама ў Барысаўскім р. (в. Міхайлава) вар. зап. Н. М. Мікулік у 1960 г. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 27, сш. 6—8, л. 52):

— А прадай, бабка, прадай, любка,
Хоць рабенькага.
— А мяне рабы пускае ў бабы,
Я ж і яго не прадам.

Романов, Бел. сб., I—II, стар. 220, № 90. Кароткі вар. з Раснянскай вол. Сенненскага п. Магілёўскай губ. («Було ў бабкі чатыры бычкі». Пасля кожнага радка рэфрэн: «А зялёны сад вішнёвы»). Пад рубрыкай «Гумарыстычныя»; вар. з суседняга Крупскага р. (в. Куплянка) зап. М. М. Аўхімовіч у 1967 г. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 11, сш. 7, л. 20—21); у Смалявіцкім р. (в. Зарэчча) зап. М. В. Кулінчык у 1967 г. (Там жа, спр. 20, сш. 4, л. 14—15).

### 281. А было ў бабкі, а было ў любкі

Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Жыцькава Барысаўскага р. ад Аўдоцці Макараўны Клімковіч, 58 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 62, бл. 2, л. 4-а—5. Вар.

### 282. Ёсць у нашай бабкі

Шырма, стар. 265, № 189.

Зап. у 1930 г. у в. Задубенне Вілейскага п. ад жанчын. Вар.

Форма напеву — «пара перыядычнасцей» (*aabb*) у сваім класічным выглядзе. Кантраст паміж *a* і *b* інтанацыйны (*a* — развіццё ўверх, *b* — уніз), ладавы (*a* — квартавы лад, *b* — квінтавы), рытмічны і структурны (*a*—2+2, *b* — 3+3) — вышэйшая форма кантрастнасці ў старажытнай традыцыйнай песні.

Іншыя вар. тэкстаў зап.: А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Лошніца Барысаўскага р. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр 63, бл. 2, л. 19—20); Л. І. Ткачова ў 1965 г. у в. Салаўі Аршанскага р. (Там жа, спр. 97, л. 18); студ. С. Шайкоўская ў 1948 г. у в. Гатава Мінскага р. (Там жа, ф. 13, воп. 8, спр. 1, бл. 14-а, л. 2—3).

Песня ў радзе вар. вядома і на Украіне.

### 283. Як я сівы волы маў

Зап. Э. Я. Мажэйка ў 1967 г. у в. Олтуш Маларыцкага р. ад Юстыны Пятроўны Мошчык, 72 г.

«На хрэсьбінах».

Жартоўная песня пра кума. У пэўнай меры ў ёй знайшоў сваё адлюстраванне даўні народны звычай запрашаць у кумы людзей «гаспадарлі-

вых», адносна заможных, бо кумы на ўсё жыццё заставаліся свайго роду апекунамі «падхроснага».

*Пазныбуў* — пазбыў, прадаў.

*Та й не выслаў дзяціны* — не паклікаў; дзяцей пасылалі запрашаць на хрэсьбіны.

*Па месцы* — па гораду; тут — у горад.

Мелодыя даволі інертная, нават нягледзячы на ладавую пераменнасць (занадта аднанакіраваныя лініі меладычных фраз).

## 284. Баба Еўка, дзед Тумаш

Зап. Л. А. Малаш у 1969 г. у в. Туркі Докшыцкага р. ад А. Гапанёнак.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 22, сш. 2, л. 8—9.

## 285. Кума мая, кумачка, дзе жывеш?

Гарэцкі, Ягораў, № 7. Перадрук. Цітовіч, № 63.

Хрэсьбінная жартоўная.

Укр. нар. пісні, II, стар. 88. Тэкставы і рытмічны вар. Змешчана як песня любоўная.

Папулярны ва ўсёй Беларусі напеў танцавальнага характару. Выкарыстан у радзе твораў і апрацовак беларускіх кампазітараў. (Метрарытмічная «раскладка» публікуемага напеву ўзята з іншых варыянтаў).

## 286. А кумушка-любушка, дзе жывеш?

Зап. І. П. Чыгрын у 1959 г. у в. Іванск Чашніцкага р. ад Ф. С. Сакалоўскай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 45, бл. 1, л. 40. Вар.

## 287. А кумачка, любачка

Hurynowicz, стар. 1, № 1.

Зап. у Вішнеўскай вол. Свянцянскага п. Віленскай губ.

Кароткі вар. папярэдняга тэксту.

Вар. зап. студ. Г. І. Янцэвіч у 1967 г. у в. Чараўкі Мядзельскага р. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 12, сш. 7, л. 12).

Вар., якія не адносіцца да кумоў:

— Добры вечар, дзеўчына, куды йдзеш,
Скажы, скажы праўдачку, дзе жывеш?
— Ах, я жыву край мора, край вады,
Збудаваўшы хатачку з лебяды.
А да таго сенечкі прыпляту
З харошага дзераўца, з асату...

(АІМЭФ, ф. 8, воп. 3, спр. 7. Месца запісу не адзначана).

Блізкі вар. зап. студ. Р. І. Брэйва і А. М. Рэйзліна ў 1958 г. у в. Доўгае Жалудоцкага р. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 13, сш. 13, л. 2).

### 288. Ой, кум да кумы заляцаўся

Federowski, VI, стар. 554, № 4066.

Зап. у в. Пацуі каля м. Свіслач (цяпер Гродзенская вобл.).

Папулярная жартоўна-хрэсьбінная песня, якая вядома ў радзе вар. у заходніх і цэнтральных раёнах Беларусі. (Гл. наступныя два тэксты).

У радзе вар. вядома і на Украіне, дзе, аднак, як і іншыя песні пра кумоў, не звязана з хрэсьбінным абрадам, а бытуе як звычайная жартоўная. Украінскія вар.: Жарт. пісні, стар. 670 («Ой, кум до куми раненько іде»); стар. 670—673 («Ой, кум з кумою залицявся»); стар. 675—676 («Ой, кум до куми залицяеться»); стар. 677—678 («Кум до куми залицявся»). Усе яны змешчаны ў раздзеле «Кумівство. Кум і кума. Весела вдовиця» (стар. 657—699).

Па паслядоўнаму апісанню працэсаў вырошчвання і апрацоўкі канапель нагадвае песні карагодныя.

Мелодыя публікуемай песні са «скразным» развіццём, што тыпова для пазнейшых форм народнай песнятворчасці. Разгорнутая меладычная структура вызначана складанай паэтычнай страфой, якая характэрна для многіх беларускіх жартоўных песень з пастаянным прыпевам («Як пагнала бабулька кураняткі пасці», «Ой, прачнуўся ў панядзелак» і інш.). Як і многія напевы жартоўных песень, даная мелодыя вызначаецца яркім танцавальным характарам; тыповыя ў гэтых адносінах кадэнцыі ў выглядзе тройчы паўторнага танічнага гуку.

### 289. Кум куме заляцаўся

Federowski, VI, стар. 459—460, № 4087.

Зап. у м. Дзятлава Слонімскага п. Гродзенскай губ. ад Клеменса Грыба. Вар.

### 290. Ой, кум у кумы папытаўся

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1961 г. у в. Шыпяны Барысаўскага р. ад В. С. Прончанкі, М. Я. Таўкач і М. Ф. Антонавай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 61, л. 9. Вар.

Кароткія вар. зап.: А. І. Гурскі ў 1960 г. у в. Гусакі Нясвіжскага р. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 51, л. 8—9); студ. Н. М. Буйніцкая ў 1966 г. у в. Маскалі Мастоўскага р. (Там жа, ф. 13, воп. 10, спр. 27, сш. 14, л. 8—10). Кум абяцаў куме канапелькі «сеяць», «сабіраць», «засцілаць», «ткаць».

### 291. Ды дождж ліецъ, вецер веецъ

Сахараў, стар. 69—70, № 176.

Зап. Т. Бартуль у 1937 г. у в. Кісялёўцы Даўгаўпілскага р. (Латвія) ад Т. Шапілхі.

Спяваюць кумам.

## 292. Дождж ідзе, з стрэх цячэ

З даваенных запісаў М. Я. Грынблата. Весткі аб месцы запісу згублены.

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 4, л. 3. Вар.

## 293. Ой, кум куме рад

Зап. Г. І. Цітовіч у 1949 г. у в. Стоялы Клічаўскага р. ад Максіма Кежкі, 72 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 31, бл. 1, л. 5.

Вельмі пашыраная жартоўная хрэсьбінная песня пра кумоў. Зафіксавана ў розных раёнах Беларусі і сярод беларускага насельніцтва за яе межамі. (Гл. наступныя тэксты).

Спявалася «ў бяседзе на хрэсьбінах».

## 294. Ой, кум куме рад

Шейн, Мат., III, стар. 389.

Зап. у Ельску Мазырскага п. Мінскай губ. Вар.

Блізкі вар.: Добровольский, стар. 8, № 16. Зап. у в. Данькова Смаленскага п.

## 295. Кум з кумы рад, рад

Federowski, VI, стар. 559, № 4085.

Зап. у в. Сухаволя Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Яна Дзежкі. Вар.

Напеў танцавальнага тыпу, нагадвае «кадрыль». Мелодыка вельмі прыўзнятага настрою, простая і выразная па свайму складу.

## 296. Кум да кумы вельмі рад

Сахараў, стар. 70, № 177.

Зап. В. Гвозд у 1937 г. на хут. Судрабу Іллукстэнскага п. (Латвія) ад У. Нейжбарт-Бяляўскай. Вар.

Спявалася кумам.

## 297. А кум куме вельмі рад

З даваенных запісаў. Пашпарт песні згублены.

АІМЭФ, ф. 9, воп. 2, спр. 4, л. 5. Вар.

## 298. А кум куме рад

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 330.

Зап. у Шчарбінскай вол. Віцебскага п. Вар.

Спявалася кумам.

## 299. Ай, кум куме рад

Зап. Л. М. Фёдараў у 1958 г. у в. Губіца Сіроцінскага р. ад Надзеі Нікіфараўны Пляшковай, 60 г. Вар.

Другі вар. з таго ж раёна, в. Каравайніца.

*Каторыя надабі* — якія трэба.

Танцавальная мелодыя з тыповымі інструментальнымі інтанацыямі (1—4 такты). Адчуваецца яўная блізкасць да ўкраінскага «Гапачка» («Ой, кумо, не журіся»), толькі ў мінорным варыянце.

## 300. Кум да кумы прыехаў

Federowski, V, стар. 610, № 1424. Зап. у аколіцах Шылавіч (вв. Малыя Азяранкі, Банцараўшчына), цяпер Ваўкавыскі р. ад Марыні Баярчучышкі. Вар.

Носович, стар. 235. Кароткі вар.:

Ай, кум куме рад,
Павёў куму ў вінаград.
— Шчыпі, кума, вішні,
Што да долу звіслі.

Напеў танцавальнага характару з тыповай для гэтага жанру кадэнцыяй на V ступені. У першай частцы (1—4 такты) адчуваюцца інструментальныя інтанацыі. Другая — больш песеннага складу (дарэчы, у ёй парушаецца «квадратнасць» пабудовы формы напеву).

## 301. А кумку мне вельмі рад

Зап. І. П. Чыгрын у в. Іванск Чашніцкага р. ад Ф. С. Сакалоўскай. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 45, бл. 1, л. 40. Вар.

## 302. А кум кумой рад

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Ляды Дубровенскага р. ад Х. П. Малахавай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99, бл. 3, л. 38, № 5.

Хрэсьбінная песня пра кумоў з унікальным сюжэтам.

## 303. Узяў кум куму за правую руку

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 344.

Зап. у в. Хонава Быхаўскага п. Магілёўскай губ.

*Вінны садок* — сад.

## 304. Прыйшоў кум да кумы

Ш е й н, Мат., III, стар. 389.
Зап. у Ельску Мазырскага п. Мінскай губ.

## 305. Кума кума любіла

Ш е й н, Бел. п., стар. 3, № 6.
Зап. у Чашніках Лепельскага п. Віцебскай губ.
*Букату* — булку хлеба. (Н о с о в и ч, Слов., стар. 38: *Букатка* — печаны хлеб. Талачане ў полудзень з'елі *букатку* хлеба).

## 306. А ў горадзе, на рыначку

Д о б р о в о л ь с к и й, стар. 8, № 15.
Зап. у в. Данькова Смаленскага п.
«Насмешкі з «магарычлівай» кумы» (заўв. збіральніка).

## 307. А ясен месяц усю ноч свеціць

Зап. Л. І. Ткачова ў 1965 г. у в. Салаўі Аршанскага р. ад М. С. Балашэнкі.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 97, бл. 1, л. 17.
*Сурой* — суровы, нябелены.

## 308. Кум ходзіць па саду

C z e c z o t, стар. 44, № LXXIII.
Зап. у Паддзвінні.
Перадрук. Н о с о в и ч, стар. 235.

## 309. І камыш трашчыць

Ш е й н, Мат., І, 1, стар. 27.
Зап. вуч В. Каванько ў Свянцянскім п. Віленскай губ.
Спявалі кумам.
Ш л ю б с к і, стар. 10, № 10. Кароткі вар., зап. у 1915 г. у в. Арлоўка Полацкага п. Віцебскай губ.; М а л е в и ч, стар. 26, № 2. Вар., не адзначана як хрэсьбінная.

## 310. Ой, гром грыміць, і мароз трашчыць

F e d e r o w s k i, V, стар. 611, № 1426. Зап. у аколіцах м. Свіслач, цяпер Свіслацкага р. Вар.
Яшчэ вар. зап. А. І. Гурскі ў 1963 г. у в. Валасовічы Лепельскага р. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, бл. 2, л. 6).

Мелодыя па інтанацыйнаму складу вельмі блізкая да рускай «плясавой» песні «Голова ль ты моя, головушка» (Гл. зб. «Сто русских народных песен» Н. А. Римского-Корсакова, № 33). У адрозненне ад апошняй у беларускім варыянце менш адчуваецца паралельная пераменнасць.

### 311. Я пайду па загуменню

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 343.
Зап. у Рагачоўскім п. Магілёўскай губ.

### 312. Кланялася кума куму

Зап. М. Я. Грынблат. напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Асаўлянскія Хутары Крывіцкага р. ад Л. М. Місун.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 89.

Песня вядома ў некалькіх вар. у паўночна-заходніх раёнах Беларусі. (Гл. наступныя тры запісы).

«Тыповы напеў» (гл. камент. да 11). Але тут у настрой журботна-лірычны ўводзіцца пэўны момант танцавальнасці. Гэтаму спрыяе ў першую чаргу характэрная для жанру танца метрарытмічная схема, якая наваг дэфармуе граматычныя акцэнты тэксту (4, 6 такты).

### 313. Кланялася кума куму

Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Сосенка Вілейскага р. ад Яўгеніі Аляксееўны Пацэвіч, 29 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 65, бл. 4, л. 24. Кароткі вар.

### 314. Кланялася кума куму

Зап. А. С. Ліс у 1961 г. у в. Пасынкі Мядзельскага р. ад Н. М. Савук.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 73, бл. 3, л. 33. Вар.

### 315. Цалавала кума кума

Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Пасынкі Мядзельскага р. ад Стэфаніды Андрэеўны Савук, 59 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 68, бл. 2, л. 42.

Узор суіснавання ў адной вёсцы адной і той жа песні ў некалькіх варыянтах. (Гл. папярэдні запіс).

### 316. Ехаў кум са кумою

Косіч, стар. 34.
Зап. у в. Расуха Мглінскага п. Чарнігаўскай губ. ад жанчыны 60 г.

## 317. Ты кумачка маладая

Гарэцкі, Ягораў, стар. 5, № 8.

Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай.

*Кахтаечка* — каптанік.

Напеў мае трохчасткавую форму, адну з найбольш складаных у народнай музыцы. Сустракаецца гэта форма, як правіла, у песнях жартоўнага характару, своеасаблівых «песнях-сцэнках».

## 318. А ў нядзельку параненьку

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 340.

Зап. у в. Кутня Быхаўскага п. Магілёўскай губ.

Песня баладнага характару. Спявалася кумам. Вядома ў радзе вар. пераважна на ўсходзе Беларусі.

Апошнія радкі змяшчаюць даўнія этычныя погляды народа на ўзаемаадносіны кумоў і ў сям'і.

*У калявіну* — на дарозе, у каляіне.

## 319. У горадзе, на рыначку

Добровольский, стар. 8, № 17.

Зап. у в. Плоскае Смаленскага п. Вар.

Збіральнік дадае да запісу заўвагу: «Насмешка з кумоў: напіваюцца... так, што губляюць дзіця...» У сапраўднасці ж тут ніякай насмешкі няма. Песня, як адзначана ў заўв. да папярэдняга тэксту, захавала вельмі даўнія народныя ўяўленні.

## 320. Каб у Слышку на рыначку

Гарэцкі, Ягораў, стар. 138—139, № 281.

Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай. Вар.

*Каб* — тут дыялектызм: як.

*У Слышку* — відаць, у Слуцку.

Мелодыя яўна выбіваецца з традыцыйнага стылю. Асабліва не характэрны для апошняга «храматызм на адлегласці» не ладавага, а чыста меладычнага характару. Некалькі адвольная і метрыка напеву. Больш верагодна, што напеў кантамінаваны.

## 321. Шуміць, шуміць дубровачка

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Плешчыцы Шклоўскага р. ад Веры Васільеўны Аўсянкінай, 41 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 1, л. 16—17. Вар.

### 322. Шум, шум чараз новыя сені

Зап. студ. Л. Я. Вяль у 1965 г. у в. Заскавічы Маладзечанскага р. ад Наталлі Сямёнаўны Кохан, 50 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 26, сш. 14, л. 10—11. Кароткі вар.

### 323. Цераз бор сасна калыхалася

Р о м а н о в, Бел. сб., стар. 345.

Зап. у в. Бракова Магілёўскага п. ад Н. Аўтухова.

З вялікай групы хрэсьбінных песень пра сварку кумы з кумам.

### 324. Цераз бор сасна павалілася

Ш е й н, Мат., I, 1, стар. 25.

Зап. вуч. Каваленка ў м. Хацясвічы Барысаўскага п. Мінскай губ. Вар.

### 325. Ой, ды кум з кумой цераз тын жылі

Ш ы р м а, стар. 420.

Месца запісу не адзначана.

Ш л ю б с к і. стар. 10, № 11. Кароткі вар. з Полацкага п. Віцебскай губ.:

Ай, кум з кумой праз тын жылі,
Да ні зналіся;
Да ні зналіся, ніколі кумамі ні звалісн...

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 343. Вар.

### 326. Чэраз бор сасна павалілася

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1965 г. у в. Ляўкі Аршанскага р. ад Веры Яфімаўны Філіповіч, 51 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 99, бл. 2, л. 15, № 11.

### 327. На дварэ сасна пахілілася

З даваенных запісаў М. Я. Грынблата.

Пашпарт песні згублены.

### 328. Чэраз бор сасна павалілася

Ш е й н, Бел. п., стар. 10—11, № 23.

Зап. Прэабражэнскі ў м. Капцэвічы Лепельскага п. Віцебскай губ. Вар.

Шейн, там жа, стар. 3, № 25. Кароткі вар. з м. Чашнікі таго ж п.
Дембовецкий, стар. 581, № 4. Далёкі вар. з Літвінаўскага прыходу Горацкага п. Магілёўскай губ.

### 329. На гарэ ліпка нахілілася

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 2. Вар.

### 330. Цераз гулачку ўсё кума мая

Federowski, VI, стар. 555, № 4067.

Зап. у в. Медзяневічы ля м. Гарадзішча (цяпер Баранавіцкага р.) ад Францішка Барыса.

Спявалася на хрэсьбінах кумам. Апошнія чатыры радкі песні нагадваюць духаўскія песні, якія лепш захаваліся на паўднёвым усходзе Беларусі і былі звязаны з абраднасцю кумавання на сёмуху.

### 331. Ішоў кум па саду

Шейн, Мат., І, 1, стар. 24—25.

Зап. Е. В. Шолкавіч у в. Латыголічы Барысаўскага п. Мінскай губ.

### 332. Кума па садзе хадзіла

Зап. Л. І. Ткачова ў 1963 г. у в. Бараны Глыбоцкага р. ад Т. І. Крывёнак.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, бл. 8, л. 7.

### 333. Кум па горачкі пахаджываецъ

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1967 г. у в. Галёнкі Горацкага р. ад Е. К. Спадабаевай, П. К. Новікавай і К. Н. Сівянковай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 110, бл. 1, л. 19.

*Саян* — святочны андарак.

### 334. Да хто ідзе?

Зап. А. І. Гурскі ў 1962 г. у в. Сасноўка Капыльскага р. ад Зінаіды Паўлаўны Пархімовіч, 50 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 74, бл. 3, л. 43.

Найбольш кароткі вар. з вядомых песень пра кума, што нясе куме куль саломы, у якім чаравікі. (Гл. наступныя чатыры тэксты).

### 335. Ішоў кум да кумы

Federowski, VI, стар. 560—561, № 4089.

Зап. у в. Лыскова Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Дамінісі Куклы.

Вядомы рад укр. вар. Жарт. пісні, стар. 689. («Ой кум до куми борозенької ішов»); стар. 685—686» («Відкіля идеш, чоловіченьку?»); стар. 686 («Ой, кум до куми борозенької ішов»); стар. 686—687 («А кум до куми»).

*Класці* — адзяваць, тут — абуваць.

У песні назіраюцца вельмі недакладныя суадносіны паміж рытмікай тэксту і напеву. Эквірытмічна ў гэтых адносінах толькі першая страфа, якая хутчэй за ўсё і адлюстроўвае сапраўдную пабудову верша — метрычную структуру песні.

### 336. Кум па вуліцы ішоў

Зап. К. Б. Кузняцова ў 1963 г. у в. Лоск Маладзечанскага р. ад А. А. Лазар.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 80, бл. 6, л. 10.

Пэўная фрывольнасць уласціва раду песень і прыпевак пра ўзаемаадносіны хрэсьбінных кумоў.

### 337. Ішоў кум да кумы

Зап. А. Петрукевіч і Л. Гардзей у 1968 г. у в. Малеч Бярозаўскага р. ад Марыі Данілаўны Плешчыц, 82 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 1, спр. 9, л. 3.

### 338. Прыйшоў кум да кумы

Зап. студ. Брэсцкага пед. ін-та ў 1968 г. у в. Клепачы Пружанскага р. ад Алены Рудзьман, 82 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 1. спр. 9, л. 4.

### 339. Ці знаеш ты, бабка

Зап. М. Я. Грынблат у 1968 г. у в. Горы Краснапольскага р. ад Н. Ф. Гомаравай і іншых пажылых жанчын.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 1, бл. 1, л. 2—3. «Ксцінная».

Заўв. выканаўцаў: «Мы толькі падражнім бабу, кума...»

Скар. вар. зап. А. І. Гурскі ў в. Дуброўка таго ж р. (Там жа, спр. 8, бл. 1, л. 9).

### 340. Кум да кумы прыехаў

Сахараў, стар. 70, № 178.

Зап. І. Ігнатовіч у 1929 г. у в. Іаніны Даўгаўпілскага п. (Латвія) ад маці.

Спявалася кумам.
*Лятала быдра* — бегала шпарка, борзда.

### 341. Ой, кум у кумы пытае

Federowski, VI, стар. 555, № 4069.
Зап. у в. Шыловічы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ.

### 342. Ой, паехаў мой міленькі

Т — ч.
Зап. у Пінскім п. Мінскай губ. Катэгорыя песні не адзначана.
*Да пакровы* — да позняй восені (1 кастрычніка ст. ст.).
*Ні руба, ні дрова* — ні жардзіны, ні палена.

### 343. Пасаджу я квасоліну

Шырма, стар. 262—263, № 187.
Зап. у 1935 г. у в. Харкі Пружанскага п. ад Зосі Карпюк.
Песня пра грамадскае ганьбаванне і пакаранне кумоў за непрыстойныя паводзіны і парушэнне этычных норм сямейнага жыцця.

У напеве ярка адлюстраваны характэрны для некаторых харавых застольных песень рытм з цыклічна паўтараемай харэічнай ячэйкай, у якой першая (акцэнтная) доля карацей у два разы другой (неакцэнтнай). Своеасаблівая «калыхальная» пульсацыя гэтага рытму служыць моцным арганізуючым і экспрэсіўным сродкам для спевакоў.

Кароткі вар. тэксту (першыя чатыры куплеты) зап. Я. І. Зяньковіч у 1967 г. у Нясвіжы. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 14, сш. 2, л. 11—12).

### 344. У садочку на відочку

Шырма, стар. 419. Вар.
Спявалася кумам на хрэсьбінах.

## ХРЭСЬБІННЫЯ БЯСЕДНЫЯ ПЕСНІ

### А. Застольныя

Апрача песень, якія непасрэдна звязаны з хрэсьбіннай абраднасцю і яе галоўнымі ўдзельнікамі (бацькамі нованароджанага, бабкай і кумамі), за хрэсьбінным сталом выконвалася многа т. зв. бяседных песень, якія прымеркаваны іменна да хрэсьбін, але сваім зместам не маюць дачынення да хрэсьбіннага рытуалу. Частка гэтых бяседных песень апісвае застолле сямейнай урачыстасці, і таму яны вылучаны ў зборніку асобна і названы застольнымі. Пераважная ж большасць іх — уласна бяседныя песні, разнастайныя па сваму зместу. Пераважае ў іх сямейна-бытавая тэматыка з

традыцыйнымі матывамі жаночай долі, узаемаадносін мужа і жонкі. Сярод уласна бяседных песень, што выконваюцца на хрэсьбінах, сустракаецца таксама нямала песень жартоўных і песень баладнага характару.

### 345. Сядзем, сядзем, пабяседуем

Зап. А. С. Емяльянаў у 1960 г. у в. Цяцерын Бялыніцкага р. ад Фёклы Архіпаўны Нарцовай, 46 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 8, л. 51.

Гэта песня, як і наступныя запісы, пра мірнае і вясёлае хрэсьбіннае застолле ў кругу блізкіх сваякоў і суседзяў, пра гасціннасць гаспадароў і ветлівы зварот да гасцей.

Блізкі вар. зап.: М. Я. Грынблат у 1964 г. у г. п. Багушэўск Сенненскага р. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 87, бл. 2, л. 25). Выканаўцамі адзначана як калядная; К. Б. Кузняцова ў в. Лязневічы таго ж р. (Там жа, спр. 91, бл. 2, л. 20).

### 346. Як пайду я ды кала Дуная

Романов, Бел. сб., VII, стар. 347.

Зап. у Сенненскім п. Магілёўскай губ.

Гэта ж песня з адпаведнымі заменамі спяваецца і астатнім найбольш блізкім сваякам, якія сядзяць за хрэсьбінным сталом.

Належыць да пачынальных, запрашальных застольных песень.

### 347. А лятала сыза павунька

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 347.

Зап. у Сенненскім п. Магілёўскай губ.

Тое ж спяваецца бацьку парадзіхі («татульку»), яе сястры і брату (з адпаведнымі заменамі ў тэксце).

### 348. Ой, наварыла млода Ганечка

Зап. Л. М. Салавей у 1969 г. у в. Рудка Пінскага р. ад Меланні Паненка, 67 г. і Надзеі Антонік, 74 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 18, сш. 5, л. 20.

### 349. А у лузе дуб не зялёны

Зап. Л. А. Малаш у 1969 г. у в. Туркі Докшыцкага р. ад А. Гапанёнак. Расшыфроўка м/г Н. М. Маркавай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 22, сш. 2, л. 36.

Напеў па сваёй ладавай пабудове і інтанацыйнаму развіццю вельмі блізкі да напеваў каляндарна-абрадавых песень, асабліва да некаторых купальскіх, якія бытуюць на поўначы Беларусі. Вельмі характэрны для гэтага жанру меладычны ход — адразу на дзве кварты (адзін з традыцый-

ных абаротаў гукальнага сэнсу). Меладычна песня пры параўнальна скупых сродках даволі выразная і канкрэтная ў функцыянальных адносінах (маецца на ўвазе яе каляндарна-абрадавы сэнс).

### 350. Ах вы, столікі мае

Носович, стар. 234, № 3.

Блізкі вар. там жа, № 2 («Ах вы, столікі мае, вы цісовенькія, чаму ж стаіце вы не засланенькія?..»).

Czeczot, стар. 44, № XXIV. Блізкі вар.

Federowski, V, стар. 609, №1422. Вар. У зносцы да песні: «Бабская на банкеце».

### 351. Ох вы, столікі ж да мае

Зап. А. А. Васілеўская ў 1949 г. у в. Граб'е Акцябрскага р. ад А. Д. Верас.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 28, бл. 3, л. 22. «Радзінная».

Першыя дзве страфы блізка супадаюць з папярэдняй песняй, астатнія зусім іншага зместу, які больш характэрны для традыцыйных бяседных песень.

### 352. Ах вы, кумачкі мае

Federowski, VI, стар. 562, № 4094.

Зап. у в. Студароўшчына Слонімскага п. Гродзенскай губ. ад Таклюсі Ткачучышкі (Тэклі Ткачук).

Першыя тры куплеты па зместу блізка супадаюць з дзвюма папярэднімі песнямі, а далей развіваецца традыцыйны матыў жыцця маладой у чужой сям'і.

*Чатыры жырбулі* — чатыры журбы.

Мелодыя тыпу «прыпевак», на што ўказваюць аднолькавыя кадэнцыі ўсіх чатырох меладычных фраз. (Пачынаючы з чацвёртай страфы тэкст не ўкладваецца ў рытмічную канву напеву).

### 353. Я ўчора, малада

Зап. К. Б. Кузняцова ў 1963 г. у в. Лоск Маладзечанскага р. ад А. А. Лазар.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 80, бл. 7, л. 12.

Успамінанне кума і кумы пацвярджае належнасць гэтай застольнай песні да хрэсьбінных.

### 354. Сягоння ў нас імяніны

Зап. Ф. С. Уладыка ў 1967 г. у в. Зацямень Вілейскага р. ад Л. Г. Уладыка, 50 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 11, сш, 10, л. 16.

Тут мы заўважаем рэдкі выпадак, калі хрэсьбіны, або ксціны, названы імянінамі. Назва гэта мае сваё апраўданне, паколькі хрэсьбіны ў пэўнай ступені звязаны з наданнем імя дзіцяці. Імяніны ж у простым сэнсе, як штогодняе святкаванне дня нараджэння («дня анёла»), у старым быце беларускай вёскі не мелі пашырэння.

*Для пасядзэння* — для бяседы, застолля.

## 355. Выбачайце, госці

Зап. М. Я. Грынблат у 1969 г. у в. Сінкевічы Лунінецкага р. ад Еўдакіі Якаўлеўны Клеўжыц, 76 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 14, сш. 1, л. 11—13. «На радзіны».

## 356. Па загор'ю сінія краскі цвіцелі

Ш е й н, Бел. п., стар. 6, № 13.

Зап. у м. Чашнікі Лепельскага п. Віцебскай губ. ад М. Каткевічоўны.

## 357. Частуйцеся, госці

Зап. М. Я. Грынблат у 1960 г. у в. Бачышча Сіроцінскага р. ад Ганны Іванаўны Кандрацьевай, 67 г. Расшыфроўка м/г Л. М. Фёдарава.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 47, бл. 1, л. 3.

Узор застольнай хрэсьбіннай песні з ветлівым зваротам гаспадара да гасцей.

## 358. Частуе мэдам саладзенькім

Д о в н а р-З а п о л ь с к и й, стар. 40, № 302.

Зап. у в. Дабраслаўка Пінскага п. Мінскай губ.

У пэўнай ступені нагадвае папярэднюю песню.

## 359. Не дорага піва п'янае

Н о с о в и ч, стар. 234.

Песня бяседная, якую спяваюць на хрэсьбінах. Рэдкі вар., у якім захаваліся сляды існавання ў мінулым пола-ўзроставых грамад, у даным выпадку — мужчынскай. (Пар. «парубоцьку грамаду», аб'яднанне нежанатых хлопцаў ва ўкраінцаў).

*Пасядзеннійка* — застолле, бяседа.

## 360. А сядзелі у бяседзе

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 349.

Зап. у с. Высокае Аршанскага п.

Застольная хрэсьбінная песня са слядамі гістарычных падзей (пажар Масквы) і з элементамі былiннага складу. (Гл. таксама заўв. да папярэдняй песні).

### 361. Ох, учора, мае кумачкі

Чуркін, 1959, стар. 17, № 9.

Зап. у 1911 г. у м. Солы Ашмянскага п. Віленскай губ. ад Кацярыны Сцяпанавай.

Належыць да значнай групы застольных хрэсьбінных песень, у якіх спяваецца пра піраванне. Такія песні звычайна жартоўнага характару.

Дарыйскі лад напеву ў даным кантэксце, відаць, выпадковасць: павялічаная кварта ў інтанацыі нават праз прамежкавы тон не характэрна для беларускай народнай музыкі ні ў адным з яе жанраў. У ключы хутчэй павінны быць два бемолі.

### 362. Ад нядзелькі да нядзелькі

Зап. студ. Т. А. Малашэвіч у 1966 г. у в. Нача Воранаўскага р. ад В. І. Каралёвай, 60 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 28, сш. 10, л. 20—21. «Хрэсьбінная».

У мове песні трапляюцца асобныя паланізмы (*срода*, польск. sroda — серада; *чвартак*, польс. czwartek — чацвер; *не веле*, польск. nie wiele — нямнога).

### 363. Астаўма, мілы, мы ўсё дзела

Шырма, стар. 254, № 180.

Зап. у 1928 г. у в. Шакуны Пружанскага п. ад З. Хвораст.

Жартоўная застольная песня на хрэсьбінах, якая вядома больш на поўдні Беларусі.

*Замема* — наймемся. Мове песні характэрна захаванне даўніх дзеяслоўных форм — *астаўма, вазьмема, замема, прадайма.*

Характар напеву гл. у заўв. да 252, але тут больш выразна і паслядоўна выяўлена асноўнае меладычнае зерне. Аднатыповая метрыка — трохдольная — надае гэтай песні калектыўны, «кампанейскі» характар.

### 364. Ой, куме, куме

Зап. І. К. Цішчанка ў 1961 г. у в. Лунін Лунінецкага р. ад Еўдакіі Адамаўны Сацкевіч, 60 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 69, бл. 1, л. 32—33.

Застольная жартоўная песня, блізкая да папярэдняй.

*Чэрада* — чарада, статак буйной рагатай жывёлы, якую пасе адзін пастух.

*У чацвярыцу* — у чацвер.

Кароткі вар. (першыя дзве страфы) зап. В. М. Мінкялевіч у 1948 г. у в. Гайкаўка Кобрынскага р., дзе песня адзначана як «бяседна і на

дажынках». (Там жа, спр. 19, бл. 1, л. 35); напеў зап. Г. І. Цітовіч. (Там жа, спр. 23, сш. 2, л. 3, № 40); яшчэ вар. зап. студ. А. І. Трывашкевіч у 1966 г. у в. Доргішкі Ашмянскага р. (АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 29, сш. 4); Т. А. Малашэвіч у 1966 г. у в. Нача Воранаўскага р. (Там жа, спр. 28, сш. 10).

### 365. Ой, куме, куме, смачна гарэлка

Зап. Л. Гардзей і А. Петрукевіч у 1968 г. у в. Спорава Бярозаўскага р. ад Лідзіі Аляксееўны Грабоўскай, 30 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 1, спр. 9, л. 2. Вар

### 366. Ой, куме, куме

Зап. А. А. Васілеўская ў 1950 г. у в. Сабалі Брагінскага р. ад А. К. Пашкевіч.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 35, бл. 6, л. 35—36.

Першы куплет амаль супадае з пачаткам дзвюх папярэдніх песень.

### 367. Гарэлачка-паненачка

Зап. М. Я. Грынблат у 1960 г. у в. Глушыца Сіроцінскага р. ад Домны Ягораўны Сямёнавай, 54 г. Расшыфроўка м/г Л. М. Фёдарава.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 47, бл. 3, л. 3—5.

Жартоўная застольная хрэсьбінная песня, якая шырока вядома пераважна на паўночным захадзе і поўначы Беларусі. (Гл. наступныя пяць тэкстаў).

### 368. Гарэліца горка

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 5. Кароткі вар.

### 369. Гарэлачка-вішнёвачка

Зап. А. С. Ліс у 1963 г. у в. Лоск Маладзечанскага р. ад Зосі Русакевіч.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 84, бл. 1, л. 48. Вар.

### 370. Гарэлачка, гарэлачка

Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Пасынкі Мядзельскага р. ад Н. М. Савук.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 68, бл. 2, л. 39, № 52. Вар.

### 371. Ах ты, мая гарэліца

Сахараў, стар. 71, № 182.

Зап. у 1936 г. у г. Краслава (Латвія) ад Г. Сімачыхі. Кароткі вар.

### 372. Гарэлачку п'ю, я яе люблю

Тэкст зап. В. М. Мінкялевіч, напеў — Г. І. Цітовіч у 1949 г. у в. Гарадзячыцы Любанскага р.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 24, бл. 4, л. 16—17. «На радзінах спяваюць».

Кароткі вар., з якім спалучана яшчэ іншая песня.

Яшчэ вар. зап.: Л. І. Ткачова ў 1963 г. у в. Запруддзе Маладзечанскага р. (Там жа, спр. 79, бл. 3, л. 10); М. А. Янкоўскі ў 1959 г. у в. Веснаў Глускага р. (Там жа, ф. 13, воп. 9, спр. 3, сш. 1, л. 9).

### 373. Вып'ем мы па румачцы

Тэкст зап. М. С. Мейяровіч, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Забор'е Плешчаніцкага р. ад Алены Дамінікаўны Буславай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 10—11. «Хрэсьбінная-застольная».

Напеў застольнага характару. Устаўка «гэй!» — досыць каларытны элемент песні, які, аднак, зусім не асацыіруецца з ліхацтвам. Гэта хутчэй выражэнне супольнасці пачуццяў гасцей.

### 374. Ды сядзем жа мы на лавачцы

Зап. Л. А. Малаш у 1969 г. у в. Туркі Докшыцкага р. ад Юліі Фёдараўны Пашкоўскай, 76 г. Расшыфроўка м/г Н. М. Маркавай.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 22, сш. 3, л. 13.

Мелодыя блізкая да напеву 349, у ёй таксама адчуваецца «купальскі» каларыт. Аднак заклінальныя інтанацыі тут згладжаны, а больш выступаюць «сямейныя» пачуцці.

### 375. А ў масце, масце сон-трава расце

Зап. А. І. Гурскі ў 1967 г. у в. Ланькова Бялыніцкага р. ад Марыі Раманаўны Краўцовай, 62 г., Груні Сідараўны Котавай, 73 г. і Сцепаніды Лаўрэнаўны Котавай, 60 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 112, бл. 1, л. 39.

*Жоўты красачкі-аднагодачкі*—наготкі (Гл. заўв. да 182).

### 376. Ой, пад мосцікам

Зап. М. М. Казлоўская ў 1967 г. у в. Ланькова Бялыніцкага р. ад В. Т. Шнейдар, 62 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 109, бл. 1, л. 29, № 25. Вар.

*Жоўтыя красачкі-карагодачкі* (гл. заўв. да 182).

## 377. А ў масце, а ў масце

Зап. В. І. Скідан у 1967 г. у в. Галоўчын Бялыніцкага р. ад Марыі Фёдараўны Бондаравай, 65 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 105, бл. 3, № 2. Вар.

*Красачкі-мягодачкі* (гл. заўв. да 182)

## 378. Як выйду я ды на вуліцу

Зап. В. Е. Бурносаў у 1965 г. у в. Пераселле Талачынскага р. ад Маланні Івановай, 64 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 96, л. 31. «Хрэсьбінная».

## 379. Чуць жа мне, чуць

Зап. А. С. Емяльянаў у 1960 г. у в. Цяцерын Бялыніцкага р. ад Ф. А. Нарцовай.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 8, л. 49.

## 380. У майго дзедка п'юць

Сербов, стар. 136.

Зап. у с. Жыцін Ігуменскага п. Мінскай губ.

Збіральнікам адзначана як велікодная: «Пяюць на бяседзе ў бабкі на другі дзень (вялікадня.— *М. Г.*), а ў кумоў на трэці».

Паколькі звычай гасцявання ў бабкі і ў кумоў на вялікдзень пасля прайшоўшых хрэсьбін служыць своеасаблівым іх працягам, песня гэта з большым правам належыць да радзіннай паэзіі, чым да каляндарнай. Таму яна і змяшчаецца тут.

## 381. Каб далі ж мне гарэлачкі

Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Сосенка Вілейскага р. ад М. П. Віцько.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 64, бл. 3, л. 17.

## 382. Да дайце ж мне

Тэкст зап. М. Я. Грынблат, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Ізбішча Плешчаніцкага р. ад Таццяны Сямёнаўны Паплёўка, 60 г. (родам з в. Чысця, 7 км.).

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 56—57. Вар.

Жартоўная застольная песня на хрэсьбінах.

Зыходны мінорны пентахорд, які з'яўляецца цэнтральнай папеўкай данай мелодыі, характарызуе абставіны сяброўскага застолля ў іх больш лірычным, чым жартоўным, выражэнні.

### 383. Ой, дайце мне, дайце мне

Зап. Л. І. Ткачова ў 1963 г. у в. Бабцы Глыбоцкага р. ад Евы Антонаўны Галомзік, 63 г. і Вольгі Філімонаўны Пажарыцкай, 54 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, сш. 4, л. 9. Вар.

### 384. Вып'ем, кумка, чарачку

Самцэвіч, стар. 38.
Спявалася да кумы.
У апошняй страфе — намёк на пакаранне за непрыстойныя паводзіны кумоў. (Гл. у заўв. да 343).

### 385. Сядзіць галубчык а на кусціку

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 338—339.
Зап. у в. Казіміраўка Магілёўскага п.
*Прасцідлачка* — прасцірадла, прасціня, можа быць і посцілка.

### 386. Віно п'яна, віно п'яна

Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Жыцькава Барысаўскага р. ад А. І. Круглік.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 63, бл. 4, л. 3.

### 387. Міл гарэлкі не п'е

Зап. І. К. Цішчанка ў 1961 г. у в. Жыцькава Барысаўскага р. ад Л. С. Сакалоўскай.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 59, л. 61—62.
З групы хрэсьбінных застольных песень пра вяртанне дамоў з «піру».

### 388. Папрасілі мяне на хрысціначкі

Зап. А. С. Ліс у 1963 г. у в. Лоск Маладзечанскага р. ад З. Русакевіч.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 84, бл. 1, л. 33.
У той жа вёсцы вар. зап. К. Б. Кузняцова: «Прасілі мяне на хрысціначкі, няма ў мяне хвартусіначкі...» (Там жа, спр. 80, бл. 3, л. 24).

### 389. Я ж молада у грыбы пайшла

Тэкст зап. М. Я. Грынблат, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Ізбішча Плешчаніцкага р. ад Т. С. Паплёўка.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 59. «Хрэсьбінская, банкетная, бяседная».
Характар напеву ў традыцыях нацыянальнай лірычнай песнятворчасці. Лірычнасць зыходнага мінорнага пентахорда вызначаецца мяккай трохдольнай метрыкай; песня гучыць накшталт «меланхалічнага» вальса.

### 390. Я і молада ва грыбы пайшла

Шейн, Бел. п., стар. 11, № 24.

Зап. наст. Прэабражэнскі ў м. Капцэвічы Лепельскага п. Віцебскай губ. Вар.

### 391. Не ў піру была, а ў бяседачцы

Елатаў, стар. 93, № 69.

Зап. Л. М. Фёдараў у 1960 г. у в. Сураўні Сіроцінскага р. ад Ефрасінні Захараўны Максімавай, 74 г.

Адзначана збіральнікам як бяседная. Вар. тэксту.

Тыповая бяседная песня. Вельмі пашырана ў рускай народнай творчасці. У напеве ясна выступаюць рысы двух самастойных мажорных тэтрахордаў злітнага спалучэння, якія ў суме даюць гукарад міксалідыйскага ладу.

### 392. Хадзі, мілы, ў белу ложу спаць

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 351.

Зап. у в. Заулкі Дзісненскага п. Віленскай губ. Вар.

*Загукалася* — загаварылася.

### 393. А ў гародзе ялінaчка

Зап. Л. І. Ткачова ў 1963 г. у в. Бараны Глыбоцкага р. ад Т. І. Крывёнак.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, бл. 8, л. 3.

*Як пчолка ў брэдзе* — відаць, памылкова запісана. Можна меркаваць, што тут — *у мэдзе.*

### 394. Слава богу, што я ўпілася

Зап. М. Я. Грынблат у 1964 г. у в. Дамашэва Сенненскага р. ад Тэклі Сямёнаўны Валодзька, 67 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 87, бл. 1, л. 46. «На хрэсьбінах, у бяседзе, абы калі».

### 395. Дзякуй богу, што мой мужык добры

Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1960 г. у в. Карцэвічы Нясвіжскага р. ад Таццяны Сцяпанаўны Крыўко, 56 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 52, л. 13. Вар.

### 396. Ды божа мой, ды мілюсенькі

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 350.

Зап. у в. Заулкі Дзісненскага п. Віленскай губ.

### 397. Ай, піў ба я піва

Романов, Бел. сб., VIII, стар. 337.
Зап. у в. Аслянка Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ.
*Нагудзілі* — абгаварылі, пусцілі плёткі.

### 398. Раса жыта расіла

Шырма, стар. 260—261, № 186.
Зап. у 1928 г. у в. Страшава Ваўкавыскага п. ад Тарэна Карпюка.
Напеў блізкі да карагодных мелодый. У тэксце таксама праяўляюцца некаторыя асаблівасці карагода: вытрыманая з пачатку да канца дыялагічнасць у развіцці сюжэта (пытальна-адказная форма карагода).

### 399. Нашы кароўкі мычаць

Шырма, стар. 253, № 179.
Зап. у 1928 г. у в. Шакуны Пружанскага п. ад З. Хвораст.
Вар. тэксту, у якім, відаць, спалучаліся дзве застольныя песні. Заўважаецца схаваная дыялагічнасць карагода.
Характар мелодыі гл. у заўв. да 252, але без ладавай пераменнасці.

### 400. Досыць нам, жонкі, ў бяседзе сядзець

Зап. В. М. Іваноўская ў 1963 г. у в. Валасовічы Лепельскага р. ад М. П. Логвін, 65 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 83, бл. 4, л. 7.
Спяваецца перад адыходам гасцей з хрэсьбін.

### 401. Я ў харошым доміку была

Зап. В. П. Коўчур у 1946 г. у в. Цараўцы Слуцкага р. ад Г. Ф. Крывашэй.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 17, бл. 1, л. 1. «Радзільная».
Спяваецца перад адыходам гасцей з хрэсьбін.

### 402. Я сягоння у мяду гуду

Зап. Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Тараканаўка Плешчаніцкага р. ад Арыны Іванаўны Кісялеўскай.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 43. «Хрэсьбіны, бяседа».
Як і некалькі папярэдніх і наступных песень, спяваецца перад адыходам гасцей.
*У мяду гуду* — на піру, дзе п'юць мёд, спяваю.
Напеў пабудаваны на адным з найбольш традыцыйных ладоў беларускай народнай музыкі — квартавым з «субквартай». Развіццё напеву

ажыццяўляецца ў выглядзе дзвюх адзінанакіраваных меладычных хваляў — таксама адзнака старажытнага мастацтва.

Кароткі вар. тэксту зап. П. І. Тарасевіч у 1967 г. у в. Качаны Ушацкага р. (Там жа, ф. 13, воп. 10, спр. 24, сш. 4, л. 33).

Романов, Бел. сб., I—II, стар. 384, № 130. Вар. («Я ўчора ў піру была»).

### 403. Дзе і тая барэлачка

Зап. Л. І. Ткачова ў 1963 г. у в. Бабічы Глыбоцкага р. ад Т. І. Крывёнак.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, бл. 8, л. 1—2. Вар.

### 404. Я ў бабіначках была

Зап. студ. М. М. Кляшчонак у 1967 г. у в. Саўскі Бор Лепельскага р. ад Марыі Яфімаўны Аўташкі, 60 г.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 14, сш. 4, л. 1.

Тэкст, відаць, не закончаны.

*Бабінач кі, бабіны* — магчыма, старадаўняя, яшчэ дахрысціянская назва святкавання радзін, бо назвы *хрэсьбіны, ксціны, ксцінкі* маглі ўзнікнуць толькі пасля пашырэння хрысціянства і ўкаранення царкоўнага абраду хрышчэння. Іншая назва, якая толькі аднойчы сустрэлася ў песні,— *імяніны* (гл. заўв. да 354),— таксама, відаць, звязана з царкоўным «нарачэннем» імя па «святцах» або «Месяцаслову» (пар. рус. *тезоименитство* — слова, якім называліся дні нараджэння цара і членаў царскай сям'і ў афіцыйным календары Расійскай імперыі).

### 405. Я ў піру была, не ўпівалася

Зап. Ф. І. Юхневіч у 1958 г. у в. Бардзілава Халопеніцкага р. ад Т. Е. Кручок.

АІМЭФ, ф. 13, воп. 9, спр. 13, сш. 1, л. 5.

### 406. Я ў піру была, я ў пірушачкі

Зап. Г. А. Барташэвіч у 1964 г. у в. Пустынка Лепельскага р. ад Г. А. Прымаўка.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 90, бл. 1, л. 45—46. Вар.

Яшчэ вар. зап. студ. З. І. Буднік у 1962 г. у в. Жорнаўка Гродзенскага р. (Там жа, ф. 13, воп. 10, спр. 1, сш. 6, л. 6—7).

Вар. з Себежскага р. Пскоўскай вобл. гл.: Себежские песни. Составление, запись и нотация Т. Знаменской. М.—Л., 1970, стар. 14, № 10. («Не в пиру была...»).

### 407. Я вячор млада

Зап. В. І. Скідан у 1968 г. у в. Трасціно Хоцімскага р. ад Клаўдзіі Міхайлаўны Сычовай, 27 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 7, бл. 1, л. 34. Адзначана як бяседная.
*Абпірнулася* — абапёрлася.

### 408. Я ў піру была, я ў бяседушке

Зап. М. С. Шушкевіч у 1968 г. у в. Забялышын Хоцімскага р. ад Ганны Казаковай, 48 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 11, сш. 2, л. 2. Вар.

Тут пазнейшае пераасэнсаванне забытага слова *вярэя* — слуп, на які навешваюцца вароты. *Вярэя* (рус. *верея*), *вярэюшка* ператварылася ў песні ў асабовае ўласнае імя *Вярмеля, Вярмелюшка.*

У вар., які зап. В. І. Скідан у 1968 г. у в. Хадунь суседняга Клімавіцкага р. («Я ў піру была, я ў бяседушкі»), адпаведныя радкі гучаць так, як павінна быць:

За вярэюшку
Ухапілася.
Ты вярэй, вярэй,
Ты вярэюшка...

(АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 7, бл. 2, л. 15).

### 409. Упілася молада, ледзьве йду

Зап. М. С. Шушкевіч у 1970 г. у в. Міцюны Астравецкага р. ад Веры Антонаўны Гудойць, 78 г. Расшыфроўка м/г В. І. Ялатава.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 35, бл. 1, л. 10.

Хрэсьбінная песня з разраду жартоўна-застольных.

*Свірскія таргачы* — з м. Свір, зараз Мядзельскага р.

У меладычных адносінах песня з'яўляецца некалькі спрошчаным варыянтам песні «Кума мая, кумачка, дзе жывеш» (гл. 285).

### 410. Сядзелі мужчыначкі на страсе

Зап. М. С. Шушкевіч у 1970 г. у в. Альгіняны Астравецкага р. ад Эміліі Сцяпанаўны Пятроўскай, 64 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 35, бл. 1, л. 42. Вар.

У апошніх дзвюх песнях адчуваецца пэўная сувязь з песнямі пра бабку і купцоў, што беспаспяхова таргуюць у яе волікаў, бычкоў (гл. 279—282).

### 411. Ай, дамоў, дамоў, дамовачкі

Зап. В. М. Іваноўская ў 1963 г. у в. Валасовічы Лепельскага р. ад М. П. Логвін.

Тэкст, відаць, не закончаны.

*Аснавала тры сценачкі.* У хатнім ткацтве *сценка* — мера нітак асновы пры спосабе снавання па сцяне з дапамогай калочкаў.

*А патыкаць — ні цэвачкі.* Няма нітак для ўтоку: ніводнай цэўкі з ніткамі, што ўстаўляецца ў чаўнок.

### 412. Як пазвалі мяне на бяседу

Зап. І. І. Лушчыцкая ў 1961 г. у в. Лошніца Барысаўскага р. ад пажылых калгасніц Т. Л. Шыпалавай, В. Л. Бачышча і Г. П. Шэткі.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 62, бл. 1, л. 33.

### 413. Ой, Мікіта, Мікіта

Шырма, стар. 264, № 188.

Зап. у 1930 г. у в. Рудаўляны Галынскай вол. Гродзенскага п. ад Алены Канецкай.

Даволі рэдкі вар. хрэсьбіннай застольнай песні з сацыяльным зместам. Напеў у першай сваёй частцы блізкі да мелодыі вядомай песні «Ой, ляцелі гусі з броду»; таксама мае маторны, танцавальны характар рытму. Але рэфрэн — чыста песеннага плану, нават з тыповым распевам на слове «гэй».

### 414. А ў катле медзяное дно

Гарэцкі, Ягораў, стар. 5, № 9.

Зап. у 1926 г. у в. Багацькаўка Мсціслаўскага р. ад П. Гарэцкай.

Напеў вяснянкавага характару. Эквірытмічны напеву толькі 1 і 3 радкі.

### 415. Чарачка залатая

Зап. А. І. Гурскі ў 1961 г. у в. Лошніца Барысаўскага р. ад К. П Ахрамовіч, В. П. Рыбак і М. А. Гаўрыльчык.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 63, бл. 1, л. 40.

Песня выконвалася ў канцы хрэсьбіннага застолля.

## Б. Уласна бяседныя

### 416. Ой, пайду я цёмным лесам

Зап. М. П. Гваздзёў у 1961 г. у в. Тонеж Лельчыцкага р. ад Г. Вянгуры, 49 г.

АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 92, л. 7.

З катэгорыі хрэсьбінных бяседных песень, у якіх спяваецца пра пакутлівае жыццё маладой у чужым доме, далёка ад сваіх бацькоў. (Гл. таксама наступныя тэксты).

## 417. Каб я знала, каб я ведала

Р о м а н о в, Бел. сб., VIII, стар. 351.
Зап. у в. Заулкі Дзісненскага п. Віленскай губ.

## 418. У полі ветрык буйны

Тэкст зап. Л. Р. Савікоўская, напеў — Г. І. Цітовіч у 1945 г. у в. Цынцавічы Куранецкага р. ад Алены Ягораўны Круцько, 27 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 2, л. 135.
Мінорны лад з пераменнай тэрцыяй з'яўляецца водгукам старых ладавых сістэм з т. зв. «нейтральнай тэрцыяй». Песня працяжнага лірычнага характару ў стылі познетрадыцыйнай творчасці. Асабліва выразны абарот гэтага стылю — скачок на малую сексту ад тонікі.

## 419. А ў полі ветры

Зап. М. Я. Грынблат у 1967 г. у в. Стары Дрыбін Горацкага р. ад М. Д. Куцанковай.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 106, бл. 1, л. 44—48.
*Шабуняюцца* — разгуляліся, дзьмуць. (Н о с о в и ч, Слов., стар. 708: *Шэбуняць* — шутить, играть, забавляться; стар. 553: *Расшэбуняцца* — сделаться резвее, развязнее).
*Журба* — тут: сварка.

## 420. Чырвоная каліначка

Зап. А. І. Гурскі ў 1963 г. у в. Маркава Маладзечанскага р. ад Ксеніі Аляксандраўны Рагуновіч, 65 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, бл. 1, л. 40.

## 421. А ў лузе каліна

Зап. А. І. Гурскі ў 1963 г. у в. Маркава Маладзечанскага р. ад К. А. Рагуновіч і Вольгі Аляксандраўны Рагуновіч, 79 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 79, бл. 1, л. 42.

## 422. Ой, гікнулась мне лягенька

Тэкст зап. В. М. Цыбікава, напеў — Г. І. Цітовіч у 1948 г. у в. Засімы Кобрынскага р. ад Наталлі Філіпаўны Барылюк, 48 г.
АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 20, бл. 2, л. 19 і спр. 23, сш. 1, л. 8, № 23.

